**Леанід Маракоў**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794—1991

Энцыклапедычны даведнік
у трох тамах

Том трэці
Кніга першая

**Абакановіч—Кучынская**

Мінск
2004

УДК 947 «1794—1991» (03)
ББК 63.3 (4 Беи) 2я
М 25

Рэцэнзенты:
*Арсень Ліс, доктар філалагічных навук,*
*Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук,*
*Лідзія Савік, кандыдат філалагічных навук,*
*Янка Саламевіч, кандыдат філалагічных навук,*
*Віталь Скалабан, кандыдат гістарычных навук.*

Аўтар выказвае падзяку супрацоўнікам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Янкі Купалы, прафесару БДУ доктару гістарычных навук Уладзіміру Міхнюку.

**Маракоў Леанід**

**М 25** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991: Энцыклапедычны даведнік: У 3 т. Т. 3. Кн. 1. Абакановіч—Кучынская. — Мінск, 2004. — 534 с.
ISBN 985-6374-05-7

У энцыклапедычным даведніку, які склаў Леанід Маракоў, прыводзяцца біяграфіі або кароткія звесткі пра літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, даваенны польскі, фашысцкі і іншыя рэжымы. Пра шмат каго з пакутнікаў расказваецца ўпершыню. Даведнік разлічаны як на спецыялістаў-гуманітарыяў, так і на выкладчыкаў, студэнтаў, краязнаўцаў, самыя шырокія колы чытачоў.

# Гнёзды нацдэмаў
***(замест прадмовы)***

Адны тады, у далёкія трыццатыя, скрывіўшы губы ў зласлівай усмешцы, называлі гэтую вучэбную ўстанову *гняздом і рассаднікам нацдэмаў*. Другія, тыя, з кім крывагубыя гутарылі ў «непринужденной» абстаноўцы ўнутранай турмы ГПУ-НКВД, так званай *амерыканцы*, — *царскасельскім ліцэем*. На фасадзе ж галоўнага і адзінага вучэбнага корпуса гэтай установы было выбіта:

**Менскі Белпедтэхнікум (МБПТ)**

Па драбніцах мне ўдалося сабраць імёны ягоных настаўнікаў і навучэнцаў (большасць з іх у 1930—1940-я г. былі расстраляны або этапаваны ў канцлагеры ГПУ-НКВД-МДБ). Безумоўна, спіс, што прыводзіцца ніжэй, няпоўны, далёка няпоўны. Але, можа, хто-небудзь яго ўдакладніць?

Дырэктары:

*Язэп Васілевіч* (1921—1924[1]),
*Язэп Каранеўскі* (з 1924),
*Міхаіл Рыдзеўскі* (з 1926 — ?),
*Аляксандр Чучко* (выпускнік 1928; з 1935 — ?),
*Сцяпан Крычанаў* (1939—1940).

Выкладчыкі:

*Аўсянка[2], Яўхім Кіпель, Кузьма Стрыгун, Уладзімір Тэраўскі* (у 1920-я г.),
*Юлій Кругалевіч* (з канца 1920-х г.),
*Мікалай Байкоў* (з 1921),

[1] Прыводзіцца год (гады), пра які (якія) дакладна вядома, што ў гэты час педагог выкладаў у тэхнікуме.

[2] Тут і далей: імя і імя па бацьку (або проста імя) устанавіць не ўдалося.

*Янка Серада* (1921—1925),

*Міхайла Грамыка* (1921—1928),

*М.А.Барташэвіч, В.С.Барташэвіч, Янка Бялькевіч, В.В.Вяршук, Юльян Дрэйзін, М.І.Калінічэнка, Якуб Колас, Аляксандр Круталевіч, Язэп Лёсік, А.М.Міцкевіч, Міхайла Піятуховіч, В.К.Пяткевіч, В.Х.Сакалоўскі, М.М.Фрыдман, В.М.Цыпкіна* (у 1928),

*Т.Л.Даўгаполаў, У.М.Кудрэвіч, М.З.Лабанок, Антон Лёсік, В.М.Свешнікаў, З.А.Сцяпура, С. Замбржыцкі* (з 1928 да 1931),

*Ігнат Афанасьеў* (у 1930-я г.),

*Акулік, Алісеевіч, Баяраў, Верычаў, Грынкевіч, Іванчык, Кісель, Першукевіч, Чайка, Чарнецкі, Якаўлеў* (у 1931),

*Алег Рыдзеўскі* (загадчык вучэбнай часткі).

<u>*Навучэнцы МБПТ, якія сталі літаратарамі:*</u>

*Язэп Падабед, Сымон Хурсік* (паступілі ў 1921),

*Паўлюк Трус* (1923),

*Антон Адамовіч, Андрэй Александровіч, Наталля Вішнеўская, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны (Серада), Віктар Казлоўскі, Максім Лужанін (Аляксандр Каратай)* (1924),

*Сцяпан Ліхадзіеўскі, Станіслаў Шушкевіч* (1926),

*Міхась Багун (?), Зінаіда Бандарына, Рыгор Крушына (Казак), Алесь Кучар*[3]*, Валеры Маракоў, Уладзімір Сядура (Глыбінны)* (1927),

*Змітрок Астапенка, Сяргей Астрэйка, Сяргей Гайка, Франц Гінтаўт, Лукаш Калюга (Вашына)* (1928),

*Філімон Арцыховіч* (вучыўся да 1929),

*Уладзімір Дудзіцкі (Гуцька), Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка), Сяргей Русаковіч* (1930),

*Сямён Шагідзевіч* (вучыўся да 1948).

[3] Гэты навучэнец стаў не толькі вядомым крытыкам-пагромшчыкам наццэмаў, але і літаратурным кансультантам НКВД.

Адначасова збіраліся звесткі і пра другі «рассаднік нацдэмаў» —

**Менскі вышэйшы педагагічны інстытут (МВПІ)**

Рэктар:

*Абрам Мальцэр* (у першай палове 1930-х г.).

Выкладчыкі:

*Яўген Барычэўскі, Міхайла Піятуховіч* (канец 1920-х — першая палова 1930-х г.),

*Мікола Аляхновіч, Іван Бабчонак, Цярэнцій Бародзіч, Якаў Бранштэйн, Пётр Бузук, Іван Віткоўскі, Уладзімір Гесэн, Цыля Гурвіч, Фёдар Дакутовіч, Сцяпан Жураўскі, Іван Замоцін, Марта Калінічэнка, Аляксандр Каліноўскі, ЭрнстКіві, Міхаіл Лойка, Раман Ляпіч, Іван Ляўчук, Абрам Мальцэр, Элькан (Мікалай) Пікус, Алег Рыдзеўскі, Міхаіл Рыдзеўскі, Зянон Рымашэўскі, Павел Святлоў, Павел Старадуб, Фёдар Сцепановіч, Барыс Саноцкі, Зінаіда Ціхамірава, Яфім Шлосберг, Якаў Шнейдар, Васіль Шчарбакоў* (у 1930-я г.),

*Уладзімір Сядура* (1940—1941).

Студэнты:

*Рыгор Крушына (Казак)* (паступіў у 1927),

*Сяргей Знаёмы (Клопаў), Мікола Шатэрнік* (паступілі ў 1929),

*Эдзі Агняцвет (Каган), Рыгор Аляхновіч, Іосіф Асановіч, Сяргей Баран, Іосіф Беразоўскі, Захар Бірала, Вітальд Булат, Поля Вакштэйн, Янка Валасевіч, Пётр Вастэнберг, Змітро Віталін (Сергіевіч), Вісарыён Горбух, Сяргей Грахоўскі, Клім Грыневіч, Зоя Грыц, Уладзімір Дудзіцкі (Гуцька), Цімафей Дзеравяга, Васіль Дзямідовіч, Якаў Ермаловіч, Антон Капылоў, Аляксандр Кучынскі, Васіль Леанідаў (Багамольцаў), Саламон Левін, Пётр Ліпай, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Леанід Юркевіч (Юрка Лявонны), Іосіф Малец, Валеры Маракоў, Барыс Мікуліч, Сяргей Мурзо, Герасім Пава-*

*ротны, Мікалай Пастушэнка, Зяма Піваварaў, Алесь Пруднікаў, Аляксандр Раковіч, Гелена Раманоўская, Алесь Розна, Фёдар Саланкоў, Лявонцій Шпакоўскі (Лявон Случанін), Сцяпан Сяліцкі, Пётр Хатулёў, Рыгор Хацкевіч, Павал Чэрнік, Барыс Шарлот, Станіслаў Шушкевіч* (вучыліся ў першай палове 1930-х г.),

*Вітольд Булат, Рыгор Бярозкін, Пётр Вастэнберг, Яфім Гаварушка, Вісарыён Гарбук, Мікола Гваздоў, Іосіф Дашкевіч, Якаў Ермаловіч, Сара Каган, Іван Казленка, Аўген Калубовіч, Якаў Каплеўскі, Ізраіль Карасік, Уладзімір Клішэвіч, Гілярый Краеўскі, Апанас Куляшоў, Тодар Лебяда, Фама Мартыновіч, Баніфат Рыдзеўскі, Баляслаў Садкоўскі, Канстанцін Суднік, Масей Сяднёў, Віктар Цымбарэвіч, Аляксандр Шкілевіч* (паступілі ў 1933 альбо ў 1934),

*Поля Вакштэйн, Вісарыён Горбух, Уладзімір Дубоўскі, Гаўрыла Жураўскі, Антон Есамонт, Уладзімір Ількевіч, Фрума Кавальскітэ, Мікалай Козіч, Уладзімір Кулік, Лідзія Майская, Рыгор Пудаў, Ісак Розін, Васіль Саладуха, Анастасія Халіманава (Пугачова), Казімір Цвіклінскі, Міхаіл Чарнушэвіч, Анатоль Шурпік, Марыя Эпштэйн* (вучыліся ў другой палове 1930-х г.),

*Мікалай Рудакоўскі* (вучыўся да чэрв. 1941),

*Вера Маласай, Ядвіга Станкевіч* (вучылася да 1945),

*Нінэль Гардзей, Тамара Пенкрат (Баландзіна), Валянціна Рубан* (вучыліся ў другой палове 1940-х г.).

І, безумоўна, спісы рэпрэсаваных дзеячаў беларускай культуры нельга не дапоўніць імёнамі тых, хто меў адносіны да буйнейшай вучэбнай установы краіны **Беларускага дзяржаўнага універсітэта** і легендарнай Беларускай (Горацкай) сельскагаспадарчай Акадэміі *(да 1925 г. Горы-Горацкі сельскагаспадарчы інстытут).*

Рэктары БДУ:

*Уладзімір Пічэта* (1921—1929),
*Язэп Каранеўскі* (1929—1931),
*Іван Ермакоў* (з канца 1931 да 1933),

*Ананій Дз’якаў* (1934—1935),
*Нічыпар Бладыка* (1937),
*Уладзімір Бабраўніцкі* (1938),
*Аляксей Кучынскі* (у 1930-х г. — в. а. рэктара).

Выкладчыкі:

*Фёдар Апацёнак, Язэп Васілевіч, Мікола Нікольскі* (з 1921),
*Мікалай Бліядуха, Б. Бэркэгэйм, А.Ленц, Леў Цвяткоў, Аляксандр Шчапоц’еў* (з пачатку 1920-х г.),
*Уладзімір Вінер, Адам Друскоўскі* (у 1920-х г.),
*Шолам Гольдберг* (з 1921),
*І.Салаўёў* (1921—1922),
*Усевалад Ігнатоўскі* (1921—1930),
*Канстанцін Цвірка-Гадзіцкі* (1921—1931),
*Сямён Вальфсон* (1921—1937),
*Мікалай Гуткоўскі* (з 1922),
*Перабіла* (з 1922),
*Мікола Шчакаціхін* (1922—1924),
*Іван Замоцін* (1922—1930),
*Міхайла Піятуховіч* (з 1922 да пачатку 1930-х г.),
*Васіль Дружчыц* (1922—1932),
*Аркадзь Смоліч* (1923—1929),
*Яўген Успенскі* (з 1923),
*Павел Біндзюк, Іосіф Воўк-Левановіч* (з 1924),
*Пётр Бузук, Павел Трамповіч* (з 1925),
*Дзмітры Даўгяла* (1925—1929),
*Іван Краскоўскі* (з 1925),
*Максім Гарэцкі* (з сярэдзіны 1920-х г.),
*Мікола Азбукін, Сямён Вальфсон, Міхаіл Грамыка, Дыдырка, Язэп Лёсік, А.Пятосін, Леў Разанаў (Розанаў), Яўхім Сіроцін, Уладзімір Тэраўскі, Анатоль Фадзюшын, Павел Харламповіч* (у 1920-я г.),
*Павел Панкевіч* (1925—1937),
*Анатоль Багдановіч, Павел Каравайчык, Аляксандр Сянкевіч* (1926—1930),

*Міхаіл Гольман* (з 1927),
*Сцяпан Некрашэвіч* (1927—1928),
*Уладзімір Каліноўскі* (1927—1929),
*Аляксандр Ляўданскі, Езекіль Рыўлін* (з 1927),
*Мікалай Дурнаво* (з 1928),
*Цэлясцін Бурстын* (з 1929),
*Сямён Якубчык, Міхаіл Югаў* (з другой паловы 1920-х г.),
*Міхаіл Валасевіч, Павел Дзёмін, Іван Жылінскі, Павел Зубрыцкі, Фёдар Ліхач, Сяргей Марозаў, Георгій Маслакавец, Мікалай Пашковіч, Пётр Пінкевіч, Іван Пшанічны, Андрэй Шкода* (у 1930-я г.),
*Канстанцін Кернажыцкі* (1930—1936),
*Канстанцін Гаранскі* (з 1931),
*Васіль Шчарбакоў* (1931—1936),
*Мікалай Казлоўскі, Васіль Нікіфараў* (1933—1938),
*Рувім Выдра* (з сярэдзіны 1930-х г.),
*Ганна Лібман* (1934—1936),
*Фёдар Куляшоў* (1951—1955 і з 1961),
*Юрый Багданаў* (з 1958).

Аспіранты:

*Гімельферд* (сярэдзіна 1920-х г.),
*Тодар Забела* (1925—1928),
*Яўхім Кіпель* (1928—1929),
*Юрый Майзель, Адам Міцкевіч* (1928—1930),
*Фёдар Скаблоў* (1931—1935),

Студэнты:

*Апанас Анташэўскі, Вольга Гурская, Мікалай Каспяровіч, Майсей Ліўшыц, Сяргей Мялешка, Саламон Найкруг, Франц Пяткевіч, Іван Сяржанін, Аляксандр Федаровіч, Мордух Хаймоўскі, Сямён Якубчык* (вучыліся ў першай палове 1920-х г.),

*Юлія Бібіла, Андрэй Бурдзейка, Янка Бялькевіч* (скончылі ў 1925),

*Яўхім Кіпель* (1921—1926),

*Міхась Адзярыха, Адам Бабарэка, Іван Доўнар, Тодар Забела, Павел Каравайчык, Ракуцька Янка (Ян), Нічыпар Чарнушэвіч* (паступілі ў 1922),

*Мікалай Мамчыц, Кузьма Чорны* (у 1923),

*Фёдар (Тодар) Апацёнак, Анатоль Вольны (Ажгірэй), Іван Марук, Іосіф Мацюкевіч* (вучыліся ў сярэдзіне 1920-х г.),

*Сцяпан Баркоўскі, Канстанцін Кернажыцкі, Уладзіслаў Чаржынскі, Пётр Юргелевіч* (скончылі ў 1926),

*Цімафей Адзярыха, Ядвіга Бяганская, Майсей Тэйф* (паступілі ў 1924),

*Аляксандр Аніхоўскі, Янка Туміловіч* (скончылі ў 1927),

*Аркадзь Адзінец, Мітрафан Тамільчык, Яфім Шлосберг* (скончылі ў 1928),

*Язэп Пушча (Плашчынскі)* (вучыўся з 1925 да 1927),

*Сымон Куніцкі, Алесь Пальчэўскі* (1925—1931),

*Віктар Башмачнікаў, Вікенцій Мінкевіч* (вучыліся ў другой палове 1920-х г.),

*Міхаіл Астраносаў, Евель Гутэрман* (вучыліся да 1926),

*Васіль Каваль (Кавалёў), Кандрат Крапіва, Паўлюк Шукайла* (паступілі ў 1926),

*Файтэль Гаўзэ, Пётр Крывіцкі, Іван Цімашэнка* (вучыліся да 1927),

*Пятро Глебка, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Аркадзь Мардвілка, Сяргей Фамін* (з 1927),

*Іван (Ян) Мароз, Гірш Няхамкін, Яфім Сакольскі* (да 1928),

*Сымон Баранавых (Баранаў), Пятрусь Броўка, Сяргей Дарожны (Серада), Алесь (Пётр) Звонак, Гірш Камянецкі, Максім Лужанін, Раман Ляпіч, Алесь Салагуб, Ян Скрыган, Макар Шалай (Шалаеў)* (з 1928),

*Мікалай Шакун* (да 1929),

*Аляксандр Каваленя, Мікола Улашчык* (скончылі ў 1929),

*Антон Адамовіч, Наталля Вішнеўская, Уладзімір Мяжэвіч, Канстанцін Радзівонавіч* (вучыліся з 1929),

*Уладзімір Піваварaў* (скончыў у канцы 1920-х — пачатку 1930-х г.),

*Валерыян Валога, Канстанцін Галынчык, Аляксандр Дарашэвіч, Пётр Зянюк, Сцяпан Касценіч, Даніла Кісялкоў, Мікалай Мамчыц, Зальман Ракавіцкі* (да 1930),

*Андрэй Александровіч, Мікола Аляхновіч, Мітрафан Матусевіч, Сымон Хурсік* (скончылі ў 1930),

*Тодар Кляшторны, Фёдар Скаблоў, Мікола Хведаровіч (Чарнушэвіч)* (скончылі ў 1931),

*Рыгор Валашкевіч, Фабіян Галко (Гайко), Франц Гінтаўт, Аляксандр Далецкі, Рыгор Драбышэўскі, Сяргей Знаёмы (Клопаў), Канстанцін Казей (Вятроў), Сцяпан Ліхадзіеўскі, Сяргей Русаковіч, Уладзімір Сядура, Юлій Таўбін, Валянцін Таўлай, Сымон Шэйман* (вучыліся ў першай палове 1930-х г.),

*Дзмітрый Дунько (Дунька), Васіль Камлюк* (да 1931),

*Ганна Бараноўская* (скончыла ў 1933 альбо ў 1934),

*Міхаіл Шкрабо* (вучыўся да 1936),

*Алена Лябецкая, Соня Міньковіч, Рыгор Пшанічны, Лэйба Токер-Зольберг, Іосіф Мельнік, Станіслаў Пурц, Вітольд Сяўрук, Абрам Фабрыкант, Васіль Хомчанка, Марыя Чарнушэвіч* (вучыліся ў другой палове 1930-х г.),

*Дзмітрый Дземяшкевіч, Галіна Галінеўская, Валянціна Рацэн* (у 1940-я г.),

*Лявон Белы* (з 1948),

*Фёдар Кардаш* (скончыў у 1955).

**Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія**

Выкладчыкі

*Яўген Аляксееў* (прафесар), *Максім Гарэцкі* (загадчык кафедры), *Гаўрыла Гарэцкі, Сцяпан Журык* (пра-

фесар*), Сцяпан Мельнік, Паўліна Мядзёлка* (працавалі у 1920-я г.),

*Веніямін Аксельрод, Іван Антонаў (*дацэнт), *Аляксандр Анцыповіч, Анастасія Апалько, Якаў Афанасьеў (*прафесар*), Аляксей Башкевіч, Аўгуст Берзін (*дацэнт*), Пiлiп Вашчавоз, Савелій Гарбачоў, Юры Гаўрук, Віктар Горскі, Канстанцін Загорскі, Фёдар Курынны, Карл Лебярэхт, Леанід Малякоў (*прафесар*), Ісак Марэк, Рыгор Мінаеў, Яўген Мячынскі, Карл Петэрсон (*дацэнт), *Барыс Саноцкі, Іван Старасоцкі, Сяргей Фамін, Іосіф Шашко, Андрэй Шліпенбах* (у 1930-я г.),

*Мікалай Байер* (у 1940-я г.).

Студэнты:

*Міхаіл Ганчарык* — вучыўся да 1924,

*Мікалай Галадзед* — вучыўся, верагодна, у пачатку 1920-х г.,

*Іван Тачыцкі*— скончыў вучобу ў 1925,

*Уладзімір Бабраўніцкі* — вучыўся з 1925 да 1929,

*Васіль Каваль, Сцяпан Піліпчык* — вучыліся ў 1920-я г.,

*Іван Маўчанаў* — вучыўся ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. (?),

*Лэйзар Брангітэйн (?), Уладзімір Валасенка, Рыгор Вішнякоў, Пётр Гашпар, Дзмітрый Громаў, Ніна Груша, Аляксандр Грыцкоў, Іван Закурдаеў, Пётр Кротаў, Міхаіл Лапіцкі, Сямён Левітан, Віктар Мальцаў, браты Валянцін і Міхаіл Некрашэвічы, Гершон Палей, Марыя Прэс, Мікалай Пятроў, Мікалай Раманаў, Мікалай Савіцкі, Давыд Шапіра* — вучыліся ў 1930-я г.,

*Яўген Гурскі* — вучыўся да 1950 г.

Як ужо адзначалася, большая частка пералічаных выкладчыкаў, аспірантаў, студэнтаў і навучэнцаў была расстраляна, загінула ў канцлагерах або выратавалася толькі, калі пакінула Радзіму.

Вынік: у 1920—30 г. мінулага стагоддзя энкавэдысты фактычна знішчылі інтэлектуальную эліту беларускай нацыі. Як казаў нехта са славутых, калі ў народа адняць дваццать лепшых пісьменнікаў, дваццать лепшых кампазітараў, дваццаць лепшых мастакоў, знікне і сама нацыя. У нас жа вынішчылі амаль усіх.

2001—2004 гг.

P. S.

Аўтар будзе шчыра ўдзячны сваякам рэпрэсаваных, даследчыкам, чытачам за дапамогу па ўдакладненні прыведзеных звестак.

Кантакт з аўтарам:
<moryakov@tut.by>, <moryakov@email.ru>,
або па адрасе: 220004, Мінск, вул.Няміга, д. 8, кв. 3.
тэлефоны: 2-11-09-53, 8-0297-53-82-12, 8-0297-55-25-61.

# Спіс скарачэнняў

## Крыніцы і літаратура

*$58^{10}$* — $58^{10}$. Надзорные производства Прокуратуры СССР по делам об антисоветской агитации и пропаганде. Март 1953—1991. Аннотированный каталог / Под ред. В.А.Козлова и С.В.Мироненко; сост. О.В.Эдельман. М.: Международный Фонд «Демократия», 1999.

*АЗБ — Асветнікі зямлі Беларускай: X — пачатак XX ст.: Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 2001.

*Антысавецкія рухі — Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*Археалогія і нумізматыка Беларусі — Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1993.

*Беларуская мова — Беларуская мова: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1994.

*Белая книга* — Белая книга: О жертвах политических репрессий. Самара, 1997—2001. Т. 1—15.

*БП — Беларускія пісьменнікі*: *Біябібліяграфічны слоўнік*. У 6 т. Мн.: БелЭн, 1992—1995.

*Бутовский Полигон* — Бутовский Полигон. 1937—1938 гг. М., 1997—2002. Вып. 1—5.

*БЭ — Беларуская энцыклапедыя*. У 18 т. Мн.: БелЭн, 1996—2004.

*Возвращенные имена — Возвращенные имена*: *Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий* / Сост. и авт. предисл. Н.В.Токарев. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.

*Вынішчэнне* — М а р а к о ў Леанід. *Вынішчэнне*. Мн.: ЛМФ «Нёман», 2000.

*Гарбінскі БРД* — Г а р б і н с к і Юрась. *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя*: *Жыццярысы, мартыралогія, успаміны*. Мінск—Мюнхен, 1999.

*Дэмакратычная апазыцыя* — *Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956—1991. Пэрсанажы і кантэкст. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*Жертвы политических репрессий Иркутской области* — Жертвы политических репрессий Иркутской области: память и предупреждение будущему. А-Б. Иркутск, 1998.

*Из тьмы забвения* — Из тьмы забвения: Книга памяти жертв политических репрессий: 1918—1954. Астрахань, 2000. Т. 1.

*Книга памяти Белгородской обл.* — Книга памяти Белгородской области. Белгород, 1996—2001. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий Калининской области* — Книга памяти жертв политических репрессий Калининской области: мартиролог 1937—1938. Тверь, 2000. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий Курской области* — Книга памяти жертв политических репрессий Курской области. Курск, 1996—2000. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий в Нижегородской области* — Книга памяти жертв политических репрессий в Нижегородской области. Нижний Новгород, 1997—2001. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий Омской области* — Забвению не подлежит: Книга памяти жертв политических репрессий Омской области. Омск, 1997—2001. Т. 1—4.

*Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан* — Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан. Уфа, 1997. Т. 1—2.

*Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область* — Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область. Екатеринбург, 1999—2001. Т. 1—3.

*Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан* — Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан. Казань, 2000—2001. Т. 1—4.

*Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия* — Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия. Абакан, 1999—2000. Т. 1—2.

*Книга памяти томичей* — Боль людская: Книга памяти томичей, репрессированных в 30–40-е и нач. 50-х гг. Томск, 1991—1999. Т. 1—5.

*Книга Скорби* — Книга Скорби — Азалы Китап. Расстрельные списки. Алма-Ата, Алмаатинская область. Алматы, 1996.

*Ленинградский мартиролог* — Ленинградский мартиролог: 1937—1938. Санкт-Петербург, 1995—1999. Т. 1—4.

*ЛіМ* — газета «*Літаратура і мастацтва*».

*МАБ* — *Мысліцелі і асветнікі Беларусі*: *Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 1995.

*Мальдзіс, На скрыжаванні…* — Мальдзіс А. *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.).* Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

*НАРБ, ІКР* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Індывідуальная картатэка рэпрэсаваных.

*Нацдэмы* — Мяснікоў А. *Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка*. Мн.: Беларусь, 1993.

*Не предать забвению. Псков* — Не предать забвению. Книга памяти жертв политических репрессий. Псков, 1996—2001. Т. 1—10. *

*Не предать забвению. Ярославль* — Не предать забвению: Книга памяти жертв политических репрессий, связанных судьбами с Ярославской областью. Ярославль, 1993—1998. Т. 1—5.

*ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.*

*Покаяние* — Покаяние: Коми республиканский мартиролог жертв массовых политических репрессий. Сыктывкар, 1998—2001. Т. 1—4.

*Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище* — Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище. 1926—1936. М., 1995. Вып. 2.

*Расстрельные списки: Донское кладбище* — Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940. М., 1993. Вып. 1.

*Расстрельные списки: «Коммунарка»* — Расстрельные списки: Москва 1937—1941: «Коммунарка», Бутово. М., 2000.

*Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў* — Янка Саламевіч. *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.).* Мн.: Мастацкая літаратура, 1983.

*Сачанка Б. Сняцца сны...* — Сачанка Б. *Сняцца сны аб Беларусі... Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю.* Мн.: Мастацкая літаратура, 1990.

*Смоленский мартиролог* — По праву памяти. Книга памяти жертв незаконных политических репрессий. Смоленский мартиролог. А—Я. Смоленск, 2001.

*Улащик. Введение* — Улащик Н.Н. *Введение в изучение белорусско-литовского летописания.* М.: Наука, 1985.

*Улащик. Очерки* — Улащик Н. Н. *Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.* М.: Наука, 1973.

*Хранить вечно* — Хранить вечно: Книга памяти жертв массовых политических репрессий 30–40-х и нач. 50-х гг. / Ассоц. жертв незакон. репрессий г. Астаны и Акмолин. обл. Астана, 2001. Ч. 1—3.

*ЭГБ — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* У 6 т. Мн.: БелЭн, 1993—2001.

*ЭЛіМБел — Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі.* У 5 т. Мн.: БелСЭ, 1984—1987.

*BS — Byelorussian statehood: Reader and bibliography* / Edited by Vitaut Kipel and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.

*EK — Encyklopedia katolicka.* T. 1—2. Lublin, 1985.

Nowy Korbut — Bibliografia literatury polskiej «Nowy Korbut».

*PSB — Polski słownik biograficzny.* Kraków — Warszawa: Wydawnictwo PAN, 1935—2001.

*SHP — Słownik historyków polskich* / Koncepcja i opracowanie redakcyjne Maria Prosińska-Jackl. Warszawa: Wiedza powszechna, 1994.

## Бібліяграфічныя, палітычныя і геаграфічныя скарачэнні

абл. — абласны (-ая)

*Административно-территориальное деление союзных республик* — СССР. Административно-территориальное деление союзных республик. М., 1987.

АДПУ — Аб’яднанае галоўнае палітычнае ўпраўленне СССР

арт. — артыкул

АУН — Арганізацыя украінская нацыяналістычная.

б. — былы (-ая)

БАН, БелАН — Беларуская Акадэмія Навук (таксама АН БССР, НАН Беларусі), да 1929 Інбелкульт

БАПЦ — Беларуская Аўтакефальная праваслаўная царква

БВА — Беларуская ваенная акруга.

б. г. — без году (выдання)

БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр

БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт

бел. — беларускі

БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў

БНР — Беларуская Народная Рэспубліка

БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў

БРГ — Беларуская рэвалюцыйная грамада

БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада

БСГА — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія

БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада

БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка

БХД — Беларуская хрысціянская дэмакратыя

БЦР — Беларуская цэнтральная рада

в. — вёска

в. а. — выконваючы абавязкі

ВА — ваенная акруга

ваяв. — ваяводства

вер. — верасень

ВКЛ — Вялікае Княства Літоўскае

ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)

ВМП — вышэйшая мера пакарання

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. — вобласць

вол. — воласць

*Волости и важнейшие селения* — Волости и важнейшие селения европейской России, в. 5. СПб., 1886.

ВРК — Ваенна-рэвалюцыйны камітэт

ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі

ВЧК (ЧК ) — Усерасійская Надзвычайная Камісія пры Савеце Народных Камісараў па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам

выбр. тв. — выбраныя творы

вып. — выпуск

г. — горад

газ. — газета

губ. — губерня

ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў

г. п. — гарадскі пасёлак

ДА РФ — Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі.

жн. — жнівень

зах. — заходні

зб. тв. — збор твораў

Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры (з 1929 БелАН)

К. — Кіеў

кастр. — кастрычнік

КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі

КК — Крымінальны Кодэкс

кн. — кніга

КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі

КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі

КП(б)У — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Украіны

КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі

КПП — Камуністычная партыя Польшчы

КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза

Кр. — крыніца.

крас. — красавік

Кр. геагр. — крыніца геаграфічная.

КСМЗБ — Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі

ліп. — ліпень

ліст. — лістапад

літ. — літаратура

ЛКП — Літоўская Камуністычная партыя

ЛКСМБ — Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі

лют. — люты

М. — Масква

МБПТ — Мінскі Белпедтэхнікум

МВПІ — Мінскі Вышэйшы педінстытут

МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі

МДУ — Маскоўскі дзяржаўны універсітэт

МЗС — Міністэрства замежных спраў

Мн. — Мінск, Менск

МУС — Міністэрства ўнутраных спраў

мяст. — мястэчка

*Назвы населеных пунктаў* — Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь / Мінская вобл. пад рэд. Лемцюговай В.П. Мн., 2003.

нам. — намеснік

НАНБ — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі

нар. — нарадзіўся (нарадзілася)

НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Наркамасветы — Народны камісарыят асветы

НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

НДІ — Навукова-даследчы інстытут

НКВД (НКУС) — Народны камісарыят унутраных спраў

НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі

пав. — павет

ПАВ — Польская арганізацыя вайсковая

паліт. — палітычны

ПАРП — Польская Аб'яднаная Рабочая Партыя

пас. — пасёлак

паўдн. — паўднёвы

паўн. — паўночны

Пг. — Петраград

ПНР — Польская Народная Рэспубліка

ППК — Папраўча-працоўны канцлагер

пр. — праспект

*Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў* — Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобл. Мн., 1977; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобл. Мн., 1980; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобл. Мн., 1981; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобл. Мн., 1982; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобл. Мн., 1983; Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобл. Мн., 1986.

РВС — Рэвалюцыйны ваенны савет

РКП(б) — Расійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)

р-н — раён

РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя

с. — сяло

сак. — сакавік

сапр. — сапраўднае

СБМ — Саюз беларускай моладзі

с.-г. — сельскагаспадарчы (-ая)

СДКПіЛ — Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы

снеж. — снежань

СНК — Савет народных камісараў

СП — Саюз пісьменнікаў

СПб. — Санкт-Пецярбург

ССРБ — гл. БССР

студз. — студзень

ст. — станцыя

СШ — сярэдняя школа

*СЭС* — Советский энциклопедический словарь. М., 1990.

т. — том

ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза

ТБШ — Таварыства Беларускай школы

тв. — творы

тыс. — тысяча

УНР — Украінская Народная Рэспубліка

ун-т — універсітэт

усх. — усходні

фальв. — фальварак

ф-т — факультэт

хут. — хутар

ЦК — Цэнтральны Камітэт

час. — часопіс

чэрв. — чэрвень

z. — zeszyt (сшытак)

**АБАКАНОВІЧ Ігнат Мікалаевіч***[1] [1900, в. Лекершчына Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — 20.3.1925, Масква, НКВД], навучэнец. Падчас арышту студэнт Ленінградскага дзяржаўнага ун-та. Арыштаваны 19.8.1924. Асуджаны 2.3.1925 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 30.11.1993.

**АБАЛЯЕЎ Канстанцін Васілевіч*** [1902, ст. Славяны Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі (?) р-н — 10.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец, партыйны дзеяч. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1930-я г. першы сакратар Саратаўскага абкама ВКП(б). Арыштаваны 11.11.1937. Асуджаны 8.1.1938 «тройкай» НКВД за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі»

[1] У сувязі з тым, што частка біяграфічных дадзеных рэпрэсаваных была перанесена з іх асабовых спраў (захоўваюцца ў архівах КДБ Беларусі) у іх персанальныя карткі (захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь) неразборліва, звесткі пра даты і месцы нараджэння і смерці некаторых асобаў, адзначаных зорачкай, даюцца часам прыблізныя. З гэтай прычыны ў падобных артыкулах і ў артыкулах, інфармацыя для якіх узята з анатаванага каталога «58[10]. Надзорные производства Прокуратуры СССР по делам об антисоветской агитации и пропаганде. Март 1953—1991», а таксама з астраханскіх, башкірскіх, іркуцкіх, казахскіх, калінінскіх, курскіх, ленінградскіх, магаданскіх, маскоўскіх, ніжагародскіх, омскіх, пскоўскіх, самарскіх, свярдлоўскіх, смаленскіх, татарскіх, томскіх, хакаскіх, яраслаўскіх і іншых «Расстрэльных спісаў»і «Кніг памяці», не заўсёды захоўваюцца энцыклапедычныя прынцыпы. Пры адсутнасці больш істотных звестак прыводзяцца менш істотныя, але важныя для ідэнтыфікацыі асобы.

да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**АБІХТ Генрык Тэадоравіч** [1835 ці 1836, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 31.5.(12.6)1863, Варшава], удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі, Польшчы і Літве. У 1852 скончыў Віленскую гімназію. Працаваў у паштовых установах Пецярбурга і Вільні, удзельнічаў у рэвалюцыйных гуртках. Каб пазбегнуць арышту царскімі ўладамі, якія падазравалі яго ў прыналежнасці да тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі, эміграваў у Лондан (1857). Супрацоўнічаў з польскімі рэвалюцыянерамі-эмігрантамі, з газ. «Колокол», выдаўцы якой А.Герцэн і М.Агароў падтрымлівалі нацыянальна-вызваленчы рух, выступалі за нацыянальнае самавызначэнне беларусаў. Садзейнічаў умацаванню сувязей газеты з Беларуссю і Літвой. Вясной 1861 пераехаў у Парыж, дзе знаходзіўся да студз. 1862. З канца сак. нелегальна жыў у Варшаве, прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1863. Быў прыхільнікам «чырвоных», агентам Цэнтральнага нацыянальнага камітэта. Вёў рэвалюцыйную прапаганду ў Варшаве і правінцыі, збіраў грошы і зброю для паўстанцаў. У ліст. 1862 арыштаваны царскімі ўладамі і зняволены ў Брэсцкую крэпасць. На следстве трымаўся мужна і не выдаў удзельнікаў падрыхтоўкі паўстання. Павешаны ў Варшаўскай цытадэлі. На ягоную смерць адгукнуўся А.Герцэн артыкулам «Подлыя!».

Літ.: *Герцен А.И.* Собр. соч. М., 1959. Т. 17; *Клевенский М.* Герцен-издатель и его сотрудники // Литературное наследство. М., 1941. Т. 41—42; *Кісялёў Г.* Вязень Брэсцкай крэпасці // *Кісялёў Г.* Героі і музы. Мн., 1982; *Brock P.* Z dziejów wielkiej emigracji w Anglii. Warszawa, 1958. *PSB.* Т. 1. S. 5—6; *ЭГБ*, т. 1.

**АБРАМАЎ Хаім Віктаравіч*** [1895, Мінск — 10.1.1938, Мінск, НКВД], педагог, навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. дэкан аднаго з ф-таў Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.12.1937 у Мінску па адрасе[2]: вул. Камуністычная, д. 8, кв. 9. Асуджаны «тройкай» НКВД СССР 3.1.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 3.8.1959. Асабовая справа А. № 14492-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АБРАМОВІЧ Станіслаў Ігнатавіч**[3] [1884, мяст. Мена Чарнігаўскай губ., цяпер райцэнтр Чарнігаўскай вобл., Украіна — ?], службовец. З бел. сям'і[4]. Падчас арышту старшы бухгалтар Омскай чыгункі. Арышта-

[2] Як правіла, арышт праводзіўся супрацоўнікамі ГПУ-НКВД ноччу і па месцы жыхарства.

[3] У 3 том даведніка ўключаны і шэраг грамадскіх і культурных дзеячаў, гаспадарчых і партыйных работнікаў, вайскоўцаў, службоўцаў, медыкаў, педагогаў, навучэнцаў беларускага паходжання, арыштаваных за межамі БССР. Гэта зроблена, каб паказаць геаграфію рэпрэсіўнай дзейнасці сталінскай машыны па вынішчэнні іншадумства і ў такім кантэксце рассялення беларусаў на тэрыторыі Расійскай імперыі і Савецкага Саюза (па месцах нараджэння і пражывання).

[4] На гэты факт (тут і далей) указваюць следчыя дакументы.

ваны 26.11.1930 у Омску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 14.12.1931 за «шкодніцкую дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 3.8.1959.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *СЭС; Административно-территориальное деление союзных республик.*

**АБРАМОВІЧ Сяргей Іванавіч*** [1893, станіца Сінельнікава Екацярынаслаўскай губ., цяпер райцэнтр Днепрапятроўскай вобл., Украіна — 15.9.1938, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камбрыг, часова выконваў абавязкі начальніка штаба і начальніка 3-га аддзела Заходнесібірскай акругі войск НКВД. Арыштаваны 14.4.1938 у Маскве па адрасе: вул. Пакроўка, д. 20/1, кв. 20. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *СЭС.*

**АБРАМОВІЧ Эміль Абрамавіч** [ліп. 1864, Гродна — 4.4.1922, Саратаў], рэвалюцыйны дзеяч. З сям'і зубнога ўрача. У 1882 скончыў Гродзенскую гімназію. Вучыўся на медыцынскіх ф-тах Парыжскага і Дэрпцкага ун-таў (1882—88). У гэты ж час пазнаёміўся з творамі

К.Маркса і Ф.Энгельса, з выданнямі групы «Освобождение труда», пачаў актыўна прапагандаваць іх вучэнне. У 1884 у Мінску, куды пераехалі на сталае пражыванне яго бацькі, стварыў сацыял-дэмакратычны гурток друкарскіх рабочых. У 1886—87 прапагандаваў марксісцкія ідэі таксама і ў Вільні. У лют. 1889 пераехаў у Кіеў, дзе стварыў адзін з першых сацыял-дэмакратычных гурткоў, але летам таго ж года быў арыштаваны. Зняволенне адбываў у турмах Кіева і Пецярбурга. У 1892 сасланы на 4 гады ў Сібір. Працаваў лекарам у Краснаярскай турме і Алёкмінску Якуцкай вобл. У 1896 вярнуўся ў Мінск. Неўзабаве запрошаны працаваць на Ленскія прыіскі, дзе да 1904 займаўся медыцынскім абслугоўваннем рабочых. У час рэвалюцыі 1905—07 жыў у Саратаве, актыўна супрацоўнічаў з мясцовай сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй. У сувязі з расстрэлам рабочых на Ленскіх прыісках напісаў выкрывальны артыкул «Ахвярам золата» для газ. «Невская звезда», за што быў сасланы ў Табольскую губ. У час 1-й сусветнай вайны служыў лекарам у царскай арміі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 працаваў у бальніцы ў Саратаве.

Літ.: *Памяти Э.А.Абрамовича* // Каторга и ссылка. 1928. № 3. С. 131—141; *Деятели революционного движения в России*: Биобиблиографический словарь. М., 1931. Т. 5. Вып. 1. С. 5—6; *ЭГБ*, т. 1.

**АБРАМЧУК Макар Паўлавіч** [вер. 1898, в. Дзмітравічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 2.11.1938, Барнаул, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. З сям'і настаўніка. З пачаткам 1-й сусветнай вайны быў разам з бацькамі ў бежанстве. У 1916 прызваны ў армію, удзельнічаў у 1-й

сусветнай вайне. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 настаўнічаў у Самарскай губ. З 1921 жыў у Мінску, быў загадчыкам павятовага, затым акруговага аддзелаў народнай асветы, нам. старшыні павятовага выканкама, загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды павятовага камітэта КП(б)Б. У 1925—26 член калегіі наркамата асветы БССР. У 1925 абраны сакратаром Магілёўскага акружкама КП(б)Б. З ліп. 1926 да вер. 1928 загадчык агітпрапа, сакратар і член Бюро ЦК КП(б) Беларусі. У 1926—29 член ЦВК БССР. У 1928 адкліканы ў распараджэнне ЦК ВКП(б) і накіраваны на вучобу ў Інстытут чырвонай прафесуры. Затым працаваў сакратаром Локцеўскага райкама ВКП(б) у Алтайскім краі. У сак. 1938 арыштаваны НКВД Алтайскага краю як «удзельнік праватрацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі». 2.11.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.9.1957.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Міхнюк У.М.* Арыштаваць у высылцы: Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. Мн., 1996. С. 126; *ЭГБ*, т. 1.

**АБУГАЎ Міхаіл Захаравіч*** [1901, Стары Быхаў Магілёўскай губ., цяпер Быхаў, райцэнтр Магілёўскай вобл. — 27.7.1941, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту лектар Растокінскага райкама ВКП(б) Масквы. Арыштаваны 13.3.1941 у Маскве па адрасе: Астроўскі зав., д. 14, кв. 5. Асуджаны 8.7.1941 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «ўдзел у

контррэвалюцыйнай, тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.12.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *ЭГБ*, т. 2, с. 146.

**АБЯЗЬЯНІН Павел Сцяпанавіч*** [1899, в. Займішча Горацкага (?) пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. вучоны сакратар Водна-меліярацыйнага камітэта наркамата земляробства БССР. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 30.12.1932 у Мінску па адрасе: вул. Слонімская, д. 28, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 8.5.1933 як «член контррэвалюцыйнай дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.7.1958. Асабовая справа А. № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АВЕРБУХ Уладзімір Барысавіч*** (Абузям-Хейдэр-Даніэль) [1889, мяст. Беразіно Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 27.7.1941, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З сям'і служачага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у яўрэйскую партыю Паалей Цыён; быў сакратаром Камуністычнай партыі Палесціны, нам. старшыні краявога савета прафсаюзаў Паўночна-Каўказскага краю. Арыштаваны 8.6.1936 у Пяцігорску. Асуджаны

1.11.1936 «тройкай» НКВД за «шпіянаж» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. У крас. 1939 этапаваны ў Маскву. 6.7.1941 асобай нарадай пры НКВД СССР асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.5.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АВЕРЫН Міхаіл Ігнатавіч*** [1891, в. Пачапаў (Пачапава) Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 8.5.1943, ГУЛАГ], дзяржаўны дзеяч БССР. З сялянскай сям'і. У крас. 1933 прызначаны нам. наркама Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР. Затым рашэннем сакратарыята ЦК КП(б)Б «у мэтах умацавання кіраўніцтва Віцебскай кантрольнай камісіі рэкамендаваны яе старшынёй». У 1934—35 старшыня Віцебскага гарадскога савета. З 1936 начальнік цэха Беларускай раённай электрастанцыі, затым дырэктар Полацкага цагельнага завода. 2.9.1936 пастановай Аршанскага райкама КП(б)Б выключаны з партыі як «трацкіст», «падазроны ў службе ў белай арміі» і «агент польскай разведкі». У лют. 1937 выведзены са складу ЦВК БССР. Па апеляцыі А. бюро ЦК КП(б)Б у крас. 1937 адмяніла рашэнне Аршанскага РК КП(б)Б, бо факты, што сталі падставай для гэтага, не пацвердзіліся. Аднак А. гэта не выратавала. 6.12.1937 ён быў арыштаваны і 28.9.1938 «тройкай» НКВД асу-

джаны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Новасібірскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.4.1958. Асабовая справа А. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АГЕЕЎ Васіль Іванавіч*** [1900, мяст. Бялынічы Магілёўскага пав., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?, Казахстан, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік рудніка ў Рыдэры Усходне-Казахстанскай вобл. Арыштаваны 2.2.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.10.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 17.10.1957.

Кр.: *Книга Скорби*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АГЕЕЎ Ян Пятровіч*** [1904, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар абл. доследнай станцыі. Арыштаваны 16.9.1937 НКВД Куйбышаўскай вобл. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў антысавецкай шкодніцкай арганізацыі». 15.9.1939 справа А. была спынена, а ён вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Белая книга*.

**АГЕЙКА Міхаіл Уладзіміравіч** [н. 1928, в. Весялова Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.], удзельнік бел. патрыятычнага падполля. З бел. сялянскай сям'і. Вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. У 1945 скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. З 1946 удзельнік бел. патрыятычнага падполля пры Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, што ўваходзіла ў склад канспіратыўнай арганізацыі «Чайка»; быў дарадцам Цэнтра арганізацыі «Беларускі вызваленчы рух». Арыштаваны органамі МДБ 10.6.1947. Асуджаны ў Баранавічах трыбуналам (16—18.10.1947) як «член антысавецкай арганізацыі» да 10 (паводле іншых звестак да 8) гадоў зняволення і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Пакаранне адбываў спачатку ў Баранавіцкай турме, потым у Мінеральным канцлагеры МДБ Комі АССР (Інта), дзе працаваў у вугальных шахтах. Вызвалены «па заліках працы» ўмоўна-датэрмінова 18.11.1954, але без права выезду. Канчаткова вызвалены 20.4.1956. Скончыў (завочна) Варкуцінскі горны тэхнікум (1963). У Беларусь вярнуўся ў 1978. У тым жа годзе выйшаў на пенсію. Жыве ў Салігорску. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 19.12.1975. Асабовая справа А. № 6816-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**АГРЭСТ Якаў Майсеевіч*** [1892, Магілёў — 5.11.1936, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў сярэд-

нюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту кіраўнік групы Усесаюзнага аб'яднання «Саюзпрамэкспарт». Арыштаваны 5.7.1936 у Маскве па адрасе: вул. Арбат, д. 35, кв. 29. Асуджаны 5.11.1936 «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.5.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**АДАМАЙЦІС Іосіф Адамавіч** [ліст. 1896, в. Юасцінінкай Панявежскага пав. Ковенскай губ., цяпер Літва — 8.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР. З сялянскай сям'і. З 1913 працаваў у кааператыўных арганізацыях. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 член Васкрасенскага рэўваенсавета Каломенскага пав. У жн. 1918 накіраваны на падпольную работу ў акупаваную кайзераўскімі войскамі Літву. Працаваў у ЦК Кампартыі Літвы, Віленскім гаркаме партыі, узначальваў партызанскі атрад у Ракішках, што вёў барацьбу з нямецкімі і польскімі захопнікамі. Са студз. 1919 надзвычайны камісар харчавання ў Ковенскай губ. З вер. 1919 да сярэдзіны мая 1920 член калегіі Смаленскага губернскага харчовага камітэта. Са жн. 1920 да сак. 1924 наркам харчавання БССР, затым упаўнаважаны наркамата знешняга гандлю СССР па Беларускай ССР, дырэктар Дзяржаўнай імпартна-экспартнай гандлёвай канторы Беларусі. У ліп. 1924 прызначаны старшынёй Віцебскага акружнога выканаўчага камітэта Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. 5.5.1926 прызначаны наркамам знешняга і ўнутранага гандлю БССР. З'яўляўся членам ЦВК БССР.

Са снеж. 1928 працаваў на адказных пасадах у Маскве. Падчас арышту старшы інжынер Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута халадзільнай прамысловасці. Арыштаваны НКВД СССР 5.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Наваслабодская, д. 62, кв. 364. Асуджаны ваеннай калегіяй вярхоўнага суда СССР 8.4.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 16.2.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *БелСЭ*, т. 1. с. 90.

Літ.: *Бусько Н.* Актуально и поныне // *Чалавек і эканоміка.* 1996. № 3. С. 43—44.

**АДАМЕНКА Фама Іванавіч*** [1882, Віцебск — 22.7.1944, Спаск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык ганчарнай вытворчасці саматужнай арцелі «Волжскі гарняк». Арыштаваны 26.5.1944 у в. Сюкеева Камска-Усцьінскага р-на. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі і прапагандзе». Загінуў у турме Спаска Кемераўскай вобл. Рэабілітаваны 3.11.1998.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

**АДАМОВІЧ Алесь** [н. 1930, Пастаўскі пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.], удзельнік бел. антысавецкага маладзёжнага руху. У 1944 паступіў у педагагічнае вучылішча, што адкрылася ў вер. таго года ў Паставах. З восені 1945 адзін з ініцыятараў згуртавання нацыянальна свядомых навучэнцаў у падпольную арганізацыю «За Беларусь», сакратар арганізацыі. Вясной 1946 пастаўская група аб'яднала-

ся з глыбоцкай арганізацыяй «Саюз беларускіх патрыётаў» (СБП). Пасля выкрыцця СБП арыштаваны органамі МДБ (лют. 1947). На судовым працэсе ў Мінску (16—20.6.1947) асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны быў, верагодна[5], у Багаслаўскі канцлагер МДБ Свярдлоўскай вобл. (каля Чырвонатурыйска). Падчас зняволення спрабаваў уцячы. *А.Фурс* прыгадваў: «Алесь падшукаў сабе супольніка, маладога, такога ж зуха-хлопца, як сам. Будучы на працы за зонай, яны падлавілі-такі момант, перапаўзлі забараняльную паласу… Але праз колькі дзён абодваіх прывезлі на вахту, збітых да паўсмерці. Далёка яны не адышлі, папаліся. Дзіва што: ва ўсе бакі непраходная тайга, лагеры, вайсковыя заставы. Ды і мясцовае насельніцтва было зацікаўленае высачыць і злавіць збеглых зэкаў — за кожную галаву тады плацілі мукой, цукрам і іншымі дэфіцытнымі прадуктамі». Пасля няўдалых уцёкаў пераведзены ў штрафны лагпункт. Вызвалены падчас «хрушчоўскай адлігі» ў 1956. У часы дэмакратызацыі выступаў у друку з успамінамі пра бел. пасляваенны маладзёжны антысавецкі рух.

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў.* Мн., 1997.

**АДАМОВІЧ Аляксандр Фаміч** [студз. 1900, в. Васюлькі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Карэльская

[5] З гэтым нявызначаным словам сустрэнемся яшчэ шмат разоў. Але тут нічога не зробіш. Лёсы тысяч і тысяч рэпрэсаваных прыйшлося складаць па крупінках.

АССР, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. З сялянскай сям'і, скончыў пачатковае вучылішча ў Радашковічах. У час 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Екацярынаслаўскай губ. У 1916 вярнуўся на Радзіму. Працаваў на будаўніцтве чыгункі. У снеж. 1916 пераведзены ў Адэсу (упраўленне дарожных работ Бесарабскага р-на). З канца 1917 член нацыянальна-культурнай арганізацыі «Беларускі гай». У 1918 уступіў у БСГ. З 1919 член ВКП(б). Працаваў у Адэсе пры Беларускім клубе і ў бел. секцыі губернскага аддзела народнай асветы. У час акупацыі Адэсы белагвардзейцамі і замежнымі інтэрвентамі на нелегальным становішчы. Пасля накіраваны ЦК РКП(б) у Смаленск. З 1920 сакратар Дзісенскага павятовага камітэта РКП(б). У 1921 працаваў у Бабруйскім павятовым аддзеле народнай асветы, затым інструктарам і загадчыкам аддзела Бабруйскага павятовага камітэта КП(б)Б. У снеж. 1921 па партыйнай мабілізацыі накіраваны ў армію. Са жн. 1924 сакратар Калінінскага акружкама Кампартыі Беларусі (Клімавічы). З вер. 1925 сакратар Полацкага акруговага камітэта партыі, затым загадчык аддзела друку ЦК КП(б)Б, рэдактар газ. «Беларуская вёска». У ліп. 1928 — вер. 1929 нам. наркама земляробства БССР. У сувязі з разгортваннем барацьбы з так званым нацыянал-дэмакратызмам зняты з работы і выключаны з КП(б)Б «за ідэалагічную няўстойлівасць, скрыўленне класавай лініі ў палітыцы наркамзема, за бюракратызм і адрыў ад партыйнай ячэйкі, за прымірэнчыя адносіны да контррэвалюцыйных вылазак нацыянал-дэмакратызма». Неўзабаве адноўлены ў партыі і накіраваны на перавыхаванне на нізавую работу тэрмінам на два

гады — працаваў тэхнічным рэдактарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.7.1930 у Мінску па адрасе: вул. Новасерпухаўская, д. 11, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 18.3.1931 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Пакаранне адбываў спачатку ў Салавецкім, затым у Беламорска-Балтыйскім канцлагерах НКВД Карэла-Фінскай АССР. 24.3.1935, калі знаходзіўся ў Беламорска-Балтыйскім канцлагеры, узяты пад варту і 11.7.1935 асуджаны Ленінградскім абл. судом да 7 гадоў папраўча-працоўных работ. 9.9.1937 «тройкай» НКВД Карэльскай АССР прыгавораны за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны каля ст. Сягежа. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 14.6.1988. Асабовая справа А. № 20950-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Фалей Е.* «Еще в более острой форме» // *Вечерний Минск*. 1993. 17 дек.; *Міхнюк У.М.* Арыштаваць у высылцы: дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. Мн., 1996. С. 112; *Яго ж.* Вязень сумлення // *Полымя*. 1996. № 2. С. 262; *ЭГБ*, т. 1.

**АДАМОВІЧ Віктар Тэафілавіч* [**1922, фальв. Мілюнцы Браслаўскага пав. Віленскага ваяв., цяперашняе месцазнаходжанне не выяўлена — 14.7.1941, Масква, «Камунарка», НКВД], музыкант. З сялянскай сям’і. Арыштаваны 16.12.1940. Асуджаны 24.6.1941 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.6.1995.

**АДАМОВІЧ Вячаслаў Вячаслававіч** [першая пал. 1890-х г. ?, Ашмяны Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл., паводле іншых звестак — Коўна, Літва — пасля 1939, ?], бел. паліт. і вайсковы дзеяч, драматург, журналіст. Вучыўся ў Ковенскай гімназіі, Мінскай духоўнай семінарыі, з навучэнцаў якой стварыў у 1917 бел. гурток. Сябра Беларускай вайсковай камісіі ў 1919—20, афіцэр яе мінскага рэзерва. Арганізатар бел. антыбальшавіцкіх партызанскіх аддзелаў, стваральнік і кіраўнік Беларускай сялянскай партыі «Зялёны дуб» (падпольны і творчы псеўданім «Дзяргач»). Удзельнік Палескага антыбальшавіцкага паходу генерала С.Булак-Балаховіча ў канцы 1920. Арганізатар антыбальшавіцкага партызанскага руху на Палессі. У другой палове 1920-х — пачатку 1930-х г. супрацоўнічаў з расійскай эміграцыйнай манархічнай арганізацыяй «Братство русской правды», якая вяла барацьбу супраць савецкай улады. На пачатку 2-й сусветнай вайны жыў у Гданьску, служыў псаломшчыкам у праваслаўнай царкве. Хутчэй за ўсё, у канцы 1930-х — пачатку 1940-х г. арыштаваны органамі савецкай дзяржбяспекі. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Дзяргач. Тыпы Палесся: Абразкі і легенды. Вільня, 1924.

Літ.: *Стужынская Н.* Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-ыя гады XX стагоддзя. Вільня, 2000.

**АДАМОВІЧ Захар Іванавіч*** [1905, в. Бязводна Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — 9.11.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту дарожны майстар Надзеждзінскага металургічнага заво-

да. Арыштаваны 1.10.1937 у Надзеждзінску Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 26.10.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АДАМОВІЧ Рыгор Уладзіміравіч*** [1902, в. Прорвы Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер хутар у Мёрскім р-не Віцебскай вобл. — 30.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Да мая 1937 член Ленінградскага абл. суда. Арыштаваны ў Ленінградзе па адрасе: вул. Пестэля, д. 9, кв. 9а. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «контррэвалюцыйную, антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АДАМУШКА Іван Дарафеевіч*** [1902, в. Вялікі Сервеч Вілейскага пав., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык планавага аддзела мальтозна-патачнага завода. Арыштаваны 1.12.1929 у Казані. Асуджаны за «контррэвалюцыйную дзейнасць і антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ у Салавецкім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР. 25.3.1931 паводле пастановы калегіі

АДПУ справа спынена. Зноў арыштаваны 9.4.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1937 да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.12.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**АДАРЫЧ Аляксандр Пятровіч*** [1908, в. Дунайчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. (паводле іншых звестак в. Галдовічы Слуцкага пав.) — 9.11.1937, Томск, НКВД], селянін-аднаасобнік, брат *Вячаслава* і *Яўгена Адарычаў*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 8.6.1932 за нелегальны пераход мяжы. Асуджаны 23.10.1932 асобай нарадай пры НКВД БССР да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Заходне-Сібірскім краі. Зноў арыштаваны 7.8.1937 у Багаслаўскім сельсавеце Асінаўскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 26.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.12.1960, пракуратурай Мінскай вобл. 22.10.1991. Асабовая справа А. № 31861-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**АДАРЫЧ Вячаслаў Пятровіч*** [1908 (паводле іншых звестак 1912), в. Дунайчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. —

9.11.1937, Томск, НКВД], службовец, брат *Аляксандра* і *Яўгена Адарычаў*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны 8.6.1932 за нелегальны пераход мяжы. Асуджаны 23.10.1932 асобай нарадай пры НКВД БССР да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Заходне-Сібірскім краі. Пасля вызвалення працаваў інструктарам дзіцячага дома. Зноў арыштаваны 8.8.1937 у Варана-Пашанскім сельсавеце Асінаўскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 26.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.12.1960, пракуратурай Мінскай вобл. 22.10.1991. Асабовая справа А. № 31861-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**АДАРЫЧ Яўген Пятровіч*** [1905, в. Дунайчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — ?], медык, брат Аляксандра *Адарыча* і Вячаслава *Адарыча*. З бел. сялянскай сям'і. У 1925—27 сябра БСРГ і КСМЗБ. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Падчас арышту ўрач раённай бальніцы ў Брагіне (цяпер райцэнтр Гомельскай вобл.). Арыштаваны 8.9.1933. Асуджаны 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны, хутчэй за ўсё, у Варкута-Пячорскі, затым Інцінскі канцлагеры Архангельскай вобл. Вызвалены 12.10.1943. Зноў арыштаваны і 6.1.1951 за «ўдзел у антысавецкай групоўцы» асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны

трыбуналам БВА 18.4.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. № 10182-с (спынена пастановай КДБ БССР 16.8.1956) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АДАШКЕВІЧ Аляксандр Аляксандравіч*** [1889, тэрыторыя цяперашняй Польшчы або Зах. Беларусі — 17.5.1938, Башкірская АССР, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік 9-й дыстанцыі пуці ст. Уфа. Арыштаваны 6.11.1937. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 10.8.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**АДЗЯРЫХА Герасім Прохаравіч** [1897, Бабруйск Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 8.7.1920, ?], удзельнік падпольнай барацьбы супраць польскіх акупацыйных уладаў (1920). З 1915 служыў у царскай арміі, удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне. Пасля Кастрычніцкага перавароту дэмабілізаваўся, вярнуўся ў Бабруйск. Быў старшынёй прафсаюзнага камітэта Бабруйскага маслабойнага завода. У час польска-савецкай вайны 1919—1920 арганізаваў камуністычную ячэйку, удзельнічаў у падпольнай барацьбе супраць акупацыйнага рэжыму. У ліп. арыштаваны легіянерамі і пасля катаванняў расстраляны. Яго імем названы вуліца і завод у Бабруйску.

Літ.: *Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии*. Мн., 1925; *ЭГБ*, т. 1.

**АДЗЯРЫХА Цімафей Якаўлевіч (Якубавіч)*** [25.2.1895, в. Белічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог, брат Міхася *Адзярыхі.* З сялянскай сям'і. Скончыў Слуцкае духоўнае вучылішча, вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі (да 1914), настаўнічаў. У 1915 прызваны ў царскую армію, ваяваў на Паўдн.-Усх. фронце, быў цяжка паранены. Лячыўся ў шпіталі ў Маскве, дзе яго застала Лютаўская рэвалюцыя 1917. Прызнаны непрыгодным да службы ў арміі і накіраваны на Шосткінскі парахавы завод Чарнігаўскай губ. У 1918 пакінуў прадпрыемства, працаваў настаўнікам у Слуцку. У 1924 паступіў у БДУ. У 1927 разам з іншымі студэнтамі і са сваімі братам Міхаілам і сястрой Ганнай арыштаваны як «член антысавецкага гуртка» і асуджаны да 3 гадоў ссылкі. З 1930 стыльрэдактар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Зноў арыштаваны 28.3.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Абвінавачваўся ў тым, што «ведаў аб існаванні контррэвалюцыйнай арганізацыі, аказваў ёй садзейнічанне ў зборы і пасылцы грошай ссыльным нацдэмам». Разам з А.*Бурдзейкам,* Я.*Бядрыцкім,* В.*Валогам,* А.*Дарашэвічам,* Д.*Дынькам,* П.*Жаўрыдам,* У.*Жылкам,* П.*Каравайчыкам,* М.*Каспяровічам,* П.*Кацярынічам,* Я.*Кіпелям,* Л.*Курыловічам,* А.*Міцкевічам,* У.*Мурашкам,* І.*Пашковічам,* Я.*Пушчам,* Р.*Пяцэвічам,* Ч.*Родзевічам,* А.*Сакам,* Ю.*Саленіковічам,* І.*Сасіновічам,* І.*Траськам,* Я.*Трафімавым,* С.*Хурсікам,* І.*Юрашкеві-*

*чам* і інш. асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.4.1931 да 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Чалябінскую вобл. Вызвалены 28.8.1935. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.11.1957. Групавая справа А. і інш. № 20951-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АДУЦКЕВІЧ Станіслаў Адольфавіч*** [1909, пас. Пушча Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям’і. Падчас арышту эканаміст трэста «Татпрамсвет». Арыштаваны 17.3.1938 у Казані. Асуджаны асобай нарадай НКВД СССР 24.6.1938 за «шкодніцкую дзейнасць» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 20.12.1955.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**АЖГІРЭВІЧ Пётр Васілевіч*** [1905, в. Лукянец (?) Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Пінскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік планавага аддзела (?). Арыштаваны 21.1.1938 у Алма-Аце. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.11.1938 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да

ВМП. Расстраляны. Месца і дата смерці невядомы. Рэабілітаваны з-за адсутнасці складу злачынства 25.6.1957.

Кр.: *Книга Скорби*.

**АЖЭШКА (АРЭШКА) Фларыян Феліксавіч** [1833, Кобрынскі пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — 1905, Томск], удзельнік паўстання 1863—64 у Беларусі. У 1861 скончыў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу. Займаўся лекарскай практыкай на Кобрыншчыне. У маёнтку Людвінова (цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл.) узначаліў групу дэмакратычна настроенай моладзі, сярод якой была Эліза Ажэшка, жонка яго брата. Разам з ёю арганізаваў школу для сялянскіх дзяцей. У час падрыхтоўкі паўстання 1863—64 уваходзіў у Кобрынскую арганізацыю паўстанцаў, збіраў для іх зброю і боепрыпасы, якія захоўваў у маёнтку Оўзічы (цяпер вёска Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.), што належаў яго брату Браніславу. У сак. 1863 паліцыя выявіла гэты склад, а таксама нелегальную перапіску. Пасля А. знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У крас. 1863 уступіў у атрад Р. Траўгута. Удзельнічаў у баях з царскімі войскамі ў Кобрынскім, Пружанскім і Пінскім паветах. Калі атрад быў разгромлены, рабіў спробы яго аднавіць. У пачатку ліп. 1863 арыштаваны ў Пружанскім пав. ў час агітацыі добраахвотнікаў у паўстанцкі атрад. Ваенна-палявым судом 2.1.1864 прыгавораны да ссылкі ў Сібір, якую адбываў у Томску. У 1872 атрымаў права на дзяржаўную службу. Больш за 20 гадоў працаваў лекарам у Томскай турме. Прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці мясцовага таварыства ўрачоў.

У апошнія гады жыцця быў лекарам духоўнай семінарыі. Памёр у Томску, пахаваны на гарадскіх могілках.

Літ.: *Zembrzuski L.* Złota księga korpusu sanitarnego Polskiego, 1797—1918. Warszawa, 1927; *Мендрина Г.И.* Медицинская деятельность политических ссыльных в Сибири. Томск, 1962. С. 21—22; *Гапава В.І.* Эліза Ажэшка: Жыццё і творчасць. Мн., 1969; *ЭГБ*, т. 1.

**АЗАРАЎ Аляксандр Іванавіч*** [1895, в. Машавое Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 3.7.1937, Масква, НКВД], вайсковец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Апошняе месца работы — нам. начальніка 5-га аддзела Упраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння ваенна-паветраных сіл Чырвонай арміі, інтэндант 2 рангу. Арыштаваны 14.2.1937 у Маскве па адрасе: Пакроўска-Стрэшнева, вул. Шчукінская (Ваенны гарадок). Асуджаны 3.7.1937 «тройкай» НКВД за «шкодніцтва» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.8.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АЙЗЕНБЕРГ Вольф Шаломавіч*** [1889, Навагрудак Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 24.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. У 1920 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — загадчык бібліятэкі Дома санітарнай культуры Ленінградскага гарадскога камітэта па ахове здароўя. Арыштаваны 17.9.1937

у Ленінградзе па адрасе: вул. Някрасава, д. 60, кв. 56. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны 18.10.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**АЙЗЕНСОН Ізраіль Маркавіч*** [снеж. 1896, Віцебск — 20.12.1937, Мінск, НКВД], гаспадарчы дзеяч БССР. З беднай яўрэйскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. Падлеткам працаваў на лямцавай фабрыцы. У час 1-й сусветнай вайны служыў у царскай арміі, у грамадзянскую вайну — у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). З 1921 супрацоўнік надзвычайнай камісіі. Са студз. 1923 у фінансавых органах Полацкага павятовага выканаўчага камітэта, затым Магілёўскага акружнога выканкама. У 1930—31 начальнік планава-фінансавага, затым планава-эканамічнага аддзелаў наркамата мясцовай прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.6.1937 (?) у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 13/18, кв. 1. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі правых» і за «шкодніцтва ў мясцовай і лёгкай прамысловасці БССР». Па прыгавору ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 19.12.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 24.12.1955. Асабовая справа А. № 5770-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЙЗЕНСОН Рэвека Веніямінаўна*** [1897, Віцебск — ?], медык, жонка Ізраіля *Айзенсона*. Атры-

мала сярэднюю медыцынскую адукацыю, уступіла ў ВКП(б) (1920). Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Працавала медсястрой у радзільным доме № 1. Арыштавана 15.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Першамайская, д. 13/18, кв. 1. Асуджана 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД БССР як «член сям'і расстралянага ворага народа» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена 15.2.1946. Зноў арыштавана 26.3.1951. Асуджана 26.6.1951 да 5 гадоў ссылкі ў Паўночна-Казахстанскую вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 16.3.1956. Асабовая справа А. № 6719-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АКАШАЎ (АКІШАЎ) Канстанцін Васілевіч*** [21.6(3.7)1888, в. Махаліна Люцынскага пав. Віцебскай губ., цяпер Латвія. — 9.4.1931, Масква, НКВД], лётчык, інжынер. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Дзвінскае рэальнае вучылішча, Ваенную авіяцыйную школу ў Мілане (1911), Вышэйшае вучылішча аэранаўтыкі і ваенна-авіяцыйную школу ў Францыі. З 1907 член рэвалюцыйнай групы анархістаў-камуністаў. У 1908 сасланы ў Туруханскі край, адкуль неўзабаве ўцёк. З 1909 у эміграцыі ў Алжыры, Італіі, Францыі. У 1914—15 удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне ў складзе французскай авіяцыі. З 1915 у Расіі. Удзельнік кастрычніцкага перавароту 1917. У час грамадзянскай вайны на адказных пасадах у ваеннай авіяцыі. Падчас арышту нам. дырэктара авіяцыйнага завода № 1. Адначасова выкладаў у Акадэміі паветранага флоту. Арыштаваны 3.3.1930 у Маскве па адрасе: Навінскі бульвар, д. 16,

кв. 64. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 3.4.1931 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 1.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**АКІНЧЫЦ Міхаіл Канстанцінавіч*** [1905, в. Старыца Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 20.09.1937, Санкт-Пецярбург, НКВД], ваенны медык. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы ўрач 25-й эскадрыллі 100-й авіябрыгады Леніградскай ВА. Арыштаваны 8.9.1937 у Пушкіне Ленінградскай вобл. Асуджаны 14.9.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АКІНШЭВІЧ Леў Аляксандравіч** [псеўд.: Воронич Л.; 25.1(6.2.).1898, Санкт-Пецярбург — 7.11.1980, ЗША], бел. і ўкраінскі гісторык, мемуарыст, правазнавец. У 1916 скончыў калегію Паўла Галагана ў Кіеве, куды пераехалі бацькі. У 1916—17 вучыўся на юрыдычным ф-це Кіеўскага ун-та. Далучыўся да бел. нацыянальнага руху, быў сябрам Кантрольнай камісіі бел. арганізацыі ў Кіеве. У 1917 мабілізаваны ў армію, накіраваны ў Кіеўскую вайсковую школу. Служыў пра-

паршчыкам у Сімферопалі і на Румынскім фронце. У 1918 вярнуўся ў Кіеў, працягваў вучыцца ва ун-це, удзельнічаў у культурна-грамадскай рабоце бел. дыяспары на Украіне, прыняў грамадзянства БНР. З 1921 навуковы супрацоўнік Украінскай АН, спецыялізаваўся ў галіне бел., украінскага і польскага права, даследаваў гісторыю казацтва на Беларусі. Працаваў пад кіраўніцтвам акадэміка М. Васіленкі, пазней А. Грушэўскага, брата М. Грушэўскага. З 1923 сакратар Камісіі па вывучэнні гісторыі зах.-рускага і ўкраінскага права. Падтрымліваў сувязі з навуковымі цэнтрамі і творчымі асяродкамі Беларусі. Супрацоўнічаў з Інбелкультам (пазней — БелАН), публікаваўся ў час. «Полымя» (з 1925), выступаў у бел. друку з рэцэнзіямі і аглядамі ўкраінскіх выданняў, апублікаваў шэраг артыкулаў пра казацтва на Беларусі. У час. «Украіна», «Червоний шлях» друкаваў рэцэнзіі на працы бел. вучоных. Свае даследаванні з гісторыі права на Беларусі і Украіне надрукаваў у «Працах Камісіі па вывучэнні гісторыі заходнерускага і ўкраінскага права», сакратаром якой з'яўляўся. У 1928 абараніў дысертацыю «Генеральная рада на Гетманшчыне», пазней выдадзеную манаграфіяй. Быў асабіста знаёмы з бел. вучонымі У.*Пічэтам,* Яз.*Лёсікам,* С.*Некрашэвічам*, В.*Ластоўскім*, Д.*Даўгялам*, В.*Друшчыцам*, Т.*Забелам*, пісьменнікамі Я.*Коласам,* Я.*Купалам,* Ц.*Гартным.* У 1932 за адмову стаць сакрэтным супрацоўнікам НКВД звольнены з работы. Вясною 1933 (з пачаткам «чыстак») пераехаў у Нежын, дзе ўладкаваўся прафесарам Нежынскага педагагічнага ін-та. На пачатку 1934 абвінавачаны ў бел. і ўкраінскім нацыяналізме і пасля кампаніі шальмавання пазбаўлены работы. Пазней уладкаваўся юрыстам на Балхашскім

прамкамбінаце ў Казахстане. Праз тры гады пераехаў з сям'ёю ў Смаленск. Там А. заспела 2-я сусветная вайна. Мабілізаваны на фронт, трапіў у палон. Выбавіўшыся з палону, выкладаў у Кіеўскім ун-це, пераехаў у Львоў. Пазней ва Украінскім вольным ун-це ў Празе, затым у Мюнхене чытаў гісторыю ўкраінскага права, напісаў некалькі падручнікаў. З 1949 у ЗША. Перабіваўся выпадковымі заробкамі, быў чорнарабочым. З 1951 да 1954 выкладаў у Калумбійскім ун-це, працаваў у Даследчым цэнтры па вывучэнні СССР (Research Project on the USSR) у Вашынгтоне, пасля ў бібліятэцы Кангрэса ЗША (1954—69). Займаўся праблемамі нацыянальных меншасцяў, даследаваў савецкую юрыдычную сістэму, гісторыю Беларусі і Украіны XVI—XVII ст. Супрацоўнічаў з Бел. інстытутам навукі і мастацтва, Украінскім навуковым таварыствам імя Т.Шаўчэнкі. Публікаваўся ў бел. і ўкраінскіх эміграцкіх навуковых і перыядычных выданнях. Сябра Украінскай Вольнай Акадэміі навук, Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША. Аўтар успамінаў (на ўкраінскай мове) «Пракляты стэп».

Тв.: Казацтва на Беларусі: (Гіст.-юрыдычны нарыс) // *Полымя*. 1927, № 1; Беларускае казацтва ў украінскай гістарыяграфіі // *Тамсама*. 1929. № 6; Казацка-сялянскія войны на Беларусі ў XVII ст. у характарыстыцы акад. М. Грушэўскага // *Савецкая краіна*. 1931. № 5; Парлямэнт беларускай зямлі // *Запісы БІНіМ* (Нью-Йорк). 1952. № 1 (передрук: *З Гісторыяй на «Вы»*. Вып. 3. Мн., 1994); Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу // *Тамсама*. 1953. № 2 (передрук: *З Гісторыяй на «Вы»*. Вып. 3); Балонкі з успамінаў // *Тамсама*. 1989. № 19 (передрук: *На суд гісторыі*. Мн., 1994).

Літ.: *Мыцык Ю*. Сын дзвюх бацькаўшчын // *Полымя*. 2003, № 3; *Лебедзева В*. Леў Акіншэвіч пра гісторыю Беларусі // *Спадчына*. 1996, № 6; *ЭГБ*, т. 1.

**АКСЕЛЬРОД Веніямін Сямёнавіч*** [1902, в. Галаўніно (?) Магілёўскага (?) пав., цяпер Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сям’і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 10.12.1937. Абвінавачваўся ў «дзейнасці на карысць польскай разведкі». 29.4.1939 (?) пастановай следчага аддзела НКВД Магілёўскай вобл. вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. № 4875 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобласці.

**АКСЁНАЎ Пётр Фёдаравіч*** [1909, в. Рынкоўка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чэрыкаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. З 1941 да 1945 удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне, якую скончыў у званні палкоўніка. Быў узнагароджаны 4 ордэнамі і медалямі. У другой палове 1950-х г. напісаў і накіраваў лісты міністру дзяржаўнага кантролю, пракурору БССР, у партыйныя органы, у якіх крытыкаваў М.Хрушчова, «бюракратызм, безадказнае перакручванне нашых законаў, празмерную пахвальбу, падман і ашуканства, уціск крытыкі і самакрытыкі, парушэнне прынцыпаў дэмакратыі». Арыштаваны 6.1.1958 у Мінску па адрасе: вул. Чырвоназорная, д. 5, кв. 43. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 13.2.1958 да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. 11.7.1958 Вярхоўным судом БССР тэрмін пакарання быў зменшаны да 3 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.10.1965. Асабовая справа А. № 19355-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *58*[10], с. 460.

**АКСЮЧЫЦ Нічыпар Лукіч** [13(25).3.1892, в. Сакавічы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — ?], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў народнае вучылішча. З 1914 да 1917 служыў у царскай арміі ў званні унтэрафіцэра, удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 абраны членам палкавога салдацкага камітэта. З кастр. 1917 у Барысаўскім выканкаме, затым у Барысаўскім ваенкамаце. Са снеж. 1918 старшыня Мінскага валаснога камітэта. З кастр. 1919 начальнік Барысаўскай павятовай міліцыі, пасля камісар па харчаванню Барысаўскага р-на. У 1920 уступіў у ВКП(б). З кастр. 1923 у Мінску старшыня праўлення Беларускага саюза сельскагаспадарчай і крэдытнай кааперацыі, дырэктар Белсельгасбанка ў Мінску. У 1928—29 наркам гандлю БССР, потым старшыня Мінскага акруговага выканкама. У снеж. 1929 прызначаны членам эканамічнай нарады пры СНК БССР, з лют. 1931 начальнік Галоўнага ўпраўлення камунальнай гаспадаркі пры СНК БССР, з ліп. 1931 да ліп. 1932 наркам камунальнай гаспадаркі БССР. Паводле некаторых звестак, арыштаваны НКВД у другой палове 1930-х г. і асуджаны да ВМП.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АКУЛЁНАК Аляксандр Андрэевіч*** [1919, хут. Зарывочча (?) Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — 30.12.1941, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык базы тэхнічнага забеспячэння. Арыштаваны 26.10.1941 у Таўдзе Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 4.11.1941 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**АКУЛІК Міхаіл Андрэевіч** [1899, в. Баранавічы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. — 1938, НКВД], партыйны дзеяч БССР. Удзельнік Кастрычніцкага перавароту 1917. У 1919 на фронце, пасля на падпольнай рабоце ў Харкаве. З 1920 член Цэнтральнага бюро, загадчык культурна-асветнага і паліт. аддзелаў ЦК камсамола Украіны. З 1921 сакратар Екацярынбургскага губкама, затым Сібірскага бюро ЦК РКСМ. У 1924 пасля сканчэння Камуністычнага ун-та імя Я.Свярдлова вярнуўся ў Беларусь. Працаваў выкладчыкам Камуністычнага ун-та ў Мінску, нам. загадчыка аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б. З 1926 да 1928 сакратар Мінскага акруговага камітэта КП(б) Беларусі. У 1928 накіраваны на вучобу ў Маскву ў Інстытут чырвонай прафесуры. Адначасова працаваў у Камуністычным ун-це нацыянальных меншасцяў Захаду імя Ю.Мархлеўскага, дзе загадваў бел. аддзелам. З 1933 на партыйнай рабоце ў Арэнбургскай вобл. У 1938 арыштаваны НКВД СССР. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *Карніловіч Э.* Як Акулік спрачаўся з Бухарыным // *Маладосць*. 1999. № 11.

**АЛЕЙНІКАЎ Рыгор Ільіч*** [1891, в. Чарневічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 10.8.1938, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту тэхнік-будаўнік трэста Цэнтрахімлес у Кунцава Маскоўскай вобл. Арыштаваны 8.3.1938 у Маскве па адрасе: Брусаўскі зав., д. 4, кв. 53. Асуджаны 2.8.1938 камісіяй НКВД СССР за «шпіянаж на карысць Германіі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.10.1957.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Міхаіл Ісакавіч*** [1905, Віцебск — 28.11.1938, Мінск, НКВД], журналіст, рэдактар. З яўрэйскай сям'і. Быў членам КПЗБ. У 1930-я г. загадчык аддзела газ. «Рабочий». Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа А. № 30043-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Пётр Іосіфавіч*** [1895, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы інжынер ст. Свярдлоўск-пасажырская. Арыштаваны 20.3.1938

у Свярдлоўску. Асуджаны 28.10.1938 да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**АЛЕКСАЎ (АЛЯКСАЎ) Пётр Аляксеевіч*** [1897, Фердынанда (?), Балгарыя — 13.8.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. галоўнага механіка станказавода імя С.Арджанікідзе. Арыштаваны 10.2.1938 у Маскве па адрасе: 1-ы Баб'егародскі зав., д. 15/17, кв. 64. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 29.7.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 31.3.1956. Асабовая справа А. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**АЛЕНДСКІ Антон Варфаламеевіч** [каля 1843, Люблінская губ. — 30.3(11.4).1864, Мінск], удзельнік паўстання 1863—64 у Беларусі. З сям'і афіцэра. Скончыў 1-ы маскоўскі кадэцкі корпус, вучыўся ў Артылерыйскай акадэміі ў Пецярбургу. Удзельнік афіцэрскага рэвалюцыйнага гуртка, падтрымліваў сувязі з арганізацыяй «Зямля і воля», распаўсюджваў яе пракламацыі. У крас. 1863 нелегальна выехаў з Пецярбурга ў Магілёўскі пав. Пад псеўданімам Антоні ўзначальваў Чарнаруцкі атрад паўстанцаў. У прамовах перад сялянамі выступаў за перадачу ім зямлі без выкупу, прапаноўваў іншыя дэмакратычныя пераўтварэнні. У

канцы крас. 1863 атрад пад кіраўніцтвам А. быў разгромлены пад в. Славені (цяпер Талачынскі р-н), пасля чаго ён далучыўся да сенненскіх, затым барысаўскіх паўстанцаў. У маі 1863 быў схоплены ў Барысаўскім пав. карнай экспедыцыяй царскіх войск і пасаджаны ў мінскую турму. Ваенна-палявым судом асуджаны да расстрэлу.

Літ.: *Ратч В.* Очерки мятежного движения в Могилевской губернии в 1863 году. Вильно, 1865; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АЛУФ Хацкель Шмуйлавіч*** [1885, Полацк Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 20.2.1939, Масква, НКВД], медык, фармацэўт. Да ўступлення ў ВКП(б) быў членам меншавіцкай партыі. Падчас арышту начальнік Галоўнай аптэчнай інспекцыі наркамата аховы здароўя. Арыштаваны 16.7.1938 у Маскве па адрасе: Малы Ніколапяскоўскі зав., д. 6, кв. 5. Асуджаны 20.2.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.2.1956.

**АЛЬГІНСКАЯ-ЖЫТЛОЎСКАЯ Сільвія Львоўна*** [1.11.1898, Житомір, цяпер Украіна — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю адукацыю, уступіла ў ВКП(б) (1929). У 1930-я г. дырэктар Інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў наркамата асветы БССР. Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 21.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 104, кв. 3. Выключана з партыі ў сувязі з арыш-

там. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 8.1.1938 як «агент польскіх разведвальных органаў» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапавана ў Сібірскі канцлагер НКВД Кемераўскай вобл. (Марыінск). Вызвалена 21.8.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 14.2.1956. Асабовая справа А. № 6634-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЬМУТ Міхаіл Восіпавіч** [1905, Брэст — 4.12.1937, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у Камуністычную партыю Польшчы. Падчас арышту адказны інструктар абкама Саюза паліграфічнай прамысловасці. Арыштаваны 2.9.1937 у Маскве па адрасе: Сыцінскі тупік, д. 6, кв. 7. Асуджаны 27.11.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «сувязь з ворагамі народа Радэкам, Бухарыным, Грынбергам» і «контррэвалюцыйную трацкісцкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**АЛЬПЯРОВІЧ Яўген Маркавіч*** [1888, Стары Шклоў Магілёўскай губ., цяпер Шклоў, райцэнтр Магілёўская вобл. — 10.9.1937, Масква, НКВД], удзельнік барацьбы за савецкую ўладу. У рэвалюцыйным руху з 1904, працаваў у нелегальнай друкарні, быў членам марксісцкіх гурткоў. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905—07 выключаны з Саратаўскага рэальнага ву-

чылішча. У 1914 скончыў Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча, уступіў у падпольную бальшавіцкую арганізацыю. 6.6.1915 арыштаваны і сасланы ў Сібір. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Маскву, удзельнічаў у Кастрычніцкім пераваропе 1917. У 1920—30-я г. на гаспадарчай рабоце ў Маскве. Апошняе месца працы — начальнік Галоўнага станкаінструментальнага ўпраўлення. Арыштаваны 25.7.1937 у Маскве па адрасе: вул. Варанцоўская, д. 21, кв. 8. Асуджаны 10.9.1937 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 18.2.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ,* т. 1.

**АЛЬТМАН Давід Шлёмавіч*** [1897**,** Пултуск Варшаўскай губ., цяпер Польшча — 11.4.1938, Магадан, ГУЛАГ]**,** выдавец, рэдактар. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам сектара (аддзела) у Дзяржаўным выдавецтве БССР. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 30.8.1936 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі і за антысавецкую дзейнасць» да 7 гадоў папраўча-працоўных работ і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (бухта Нагаева, Магадан). 7.4.1938 асуджаны «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны**.** Па першай справе рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага савета БССР 12.9.1956, па другой прэзідыумам Магадан-

скага абл. суда 24.8.1964. Асабовая справа А. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЬФЕР Міхаіл Спірыдонавіч*** [1899, Віленка, тэрыторыя цяперашняй Польшчы або Зах. Беларусі — ?, Хакасія, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык Хакаскага абл. аддзела камунальнай гаспадаркі. Арыштаваны 20.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 17.7.1938 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны пастановай ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 28.1.1958.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия.*

**АЛЬХІМОВІЧ Казімір Дамінікавіч** [20.12.1840, в. Дамбрава Лідскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — 31.12.1916, Варшава], жывапісец, графік. Дзіцячыя і юнацкія гады А. прайшлі ў родавым маёнтку. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Віленскай гімназіі. Удзельнічаў у паўстанні 1863—64, за што сасланы ў Сібір. У 1869 вызвалены з ссылкі па амністыі. Пераехаў у Варшаву. У 1871 адбылася першая выстава яго карцін. Вучыўся ў мастацкай школе В. Герсана ў Варшаве (1871—73), Мюнхенскай акадэміі мастацтваў (скончыў у 1875). У 1875—79 жыў у Парыжы, удзельнічаў у мастацкіх выставах. З 1880 жыў і працаваў у Варшаве. Пісаў карціны на тэмы з гісторыі Беларусі, Польшчы і Літвы. Найбольш вядомыя: «Па-

хаванне Гедыміна», «Вітаўт на магіле Кейстута», «Абарона Ольштына», «Смерць Глінскага ў турме». Захаваліся графічныя аркушы, на якіх А. паспрабаваў узнавіць вобразы выдатных постацей мінулага — гетманаў ВКЛ Крыштафа Радзівіла (XVI ст.) і Паўла Сапегі (XVII ст.). Пад уражаннямі сібірскай ссылкі напісаў творы, прасякнутыя пратэстам супраць царскага самаўладдзя: «Пахаванне на Урале», «Смерць у выгнанні» (1873), «На этапе» (1894) і інш. Стварыў серыю карцін па матывах творчасці А.Міцкевіча, ілюстраваў яго творы, у прыватнасці, паэму «Пан Тадэвуш». Аўтар ілюстрацый да твораў У.Сыракомлі, Э.Ажэшкі, Ю.Славацкага і Ю.Крашэўскага. З мастакамі Т.Попелем і А.Пятроўскім размалёўваў касцёл Св.Кацярыны ў Пецярбургу. Зрабіў шэраг работ, выразаных з дрэва. Найбольш значныя, што захаваліся да сёння, — абразы «Святая Тройца» ў кафедральным саборы Любліна і «Праабражэнне» ў касцёле в. Новая Мыш Баранавіцкага р-на.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

Літ.: Słownik artystów polskich i obcych w Polsce działających. Wrocław—Warszawa, 1971. T. 1; *Дробов Л.* Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974. С. 49; *Загідуліна М.* Лёс мастака // *Гроднен. праўда* // 1990. 19 дек.; *Яна ж.* Дзеля карысці Бацькаўшчыны… // ЛіМ. 1991. 19 ліп.; *Яна ж.* Запозненыя рамантык // *Свіцязь.* 1994; *Яна ж.* Духоўны свет Казіміра Альхімовіча // *Мастацтва.* 1998. № 4; *Марціновіч А.* Палотны Казіміра Альхімовіча // *Культура.* 1995. 26 ліп.; Савук А. Жывапісец паганскай Літвы // Лідскі летапісец. 2000. № 4. С. 11—15; Яновіч М. Казімір Альхімовіч // *Народная воля.* 2001. 12 крас.; *PSB.* T. 1; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АЛЬШЭЎСКІ Кастусь** [н. 1922, в. Новая Гута Вілейскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Вілейскі р-н

Мінскай вобл.], удзельнік бел. патрыятычнага падполля. Пасля 2-й сусветнай вайны дырэктар Скародзкай школы Ільянскага р-на Маладзечанскай вобл. У 1947 удзельнік падпольнай арганізацыі (група С.*Яноўскага*). Арыштаваны органамі МДБ 16.8.1947. Асуджаны трыбуналам БВА 21.11.1947 за «здраду савецкай радзіме і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў зняволення і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Пакаранне адбываў у турмах Мінска і канцлагерах ГУЛАГа.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*.

**АЛЬШЭЎСКІ Фадзей Іванавіч*** [1890, Ашмяны Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 9.12.1937, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — начальнік аддзела артылерыйскіх баз Артылерыйскага ўпраўлення Чырвонай арміі, камандзір дывізіі. Арыштаваны 17.6.1937 у Маскве па адрасе: Патапаўскі зав., д. 9/11, кв. 8. Асуджаны 9.12.1937 за «ўдзел у антысавецкай ваенна-фашысцкай змове» і за «шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.6.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**АЛЯКСЕЕВА (КУДЗЕЛЬКА) Уладзіслава Мікітаўна*** [1901, в. Кабылля Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Кастрычніцкая Вілейскага р-на

Мінскай вобл. — ?], бактэрыёлаг, жонка Іосіфа *Кудзелькі*. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту бактэрыёлаг Мінскага мясакамбіната. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 29.11.1937 як «член сям'і расстралянага здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. У студз. 1938 этапавана (з Аршанскай турмы) ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. 15.8.1938 пераведзена ў Сярэдне-Азіяцкі канцлагер НКВД Узбекскай ССР. Рэабілітавана 8.12.1943. Вызвалена 10.1.1944. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. № 7253-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Хранить вечно*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АЛЯКСЕЕЎ Піліп Пятровіч*** [1896, Усурыйск, Далёкі Усход, Расія — 14.10.1938, Мінск, НКВД], службовец. З мяшчанскай сям'і. Апошняе месца работы — кіраўнік сектара ўліку і інфармацыі «ЦС ОСО» (?) БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Мічурынская, д. 9, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 30.9.1938 як «член контррэвалюцыйнай, шпіёнскай і паўстанцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 27.11.1956. Асабовая справа А. № 7814-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик; СЭС.*

**АЛЯКСЕЕЎ Яўген Кузьміч** [2.2.1884, пас. Вісіма-Уткінск Екацярынбургскай губ., паводле іншых звестак Верхняўцкі пав. Пермскай губ., цяпер Пермскай вобл., Расія — 21.1.1972, Мінск (?)], аграном, педагог. З сям'і рабочага. У 1903 скончыў Казанскі настаўніцкі інстытут, Вышэйшыя сельскагаспадарчыя курсы ў Пецярбургу (1911). З 1916 дырэктар Навазыбкаўскай доследнай станцыі. У другой палове 1920-х г. прафесар, загадчык кафедры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 29.9.1930. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў канцлагераў. 19.10.1932 справа А. была спынена, а ён вызвалены і рэабілітаваны. У 1936 абараніў доктарскую дысертацыю. З 1937 да 1959 працаваў у Маскоўскім заатэхнічным інстытуце і адначасова (з 1946) у Беларускім навукова-даследчым інстытуце земляробства. З 1940 акадэмік АН БССР. Асабовая справа А. № 4088 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобласці.

Тв.: Зернебабовыя культуры ў БССР. Мн., 1953.

Літ.: *БЭ*, т. 1.

**АЛЯС Рыгор Іосіфавіч*** [1904, Херсон, цяпер Украіна — 26.3.1943, ГУЛАГ], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту выкладчык Мінскай кансерваторыі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.11.1938 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 22, кв. 12. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-

працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (бухта Нагаева, Магадан). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 31.5.1989. Асабовая справа А. № 23028-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АЛЯХНОВІЧ Антон Іванавіч*** [1888, в. Моўчадзь Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 6.11.1944 у Баранавічах. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.12.1945 за «здраду радзіме» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Пакаранне адбываў, хутчэй за ўсё, у Мінеральным канцлагеры НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены 6.11.1952. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. Асабовая справа А. № 12021-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АЛЯШКЕВІЧ Якаў Аляксеевіч*** [1906, в. Вялікія Каменічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Асіповіцкі (?) р-н Магілёўскай вобл. — 25.9.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса імя Кірава. Арыштаваны 6.8.1937 у Паўднёва-Чаромушынскіх хутарах Турынскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 21.9.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АМБРАЖУНАС Пётр Іосіфавіч** [24.11 (5.02).1892, в. Грумшлі Панявежскага пав. Ковенскай губ., цяпер Біржайскі р-н, Літва — 20.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З літоўскай сялянскай сям'і. Да прызыву ў армію ў 1913 скончыў Шавельскую пачатковую школу. Пасля заканчэння скарочаных артылерыйскіх курсаў у ліп. 1914 накіраваны на Паўд.-Зах. фронт 1-й сусветнай вайны. У кастр. 1914 паранены і кантужаны. Выбіраўся ў розныя камітэты салдацкіх дэпутатаў — батарэі, брыгады, дывізіі. У кастр. 1917 член брыгаднага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. У лют. 1918 трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення ў маі 1918 на падпольнай рабоце ў Літве, прымаў удзел у барацьбе з польскімі легіянерамі. У вер. 1919 ЦК КП(б) Літвы і Беларусі камандзіраваў яго ў распараджэнне Смаленскага губкама РКП(б). Працаваў у органах харчавання ў Барысаве і Мінску, у 1921—22 мінскі павятовы харчкамісар. У лют. 1923 старшыня Мінскага выканкама. З ліп. 1924 старшыня Аршанскага, а з ліп. 1928 Гомельскага акружных выканкамаў. З вер. 1930 нам. старшыні Вышэйшага савета народнай гаспадаркі БССР. З сак. 1934 да ліп. 1937 наркам, затым нам. наркама камунальнай гаспадаркі БССР, старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР (1934—37). У 1924—37 член ЦВК БССР. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. 3.7.1937 арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Паштовая, д. 3,

кв. 2. Адначасова выключаны з партыі «за правядзенне шкодніцкай работы ў камунальнай гаспадарцы; за арганізацыю без дазволу ЦК КП(б)Б калектыўнай заявы ў ЦК КП(б)Б аб узнагароджанні ворага народа Галадзеда ордэнам Чырвонай Зоркі». Асуджаны «тройкай» НКВД 20.12.1937 як «удзельнік антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.4.1957. Асабовая справа № 10181-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *БЭ*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1.

**АМЕЛЬЯНОВІЧ Алесь** [н. 30.9.1928, в. Гулі Пастаўскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл], удзельнік бел. патрыятычнага падполля, мемуарыст. З вер. 1943 вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Паставах, уступіў у СБМ. 1.9.1944 паступіў у Паставах у педагагічнае вучылішча, куды А. прынялі на 2-і курс. Сышоўся са студэнцкім аб'яднаннем навучэнцаў-падпольшчыкаў, якое тут існавала. Пасля вучылішча настаўнічаў у школе в. Сваткі Мядзельскага р-на. 26.2.1947 арыштаваны на рабочым месцы органамі МДБ па т. зв. справе «Мядзельца—Асіненкі». Асуджаны трыбуналам БВА да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Пасля перасылачных турмаў трапіў, хутчэй за ўсё, у Балаганскае або Жыгалаўскае лагернае аддзяленне на капальні золата ў Бадайбінскім р-не Іркуцкай вобл. У 1949 пераведзены ў Берагавы канцлагер НКВД Магаданскай вобл. Выйшаў на волю 10.6.1954. На працягу трох гадоў мусіў адбываць высылку. Скончыў Магаданскі горны тэхнікум. Звяртаў-

ся да ўладаў з просьбамі дазволіць вярнуцца на радзіму, але атрымліваў адмоўны адказ. У 1957 А. нарэшце дазволілі вярнуцца ў Беларусь, і ён з жонкай пераехаў у Вілейку, дзе жыве і сёння. Да выхаду на пенсію ў 1994 працаваў на Вілейскім рамзаводзе. Прыняў актыўны ўдзел у напісанні ўспамінаў у кнізе «Гарт».

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**АМУСІН Іосіф Давыдавіч** [16.11.1910, Віцебск — 12.6.1984], расійскі гісторык. У другой палове 1920-х г. арыштаваны і высланы ў Казань. Зноў арыштаваны 14.2.1933. Вызвалены 29.10.1933. У 1941 скончыў Ленінградскі ун-т. У 2-ю сусветную вайну на фронце. Пасля працаваў у педагагічных інстытутах Ульянаўска і Горкага. З 1960 у Ленінградскім аддзяленні Інстытута Усходазнаўства Акадэміі навук СССР. Адзін з заснавальнікаў савецкага кумраназнаўства. Адным з першых савецкіх гісторыкаў выказаў меркаванне пра гістарычнасць Ісуса Хрыста. Аўтар артыкулаў па розных аспектах гісторыі Ст. Грэцыі і Рыму. Рэабілітаваны 28.8.1989.

Тв.: Находки у Мертвого моря. М., 1965; Кумранская община. М., 1983.

Літ.: *БелЭН*.

**АНАНЬЕЎ Анатоль Андрэевіч** [18(31).8.1900, станіца Варэнікаўская Таманскай акругі, цяпер Тэмрукскі р-н Краснадарскага краю — 25.5.1942, ГУЛАГ],

дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 уступіў у Чырвоную армію (служыў да 1933). Удзельнік грамадзянскай вайны. У 1933 адкліканы з пасады нам. начальніка палітаддзела стралковай дывізіі ў распараджэнне ЦК ВКП(б) і накіраваны начальнікам палітаддзела МТС на Паўночны Каўказ. З ліст. 1934 сакратар Шпакаўскага райкама Паўночнакаўказскага краю. Са жн. 1935 першы сакратар Мазырскага акружкама КП(б) Беларусі. У вер. 1937 прызначаны нам. старшыні СНК БССР, у сак. 1938 абраны другім сакратаром ЦК КП(б)Б, быў членам ЦВК БССР, узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. 3.10.1938 вызвалены ад пасады другога сакратара ЦК КП(б)Б. Арыштаваны на наступны дзень у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 16, кв. 5. Абвінавачваўся ў «правядзенні шкодніцкай работы ў сельскай гаспадарцы і ў галіне культурнага будаўніцтва». Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.5.1940 да 20 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Саратаўскай вобл. (Аткарск). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны 25.12.1954 «за адсутнасцю складу злачынства». Асабовая справа А. № 4534-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Григорьев Г.* Участник «мозырского дела» // *Вечерний Минск*. 1993. 21 мая;; *ЭГБ,* т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АНДРАЙКОВІЧ (БУТАЎТ-АНДРАЙКОВІЧ) Стафан Аляксандравіч** [1861, Гродзенская губ. — ?], рэвалюцыянер, дзеяч «Народнай волі». З шляхецкай

сям'і. Па мацярынскай лініі з'яўляўся ўнукам графа Л.Л.Бенігсена, у 1801—04 Віленскага губернатара. Вучыўся ў Гродзенскай, Віцебскай і Пецярбургскай гімназіях. Увсень 1881 уступіў у рэвалюцыйную групу, якая праводзіла сацыялістычную прапаганду сярод пецярбургскіх рабочых. Загадваў «лятучай друкарняй» у партыі «Народная воля». Удзельнічаў у гуртку «Ognisko», які з'яўляўся філіялам польскай рабочай партыі «Пралетарыят». Друкаваў пракламацыі, лістоўкі і брашуры («Да рускага грамадства ад рускіх рэвалюцыянераў»). У чэрв. 1883 арыштаваны і сасланы на пяць гадоў ва Усх. Сібір. У 1899 жыў у Гродне.

Літ.: *Деятели революционного движения в России:* Биобиблиографический словарь. М., 1933. Т. 3. Вып. 1; Очерки революционных связей народов России и Польши, 1815—1917. М., 1976; *ЭГБ,* т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АНДРАЮК Нестар Ільіч** [29.9(12.10).1906, в. Сычы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н — 2.3.1976, Брэст], удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі. З 1926 сакратар Гродзенскага акруговага камітэта камсамола Зах. Беларусі, з 1927 член сакратарыята ЦК КСМЗБ. У 1928 за рэвалюцыйную дзейнасць асуджаны польскімі ўладамі да 8 гадоў турэмнага зняволення. Пакаранне адбываў у турмах Варшавы, Брэста, Баранавіч і Каранова. З 1938 у Бяроза-Картузскім лагеры. Вызвалены Чырвонай арміяй у вер. 1939. У час паходу савецкіх войскаў у Зах. Беларусь арганізоўваў паўстанцкія атрады на Брэстчыне, узначальваў каравульную службу рабочай гвардыі ў Пінску. У пачатку 2-й сусветнай вай-

ны ваяваў на Цэнтральным фронце, служыў у знішчальнай авіяцыі. У адным з баёў цяжка паранены. Пасля вайны на гаспадарчай і савецкай рабоце ў Брэсце. Аўтар успамінаў.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: В дни немецко-польской войны // Годы испытаний и мужества. Мн., 1973.

Літ.: *ЭГБ,* т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АНДРУКОВІЧ Аляксандр Аляксандравіч*** [1901, мяст. Цімкавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 18.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту нам. начальніка меднакацельнага цэха завода імя Арджанікідзе № 189-а. Арыштаваны 5.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 11-я лінія, д. 34, пакой 43. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 14.10.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АНДРЫЕЎСКІ Уладзімір Аляксеевіч*** [1900, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык паштовага аддзялення ў в. Старыя Маклаўшы. Арыштаваны 30.1.1942. Асуджаны Куйбышаўскім абл. судом 16.6.1942 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Пастановай Вярхоўнага суда РСФСР 30.7.1942 мера пакарання заменена на 10 гадоў папраўча-працоў-

ных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Самарскай абл. пракуратурай 20.7.1992.

Кр.: *Белая книга.*

**АНДРЭЙЧЫК Аляксандр Сямёнавіч*** [1895, в. Сёгда Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 14.10.1938, Іркуцк, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту слухач Ваенна-транспартнай акадэміі Чырвонай арміі. Арыштаваны 20.7.1937. Асуджаны 14.10.1938 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.10.1957.

Кр.: *Жертвы политических репрессий Иркутской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АНДРЭЙЧЫКАЎ Стафан Андрэевіч*** [1898, в. Высокае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік жыллёвага аддзела будоўлі Турксіб. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.3.1938 да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны 2.7.1957.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АНДРЭС Абрам Майсеевіч*** [1896, Гродна — 14.6.1938, Масква, «Камунарка»], службовец. Атрымаў

вышэйшую адукацыю. Працаваў начальнікам электрамеханічнага аддзела Будаўніцтва Паўднёвай гавані ГУЛАГа. Арыштаваны 22.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Фрунзе, д. 13, кв. 70. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.6.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.5.1959.

**АНІСАЎ Майсей Васілевіч*** [1905, в. Касцюкі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 21.6.1958], партыйны дзеяч. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. З 1924 інструктар Полацкага акружнога камітэта ЛКСМБ, затым загадчык арганізацыйнага аддзела Мазырскага акружкама камсамола, загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Ельскага райкама КП(б)Б. У 1927—28 курсант школы Чырвонай арміі, пасля сканчэння якой абраны сакратаром Ельскага, затым Петрыкаўскага РК КП(б)Б. У 1930—33 студэнт-парттысячнік Мінскага энергетычнага і Ленінградскага электрамеханічнага інстытутаў. У 1933—35 сакратар Бягомльскага і Клімавіцкага РК КП(б)Б. З ліст. 1936 вучыўся ў Маскве ў Вышэйшай школе партарганізатараў пры ЦК ВКП(б), з ліп. 1937 другі сакратар Полацкага акружкама КП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны НКВД БССР 18.11.1937. Пастановай асобай нарады НКВД СССР 11.1.1940 як «член антысавецкай арганізацыі» асуджаны да 3 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены ў канцы 1940. Працаваў старшынёй райспажыўсаюза ў Краснаярскім краі. У чэрв. 1942 добраахвотна ўступіў у 78-ю Сталінскую брыгаду сібіракоў, якая была сфарміравана ў Краснаярску. Ваяваў на франтах 2-й сусветнай вайны, быў паранены. Пасля дэмабі-

лізацыі дырэктар Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума ў Слонімскім р-не Гродзенскай вобл. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.12.1968. Асабовая справа А. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**АНІШЧАНКА Валерый Арсеневіч*** [1891, в. Зіноўеўка, цяпер Пятроўскі (?) р-н Саратаўскай вобл., Расія — 10.6.1950, ГУЛАГ], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1917 уступіў у партыю эсэраў, з 1918 — у ВКП(б). Удзельнічаў у грамадзянскай вайне (на баку бальшавікоў). Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. У 1936 выключаны з партыі. У час 2-й сусветнай вайны, верагодна, заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 13.9.1948 у Краснаярску, дзе працаваў загадчыкам кафедры ў Краснаярскім медыцынскім інстытуце. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.12.1949, як «член антысавецкай арганізацыі і прыслужнік нямецкай адміністрацыі ў 1943 годзе» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Мінеральны канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 7.6.1966. Асабовая справа А. № 19420-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АНТАНІКОЎСКІ Аляксандр Мікалаевіч** [23.11.1888, ? — 1937, НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР.

Пасля абвяшчэння Беларускай ССР 1.1.1919 увайшоў у склад Часовага работніцка-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, з'яўляўся сакратаром яго прэзідыума. Адначасова быў рэдактарам газ. «Весткі Часовага работніцка-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі». На 1-ым Усебеларускім з'ездзе Саветаў 2—3 лют. 1919 абраны членам і сакратаром Малога Прэзідыума ЦВК БССР. Пасля абвяшчэння Літоўска-Беларускай ССР у Чырвонай арміі ў палітаддзеле Зах. фронту. З 1922 у Цэнтральным Бюро КП(б)Б, нам. загадчыка агітацыйна-прапагандысцкага аддзела. З 1928 рэктар Віцебскага ветэрынарнага інстытута. У 1937 арыштаваны НКВД БССР і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ,* т. 1.

**АНТАНОВІЧ Васіль Іосіфавіч*** [1903, в. Княгініна Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 1981, Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.], педагог, вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту выкладчык тактыкі пяхотных курсаў. Арыштаваны 20.7.1941 у Махачкале Дагестанскай АССР. Асуджаны 15.5.1943 да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АНТАНОВІЧ Павел Рыгоравіч*** [1899, в. Юндзілы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 7.6.1938, Масква, НКВД], служ-

бовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту эканаміст гандлёвай групы транспартнага аддзела Цэнтрасаюза. Арыштаваны 14.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Грузінскі вал, д. 28/45, кв. 11. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 28.5.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 6.11.1958. Асабовая справа А. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АНТАШЭЎСКІ Апанас Фёдаравіч** (18(30).1.1887, в. Трайчаны Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любаньскі р-н Мінскай вобл. — 21.1.1938, Мінск, НКВД), удзельнік бел. нацыянальнага руху. Настаўнічаў на Случчыне. У пачатку 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Іркуцку, дзе скончыў вайсковае вучылішча (1916) і аўтаматацыклетныя курсы (1917). У чэрв. 1917 здаў экзамены ў Іркуцкі педагагічны інстытут, але быў прызваны на фронт, служыў падпаручнікам, начальнікам сувязі штаба стралковай дывізіі. Пасля дэмабілізацыі ў 1918 залічаны на 1 курс Валагодскага настаўніцкага інстытута. Пазней пераведзены ў Праслаўскі настаўніцкі інстытут, а з яго ў Мінскі настаўніцкі інстытут (1919). У час польска-савецкай вайны ў складзе Беларускай камуністычнай арганізацыі, якую ўзначальваў У.*Ігнатоўскі* (тады дырэктар настаўніцкага інстытута). Удзельнічаў у падпольнай барацьбе супраць польскіх акупантаў на Случчыне. Пасля сканчэння інстытута (1921) працягваў вучобу ў БДУ, потым на-

стаўнічаў на Случчыне. У 1930-я г. ўпаўнаважаны Камітэта нарыхтовак СНК БССР па Капыльскім р-не. Арыштаваны 11.6.1937. Асуджаны як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.6.1988.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Кароль М.* Вяртанне з небыцця // *Мінская праўда*. 1990. 19 студз.; Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах / Ул. Ляхоўскі, Ул. Міхнюк, А. Гесь. Мн., 2001. С. 315; *ЭГБ*, т. 6—2.

**АНТОНАЎ Іван Паўлавіч*** [1902, Мінск — ?], навуковец, педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.9.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі «БНЦ» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа А. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АНУФРЫЮК Васіль Емяльянавіч*** [1904, в. Навасёлкі Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 8.3.1938, Масква, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт Педагагічнага інстытута імя К. Лібкнехта. Арыштаваны 9.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Стромынка, д. 32, кв. 239. Асу-

джаны асобай нарадай пры НКВД СССР 26.2.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 7.4.1956. Асабовая справа А. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**АНУШКЕВІЧ Вячаслаў Антонавіч*** [1934, мяст. Ляхавічы Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў бухгалтарам. Арыштаваны 6.4.1957 у Ляхавічах па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 25. Асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» 20.6.1957 да 4 гадоў зняволення і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МДБ Мардоўскай АССР. Вызвалены 6.4.1961. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 29.1.1992 прэзідыумам Брэсцкага абл. суда. Асабовая справа А. № 10468-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**АНЦЫПОВІЧ Аляксандр Міхайлавіч*** [1905, в. Бранава, Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У пачатку 1930-х г. навуковы супрацоўнік Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. У 1933 выключаны з партыі пры «чыстцы». Арыштаваны 2.9.1933 у Горках. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 14.11.1933 як «член

шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі «БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа А. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**АНЦЫПЯРОВІЧ Пётр Гардзеевіч** [1903, мяст. Лунінец Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Брэсцкай вобл. — 10.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык лабараторыі гуказапісу Ленінградскага палаца піянераў. Арыштаваны 22.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: зав. Падбельскага, д. 2/10, кв. 32. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**АНЦЫХОВІЧ Іван Рыгоравіч*** [1899, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 17.10.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны інжынер 3 рангу, інжынер 9-й асобнай механізаванай брыгады. Арыштаваны 7.9.1937 у г. Луга. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 12.10.1937 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*.

**АПАНОВІЧ Мікалай Тарасавіч*** [1911, в. Мохавічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], селянін-аднаасобнік, брат Сямёна *Апановіча*. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Арыштаваны 24.12.1948 у в. Мохавічы. Асуджаны 20.7.1949 за «паклёп на савецкую ўладу» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер МДБ Архангельскай вобл. (ст. Ярцава); п/с 233/08). Вызвалены 27.12.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 28.12.1993. Асабовая справа А. № 35865-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага р-на.* Мн., 1998; *Антысавецкія рухі*.

**АПАНОВІЧ Міхаіл Восіпавіч*** [1884, в. Юшкавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 21.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1919). У 1930-я г. загадчык сакратарыята Упраўлення ашчадных кас. Падчас арышту беспрацоўны. Арыштаваны ў 1937 у Маскве па адрасе: Вялікі Кісельны зав., д. 8, кв. 9. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР

18.10.1937 за «сувязі з белаэмігрантамі, фашыстамі, прадстаўнікамі японскіх і кітайскіх фірм падчас камандзіроўкі ў Маньчжурыю» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны 17.10.1957. Асабовая справа А. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**АПАНОВІЧ Сямён Тарасавіч*** [1907, в. Мохавічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], селянін-аднаасобнік, брат Мікалая *Апановіча*. З 1926 член БСРГ. Апошняе месца работы — дзесятнік Мядзельскага раённага нарыхтоўчага пункта. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.12.1940 у в. Мохавічы. Асуджаны 26.4.1941 за «антысавецкую агітацыю і контррэвалюцыйную прапаганду» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 4.9.1989. Асабовая справа А. № 27892-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**АПЕЛЬБЕРГ Руф Эрнеставіч** (1860, Уладзімір, Расія — 1927), рэвалюцыйны дзеяч. З дваранскай сям’і. У 1879 скончыў Уладзімірскую гімназію, паступіў у Маскоўскі ун-т. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях выключаны. У жн. 1881 выканкамам «Народнай волі» на-

кіраваны ў Вільню, каб аб’яднаць нарадавольскія гурткі ў Паўн.-Зах. краі. З мясцовымі нарадавольцамі ўдзельнічаў у заснаванні Віленскай цэнтральнай групы, якая стала на чале арганізацыі «Народная воля» ў Паўн.-Зах. краі. Падтрымліваў кантакты з членамі мясцовых рэвалюцыйных гурткоў у Гродне, Віцебску, Мінску, Магілёве, Беластоку. 29.1.1882 арыштаваны ў Вільні. Сасланы ва Усх. Сібір. У 1924 жыў у Казані, удзельнічаў у рабоце гарадской арганізацыі паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў.

Літ.: Деятели революционного движения в России: Биобиблиографический словарь. Т. 3. Вып. 1. М., 1933; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АРАБЕЙ Мікалай Лявонцевіч*** [16(28).1899, в. Вялікая Вобрына Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], партыйны дзеяч. З сялянскай сям’і. Скончыў рэальнае вучылішча ў Петраградзе. З 1919 (?) да 1930 у Чырвонай арміі на палітрабоце. У 1926 скончыў курсы ўдасканалення вышэйшага начсаставу. З лют. да вер. 1930 інструктар ЦК КП(б)Б, затым вучыўся ў Інстытуце чырвонай прафесуры ў Маскве (да ліст. 1933). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Пасля вяртання ў Мінск памочнік сакратара ЦК КП(б)Б, дырэктар Белпартвыдавецтва. З вер. 1935 да мая 1936 загадчык аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б. 17.1.1936 бюро ЦК КП(б)Б рэкамендавала А. на пасаду наркама асветы БССР, а таксама ў члены ЦК і кандыдатам у члены бюро ЦК КП(б)Б. Пры абмеркаванні гэтага пытання на пленуме адзін з яго ўдзельнікаў заявіў, што А. у 1923 выступаў у абарону Л. Троцкага. Узнікла «персанальная

справа», пры разглядзе якой 4.3.1936 бюро ЦК адмяніла сваё рашэнне аб вылучэнні наркамам і вызваліла А. ад пасады загадчыка аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б, выключыла з членаў партыі і накіравала на перавыхаванне на абутковую фабрыку ў Мінску ў якасці нарміроўшчыка. Кантрольная партыйная камісія пры ЦК ВКП(б), куды ён звярнуўся з апеляцыяй, пацвердзіла выключэнне з партыі. Арыштаваны 27.4.1937 у Мінску па адрасе: пл. Парыжскай Камуны, д. 14, кв.11. Асуджаны 29.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «удзельнік антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.7.1957. Асабовая справа А. № 10752-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АРАБЕЙ Павел Венядзіктавіч*** [1883, ? — 3.2.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшы бухгалтар Смаленскага завода дарожных машын. Арыштаваны 16.11.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**АРАМОВІЧ Ігнат Мікалаевіч** [? — 1875], педагог, мемуарыст, удзельнік паўстання 1863—64. З 1859 настаўнік матэматыкі ў Беластоцкай гімназіі. Належаў да рэвалюцыйнай арганізацыі і актыўна ўдзельнічаў у

падрыхтоўцы ўзброенага выступлення супраць царскіх улад. З крас. 1863 ад'ютант пры паўстанцкім ваенным начальніку Гродзенскага ваяв. Паплечнік і нязменны спадарожнік В.Урублеўскага. Увосень 1863 з ім і рэшткамі гродзенскіх паўстанцаў адышоў на тэрыторыю Польшчы (Люблiншчыну). У студз. 1864, пасля разгрому атрадаў В.Урублеўскага, эміграваў. Апублікаваў (у Швейцарыі) падрабязныя ўспаміны пра паўстанне на Гродзеншчыне, у якіх апісаў баявыя дзеянні паўстанцаў, прыезд К.*Каліноўскага* да іх, змясціў тэксты бел. песень паўстанцаў. У 1872 вярнуўся ў Расію, быў арыштаваны і сасланы. Памёр у Казані.

Тв.: Marzenia. Pamiętnik o ruchu partyzanckim w województwie Grodzieńskim w 1863 i 1864 r. Bendlikon. 1865.

Літ.: *ЭГБ,* т. 1.

**АРАНОВІЧ (ХОДАШ) Якаў (Абрам) Борухавіч (Давыдавіч)*** [1904, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 27.12.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў на рабфаку Бабруйскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Інтэрнацыянальная, д. 4, кв. 1. Асуджаны 17.12.1937 «тройкай» НКВД за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 28.4.1989. Асабовая справа А(Х). № 25886 захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АРЛОЎ Васіль Дзмітравіч*** [1903, в. Палуж Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі

р-н Магілёўскай вобл. — ?], дзяржаўны дзеяч, брат Пятра *Арлова*. З сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1920-х г. У пачатку 1930-х г. наркам земляробства. Арыштаваны 31.12.1932. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 8.5.1933 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалены 21.8.1935. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Магілёўскай вобл. 21.11.1989. Асабовая справа А. № 14017 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў. Волости и важнейшие селения.*

**АРЛОЎ Дзмітрый Сымонавіч*** [1903, в. Лесавыя Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 1.12.1937, Віцебск, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту інспектар Катланагляду наркамата лёгкай прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 18.10.1937 у Віцебску. Асуджаны 29.10.1937 паводле пастановы АДПУ СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 11.4.1958. Асабовая справа А. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АРЛОЎ Пётр Дзмітравіч*** [1896, в. Палуж Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], селянін-аднаасобнік, брат Васіля *Арлова*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую аду-

кацыю. Ажаніўся. Арыштаваны ў канцы 1932 — пачатку 1933 у в. Палуж. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 5.10.1933 за «ўдзел ва ўзброенай контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Ніжне-Амурскі канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю. Вызвалены 6.10.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 23.8.1956. Асабовая справа А. № 1980-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**АРНОЛЬДАЎ Міхаіл Андрэевіч*** [1868 (?), в. Навадзевічча (?) Сенгілееўскага пав. Сярэдняволжскага краю, цяпер Расія — ?], навуковец, педагог. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. прафесар Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.1.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Баўмана, д. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны быў, хутчэй за ўсё, у Каргопальскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены 26.10.1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа А. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АРОНСАН Рыгор Якаўлевіч** (1887, СПб — 1968), удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі, публіцыст. У рэвалюцыю 1905—07 кіраўнік бундаўскай арганізацыі ў Віцебску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 адзін

з лідэраў віцебскіх меншавікоў і бундаўцаў. Кастрычніцкі пераварот 1917 сустрэў варожа. За антысавецкую дзейнасць у 1921 арыштаваны і зняволены ў Бутырскую турму, пасля сасланы ў Архангельскую губ. У 1922 высланы ў Германію, з 1940 жыў у ЗША. У 1922—51 член ЦК Бунда (у эміграцыі). Адзін з заснавальнікаў «Социалистического вестника», органа ЦК партыі меншавікоў у эміграцыі. Аўтар даследаванняў па гісторыі яўрэйства і масонства ў Расіі і Беларусі.

Літ.: *ЭГБ,* т. 6—2.

**АРХІПАЎ Міхаіл Іванавіч*** [1884 , в. Сухарава Сухараўскай вол. Уфімскай губ., цяпер Башкортастан, Расія — 27.10.1937, ГУЛАГ], навуковец, педагог. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Ажаніўся. Выкладаў у «ВІЭВА» (?), атрымаў званне прафесара. Арыштаваны 13.4.1933 на станцыі Кузьмінка Маскоўска-Курскай чыгункі. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі» да 10 гадоў пазбаўлення волі. У 1937 паўторна асуджаны і прыгавораны «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны ў канцлагеры. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа А. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АРЦЁМЕНКА Георгій Міхайлавіч*** [1905, пас. Аляксандраўка Магілёўскай губ., цяпер Гомельская (?) вобл. — 4.10.1936, Масква, НКВД], педагог. З бел. сям'і. Першы раз арыштаваны ў Смаленску (?), асуджаны па-

водле пастановы калегіі АДПУ СССР як «трацкіст» да 3 гадоў ссылкі ў Паўночны край. Да 1935 вызваліўся, атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў на курсах «ОРСА» (?) на заводзе «Чырвонае Сормава»; таксама выкладаў хімію і ветэрынарыю ў Ніжагародскім вучэбна-курсавым камбінаце. Зноў арыштаваны ў ноч з 15 на 16 лют. 1935 ў Горкім па адрасе: Сормава, вул. Фрунзе, д. 1. Асуджаны 23.6.1935 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Ташкенцкі (Сярэднеазіяцкі?) канцлагер НКВД Узбекскай ССР. У снеж. 1935 выкліканы на новае следства ў Маскву. Асуджаны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны пастановай ваеннай калегіі Вярхоўнага суда ад 9.1.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище*; *Книга памяти жертв политических репрессий в Нижегородской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АРЦЫХОВІЧ Іван Канстанцінавіч*** [1908, ? — 26.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту эканаміст Іздзяшкоўскага льнозавода. Арыштаваны 8.7.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 8.10.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**АРЦЮКЕВІЧ Барыс Вікенцевіч*** [1894, в. Казлоўшчына Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі (?) р-н Гродзенскай вобл. — 8.1.1938, Масква, «Камунар-

ка», НКВД], вайсковец. Меў незакончаную сярэднюю адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту начальнік адміністратыўнага аддзялення Разведвальнага ўпраўлення Чырвонай арміі. Арыштаваны 21.11.1937 у Маскве па адрасе: вул. Горкага, д. 38, кв. 205. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.1.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 18.2.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АРЦЮШЭЎСКІ Міхаіл Паўлавіч** [1925, в. Драчава Бабруйскай акругі, цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — ?], удзельнік антысавецкага падполля. У жн. 1943 вывезены на прымусовыя работы ў Германію. Вызвалены ў сак. 1945 амерыканскімі войскамі, працаваў у санітарнай часці, затым механікам у гаражы. У 1946 намерваўся вярнуцца ў СССР, але зразумеў, што яму пагражаюць рэпрэсіі з-за цывільнай службы ў амерыканскай арміі. У 1946—51 жыў у амерыканскай зоне акупацыі Германіі, у Вялікабрытаніі, ЗША. У пачатку 1952 пры ўдзеле Б.Рагулі завербаваны ў разведку ЗША, займаўся ў Каўфбэйрэнскай разведвальнай школе (псеўданім — Фін). Разам з Г.*Касцюком* (Бэнам) жыў у Міндэльсгайме, адкуль на заняткі дастаўляўся легкавым аўтамабілем. Як запасны радыст ноччу на 27.8.1952 закінуты ў Налібоцкую пушчу (у в. Кляцішча Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Пасля высадкі і падзелу групы заставаўся ў лесе разам з М.*Кальніцкім* (Джо). Затрыманы органамі МДБ БССР 10.9.1952 у запланаваным месцы

сустрэчы групы. Пастановай прэзідыума Вярхоўнага савета СССР 23.1.1956 памілаваны і вызвалены ад крымінальнай адказнасці. Паводле сведчанняў Ц.Вострыкава, адыграў не апошнюю ролю ў выкрыцці органамі МДБ дэсантнай групы. Інфармацыя патрабуе праверкі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: Вострыкаў Ц.: «Яшчэ не прыйшоў час» // *Наша Ніва*. 1998. 15 чэрв.; *Антысавецкія рухі*; *Валаханович И.А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**АРШАНСКІ Бэр Эмануілавіч** [псеўд.: Бэр, Хаім, Міхлсон, З.Б.Элензон; 30.11.1883, Гарадок, Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 15.11.1945, Масква], дзяржаўны і партыйны дзеяч, літаратар. Працоўную біяграфію пачаў пераплётчыкам. З юнацкіх гадоў уключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць. З 1902 жыў у Рызе. У 1903 уступіў у Бунд. У 1908 пераехаў у Вільню. З 1913 у Пецярбургу, друкаваўся ў нелегальным друку. Вёў рэвалюцыйную прапаганду, за што неаднаразова арыштоўваўся. У 1918 накіраваны ў Віцебск сакратаром губкама РСДРП. З'яўляўся членам Віцебскага губернскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У 1919 на падпольнай рабоце ў Літве. З 1920 нам. старшыні выканкама Мінскага гарадскога Савета, наркам працы БССР. У 1925—26 рэдагаваў газ. «Октобэр» («Кастрычнік», выдавалася на ідыш). Быў нам. загадчыка агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б. У 1927 накіраваны на партыйную работу ў Свярдлоўск. З 1929 зноў у Мінску. Працаваў загадчыкам яўрэйскага сектара БелАН. Член

ЦВК БССР (1920—26). У 1930-я г. «пры нявысветленых акалічнасцях пабываў на Калыме» (Р. Рэлес).

Тв.: 1905 год у Беларусі. Мн., 1926.

Літ.: *ЭГБ,* т. 1; *БП*, т. 1.

**АРЭНГЕЙМ Леан Тэадоравіч** [псеўд. Ота Немчыц; 1861, Рыга, цяпер Латвія — 1911 (?), Віцебск], дзеяч рэвалюцыйнага руху Беларусі. Скончыў рэальнае вучылішча ў Дынабургу (Дзвінску). Вучыўся ў Нова-Александрыйскім інстытуце сельскай гаспадаркі (Пулавы, Польшча). За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях выключаны, пасля пераехаў у Пецярбург. Там зблізіўся з польскім рэвалюцыянерам А. Дэмбскім, з дапамогай якога пераехаў у Варшаву. З'яўляўся членам партыі «Пралетарыят», удзельнічаў у стварэнні яе падпольнай друкарні, у якой працаваў наборшчыкам, вырабляў штэмпелі і пячаткі для фальшывых дакументаў. Меў кантакты з рэвалюцыянерамі Гродна і Віцебска. Восенню 1883 разам з жонкаю пераехаў у маёнтак Марыямпаль на Віцебшчыне. Падтрымліваў сувязі з бел. і польскімі рэвалюцыянерамі, аказваў ім матэрыяльную дапамогу. 14.11.1884 арыштаваны ў сваім маёнтку і зняволены ў Варшаўскую цытадэль. У ліп. 1885 асуджаны да 8 месяцаў турмы. Пасля вызвалення жыў у Віцебскай губерні пад наглядам паліцыі.

Літ.: *ЭГБ,* т. 1; *БЭ*, т. 2.

**АРЭХАЎ-АЛЬХОЎСКІ Іван Міхайлавіч*** [1893, Разань, цяпер Расія — ?], акцёр. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у

Рэчыцкім драматычным тэатры. Быў жанаты. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 1.1.1945 у Бабруйску. Асуджаны 16.10.1945 за «здраду радзіме» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай Вярхоўнага суда БССР 22.5.1970. Асабовая справа А. № 9436 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**АРЭХВА Мікалай Сямёнавіч** [11(24).11.1902, в. Баруны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 16.7.1990, Мінск], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, гісторык. Заслужаны работнік культуры БССР (1981). Удзельнік грамадзянскай (ваяваў супраць войск Юдзеніча) і польска-савецкай войнаў. У пачатку 1920-х г. сакратар Наўгародскага павятовага і губернскага камітэтаў РКСМ. З вер. 1923 у апараце ЦК РКСМ. У 1924 старшыня Часовага Беларускага Бюро ЦК РКСМ, абраны першым сакратаром ЦК КСМБ. Член ЦВК БССР (1924). Са студз. 1925 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі: сакратар Віленскага акруговага камітэта, член ЦК КПЗБ. У сак. 1926 арыштаваны польскай дэфензівай. 5 гадоў знаходзіўся ў турмах Польшчы. У 1934—35 узначальваў Краявы сакратарыят ЦК КПЗБ. З мая 1935 член Бюро, з ліп. 1936 прадстаўнік ЦК КПЗБ пры арганізацыйным апараце ЦК Кампартыі Польшчы ў Празе. Са снеж. 1939 жыў у СССР. У час 2-й сусветнай вайны ў Войску Польскім. З 1945 у апараце Міністэрства грамадскай бяспекі Польскай Народнай Рэспублікі. З 1956 у Мінску, у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ,

у якім працаваў старшым навуковым супрацоўнікам да 1984. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі рэвалюцыйнага нацыянальна-вызваленчага руху, Камуністычнай партыі і камсамола. Адзін з аўтараў калектыўнай працы «Рэвалюцыйны шлях Кампартыі Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.)» (Мн., 1966), складальнік і рэдактар зборнікаў дакументаў і матэрыялаў «Барацьба працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'яднанне з БССР» (т. 1—2, Мн., 1962—1972), зборнікаў успамінаў «У суровыя гады падполля» (Мн., 1958), «Гады выпрабаванняў і мужнасці» (Мн., 1973) і інш.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі ў гады белапольскай акупацыі. Мн., 1958; К вопросу об истории Коммунистической партии Западной Белоруссии // Коммунист Белоруссии. 1957. № 8; Пример служения народу // Коммунист Белоруссии. 1963. № 9 (разам з А.М.Мацко); Накануне II съезда КПЗБ // Годы испытаний и мужества. Мн., 1973; Дела и люди КПЗБ. Мн., 1983.

Літ.: *Мяснікоў А.* Маладосць вяла наперад // *Чырвоная змена.* 1977. 26 ліст.; *Тоўсцік А.* Разам назаўсёды // *Чырвоная змена.* 1979. 16 вер.; *Міско Я.* Таварыш «Пётр» // *Полымя*. 1982. № 2. С. 162—172; *Соколова И*. Посеянное в людях отзовется… // *Полит. собеседник*. 1987. № 5. С. 21—23; *Раманоўскі В.* Праз усё жыццё // *Вяч. Мінск*. 1989. 9 ліст.; *Бараноўскі Я.* «Паколькі мая жонка ўжо сама апраўдвацца і абараняцца не можа…» // *Звязда*. 1996. 4 крас.; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**АРЭШКА Антон Іванавіч*** [1893, ? — 21.10.1938, Астрахань, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — начальнік службы пуці ўпраўлення Ніжневолжскага басейна. Арыштаваны ў Астрахані. Асуджа-

ны 25.9.1938 «тройкай» НКВД за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Кр.: *Из тьмы забвения*.

**АСАТКІН-УЛАДЗІМІРСКІ Аляксандр Мікалаевіч** [3(15).10.1885, с. Вазнясенскае Кастрамскога пав., цяпер Кастрамская вобл., Расія – вер. 1937, Кіеў, НКВД], дзяржаўны і партыйны дзеяч. Скончыў Маскоўскі камерцыйны інстытут. У 1904 уступіў у РСДРП. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Працаваў у Кастрамской, Іванава-Вазнясенскай, Уладзімірскай арганізацыях РСДРП. 6 разоў зняволены, 2 разы высланы. З 1918 на прафсаюзнай рабоце ў Маскве: член Прэзідыума ВЦСПС, член ЦК прафсаюза тэкстыльшчыкаў. У 1921 накіраваны ў Туркестан: наркам гаспадарчых спраў, нам. старшыні СНК, старшыня Эканамічнага савета. З 1923 у Беларусі. У маі 1923 узначаліў партыйна-ўрадавую камісію па ўзбуйненні БССР. Да БССР далучаны Віцебская і Магілёўская губерні. З 4.2.1924 сакратар Часовага Беларускага бюро ЦК РКП(б). У маі—вер. 1924 першы сакратар і член Бюро ЦК КП(б)Б. Беручы ўдзел у дыскусіі аб супрацьстаянні НЭПа і сацыялістычнага ўкладу, лічыў пазіцыі НЭПа ў Беларусі вельмі моцнымі: «Беларуская Рэспубліка не складае выключэння з гэтага боку, але тут маюцца некаторыя асаблівасці эканамічнага і палітычнага характару, якія робяць больш складаным рух эканомікі ўперад у галіне падрыхтоўчай да сацыялізму». Восенню 1924 адклікаmakeны ў Маскву для працы ў апараце ЦК ВКП(б). У 1928—29 старшыня праўлення Усесаюзнага с.-г. банка. З 1930 старшыня выканкама Далёкаўсходняга краю (Хабараўск). У

1931—32 прадстаўнік Наркамата знешняга гандлю СССР у Японіі і Кітаі. З 1933 на савецкай і партыйнай рабоце на Украіне. З ліст. 1936 член прэзідыума Акадэміі навук УССР, дырэктар Інстытута эканомікі АН УССР. Арыштаваны і асуджаны да ВМП у 1937. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Основные задачи партработы // *Вперёд.* 1924. № 1.

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001; *Перед крутым поворотом*: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928 гг.). Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001; *Протько Т.С.* Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**АСВЯЦІМСКІ Марк Аляксандравіч** [1886, Слуцк, Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 10.11.1938, Гомель, НКВД], дзеяч бел. нацыянальнага руху. Удзельнік з'ездаў прадстаўнікоў бел. нацыянальных партый і арганізацый у сак. і ліп. 1917. Адзін з кіраўнікоў Слуцкай павятовай міліцыі пры мясцовым камісарыяце Часовага ўрада. Удзельнік 1-га Усебеларускага кангрэса ў снеж. 1917 у Мінску. Быў адным з кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта ў 1918, член ЦК БПСР (1919—20). Да 1924 узначальваў Слуцкі павятовы камітэт партыі бел. эсэраў. Удзельнічаў у дзейнасці таварыства «Папараць-кветка». У ліст. 1920 абраны ў склад Беларускай рады Случчыны, узначальваў вярбовачны пункт Беларускай вайсковай камісіі ў Слуцку па наборы добраахвотнікаў у нацыянальнае войска. У 1919 і 1921 арыштоўваўся ЧК як эсэраўскі

актывіст. Удзельнік ліквідацыйнага з'езда БПСР у чэрв. 1924, пасля якога адышоў ад паліт. дзейнасці. У 1930-я г. эканаміст на Гомельскім тлушчакамбінаце. Арыштаваны 11.2.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД Гомельскай вобл. да ВМП. Рэабілітаваны 13.7.1960.

Літ.: *БЭ*, т. 2; *Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах* / Ул. Ляхоўскі, Ул. Міхнюк, А. Гесь. Мн., 2001. С. 300. *ЭГБ*, т. 6—2.

**АСІНЕНКА Мікола (Крывіч)** [н. 1930, в. Рамелькі Пастаўскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.], удзельнік бел. пасляваеннага антысавецкага маладзёжнага руху. У 1944 паступіў у адкрытае ў вер. у Паставах педагагічнае вучылішча. Спрабаваў сябе ў паэзіі. Восенню 1945 стаў адным з ініцыятараў згуртавання нацыянальна свядомых навучэнцаў у падпольную арганізацыю «За Беларусь». 25.3.1946 у сваёй вёсцы наладзіў прыняцце сябрамі арганізацыі прысягі на вернасць Беларусі. Вясной 1946 група «За Беларусь» аб'ядналася з глыбоцкай групай СБП, назва якой стала найменнем аб'яднанай арганізацыі. Арыштаваны органамі МДБ у лют. 1947. Асуджаны на працэсе ў Мінску 16—20.6.1947 да расстрэлу. У сувязі з адменай Указам прэзідыума Вярхоўнага савета СССР ад 20.5.1947 смяротнага пакарання атрымаў 25 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў з 5-гадовым пазбаўленнем правоў. Падчас адбывання тэрміну пакарання нейкі час быў шпіталізаваны і знаходзіўся ў Кемераўскай вобл. ў адным з медыка-санітарных пунктаў для зняволеных. У 1956 вярнуўся ў Беларусь. Не змог знайсці на радзіме сталую работу і пераехаў у Казахстан,

потым ва Узбекістан. Завочна скончыў Ташкенцкі політэхнічны інстытут. Прыехаў у Беларусь. Працаваў галоўным інжынерам на заводзе будаўнічых матэрыялаў у Чэрыкаве. Пасля смерці жонкі Ніны накіраваўся з брыгадай будаўнікоў на БАМ. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**АСІНЕНКА Ніна (НЕЗАБУДКА)** [1930, Пастаўскі пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. – ?], удзельніца бел. пасляваеннага антысавецкага маладзёжнага руху. 8.3.1946 на кватэры А. адбылася сустрэча пастаўскай моладзі, падчас якой створана арганізацыя «За Беларусь». Брала ўдзел ва ўрачыстай прысязе сяброў Пастаўскай групы СБП 25.3.1946 у вёсцы Рамелькі пад Паставамі ў хаце *Міколы Асіненкі*. Арыштавана ў лют. 1947 па справе СБП. На судовым працэсе ў Мінску (16—20.6.1947) яе нарачоны *М.Асіненка* паспрабаваў адмовіць удзел Ніны ў СБП. Але сама А. заявіла: «Я была ў СБП і не адракаюся ад гэтага. Была і застаюся разам з маімі сябрамі». Прыгавораная да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Пасля вызвалення ў 1955 з мужам жыла ў Казахстане і Узбекістане. Знясіленая лагерамі, памерла заўчасна.

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**АСІПОВІЧ Міхаіл (Андрэй) Васілевіч*** [1907, в. Грамавічы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Шчу-

чынскі р-н Гродзенскай вобл. — ?, ст. Мядзведжая Гара (Сандармох) Карэльскай АССР, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту планавік-эканаміст Ушацкага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 18.3.1933 у мяст. Ушачы. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.5.1933 за «шкодніцтва» і «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Мядзведжагорскага р-на Карэла-Фінскай АССР. Зноў арыштаваны і 20.11.1937 асуджаны трыбуналам НКВД Карэла-Фінскай АССР за «шпіянаж» і «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны па першай справе ваеннай пракуратурай БВА 4.7.1989, па другой — пракурорам Карэліі 6.6.1989. Першая асабовая справа А. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АСІПЧУК Сямён Канстанцінавіч** [1893, в. Сініца Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 1937, НКВД], удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу ў Беларусі. Экстэрнам здаў экзамены на настаўніка і да 1-й сусветнай вайны працаваў у вясковых школах Міншчыны. У 1914 мабілізаваны ў армію. Ваяваў на Паўд.-Зах. фронце. Сярод салдат вёў рэвалюцыйную і антываенную прапаганду, за што быў арыштаваны (1916) і аддадзены пад ваеннапалявы суд, але яму ўдалося пазбегнуць пакарання і ўцячы ў Румынію. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 жыў у Маскве, быў адным з арганізатараў Чырвонай

гвардыі. У кастр. 1917 удзельнічаў ва ўзброеным паўстанні ў Маскве, ваяваў на барыкадах. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады працаваў у Маскоўскім Савеце, затым начальнікам Уладзімірскай надзвычайнай камісіі. У 1918 у Чырвонай арміі, ваяваў пад Царыцынам. У маі 1919 накіраваны ў распараджэнне ЦК КП(б) Літвы і Беларусі. У час польска-савецкай вайны 1919—20 палітработнік на Зах. фронце, загадчык аддзела народнай асветы Слонімскага, затым Мінскага паветаў. З 1923 на гаспадарчай рабоце, член ЦВК. У 1937 арыштаваны НКВД СССР і расстраляны. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АСКОЛЬДАЎ Якаў Лазаравіч** [1893, Слуцк Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 1937, ?, НКВД], вайсковец. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вёў прабальшавіцкую агітацыю сярод салдат Зах. фронту. Член армейскага камітэта 2-й арміі, якая дыслакавалася ў Слуцку, а таксама член салдацкага камітэта Зах. фронту. У час устанаўлення Савецкай улады — старшыня Слуцкага рэўкама. У студз. 1918 на чале атрада 2-й арміі ўдзельнічаў у ліквідацыі мяцяжу польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага. У адным з баёў каля чыгуначнай станцыі Ясень быў захоплены палякамі і пасаджаны ў Бабруйскую крэпасць. Польскімі легіянерамі прыгавораны да расстрэлу. Вызвалены ў выніку абмену на польскіх палонных вайскоўцаў. З сак. 1919 у Чырвонай арміі. З'яўляўся ваенным камісарам 1-й Літоўскай стралковай дывізіі, затым 4-й стралковай дывізіі і Дзвінскага ўмацаванага р-на. Быў членам Рэўваенсавета 3-й арміі.

Пасля грамадзянскай вайны на розных пасадах у Чырвонай арміі: памочнік камандуючага войскамі Харкаўскай ваеннай акругі, член Рэўваенсавета Віцебскага раёна, Галоўны інспектар упраўлення ВНУ Далёкаўсходняй Рэспублікі, начальнік Галоўнага ваенна-інжынернага ўпраўлення РСЧА. З 1924 на гаспадарчай рабоце. Быў начальнікам будаўніцтва, дырэктарам заводаў у Новасібірску і Кіеве. У 1937 арыштаваны органамі НКВД і асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АСОН Андрэй Васілевіч*** [1901, в. Ліпаўка Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі (?) р-н Магілёўскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык вытворчасці арцелі «Металаштамп». Арыштаваны 21.11.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 11-я лінія, д. 56а, кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АСТАПАЎ Ігнат Іванавіч*** [1888, в. Цярэні Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. Працаваў фельчарам. Арыштаваны ў Шыркаўскім сельсавеце Магілёўскай вобл. Асуджаны ў 1930 паводле пастановы СНК і ЦВК ад 1.2.1930 як

«кулак» да высылкі. Этапаваны ў пас. Чэс’ель Лецкага р-на Комі АССР. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**АСТАПЕНКА Рыгор Іларыёнавіч*** [1895, в. Першая Міхайлаўка, цяпер Новасібірская вобл., Расія — ?], службовец. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту загадчык заалагічна-ветэрынарнага пункта. Арыштаваны 15.9.1942 у пас. Шарстабітава Пудзінскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 7.2.1943 за «тэрарызм» да 15 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.2.1965.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**АСТРАВЕЦКІ Восіп Іванавіч*** [1891, в. Пянькі Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча – 6.10.1937, Ленінград, НКВД], лекар. З бел. сям’і. Падчас арышту санітарна-харчовы ўрач «Інкаапкандытара» (?). Арыштаваны 21.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Дзёмінская, д. 10, кв. 3. Асуджаны 1.10.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**АСТРАМОВІЧ Мікалай Канстанцінавіч*** [1899, в. Вялікая Слабада Навагрудскага пав. Мінскай губ.,

цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў, верагодна, у пачатку 1920-х г. Падчас арышту інжынер-будаўнік, начальнік канторы асобых работ «Сібсавкалгасбуда». Арыштаваны за «шкодніцтва» 28.2.1931 у Омску. 17.9.1931 Омскім аператыўным сектарам АДПУ справа была спынена з-за адсутнасці складу злачынства. Вызвалены. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**АСТРОЎСКІ Аляксандр Аляксандравіч*** [1898, в. Люціна Мінскага (?) пав. Мінскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 29.12.1937, Масква, НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту выкладчык аўтасправы Усесаюзнай архітэктурнай акадэміі. Арыштаваны 22.11.1937 у Маскве па адрасе: Сталешнікаў зав., д. 6. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 20.12.1937 за «антысавецкую дзейнасць» і «службу ў белай арміі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.5.1959. Асабовая справа А. № П-61341 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**АСТРОЎСКІ Міхаіл Андрэевіч** [пачатак 20 ст. (?), Мінск (?) — ?], грамадскі дзеяч, педагог. У 1920—30-х г.

жыў у Мінску. У ліп. 1941 з сям'ёй пераехаў у Слонім, працаваў дырэктарам Слонімскай настаўніцкай семінарыі. У 1945 арыштаваны НКВД за «супрацоўніцтва з немцамі», асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Сцяпура В.* Ён ганарыўся сваёй беларускасцю // *Газета Слонімская.* 1999. 19—25 жн.

**АСТРЭЙКА Людвіг Карлавіч*** [1884, ? — 20.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — галоўны інжынер «Запспиртотр-т» (?). Арыштаваны 10.2.1938. Асуджаны 8.10.1938 «тройкай» УНКВД Смаленскай вобл. за «шпіянаж» і «антысавецкую дзейнасць». Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**АЎГУСТАЙЦІС Аляксандр Вікенцевіч** [22.7 (3.8).1905, в. Зазер'е Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, НКВД], партыйны дзеяч. З сям'і рабочага. Падлеткам быў вымушаны батрачыць у заможных сялян. У 1920 у школе чыгуначнікаў у Мінску, дзе вучыўся да 1923. Затым чорнарабочы на шклозаводзе «Пралетарый». Пасля сканчэння савецка-партыйнай школы (1929) абраны сакратаром Плешчаніцкага райкама ЛКСМБ. У 1931 быў прадстаўніком ЦК ЛКСМБ у Трактарацэнтры БССР. З 1932 у ЦК ЛКСМБ інструктар, загадчык аддзела, сакратар, першы сакратар (1934). Кандыдат і член ЦК КП(б)Б, кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР (1935—37). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны

14.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, 3-і Дом Саветаў, кв. 23. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да «антысавецкай арганізацыі правых у Беларусі, у якую быў завербаваны ў лют. 1936 першым сакратаром ЦК КП(б)Б М.Ф.Гікалам» і «меў заданне шукаць новых членаў з ліку кіруючых работнікаў камсамола рэспублікі, ствараць з іх баявыя групы для арганізацыі тэрарыстычных актаў супраць кіраўнікоў партыі і савецкага ўрада». 24.11.1937 пазасудовым органам НКВД асуджаны да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.6.1956. Асабовая справа А. № 6848-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

16.2.1938 арыштавана жонка А., Лідзія Мікалаеўна Аўгустайціс, 1912 г. нараджэння, студэнтка. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД СССР яна асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавалі А., верагодна, у Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 19.3.1957.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АЎГУСЦІНОВІЧ Іван Сцяпанавіч*** [1902, в. Ісары Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскі (?) р-н, Літва — 10.10.1938, Курск, НКВД], службовец, брат Пятра *Аўгусціновіча*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. дырэктара Абаянскага маслазавода. Арыштаваны 29.6.1938 у Абаяні Курскай вобл. па адрасе: вул. Луначарскага, д. 16. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 10.9.1959.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

**АЎГУСЦІНОВІЧ Пётр Сцяпанавіч*** [1904, в. Ісары Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Вільнюскі (?) р-н, Літва — 3.10.1938, Курск, НКВД], рабочы, брат *Івана Аўгусціновіча*. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Абаянскай арцелі Каапшлях. Арыштаваны 28.7.1938 у Абаяні Курскай вобл. па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 33. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 8.1.1959.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

**АЎДЗЕЙКА Павел Паўлавіч*** [1900, в. Малаеды Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 14.6.1938, Масква, НКВД], вайсковец, службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Апошняя пасада — камандзір дывізіёна 1-га атрада Метрабуда. Арыштаваны 12.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Пятроўка, д. 25а, кв. 19. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 2.6.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.9.1957. Асабовая справа А. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**АЎДЗЕЙЧЫКАЎ Канстанцін Якаўлевіч*** [1892, мяст. Ізабелін Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 5.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Мгінскай МТС. Арыштаваны 9.8.1937 у в. Шум Мгінскага р-на Ленінградскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.11.1937 за «шпіёнскую шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АЎСІЕВІЧ Цімафей Васілевіч*** [1897, Дрысенскі пав. Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл. — 22.7.1938, Іркуцк, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інструктар Чарамхоўскага райспажыўсаюза. Арыштаваны 30.5.1938 у Чарамхове Іркуцкай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 16.7.1938 за «антысавецкую дзейнасць і агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны паводле пастановы камісіі Іркуцкай вобл. па перагляду крымінальных спраў асуджаных за контррэвалюцыйныя злачынствы 22.4.1956.

Кр.: *Жертвы политических репрессий Иркутской области*.

**АЎСЯНІК Антон** [1888, в. Кабылля Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Кастрычніцкая Вілейскага р-на Мінскай вобл. — ?], дзеяч бел. нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння. Скончыў Харкаўскі тэхналагічны інсты-

тут, вучыўся на суднабудаўнічым ф-це Пецярбургскага політэхнічнага інстытута. Дэлегат 1-га Усебеларускага кангрэса ў снеж. 1917. У час нямецкай і польскай акупацый 1918—19 старшыня Беларускай Рады ў Бабруйску, член Народнага сакратарыята БНР. У 1919—20 нам. старшыні Беларускай вайсковай камісіі. У 1922 пасол Польскага сейма, уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. Актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, арыштоўваўся польскімі ўладамі. У пачатку 1930-х г. выехаў у БССР. Арыштаваны ў 1933. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2; *Валахановіч А.І., Міхнюк У.М.* Споведзь у надзеі застацца жывым. Мн., 1999.

**АЎСЯНІК Віктар Адамавіч*** [1893, в. Кажухоўцы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. У 1932 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — нам. начальніка 3-й дыстанцыі пуці Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 13.10.1937 у Калініне. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 14.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «здраду радзіме» і «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**АЎСЯНКА Э. Д.*** [н. 1937], рабочы. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Жыхар Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. 27.8.1986 на лодцы спрабаваў уцячы ў Фінлян-

дыю, маючы намер потым прасіць паліт. прытулку ў Швецыі. Падчас вобыску ў яго доме была знойдзена вялікая колькасць рукапісаў антысавецкага зместу, «якія ён збіраўся абнародаваць за мяжою». Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 20.4.1987. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 9389.

Літ.: *58*[10], с. 827—828.

**АЎХІМЕНЬ *Лаўрэн Лазаравіч*** * [9.8.1886, в. Цецяроўка Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 16.9.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 12.4.1938 у Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 2.7.1938 як «член партыі эсэраў і нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.11.1959. Асабовая справа А. № 13233-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Волости и важнейшие селения.*

**АФАНАСЬЕВА Зінаіда Міхайлаўна*** [1904, Абаянь Курскай губ., цяпер Курскай вобл., Расія — ?], педагог, жонка Сямёна *Афанасьева*. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала настаўніцай у 45-й СШ Мінска. Гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 25.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская,

д. 4, кв. 13. Асуджана асобай нарадай пры НКВД за «актыўнае садзейнічанне ў контррэвалюцыйнай рабоце мужа» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Накіравана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. 22.9.1938 (?) пастановай трыбунала БВА вызвалена. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа А. № 11269-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**АФАНАСЬЕЎ Ігнат Ільіч*** [2.1.1888, в. Гарадзечна (?) Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту выкладчык МБПТ. Арыштаваны 29.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Падлесная, д. 8/22, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.10.1937 як «удзельнік шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 15.5.1992. Асабовая справа А. № 35624-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АФАНАСЬЕЎ Сямён Іванавіч*** [15.4.1902, в. Афанасьева Курскай губ., цяпер Абаянскі р-н Курскай вобл., Расія — 29.6.1938, Мінск, НКВД], навуковец, муж Зінаіды *Афанасьевай*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў навуковым супрацоўнікам у Санітарна-хімічнай лабараторыі наркамата аховы здароўя. Арыштаваны 6.12.1937 у Мінску па адрасе: вул.

Беларуская, д. 4, кв. 13. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.6.1938 як «член тэрарыстычнай арганізацыі і за шкодніцтва» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 8.8.1958. Асабовая справа А. № 11560-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**АХМАНАЎ Майсей Навумавіч** [1894, Рыга, цяпер Латвія — 1943 (?), ГУЛАГ], адзін з арганізатараў камсамола Беларусі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 член Юр’еўскага (цяпер Тарту, Эстонія) Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, з кастр. 1917 уваходзіў у склад Юр’еўскага, затым Петраградскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэтаў. У 1918 старшыня Невельскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, затым у Смаленску загадчык аддзела сацыяльнага забеспячэння і член Аблвыкамзаха. Быў дэлегатам 1-га з’езда РКСМ, з’яўляўся старшынёй Аргбюро па скліканні 1-га з’езда камсамола Зах. вобл. У 1919 сакратар ЦК камсамола Літоўска-Беларускай рэспублікі. У час польскай інтэрвенцыі асобаўпаўнаважаны Савета абароны Літоўска-Беларускай ССР у Віленскім пав., камісар 17-й стралковай дывізіі. Рэдагаваў газ. «Красноармеец» палітаддзела 16-й арміі Заходняга фронту. З 1921 сакратар Слуцкага павятовага камітэта КП(б)Б, затым выкладчык Мінскай савецка-партыйнай школы. З 1923 на партыйнай рабоце ва Удмурціі. З 1926 у апараце ЦК ВКП(б). У 1937 арыштаваны НКВД СССР і асуджаны да 10 гадоў канцлагераў. Рэабілітаваны.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АХРАМОВІЧ Зянон** [н. 1932, хутар каля в. Чарняты Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.], удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні 1949—50 (Мядзельска-Смаргонскае маладзёжнае антыкамуністычнае падполле). Вучыўся ў Смаргонскай СШ, восенню 1949 уключыўся ў антыкамуністычную дзейнасць. Разам з кіраўніком падпольнай арганізацыі Р. *Лапіцкім* распаўсюджваў лістоўкі, якія друкаваліся на пішучай машынцы, што захоўвалася на бацькавым хутары. Арыштаваны ў лют. 1950, летам трыбуналам БВА асуджаны па справе Мядзельска-Смаргонскага падполля да 25 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных канцлагерах. Пакаранне адбываў у Свярдлоўскай вобл. на лесапавале і будаўнічых работах з удзельнікамі арганізацыі К.Іваноўскім і Э.Сташкевічам. Вызвалены ў другой палове 1950-х г. (?) Вярнуўся на Смаргоншчыну, затым выехаў у Польшчу. Жыве ў Эльблонгу.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Антысавецкія рухі.*

**АХРАМОВІЧ Цімафей Кандратавіч*** [1889, Мінск — 14.5.1938, Куйбышаў, НКВД], партыйны работнік, службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту сакратар Шыгонскага раённага камітэта ВКП(б) Куйбышаўскай (?) вобл. Арыштаваны 11.7.1937 у в. Шыгоны. Асуджаны 14.5.1938 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.2.1956.

Кр.: *Белая книга.*

**АЧАНОЎСКІ (АЧАПОЎСКІ?) Канстанцін Сцяпанавіч** [1900, в. Усокі (Усохі?), цяперашняе месцазнаходжанне не выяўлена — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту юрысконсульт Курганскага гарэлачнага завода. Арыштаваны 29.3.1938 за «прыналежнасць да шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» і «шпіянаж». 27.1.1939 справа А. была спынена. Далейшы яго лёс невядомы.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области.* Курган, 2002. Т. 1.

**АШАК Іван (Яніс) Юр'евіч*** [1(13).1898, ст. Слока, цяпер Латвія — 28.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. Скончыў чатырохкласнае гарадское вучылішча ў Слоцы. У сувязі з акупацыяй Латвіі кайзераўскімі войскамі ў 1-ю сусветную вайну эвакуіраваўся ў Віцебск. Удзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады ў горадзе. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 з'яўляўся камісарам Мітаўскага і Віндаўскага раёнаў Рыгі. Пасля ліквідацыі савецкай улады ў Латвіі разам з часцямі Чырвонай арміі ў студз. 1920 пакінуў Рыгу. Быў прызначаны старшынёй транспартнай надзвычайнай камісіі Полацка-Маладзечанскага чыгуначнага накірунку. Працаваў тэлеграфістам ва ўпраўленні Рыга-Арлоўскай чыгункі, скончыў курсы механікаў тэлеграфа, атрымаў спецыяльнасць электрамеханіка сувязі. З 1924 інструктар Віцебскага акруговага камітэта РКП(б), загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Віцебскага райкама партыі. У 1927 начальнік міліцыі, з 1929 начальнік папраўча-працоўных устаноў Віцебскай акругі. У жн. 1933 прызначаны на пасаду нам.

наркама сацыяльнага забеспячэння БССР. У 1937 часова выконваў абавязкі наркама сацзабеспячэння рэспублікі. Арыштаваны 7.12.1937. У канцы студз. 1938 выключаны з партыі і з кандыдатаў у члены ЦК КП(б)Б. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.6.1938 як «агент латышскай разведкі з 1921» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 19.5.1959. Асабовая справа А. № 13203-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**АШМАРЫН Вітольд Францавіч** [сапр. Ахрамовіч; 1892, ? — сак. 1930], дзяржаўны дзеяч, журналіст. З юнацкіх гадоў уключыўся ў рэвалюцыйны рух, за што сасланы ў Сібір. У 1905—17 вёў рэвалюцыйную работу ў прамысловых цэнтрах Расіі. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 знаходзіўся на прафсаюзнай рабоце, працаваў у наркамаце асветы РСФСР, затым у рэдакцыі газ. «Известия ВЦИК». У 1920 накіраваны ў Беларусь. У кастр.-снеж. 1920 сакратар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта БССР, затым сакратар ЦВК БССР і член яго прэзідыума, член рэдкалегіі газ. «Звязда». Арганізатар і першы кіраўнік бел. аддзялення Расійскага тэлеграфнага агенцтва (БелТА), член калегіі Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У 1920—21 член ЦВК БССР. У жн. 1921 адкамандзіраваны ў Маскву. Працаваў у ВЧК і АДПУ пры СНК СССР, затым у апараце ЦК ВКП(б).

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АШУКОЎСКАЯ Часлава** [н. 8.10.1932, мяст. Смаргонь Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., цяпер райцэнтр

Гродзенскай вобл.], удзельніца антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні 1949—50 (Мядзельска-Смаргонскае маладзёжнае антыкамуністычнае падполле). Пасля вайны вучылася ў Смаргонскай СШ. У 1949 пазнаёмілася ў школе з вучнямі-антыкамуністамі, ведала пра існаванне арганізацыі, спачувала падпольшчыкам, але да актыўнай дзейнасці далучыцца не паспела. Яе, дзевяцікласніцу, органы МДБ арыштавалі ў канцы сак. 1950. Утрымлівалася ў турме ў Маладзечне. Летам 1950 трыбуналам БВА асуджана (разам з групай удзельніц Мядзельска-Смаргонскага падполля) да 8 гадоў канцлагераў «за недоносительство». Як малалетняя ўтрымлівалася першы год у дзіцячай калоніі ў Гомелі, працавала ў швейнай майстэрні. Далейшы тэрмін адбывала ў канцлагерах за Свярдлоўскам, дзе выкарыстоўвалася на розных цяжкіх работах. Летам 1954 вызвалена і вярнулася ў Смаргонь. Выйшла замуж за вайскоўца, які ўсе гэтыя гады чакаў яе вяртання. З мужам і дзецьмі жыла ў розных мясцінах Савецкага Саюза, а таксама ў ГДР. Пасля смерці мужа жыве ў Туапсэ (Расія).

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі.*

**БАБАРЭКА (БАБАРЫКА) Пётр Адамавіч*** [1898, в. Плябанцы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 28.2.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1919—21 член ВКП(б). Верагодна, у 1930-я г. быў арыштаваны. Апошняе месца работы — сакратар санітарнага аддзела Дзмітраўскага канцлагера НКВД Маскоўскай вобл. 5.1.1938 узяты пад варту ў інтэрнаце Дзмітлага. 25.2.1938 асуджаны «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную прапаганду сярод зняволеных» і «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.2.1990.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАБАРЭКА Пётр Якубавіч** [1888 ці 1898, в. Стрыца Слуцкага пав. Мінскай губ. — 1938, ГУЛАГ], дзеяч бел. нацыянальнага руху. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1917). Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне (у званні прапаршчыка). У 1919—20 студэнт Мінскага настаўніцкага інстытута, актыўны ўдзельнік падпольнай і партызанскай барацьбы. З'яўляўся членам Беларускага нацыянальнага камітэта Случчыны. У ліп. 1920 прызваны ў Чырвоную армію. У кастр.-ліст. 1920 Слуцкім камітэтам БПСР накіраваны ў воласці для арганізацыі выбараў дэлегатаў на бел. з'езд. Прыняў актыўны ўдзел у Слуцкім збройным чыне 1920, быў камендантам мяст. Грозава. У крас. 1921 вярнуўся ў Савецкую Беларусь, служыў у Чырвонай арміі. У жн. 1922

арыштаваны АДПУ у роднай вёсцы і прыгавораны да трох гадоў зняволення ўмоўна. У 1923 паступіў у БДУ. У кастр. 1924 накіраваны на работу ў Калінінскую акругу (Клімавічы), дзе да ліст. 1925 узначальваў Мсціслаўскі раённы аддзел адукацыі. У 1938 арыштаваны і асуджаны да зняволення ў канцлагерах, дзе і загінуў.

Літ.: *Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах*. Мн., 2001. / Ул. Ляхоўскі, Ул. Міхнюк, А. Гесь. Мн., 2001. С. 309; *ЭГБ*, т. 6—2; *Гесь А.* Калінінская акруга: хроніка беларускага жыцця 1920-х гадоў // *Спадчына*. 2001. №3.

**БАБІНСКІ Станіслаў Янавіч** [літ. псеўд. Крачыньскі, Ляліва, Р. Няруда; 20.11.1882, Варшава, цяпер Польшча — 20.9.1937, Масква, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху. Скончыў Ягелонскі ун-т (1910), Лясную акадэмію. Рэвалюцыйную дзейнасць пачаў у СДКПіЛ у 1905, быў членам яе Варшаўскага камітэта. Шмат разоў арыштоўваўся. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 жыў у Маскве, уваходзіў у склад выканкама Маскоўскага Савета рабочых дэпутатаў, Маскоўскіх акруговага бюро і гарадскога камітэта РСДРП(б), выканкама групы СДКПіЛ у Расіі. Па Мінскай і Магілёўскай выбарчых акругах балаціраваўся ва Устаноўчы сход Расіі. У час Кастрычніцкага перавароту 1917 з'яўляўся членам ваеннага бюро пры Маскоўскім камітэце РСДРП(б), начальнікам рэзервовага штаба ВРК Маскоўскага Савета. У снеж. 1917 — жн. 1918 нам. камісара па польскіх справах пры наркамаце нацыянальнасцяў РСФСР. У грамадзянскую вайну ў Чырвонай арміі — камісар Зах. дывізіі, член ВРК 16-й арміі Зах. фронту. З лют. 1919 начальнік палітаддзела наркаматаземля-

робства Літоўска-Беларускай рэспублікі. Уваходзіў у склад камісіі па аднаўленні Віленскага ун-та, потым па адкрыцці БДУ. Быў арганізатарам і выкладчыкам курсаў савецкіх работнікаў у Мінску ў 1920. З'яўляўся членам Польбюро агітпрапа ЦК РКП(б)-ВКП(б) у 1919—22 і 1926. Адзін з заснавальнікаў, рэктар і загадчык кафедры філасофіі Уральскага камуністычнага ун-та ў Свярдлоўску. З 1925 член Польскай камісіі па гісторыі партыі і рэвалюцыйнага руху пры ЦК ВКП(б), у 1929—31 дырэктар Політэхнічнага музея ў Маскве, потым кіраўнік метадычнага савета навукова-тэхнічных выдавецтваў. Падчас арышту на пенсіі. Арыштаваны НКВД СССР 15.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. М. Горкага, д. 5, кв. 60. Асуджаны 20.9.1937 «тройкай» НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.5.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище*.

Літ.: Księga polaków, uczestników Rewolucji Październikowej 1917—1920: Biografie. Warszawa, 1967; *Хацкевич А.Ф.* Польские интернационалисты в борьбе за власть Советов в Белоруссии. Мн., 1967; *Najdus W.* Polacy we władzach Republiki Litewsko-Bialoruskiej (1919 r.) // Kwartalnik historyczny. 1967. R. 74. Z. 3; *ЭГБ*, т. 1.

**БАБІЦКІ Іосіф Людвігавіч*** [1888, Барысаў Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — 26.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту галоўны бухгалтар Балтыйскага марскога параходства. Арыштаваны 28.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАБІЧ Валянціна Захараўна*** [2.2.1911, Віцебск — 17.1.1938, Віцебск, НКВД], біёлаг. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала біёлагам-лабарантам у Віцебскім заалагічным музеі. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 23.6.1936 у Віцебску па адрасе: вул. Гутараўская, д. 5, за «шпіянаж». 22.11.1936 вызвалена рашэннем асобай нарады пры НКВД. Зноў арыштавана і 9.12.1937 асуджана «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана па першай справе (№ 10887-п; захоўваецца як і другая № 21134-п ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.) пракуратурай БВА 5.11.1989, па другой трыбуналам БВА 22.3.1961.

**БАБІЧ Іван** [1930, в. Бабічы Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 3.10.1994, Ваўкавыск Гродзенскай вобл.], удзельнік антысавецкага маладзёжнага руху. Брат Марыі *Бабіч*. Пасля 2-й сусветнай вайны з сястрой паступіў у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча, дзе далучыўся да групы Саюза беларускіх патрыётаў. Арыштаваны з сястрой органамі МДБ 8.9.1947 на станцыі Навадруцк пад Глыбокім, калі спрабаваў выехаць у Польшчу. Да арышту меў непасрэднае дачыненне навучэнец Глыбоцкага педагагічнага вучылішча К. Талапіла. Пад следствам знаходзіўся ў Полацкай турме. Асуджаны з маці Ган-

най і дзядзькам Аляксеем Бабічам (апошнія двое за неданясенне). Падчас судовага працэсу былі дапушчаны грубыя фальсіфікацыі: каб асудзіць Б. як паўналетняга, запісалі, што ён нарадзіўся ў 1929. Асуджаны на 25 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Комі АССР, затым у Горны канцлагер МУС Краснаярскага краю (каля Нарыльска). У апошнім браў удзел у забастоўцы вязняў (май-ліп. 1953). У 1955 з сястрой накіраваны ў Маладзечна дзеля перагляду судовай справы. У хуткім часе вызвалены. Пасля вяртання ў Беларусь праследаваўся мясцовымі ўладамі. З Марыяй Бабіч і яе мужам Львом Бялевічам выехаў на заробкі ў Інту. Працаваў у шахце электрыкам шахтавага абсталявання. Прадстаўляўся да ўрадавых узнагарод, але з-за мінулага імя Б. выкрэслівалася са спісу кандыдатаў. У час перабудовы ўзнагароджаны ордэнам «Шахцёрскай славы». Пасля выхаду на пенсію вярнуўся ў Беларусь, жыў у Ваўкавыску.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАБІЧ Марыя** (у шлюбе Бялевіч) [н. 1928, в. Бабічы Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.], удзельніца антысавецкага маладзёжнага руху. Сястра Івана *Бабіча*, жонка Льва *Бялевіча*. Падчас навучання ў Глыбоцкім педагагічным вучылішчы ўступіла ў Саюз беларускіх патрыётаў. 25.3.1946 з іншымі сябрамі СБП прыняла прысягу. Арыштавана з братам 8.9.1947 на станцыі Навадруцк. Асуджана да 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбывала ў Комі АССР,

Кіраўскай вобл., у Азёрным канцлагеры пад Тайшэтам, працавала на будаўніцтве чыгункі Тайшэт — Брацк, потым у Мардоўскай АССР. У 1955 з братам прывезена ў Маладзечна, дзе адбыўся перагляд судовай справы. Тэрмін зняволення быў скарочаны да 8 гадоў. Вызвалена ў лют. 1956, вярнулася ў родныя мясціны. Пабралася шлюбам з сябрам Глыбоцкай групы СБП Львом Бялевічам. Маюць дачку. З 1983 Леў і Марыя Бялевічы жывуць у Полацку.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАБКОЎ Уладзімір Яўхімавіч** [каля 1875, мяст. Стары Быхаў Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаў, райцэнтр Магілёўскай вобл. — 13(26).2.1905, Варонеж], удзельнік рэвалюцыйнага руху. Скончыў Магілёўскую гімназію. За ўдзел у дэманстрацыі пратэсту ў сувязі з падзеямі на Хадынскім полі 18.5.1896 выключаны з Маскоўскага ун-та і на год сасланы ў Стары Быхаў. Паступіў у Харкаўскі ун-т. У час вучобы ўдзельнічаў у мясцовай арганізацыі РСДРП. 28.10.1900 арыштаваны і сасланы на радзіму пад нагляд паліцыі, але працягваў весці рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых. Стварыў Быхаўскую сацыял-дэмакратычную арганізацыю. Пад яго ўплывам і пры непасрэдным удзеле ў Старым Быхаве адбыліся выступленні рабочых. 17.11.1901 зноў арыштаваны і пасаджаны ў магілёўскую турму. Вясной 1902 сасланы ў Енісейскую губ. на 3 гады. Пасля ссылкі жыў у Харкаве, захварэў і памёр у Варонежы.

Літ.: Деятели революционного движения в России: Биобиблиографический словарь. М., 1931. Т. 5. Вып. 1.

**БАБРАЎНІЦКІ Уладзімір Сцяпанавіч** [1905, мяст. Койданава Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], навуковец, дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. У 1923 скончыў сямігодку. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінску. У 1925 паступіў у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. У 1929 атрымаў дыплом інжынера-лесагаспадарніка і паступіў у аспірантуру Гомельскага лесатэхнічнага інстытута. З 1932 дацэнт. У жн. 1934 пераехаў у Мінск, паступіў у аспірантуру БелАН. У 1936 абараніў кандыдацкую дысертацыю. Са студз. 1938 рэктар БДУ. Арыштаваны 12.7.1938 на рабоце. Пасля шматлікіх катаванняў прызнаўся ў «шпіянажы і шкодніцтве», але потым ад сваіх слоў адмовіўся. 10.3.1940 справа Б. была спынена і праз тыдзень яго вызвалілі. Да 2-й сусветнай вайны дацэнт кафедры арганічнай хіміі БДУ. У час вайны ў эвакуацыі (Татарская АССР, Масква). З 1947 зноў у БДУ. Спрабаваў абараніць доктарскую дысертацыю, але ў чэрв. 1952 на сходзе кафедры арганічнай хіміі абвінавачаны ў «адсутнасці неабходных друкаваных прац», не атрымаў рэкамендацыі. У 1955 з шэрагам іншых выкладчыкаў БДУ звольнены «ў сувязі са скарачэннем штатаў».

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 68—77.

*Леанід Маракоў*

**БАБРОВА Марыя Аляксандраўна** [сапр. Бронiна, 1897, в. Локшы Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 28.4.1920), удзельніца падпольнай барацьбы ў Бабруйску і Бабруйскім пав. ў гады польскай акупацыі 1919—20. Па даручэнню ЦК КП(б)ЛіБ арганізоўвала нелегальныя партыйныя камітэты на Бабруйшчыне. У час павятовай падпольнай партыйнай канферэнцыі, якая адбывалася на яе кватэры, арыштавана польскімі ўладамі. Была хворая на тыф. Пасля катаванняў расстраляна легіянерамі. Яе імем у Бабруйску названа вуліца.

Кр. геагр.: *БелСЭ*, т. 2, с. 38.

Літ.: *БЭ*, т. 2.

**БАБРОЎСКАЯ Валянціна Ігнатаўна** [1916, Мінск — ?], спявачка, верагодна, сястра Уладзіслава *Баброўскага*. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Працавала ў хоры Беларускага тэатра оперы і балета. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Жыла ў Мінску па адрасе: Мацвееўскі зав., д. 7, кв. 3. Арыштавана 1.3.1944[6]. Асуджана 4.7.1945 асобай нарадай пры НКВД за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапавана ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 22.2.1990. Асабовая справа Б. № 30598-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

---

[6] Месцы шэрагу арыштаў, праведзеных у перыяд з ліп. 1941 па ліп. 1944 не высветлены.

**БАБТУТА Еўдакія Мікалаеўна*** [1916, в. Себяхі Віцебскага пав., цяпер у складзе Віцебска — ?], мастачка. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала ў Віцебскіх мастацкіх майстэрнях. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 9.6.1945. Абвінавачвалася ў «супрацоўніцтве з нямецкімі акупантамі», але праз некалькі месяцаў справа Б. была спынена, а яна вызвалена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана УКГБ Віцебскай вобл. 4.10.1945.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАБУРЫН Уладзімір Ісідаравіч*** [1910, в. Высокая Буда, цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], перакладчык, педагог. З сям'і рабочага. Вышэйшую адукацыю атрымаў у першай палове 1930-х г. Працаваў выкладчыкам японскай мовы ў Далёкаўсходняй ВА, ад'юнктам курсаў ваенных перакладчыкаў пры развед-аддзеле. Арыштаваны 3.8.1938 у Хабараўску за «шпіянаж і здраду радзіме». 9.3.1939 пастановай пракурора Далёкаўсходняй ВА вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № 8736 СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАБУШКІН Натан Уладзіміравіч*** [1901, Гомель — 7.5.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны дзеяч, службовец. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю, быў членам ВКП(б). Падчас арышту сакратар парткама ЦАГІ і завода № 24. Арыштаваны 20.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Бакунінская, д. 4/6, кв. 76. Асу-

джаны 7.5.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 7.5.1955.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БАБЧОНАК Іван Мітрафанавіч*** [1887, Рэчыца Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — 7.7.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам партыі эсэраў. У 1918 начальнік партызанскага атрада ў Бабруйскім пав. У 1930-я г. выкладчык МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.2.1938 у Мінску па адрасе: вул. Фрунзе, д. 23, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 25.5.1938 як «польскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 24.9.1957. Асабовая справа Б. № 10926-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАГАМАЗАЎ Іван Ігнатавіч*** [1891, в. Вялікая Крушынаўка Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 15.9.1930, Омск, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту фельчар у в. Вялікарэчча Омскай вобл. Арыштаваны 19.5.1930. Асуджаны асобай «тройкай» пры АДПУ Заходнесібірскага краю 7.9.1930 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 27.6.1989.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**БАГДАНАЎ Георгій Аляксеевіч*** [1901, Віцебск — 25.3.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і рабочага. Падчас арышту інспектар Бабруйскага фінансавага аддзела. Арыштаваны 7.1.1936 у Бабруйску па адрасе: вул. Люксембургская, д. 20. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер НКВД Маскоўскай вобл. 8.3.1938 узяты пад ахову. 19.3.1938 асуджаны «тройкай» НКВД за «контррэвалюцыйную прапаганду сярод зняволеных» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.6.1989. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БАГДАНАЎ Юрый Станіслававіч** [8.12.1920, Вялікія Лукі Пскоўскай губ., цяпер райцэнтр Пскоўскай вобл., Расія — 1987, Мінск], матэматык, педагог, вучоны. У 1937 паступіў на матэматычна-механічны ф-т Ленінградскага ун-та. У пачатку 2-й сусветнай вайны пайшоў у партызанскі атрад, прымаў удзел у баявых аперацыях у тыле ворага. У адным з баёў цяжка паранены і вымушаны застацца на акупаванай тэрыторыі. У сак. 1942 вывезены ў Германію. Восенню 1945 вярнуўся на радзіму. Адноўлены ў Ленінградскім ун-це. У хуткім часе арыштаваны органамі НКВД. Асуджаны да 10 гадоў зняволення на той падставе, што быў у нямецкім палоне. У 1955 ваенная калегія Вярхоўнага суда

СССР адмяніла прыгавор і Б. вызвалілі. У 1956 скончыў Ленінградскі ун-т, працаваў у Ленінградскім аддзяленні Інстытута матэматыкі АН СССР. З 1958 працаваў у БДУ на кафедры дыферэнцыяльных ураўненняў, з 1964 узначальваў кафедры агульнай матэматыкі і матэматычнай фізікі, а таксама кафедру вышэйшай матэматыкі. Унёс вялікі ўклад у развіццё бел. матэматычнай школы: падрыхтаваў больш за 40 кандыдатаў навук, 5 з іх сталі дактарамі навук. Аўтар больш чым 100 навуковых артыкулаў, шэрагу вучэбных дапаможнікаў.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

Літ.: Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 1921—2001. Мн., 2001. С. 30—31; *Воднев В. Т.* Юрий Станиславович Богданов — ученый, педагог, воспитатель // Матэматыка: праблемы выкладання. 1996. Вып. 5; *БЭ*, т. 2.

**БАГДАНОВІЧ Аўраам Аўраамавіч*** [1892, в. Крушыняны Гродзенскага пав., цяпер Польшча — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык зброі аддзела аховы Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны 11.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі Востраў, 6-я лінія, д. 23, кв. 23. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БАГДАНОВІЧ Міхаіл Ануфрыевіч*** [1900, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр

Мінскай вобл. —15.7.1942, Сыктыўкар, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Працаваў дацэнтам у клініцы ўнутраных хвароб Мінскага медыцынскага інстытута. Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 30.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 50, кв. 30. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць польскіх разведорганаў» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 23.3.1956. Асабовая справа Б. № 6655-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАГДАНОВІЧ Іван Васілевіч*** [1887, мяст. Слабада Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Удзельнік грамадзянскай вайны (з 1919 у Чырвонай арміі). Падчас арышту сакратар вучэбнай часткі Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Шырокая, д. 48. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў (заменена на ссылку). Вызвалены 26.9.1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Б. № 10182-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАГДАНОВІЧ Цімафей Спірыдонавіч*** [1884, в. Каханавічы Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл. — 27.8.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інспектар па ліквідацыі непісьменнасці раённага аддзела народнай адукацыі. Арыштаваны 30.6.1937 у в. Крывашэіна Томскай вобл. Асуджаны 25.7.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай ваенна-трацкісцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 20.9.1957.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**БАГДАНСКІ Іосіф Пятровіч*** [жн. 1903, мяст. Радашковічы Мінскага пав., цяпер г. п. Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 11.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Радыстаў, д. 2, кв. 2. Асуджаны 9.1.1934 калегіяй АДПУ як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Б. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАГДАНЧУК Сяргей Яўхімавіч** [парт. псеўданімы Жэнька, Стары; 22.3(4.4).1911, в. Касцяні Слонімскага пав. Гродзенскай губ. , цяпер Слонімскі р-н Гро-

дзенскай вобл. — 4.4.1933, Брэсцкі р-н], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. Адзін са стваральнікаў падпольных камсамольскіх арганізацый на Слонімшчыне. У 1927 сакратар Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1928 эміграваў у СССР. У 1932 скончыў Камуністычны ун-т нацыянальных меншасцей Захаду імя Мархлеўскага ў Маскве. Пасля зноў на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. З ліп. 1932 сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. Узначальваў забастоўку лесарубаў і возчыкаў лесу на Пружаншчыне, якая адбылася ў снеж. 1932 — лют. 1933 і скончылася перамогай бастуючых. Схоплены і закатаваны польскай паліцыяй. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і ў пас. Мухавец Брэсцкага раёна, дзе яму пастаўлены помнік.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2; Орехво Н. С. Дела и люди КПЗБ: Воспоминания. Мн., 1983.

**БАГІНА Канстанцін Станіслававіч*** [1872, в. Пугачы, цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — настройшчык музычных інструментаў. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 56, кв. 4. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 19.12.1933 як «член ПАВ» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 30.10.1956. Асабовая справа Б. № 9939-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАГІНСКІ Эдмунд Эдмундавіч*** [26.9.1883, Коўна, цяпер Каўнас, Літва 26.10.1937, Мінск, НКВД], рэжысёр. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Працаваў загадчыкам пастановачнай часткі Беларускага тэатра оперы і балета. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 23.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 54, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 14.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 28.4.1989. Асабовая справа Б. № 24575-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАГУЦКІ Вацлаў Антонавіч** [1884, мяст. Буракуў каля Варшавы (паводле іншых звестак Варшава), цяпер Польшча — 19.12.1937, Масква, «Камунарка», НКВД], рэвалюцыянер, савецкі партыйны дзеяч. З сям'і рабочага. У 1904 уступіў у СДКПіЛ. За рэвалюцыйную дзейнасць 9 разоў арыштоўваўся, чатыры гады правёў у турмах. У 1910—12 у эміграцыі ў ЗША. У 1912 вярнуўся ў Расію. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, на фронце вёў рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 член выканкама Тыфліскага Савета. У 1918 кіраўнік камітэта СДКПіЛ у Беластоку і Гродна, арганізатар ячэек Кампартыі Польшчы. Старшыня Гродзенскага падпольнага камітэта РКП(б) у 1918, старшыня Гродзенскага Савета рабочых дэпутатаў у студз.-крас. 1919. У 1919—20 старшыня Надзвычайнай камісіі ў Мінску, адначасова член Бюро па нелегальнай рабоце пры ЦК КП(б)ЛіБ. У 1921 займаўся аднаўленнем камуністычных падпольных арганізацый на тэрыторыі Зах. Беларусі і Віленшчыны. У

1921—24 загадчык арганізацыйнага аддзела, сакратар Цэнтральнага Бюро КП(б)Б і нам. старшыні СНК БССР, нам. сакратара Часовага Беларускага бюро ЦК РКП(б). З’яўляўся прадстаўніком ЦК Кампартыі Польшчы ў Выканкаме Камінтэрна. Пасля сканчэння курсаў марксізму-ленінізму пры Камуністычнай акадэміі ў Маскве (1929) працаваў у ВЦСПС, быў старшынёй ЦК прафсаюзаў работнікаў сувязі СССР, старшынёй Скандынаўскай секцыі Выканкама Прафінтэрна. Член ЦВК СССР у 1922—24 і яго прэзідыума ў 1924. З 1936 у Хабараўску, член калегіі краявога суда. Арыштаваны 5.9.1937 у Хабараўску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 44. Асуджаны 19.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.3.1956. Яго імем названа вуліца ў Гродне. У Мінску на доме, у якім ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Тв.: Минувшие годы [Воспоминания] // Звезда. 1923. 14 марта.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2; *Протько Т.С.* Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002. С. 646—647; *Киркевич А.* Человек из легенды // Гродненская правда. 1968. 28 авг.; *Мараш Я.* Помнят его имя // Гродненская правда. 1988. 6 сент.

**БАГУШЭВІЧ Захар Іванавіч*** [1904, в. Заўшыча (?), цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Віцебскім педагагічным інстытуце. Арыштаваны 19.9.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 2-я Вяліжская, д. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.9.1937

за «ўдзел у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Свярдлоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Віцебскага абл. суда 28.7.1956. Асабовая справа Б. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАЗАРЭЎСКІ Міхаіл Віктаравіч*** [1903, в. Буцэвічы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў на Беларускім радыё. Арыштаваны 21.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. Рабочая, д. 19, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 13.5.1933 за «антысавецкую агітацыю» і «як удзельнік антысавецкай групы» да 3 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 2.4.1989. Асабовая справа Б. № 26878-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАЙДАК Андрэй Кандратавіч*** [1917, в. Байдакі Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], рэдактар. З сялянскай сям'і. Верагодна, атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў тэхнічным рэдактарам у газ. саўгаса «Зара Захаду». Арыштаваны 30.5.1936 у в. Байдакі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 11.8.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітава-

ны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі 12.5.1992. Асабовая справа Б. № 35619-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАЙЕР Мікалай Мікалаевіч*** [1886, в. Бобрык, цяпер Харкаўская вобл., Украіна — ?], педагог. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты. Арыштаваны 15.12.1948 у Горках. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.6.1949 за «барацьбу з савецкай уладаю і паклёп на сучасную рэчаіснасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракурорам Магілёўскай вобл. 28.9.1989. Асабовая справа Б. № 11696 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БАКІНОЎСКІ Васіль Восіпавіч** [1.1.1880, мяст. Койданава, Мінскага пав., цяпер райцэнтр Дзяржынск Мінскай вобл. — ?, ГУЛАГ], удзельнік бел. нацыянальна-вызваленчага руху. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1918 працаваў у канцылярыі Народнага сакратарыята БНР, затым у канцылярыі Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. З аднаўленнем Савецкай улады ў Беларусі ў ліп. 1920 застаўся ў Мінску. Удзельнічаў у рабоце ліквідацыйнага з'езду БПСР у чэрв. 1924. У 1930-я г. працаваў эканамістам у лазнева-пральным трэсце. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 6.2.1938

у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 23/2, кв. 3. Асуджаны тройкай НКВД 10.10.1938 за “шкодніцтва і антысавецкую агітацыю” да 8 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 31.3.1989. Асабовая справа Б. № 21882-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах*. Мн., 2001. С. 316.

**БАКШАНСКІ Юльян** [1824, маёнтак Тупальшчына Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 4.4.1863], удзельнік вызваленчага руху ў Беларусі. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. За сувязь з тайнымі студэнцкімі гурткамі і вывучэнне забароненых кніг у 1842 сасланы ў Разанскую губ. У 1846 вярнуўся на радзіму і ў сак. 1847 напісаў «Адозву да смаргонскіх сялян», у якой заклікаў іх аб’ядначацца з мяшчанамі і салдатамі і выступіць супраць паноў. У народным паўстанні бачыў сродак вырашэння сацыяльных і нацыянальных праблем. Арыштаваны і асуджаны да 12 гадоў катаргі, якую адбываў у Нерчынску да 1858. Пасля вяртання прыняў удзел у падрыхтоўцы паўстання 1863. Арганізаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад. У адным з баёў загінуў каля в. Свечкі. Пахаваны ў в. Плябань Вілейскага пав. (цяпер Маладзечанскі р-н).

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Fajnhauz D.* Ruch konspiracyjny na Litwłe i Białorusi, 1846—1848. Warszawa, 1965; *Мальдзіс А.* Юльян Бакштанскі // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст. Мн., 1969. С. 90—95; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**БАКШЭВІЧ Вадзім Ігнатавіч*** [1890-я г. (?) — восень 1937 (?), НКВД], службовец, муж Алены *Пікулік*. Апошняе месца работы — начальнік Упраўлення вышэйшай школы наркамата асветы БССР. Асуджаны ў 1937 як «вораг народа» да ВМП. Расстраляны. Месца смерці невядома. Рэабілітаваны.

**БАЛАЧКО А. Ю**.* [1934 — ?], на момант арышту вучаніца 9-га класа СШ. Жыхарка Відзаўскага р-на Віцебскай вобл., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. Паводле дадзеных следства, выхоўвалася роднымі ў антысавецкім духу, у дзяцінстве прысутнічала на сходах удзельнікаў узброенага падполля. З 1949 вяла антысавецкую прапаганду, напісала і распаўсюдзіла звыш 20 «пасквіляў» з заклікамі да палякаў змагацца за аднаўленне Польшчы. Слухала і пераказвала перадачы радыёстанцыі «Голас Амерыкі». У 1952—53 у размовах з сяброўкамі крытыкавала камсамол і высмейвала камсамольцаў. Напісала на школьнай дошцы: «Широка страна моя родная, Много в ней тюрем, лагерей, Я такой другой страны не знаю, Где так много плачет матерей». У дні жалобы па Сталіну «схіляла навучэнцаў на шлях ладжання вясёлага праводжання часу, у рэзка зняважлівай форме выказвалася на адрас памерлага кіраўніка партыі і савецкай дзяржавы» і г. д. Асуджана паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 7.9.1953. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *58*[10], с. 181.

**БАЛІН Станіслаў** [1897, мяст. Трокі Віленскай губ., цяпер Тракай, Літва — 1937, ГУЛАГ], дзеяч рэвалю-

цыйнага руху ў Зах. Беларусі. Кіраўнік польскай сялянскай партыі «Вызволене». Дэпутат польскага сейма з 1922. Разам з іншымі дэпутатамі восенню 1924 выйшаў з партыі і стварыў «Незалежную сялянскую партыю». За рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны ў 1927 і асуджаны на турэмнае зняволенне. Пасля адбыцця тэрміну эміграваў у СССР. Арыштаваны НКВД СССР і расстраляны.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Валахановіч А.І., Міхнюк У.М.* Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча. Мн., 1999. С. 167.

**БАЛОЦІНА Анісся Давыдаўна** [1865, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], рэвалюцыянерка-народніца. Вучылася ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Уваходзіла ў гурток нарадавольцаў, удзельнічала ў друкаванні і распаўсюджванні антыўрадавай літаратуры. Арыштавана 31.3.1886 па даносе С. Зубатава, які выдаў паліцыі гурток. Пасля працяглага следства ў ліп. 1887 саслана на 8 гадоў у Сібір. Удзельнічала ва ўзброеным выступленні ссыльных у Якуцку ў сак. 1889. У час сутычкі з карнікамі паранена. Ваенна-судовай камісіяй прыгаворана да пазбаўлення ўсіх правоў і пажыццёвай катаргі. Пакаранне адбывала ў Вілюйскай катаржнай турме, у якой утрымліваліся асабліва небяспечныя паліт. злачынцы. У вер. 1893 атрымала дазвол на вольнае пасяленне. Восенню 1897 вярнулася на радзіму, жыла ў Шклове пад наглядам паліцыі. У 1898 выехала за мяжу. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*
Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**БАЛТМАН Адольф (Адам) Данатавіч** [парт. псеўд. Анатолій; 4(16).4.1882, Новааляксандраўскі пав. Ковенскай губ. — ?], дзеяч рэвалюцыйнага руху. Адзін з кіраўнікоў Мінскай арганізацыі РСДРП. У ліп. 1906 арыштаваны за перавоз друкарскага шрыфта. У маі 1907 арганізаваў забастоўку на кафляна-ганчарным заводзе ў Мінску, за што арыштаваны і зняволены ў Мінскай турме. Пры вобыску на яго кватэры былі знойдзены адозвы Мінскай арганізацыі РСДРП, перапіска, што сведчыла пра яго антыўрадавую дзейнасць. Паводле прыгавору Віленскай судовай палаты ў снеж. 1908 сасланы на пасяленне ў Енісейскую губ., дзе знаходзіўся да 1911. Далейшы лёс невядомы.
Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**БАЛЦІН Аўгуст Янавіч** [сапр. Блюм Тэадор Янавіч, 5(17).1.1894, Газенпот Курляндскай губ., цяпер Айзпутэ, Латвія — 23.6.1953], дзяржаўны дзеяч. З сям'і службоўца. Скончыў 6 класаў Лібаўскага камерцыйнага вучылішча. З 1910 член раённага камітэта РСДРП у Лібаве (цяпер Ліепая). Пасля Пражскай Усерасійскай канферэнцыі бальшавіцкай партыі (студз. 1912), на якой былі прыняты рашэнні аб умацаванні нелегальных ячэек партыі, узначаліў камітэт па аднаўленню Лібаўскай падпольнай арганізацыі. З 1914 член падраённага камітэта Рыжскай арганізацыі бальшавікоў. З 1915 у Харкаве член камітэта гарадской бальшавіцкай

арганізацыі. Неаднаразова арыштаваны, сядзеў у турмах (1909, 1913, 1914, 1916). Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 член Бакінскага камітэта партыі. У кастрычніцкія дні 1917 член Грозненскага камітэта бальшавіцкай партыі. Са снеж. 1917 зноў у Баку, актыўна ўдзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады. Пасля прыходу савецкіх войск працаваў у гаспадарчых органах. Уступіў у ВКП(б). З 1926 у Маскве, член прэзідыума Цэнтральнага саюза спажывецкіх таварыстваў СССР. У 1929 накіраваны ў БССР. Працаваў старшынёй Белкаапсаюза, затым наркамам гандлю, наркамам забеспячэння (1931—33). З сак. 1933 нам. старшыні СНК БССР. У сувязі з рэарганізацыяй савецкага апарата прызначаны наркамам лёгкай прамысловасці. З вер. 1934 наркам мясцовай прамысловасці. Член ЦВК СССР (1935—37) і ЦВК БССР (1929—37), старшыня Таварыства старых бальшавікоў (1933—37). 2.8.1937 вызвалены ад пасады наркама. Арыштаваны 4.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 2, кв. 21. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 9.6.1940 як «удзельнік антысавецкай трацкісцкай арганізацыі, якая існавала на тэрыторыі БССР з 1933 г.» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў з канфіскацыяй маёмасці. Вызвалены ў канцы 1940-х г. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 4.4.1956. Асабовая справа Б. № 6630-с з фotaздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**БАЛЬЦЭВІЧ Вацлаў Мартынавіч** [1876, в. Лялянцы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 1902], адзін з пачынальнікаў сацы-

ял-дэмакратычнага руху Беларусі. Працаваў краўцом у Вільні. Там пазнаёміўся з Ф.Дзяржынскім, з якім выпускаў і распаўсюджваў нелегальную літаратуру. У вер. 1897 арыштаваны і зняволены ў турме. У лют. 1899 сасланы ў Вяцкую губ., але ў хуткім часе ўцёк на радзіму. Перайшоў на нелегальнае становішча і вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых Вільні, Гродна і Коўна. Удзельнічаў у дзейнасці Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы, з'яўляўся дэлегатам яе 2 з'езда (жн. 1900) і канферэнцыі (лют. 1901), уваходзіў у Галоўнае праўленне партыі. У 1902 па асабістай ініцыятыве рыхтаваў замах на Васільева, кіраўніка жандармскага ўпраўлення, які жорстка катаваў яго пасля арышту ў вер. 1897. З-за хваробы на сухоты, ад якой і памёр, замах не здзейсніў.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: Słownik biograficzny działaczy polskiego ruchu robotniczego. Warszawa, 1986, т. 1; *Płochocki M.* Wspomnienia działacza SDKPiL. Warszawa, 1956; *ЭГБ,* т. 1; *БЭ*, т. 2.

**БАЛЮНІС Іван Адамавіч** [1875, Віленская (?) губ., цяпер Літва — 14.4.1938, Смаленск, НКВД], скульптар. З бел. сям'і. Падчас арышту скульптар-лепшчык Смаленскага гарадскога тэатра. Арыштаваны 9.3.1938. Асуджаны «тройкай» УНКВД за «шпіянаж і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАНДАРОВІЧ Іван Андрэевіч*** [1906, в. Драхча Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н

Мінскай вобл. — ?], аграном. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту аграном Есільскага раённага сельскагаспадарчага аддзела. Арыштаваны 24.3.1953 у в. Кійма Есільскага р-на Акмолінскай вобл. Асуджаны Акмолінскім абл. судом 28.5.1953 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Казахскай ССР 30.9.1964.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Хранить вечно.*

**БАНДАРУК Пётр Іванавіч (МАЛІНОЎСКІ Станіслаў Рудольфавіч)** [1910, Віцебск — 20.9.1937, Масква, НКВД], артыст. З бел. сям'і. У 1930-я г. працаваў у Маскоўскім тэатры «Мюзік-Хол». Арыштаваны 22.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Л. Талстога, д. 21. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.9.1937 за «прыналежнасць да Віленскай экспазітуры другога аддзела Польскага Галоўнага штаба і шпіянаж на карысць замежнай дзяржавы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны пастановай ваеннай пракуратуры РФ 15.1.1997.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**БАНДАРЧЫК Хведар Антонавіч** [1893, в. Дукора Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — пасля 1931], бел. паліт. і вайсковы дзе-

яч, педагог. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1914), Мінскі інстытут народнай адукацыі (1921). З вер. 1914 выкладаў у Дукорскай пачатковай школе. У кастр. 1914 прызваны ў армію. Скончыў вайсковае вучылішча, служыў малодшым афіцэрам у 4-м Нясвіжскім грэнадзёрскім палку. У канцы 1917 атрымаў ранг штабс-капітана. У 1917 уступіў у БСГ, увайшоў у кіраўніцтва Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага настаўніцкага хаўрусу ў Мінску. Быў у складзе Вялікай беларускай рады, што склікала І Усебеларускі з'езд. Са студз. 1918 настаўнічаў у Мінску і Мінскім пав. Сябра БПС-Р. Уваходзіў у Часовы беларускі нацыянальны камітэт у Мінску, адзін з кіраўнікоў Цэнтральнага беларускага саюза сельскай гаспадаркі. Прымаў удзел у антыпольскім падпольным руху. У канцы 1921 арыштаваны савецкімі ўладамі, але хутка адпушчаны. У студз. 1922 прызваны ў Чырвоную армію. Пасля дэмабілізацыі жыў у Дукоры, настаўнічаў, займаўся краязнаўствам. У 1930 праходзіў па справе «Саюз Вызвалення Беларусі».

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Ляхоўскі У.* Пачатак тварэння беларускай нацыянальнай школы // Спадчына. 2001. № 1—2.

**БАНДАРЭНКА Васіль Сямёнавіч*** [1903, в. Падлужжа Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў навуковым супрацоўнікам у БелАН. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся,

гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1933 у Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.1.1934 як «член шпіёнскай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 29.4.1934. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.7.1961. Асабовая справа Б. № 17157-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАНДАРЭНКА Пётр Ціханавіч** [21.8(3.9).1901, в. Стара-Зяньковіна Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Старая Зенькавіна Кармянскага р-на Гомельскай вобл. — 28.10.1950, Масква, НКВД], ваенны дзеяч, контр-адмірал. З бел. сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). Скончыў школу рулявых і сігнальшчыкаў (1923), ваенна-марскoе палітвучылішча (1924), ваенна-паліт. акадэмію імя М.Талмачова (1934). У 2-ю сусветную вайну удзельнік абароны Адэсы, Ачакава, Севастопаля. З 1947 нам. камандуючага Чарнаморскім флотам па паліт. частцы. Арыштаваны 30.9.1949 у Севастопалі па адрасе: вул. Савецкая, д. 61. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда 28.10.1950 за «падрыўную работу супраць партыі і савецкага ўрада» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 26.5.1954.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Расстрельные списки: Донское кладбище; ЭГБ,* т.6—2.

**БАНЬКО Аляксандр Адамавіч*** [1903, ? — 1.10.1938, Уфа, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Вучыўся ва Уфімскім педага-

гічным інстытуце. Арыштаваны 4.7.1938. Асуджаны за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.6.1966.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**БАНЬКОЎСКІ Пётр Ігнатавіч*** [1899, в. Дынкінішкі Дзвінскага пав. Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілскі р-н, Латвія — 28.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік цэха Друкарскага двара. Арыштаваны 15.12.1937 у Ленінградзе па адрасе: праспект Міжнародны, д. 50, кв. 11. Асуджаны «тройкай» УНКВД Ленінградскай вобл. 25.12.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БАРАВІК Іван Сцяпанавіч** [1885, в. Нечарцы Себежскага пав. Віцебскай губ., цяпер Себежскі р-н Пскоўскай вобл., Расія — 9.10.1937, Масква, НКВД], чыноўнік. З заможнай сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы кансультант Народнага камісарыята ўнутранага гандлю СССР. Арыштаваны 11.9.1937 у Маскве па адрасе: 2-і Нова-Астанкінскі зав., д. 25, кв. 6. Асуджаны «тройкай» НКВД 8.10.1937 за «контррэвалюцыйную агітацыю» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 10.3.1958. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Бутовский Полигон.*

**БАРАВІКОВА (ДАРАШЭВІЧ) Алена Сцяпанаўна*** [1894, ? — 2.11.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчыца гаспадаркі Смаленскай дэзастанцыі. Была членам ВКП(б). Арыштавана 31.7.1938. Асуджана «тройкай» НКВД 14.10.1938 за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляна.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАРАВІКОЎ Уладзімір** [н. 21.12.1911 (3.1.1912) ст. Пціч Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл.], мастацтвазнавец, педагог, стваральнік Пінскай мастацкай галерэі. Арыштаваны органамі НКВД 27.4.1937 у час вучобы на 2 курсе Ташкенцкага педагагічнага інстытута. Разам з дацэнтам Собалевым і яшчэ чатырма студэнтамі яго абвінавацілі ў стварэнні контррэвалюцыйнай арганізацыі — так энкавэдысты назвалі папулярны сярод студэнтаў гурток па вывучэнні гісторыі і філасофіі. Асуджаны пазасудовым органам да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Анежскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. (ст. Плясецкая). Вызвалены ў 1942, але да прызыву ў войска і адпраўкі на фронт яшчэ каля года знаходзіўся ў лагеры. У лют. 1944 на тэрыторыі Эстоніі трапіў у палон, адкуль вызвалены 7.4.1945. Дэмабілізаваны ў студз. 1946 у Аўстрыі. У СССР у 1947 аднавіў вучобу ў Ташкенце. У студз. 1950 зноў арыштаваны (у доме ад-

пачынку «Траецкае», куды быў накіраваны за выдатную вучобу ва ун-це). Пасля 9-ці месяцаў катаванняў асуджаны «за здраду радзіме» да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Пясчаны канцлагер МДБ Карагандзінскай вобл. Казахскай ССР. Вызвалены ў 1956. Пасля адпачынку ў бацькоў у Пінску накіраваўся ў Ташкент для абароны дыплома (1957). Да 1978 супрацоўнік Пінскага краязнаўчага музея. Аўтар публікацый на тэмы мастацтвазнаўства. Вядомы як арганізатар мастацкіх выставаў, стваральнік мастацкай галерэі ў Пінску. У 1992—96 сябар Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: Мы вас памятаем! // *Маю права! Бюлетэнь Пінскага рэгіянальнага аддзяленьня БХК*. 1998. № 3 (5); *Сьнітко Т.* Уладзімір Баравікоў // *Шуфляда*. 2001. №. 2.

**БАРАВЫ Віктар Восіпавіч** [1891, в. Каракулічы Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], рыбак. Пасля 2-й сусветнай вайны працаваў у рыбалоўнай арцелі імя Сталіна (в. Каракулічы). Асуджаны 27.3.1948 за «праведзенне антысавецкай прапаганды і варожыя дзеянні супраць прадстаўнікоў савецкай улады» да 10 гадоў пазбаўлення волі (пазней заменена на 5 гадоў). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны (са зняццем судзімасці) 9.9.1960.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Памяць*: *Гісторыка-дакументальная хроніка Мядзельскага р-на*. Мн., 1998; *Антысавецкія рухі*.

**БАРАДЗЁНАК Антон Іванавіч*** [1902, Віцебск — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. дацэнт кафедры эпізааталогіі Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 5.1.1933 у Віцебску па адрасе: Рвулеўскі зав., д. 3. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Асабовая справа Б. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БАРАДЗІНОЎСКІ Яфім Канстанцінавіч*** [1896, мяст. Ула (Вула) Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл. — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер па тэхніцы бяспекі завода імя Марці. Арыштаваны 27.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БАРАКС Натан Маркавіч*** [1898, Брэст — 8.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — старшы механік Галоўцагліны наркамата мясцовай прамысловасці СССР. Арыштаваны 31.8.1937

у Маскве па адрасе: Крываарбацкі зав., д. 21, кв. 10. Асуджаны 1.12.1937 камісіяй НКВД СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны пастановай пленума Вярхоўнага суда СССР 18.4.1957

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БАРАНАЎ Аляксей Анісімавіч*** [1903, в. Рудня Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мазырскі р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, гадаваў сына. Падчас арышту інжынер-праекціроўшчык Упраўлення будаўніцтва чыгункі. Арыштаваны 19.7.1941 у Акмолінску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.3.1942 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай пленума Вярхоўнага суда СССР 10.2.1960.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Хранить вечно*.

**БАРАНОЎСКІ Андрэй Юльянавіч** [1895, засценак Вялікія Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 1.9.1938, Мінск, НКВД], дзеяч бел. нацыянальнага руху. З дробнай шляхты. У 1913 скончыў Слуцкае праваслаўнае духоўнае вучылішча, у 1914 здаў экстэрнам экзамены на званне настаўніка. У маі 1915 прызваны ў армію, служыў пісарам, справаводам. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917

вярнуўся ў родную вёску. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на гаспадарцы. З прыходам бальшавікоў служыў справаводам у Слуцкім ваенным камісарыяце. З пачаткам польска-савецкай вайны эвакуіраваўся ў Рослаўль Смаленскай губ. Там пазнаёміўся з П. Бадуновай, якая накіроўвалася ў Маскву для перагавораў ад імя ЦК БПСР з бальшавікамі. Уступіў у члены партыі бел. эсэраў, па заданні кіраўніцтва якой вярнуўся на радзіму і стаў ініцыятарам узнаўлення Слуцкага бел. нацыянальнага камітэта. Пасля сканчэння Мінскіх бел. настаўніцкіх курсаў (1920) выкладаў беларусазнаўства ў слуцкіх школах. Ствараў у Слуцкім пав. бел. школы, культурніцкія арганізацыі і кааператывы. Адзін з кіраўнікоў таварыства «Папараць-кветка», узначальваў работу яго драматычнай дружыны, рэдагаваў газ. «Наша Каляіна». Быў прыхільнікам супрацоўніцтва з бальшавікамі. Пасля ўзнаўлення ў пав. Савецкай улады ў ліп. 1920 загадваў школьным аддзелам Слуцкага рэўкама. У першай палове 1920-х г. жыў у Слуцку, працаваў настаўнікам, інспектарам акруговага аддзела народнай адукацыі. У 1921 і 1922 арыштоўваўся ДПУ па справах бел. эсэраў. Пасля Мінскіх вышэйшых курсаў беларусазнаўства ў 1924 выкладаў у Аб'яднанай беларускай вайсковай школе ў Мінску, адначасова працаваў у камісіі Інстытута беларускай культуры па складанні слоўніка бел. вайсковай тэрміналогіі. Удзельнічаў у ліквідацыйным з'ездзе партыі бел. эсэраў у чэрв. 1924. У 1930 пазбаўлены работы ў вайсковай школе. З 1933 працаваў у геадэзічнай майстэрні Белдзяржтранса наркамата земляробства БССР. Арыштаваны НКВД БССР 26.1.1938. Асуджаны «тройкай» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.2.1960.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка. Слуцкі раён. Мн., 2001. Кн. 1. С. 257—258; *Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах*. Мн., 2001. С. 301—302.

**БАРАНОЎСКІ Генадзь Фёдаравіч*** [1913, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 21.2.1938, Масква, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту курсант Батумскай марской школы. Арыштаваны 13.2.1938 у Батумі на вул. М.Горкага. Асуджаны «тройкай» пры УНКВД СССР за «контррэвалюцыйную прапаганду» 19.2.1938 да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.2.1990. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БАРАНОЎСКІ Іван Васілевіч*** [1909, Віцебск — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Ажаніўся, гадаваў дачку. Падчас арышту загадчык маркёрнага (?) бюро трэста «Казахзолата». Арыштаваны 1.8.1938 на рудніку Жалымбет Акмолінскай вобл. Казахскай ССР. Асуджаны 5.7.1939 за «шкодніцкую дзейнасць» да 6 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Туркестанскай ваеннай акругі 29.7.1959.

Кр.: *Хранить вечно.*

**БАРАНОЎСКІ Міхаіл Пятровіч*** [6.11.1903, в. Труханавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 27.11.1938, Мінск, НКВД], службовец. Быў членам ВКП(б). У 1930-я г. загадчык клуба Мінскага ваеннага вучылішча. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 22.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 36, кв. 10. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.12.1937 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.9.1958. Асабовая справа Б. №12873-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАРАНОЎСКІ Пётр Канстанцінавіч** [1906, в. Дубінка Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі р-н — 26.10.1938, Курск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік цэха біяфабрыкі. Арыштаваны 25.2.1938 у Курску па адрасе: вул. С.Разіна, д. 5. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.9.1956.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области.*

**БАРАНОЎСКІ Сямён Давыдавіч** [1893, мяст. Дуброўна Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 21.1.1940, Масква,

НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту камбрыг, начальнік пагранічных войск НКВД Усходнесібірскай акругі. Арыштаваны 30.4.1939 у Чыце па адрасе: вул. Пясчанская, д. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.1.1940 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 31.8.1955.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**БАРАНОЎСКІ Якаў Нічыпаравіч*** [1884, в. Млынка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 20.7.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту эканаміст «Прамкаапсавета» (?). Арыштаваны 10.1.1938 у Свярдлоўску. 10.7.1938 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**БАРБАРЫЧ Барыс Міхайлавіч*** [1894, ? — 28.9.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту камерцыйны дырэктар ст. Рослаўль. Арыштаваны 15.6.1937. Асуджаны камісіяй НКВД 23.9.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАРБАРЧУК Ніна Іосіфаўна*** [1919, Мінск — ?], медык. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую медыцынскую адукацыю. Працавала ўрачом у 10-й паліклініцы, у 5-й мінскай бальніцы. Арыштавана 28.10.1961. Паводле даных следства, на працягу 1960—61 пісала і рассылала антысавецкія лісты. У снеж. 1960 накіравала ананімны ліст прэзідэнту ЗША Д.Кенэдзі з крытыкай жыцця ў СССР. 15.1.1962 асуджана за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі 16.12.1991. Асабовая справа № 32070-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 91673.

Літ.: *58*[10], с. 579.

**БАРКОЎСКІ Венядзікт Канстанцінавіч*** [1903, в. Міхайлава Люцынскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лудзенскі р-н, Латвія — 20.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту старшы лейтэнант, камандзір батарэі 176 артылерыйскага палка. Арыштаваны 15.3.1938 у Маскве ў корпусе № 5 Чарнышэўскіх казарм. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.8.1962.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БАРОДЗІЧ Цярэнцій Сцяпанавіч*** [21.4.1902, в. Квасынічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 12.4.1943, Удмурцкая АССР, ГУЛАГ], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выконваў абавязкі дацэнта МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 21.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Грушаўская, д. 16, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 11.9.1939 як «агент польскай разведкі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Удмурцкай АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.10.1957. Асабовая справа Б. № 10951-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БАРОЎКА Іван** [н. 1930, Пастаўскі пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.], удзельнік бел. антысавецкага маладзёжнага руху. У 1944 паступіў у педагагічнае вучылішча ў Паставах. Восенню 1945 увайшоў у падпольную арганізацыю «За Беларусь», якая вясной 1946 аб'ядналася з глыбоцкай арганізацыяй СБП. 25.3.1946 браў удзел ва ўрачыстай прысязе сяброў Пастаўскай групы СБП у вёсцы Рамелькі пад Паставамі ў хаце М.*Асіненкі*. Арыштаваны органамі МДБ у лют. 1947. На судовым працэсе ў Мінску (16—20.6.1947) асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Вызвалены ў 1955.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАРОЎКА Ліна (Ангеліна)** [н. 1931, Пастаўскі пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — ?], удзельніца антысавецкага маладзёжнага руху. Увосень 1945 падчас навучання ў Пастаўскім педагагічным вучылішчы ўступіла ў падпольную арганізацыю «За Беларусь» (з вясны 1946 — Саюз беларускіх патрыётаў). 25.3.1946 брала ўдзел ва ўрачыстай прысязе сяброў СБП. Размнажала яе тэкст для тых, хто ўступаў у арганізацыю, прадастаўляла кватэру для правядзення сходаў СБП, захоўвала антысавецкую літаратуру. Разам з М.*Асіненкам* зрабіла для арганізацыі бел-чырвона-белы сцяг. У лют. 1947 арыштавана органамі МДБ. На яе кватэры быў зроблены вобыск, як рэчавы доказ канфіскаваны падручнік бел. мовы Б.*Тарашкевіча*. На судовым працэсе ў Мінску 20.6.1947 асуджана да 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбывала ў дзіцячай калоніі ў Мінску, потым у лагеры ў Мардовіі. Непасільная работа і лагерныя ўмовы падарвалі здароўе. Пасля вяртання на радзіму з-за праследавання з боку ўладаў пераехала разам з маці на пастаяннае месца жыхарства ў Рыгу.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАРОЎСКІ Іван Аляксеевіч*** [1909, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 28.9.1938, Уфа, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту экскурсавод Уфімскага музея Рэвалюцыі. Арыштаваны 20.2.1938. Асуджаны як

«член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.5.1956.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**БАРСУК Алена** [н. 1930, в. Барсукі Глыбоцкага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], удзельніца антысавецкага маладзёжнага руху, сястра Ларысы і Тамары *Барсук*. Вучылася ў Шкунціцкай школе, Глыбоцкім педагагічным вучылішчы. Уступіла ў Глыбоцкую групу СБП. 25.3.1946 брала ўдзел у прыняцці прысягі. Пасля першых арыштаў сяброў СБП 9.2.1947 перайшла на нелегальнае становішча. Вясной 1947 са станцыі Навадруцк спрабавала выехаць у Польшчу, але была арыштавана органамі МДБ. Падчас судовага працэсу ў Полацку (11—12.11.1947) асуджана да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Тайшэт). Вызвалена ў 1955.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАРСУК Ларыса** [н. 1931, в. Барсукі Глыбоцкага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.], удзельніца антысавецкага маладзёжнага руху, сястра Алены і Тамары *Барсук*. Вучылася ў Шкунціцкай школе, Глыбоцкім педагагічным вучылішчы. Уступіла ў Глыбоцкую групу СБП. 25.3.1946 брала ўдзел у прыняцці прысягі. Пасля першых арыштаў сяброў СБП 9.2.1947 перайшла

на нелегальнае становішча. Вясною 1947 са станцыі Навадруцк спрабавала выехаць у Польшчу, але была арыштавана органамі МДБ. Падчас судовага працэсу ў Полацку (11—12.11.1947) асуджана да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Азёрны канцлагер МУС Іркуцкай вобл. (Тайшэт). Вызвалена ў 1955.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

*Літ.*: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАРСУК Тамара** [н. 26.3.1929, в. Барсукі Глыбоцкага пав. Віленскага ваяводства, цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], удзельніца антысавецкага маладзёжнага руху, сястра Алены і Ларысы *Барсук*. У 1939—44 вучылася ў Шкунціцкай школе; увосень 1944 пайшла ў 9 клас Глыбоцкай СШ № 1. Праз навучэнку школы Лідзію Несцяровіч далучылася да маладзёжнай патрыятычнай арганізацыі СБП. Арыштавана ў сак. 1947 на занятках у школе. Пасля вобыску кватэры, дзе Б. жыла, яе даставілі ў мінскую турму. За 3 месяцы знаходжання пад следствам да яе неаднаразова прымяняліся метады фізічнага ўздзеяння. 20.6.1947 Б. асудзілі да 3 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбывала ў Архангельску, Дудзінцы, Нарыльску. Пасля вызвалення (вясна 1950) вярнулася ў Глыбокае, працягвала вучобу ў СШ № 1. Паступіць у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію ёй было адмоўлена па прычыне нядобранадзейнасці. Скончыла завочнае аддзяленне Віцебскага педагагічнага інстытута, выкладала ў пачатковай школе ў вёсцы Шчумялі Шаркоўшчынскага р-на Віцебскай вобл. У 1953 пабралася шлюбам з Іванам Лагуном. У 1958

яны пераехалі ў Глыбокае. Да выхаду на пенсію ў 1991 працавала настаўніцай у СШ № 2.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАРСУКОЎ Казьма Данілавіч*** [1903, в. Макраны Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл. — 30.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык планава-эканамічнага аддзела Ленінградскага абл. «зу» (?). Арыштаваны 30.6.1937 у Ленінградзе па адрасе: 7-я Чырвонаармейская вул., д. 1, кв. 16. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у Ленінградзе 30.11.1937 за «антысавецкую шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БАРТАШ Фабіян Іванавіч*** [1892, в. Барташова Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 10.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар 18 конезавода ў Порхаўскім р-не Ленінградскай вобл. Арыштаваны 29.7.1937 на рабоце. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «контррэвалюцыйную, антысавецкую агітацыю» і «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БАРТАШЭВІЧ Казімір Аляксандравіч*** [1924, в. Руховічы Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Падчас арышту нарыхтоўшчык Рахавіцкага сельпо. Арыштаваны 23.11.1949. Асуджаны 9.3.1950 як «памагаты банды АУН» да 25 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці (заменена на 5 гадоў зняволення). Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР. Вызвалены 4.7.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 1.6.1994. Асабовая справа Б. № 12845-с з фотаздымкам захоўваецца ва УКДБ Брэсцкай вобл.

За тое самае «злачынства» з Б. была асуджана і яго сястра Ганна 1925 г. нараджэння, маці дваіх дзяцей. Пасля прысуду (25 гадоў канцлагераў потым замянілі на 15) яна была этапавана ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл. (Тайшэт). Далейшы яе лёс таксама невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАРТАШЭВІЧ Марыя** [н. каля 1930, непадалёку ад мяст. Крэва (магчыма, в. Войневічы) Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], удзельніца антыкамуністычнага маладзёжнага падполля. Вучылася ў Смаргонскай СШ. У

1949 у 10-м класе далучылася да падпольнай вучнёўскай арганізацыі. У пачатку 1950 арыштавана. У ліп. таго ж года на працэсе супраць удзельнікаў Мядзельска-Смаргонскага падполля асуджана трыбуналам БВА да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*.

**БАРТКЕВІЧ Вінцэнт** [1776, маёнтак Палессе Ашмянскага пав., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — пасля 1837, ?], удзельнік паўстанняў 1794 і 1830—31 на Беларусі, у Польшчы і Літве. З бел. шляхты. У час паўстання 1794 пад кіраўніцтвам Т.*Касцюшкі* быў яго паручнікам, прымаў удзел у абароне Варшавы, паранены трапіў у палон. Пасля вызвалення займаўся гаспадаркай у маёнтках Пеліканы і Палессе. У канцы 1820-х г. быў Свянцянскім павятовым віцэ-маршалкам шляхты. Прымаў удзел у паўстанні 1830—31, узначальваў паўстанцкія сілы Завілейскага пав., на чале іх у баях змагаўся за Вільню. Пасля паражэння адступіў са Свянцян у Дзісенскі павет і далучыўся да мясцовых паўстанцаў. Камандаваў кавалерыяй паўстанцаў Завілейскага, Вілейскага і Дзісенскага пав., з'яўляўся адным з кіраўнікоў паходу паўстанцаў у Жэмайцію, дзе далучыўся да корпуса генерала А.Гелгуда. У студз. 1832 арыштаваны і пасля працяглага следства, якое праводзілася ў Вільні, сасланы ў Валагду. З 1837 жыў у Смаленскай губ. пад наглядам паліцыі, дзе неўзабаве памёр.

Літ.: Błeliński K. Rok 1831 w powiecie Zawilejskim (Święciańskim). Wilno—Święciany, 1930; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

*Леанід Маракоў*

**БАРУШКА Васіль Андрэевіч*** [1887, ? — 26.6.1938, Смаленск, НКВД], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў фельчарам на ст. Дарагабуж Смаленскай чыгункі. Арыштаваны 13.1.1938. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 20.5.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАРЫС Герасім Мацвеевіч*** [1897, в. Мінойты Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту загадчык эксперыментальных майстэрняў Акадэміі камунальнай гаспадаркі. Арыштаваны 25.11.1937 у Маскве па адрасе: Патапаўскі зав., д. 5, кв. 33. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 22.12.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.9.1989. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БАРЫС Фёдар Дзям'янавіч*** [1922, в. Кожава Навагрудскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], навучэнец. З сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Інстытута замежных моў. Арыштаваны 26.8.1948 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 35. Асуджаны 18.12.1948 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі «Саюз беларускай мо-

ладзі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ў Варкуцінскі канцлагер МДБ Комі АССР. Вызвалены ў жн. 1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда СССР 26.9.1979. Асабовая справа Б. № 20644-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАРЫСАЎ Нінел Якаўлевіч*** [1923, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту старшыня Шырокаўскага сельсавета. Арыштаваны 14.11.1943 у в. Белы Яр Верхнякецкага р-на Томскай вобл. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі «Саюз выратавання Расіі». 24.10.1944 вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Боль людская.*

**БАРЫСЕВІЧ Аляксандр Вікенцевіч*** [1904, ? — 29.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік цэха Смаленскага цагельнага завода. Арыштаваны 29.10.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БАРЫСЁНАК С. І**.* [1898 — ?], тэхнік-будаўнік. Жыхар Оршы. Меў сярэднюю адукацыю. У 1917 уступіў у ВКП(б), з шэрагаў якой у 1922 выключаны ў сувязі з

прыцягненнем да крымінальнай адказнасці за «контррэвалюцыйную дзейнасць». Паводле дадзеных следства, у 1949—51 у нецвярозым стане неаднаразова казаў, што амерыканская тэхніка лепшая за савецкую, што ў ЗША вышэйшая прадуктыўнасць працы і лепшая якасць прадукцыі, чым у СССР. «Усхваляў» ворагаў народа і Л.Троцкага. Распавядаючы пра сваю ранейшую судзімасць, заяўляў, што «быў контррэвалюцыянерам і такім застаецца цяпер». 18.6.1953 асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда». Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 39893.

Літ.: *58[10]*, с. 145.

**БАРЫШАЎ Дзмітрый Паўлавіч*** [1911, в. Петрачкі (?) Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 3.9.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык планавага аддзела Наваляляінскага папяровага камбіната. Арыштаваны 6.8.1937 у пас. Новая Ляля Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 2.9.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

**БАСАЛЫГА Дзмітрый Мікалаевіч** [псеўд.: Ігнат Уральскі, Ігнатарскі, Дзм. Радноў; 15(27).11.1884, мяст. Дудзічы Мазырскага пав. Мінскай губ, цяпер Калінкавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 15.4.1969, Масква], дзеяч тэатра і кінамастацтва, рэвалюцыянер, брат Канстан-

ціна *Басалыгі*. У 1893—1904 жыў на радзіме бацькі ў Слуцкім пав. З 1904 да 1908 вучыўся ў Харкаўскім тэхналагічным інстытуце, дзе далучыўся да сацыял-дэмакратаў і ўступіў у РСДРП (1904). З пачаткам рэвалюцыі 1905—07 адзін з арганізатараў і кіраўнікоў баявых дружын у Харкаве. Пазней сябра Севастопальскага ваенна-марскога камітэта. У 1906 удзельнічаў у аперацыі па выкраданні з Севастопальскага суда каля 1 тыс. спраў матросаў-паўстанцаў крэйсера «Ачакаў». У 1907 на нелегальнай рабоце ў парткамітэтах Екацярынбурга, Пярмі, Чэлябінска. Дэлегат V (Лонданскага) з'езда РСДРП. Арыштаваны ў 1908 і зняволены ў Харкаўскай турме. Пасля вызвалення жыў у Маскве, на працягу 1910—14 працаваў на кінафабрыцы Ханжонкава. Адначасова вучыўся на юрыдычным ф-це Маскоўскага ун-та, у школе-студыі МХАТ. Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў армію, дзе вёў рэвалюцыйную агітацыю, быў абраны старшынёй палкавога камітэта. У сак. 1917 арганізаваў 1-ы Усерасійскі саюз работнікаў тэатра. У 1917—18 кіраўнік Саратаўскага тэатра. У 1919 камісар брыгады Чырвонай арміі. З 1920 загадчык Цэнтральнага ўпраўлення тэатраў наркамасветы РСФСР. Напісаў сцэнарыі і як рэжысёр паставіў кінафільмы: «Са змроку царызму», «Узяцце свабоды» (1922), «Барацьба за ультыматум» (1923), «Чырвоны тыл», «З іскры — полымя» (1924), «Мусульманка» (1925). У 1937 два апошнія фільмы былі адзначаны на Сусветнай выставе ў Парыжы Залатымі медалямі. Ставіў таксама кінакамедыі і фільмы для дзяцей. У 1923—25 старшыня праўлення Акцыянернага таварыства «Пралетарскае кіно». У 1930-х г. працаваў у наркамаце сувязі, Радыёкамітэце, арганізаваў і ўзначаліў першую фабрыку за-

пісу гуку на плёнку. На працягу 1938—41 супрацоўнік Траццякоўскай галерэі. З пачаткам 2-й сусветнай вайны мабілізаваны ў Чырвоную армію, камісар маскоўскіх зборных пунктаў. У 1944—45 іх дырэктар, потым супрацоўнік Вышэйшай дыпламатычнай школы пры наркамаце замежных спраў СССР. Пасля вайны да творчасці ў кінамастацтве не вярнуўся.

Літ.: *Нежный И*. Былое перед глазами. М., 1965; *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 2.

**БАСАЛЫГА Канстанцін Мікалаевіч** [18(30).5.1887, мяст. Дудзічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Калінкавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 9.9.1963, Севастопаль], рэвалюцыйны дзеяч, журналіст, брат Дзмітрыя *Басалыгі*. У 1893—1904 жыў на радзіме бацькі ў в. Варкавічы Слуцкага пав. У 1904 навучэнец Харкаўскага рэальнага вучылішча. Удзельнічаў у рабоце сацыял-дэмакратычнага гуртка, член РСДРП з 1905. Падчас рэвалюцыі 1905—07 член ваенна-баявога штаба ў Харкаве, Севастопальскага камітэта РСДРП. Супрацоўнік рэдакцыі севастопальскай газ. «Солдат». У 1906 удзельнічаў у аперацыі па выкраданні з Севастопальскага суда каля 1 тыс. спраў матросаў-паўстанцаў крэйсера «Ачакаў». У 1907 вёў падпольную работу на Урале. Дэлегат V (Лонданскага) з’езда РСДРП. Вёў рэвалюцыйную работу ў Пярмі, Адэсе, Краснадары. Арыштаваны ў 1915 і сасланы ў Омск. Удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1917. У далейшым на паліт. і культурнай рабоце ў Севастопалі і на Стаўраполлі. У часы 2-й сусветнай вайны ў Севастопальскім народным апалчэнні.

Літ.: *Нежный И*. Былое перед глазами. М., 1965; *ЭГБ*, т. 1.

**БАСКІН Абрам Ехілявіч (Яфімавіч)*** [1894, в. Бокі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР. З сям'і службоўца. Атрымаў пачатковую адукацыю. Са студз. 1914 да лют. 1917 працаваў краўцом у майстэрнях Екацярынбурга. У маі—ліст. 1917 на фронце. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 у прыватных кравецкіх майстэрнях Бабруйска, са снеж. 1918 памочнік валаснога камісара ў Парычах. У канцы крас. 1919 мабілізаваны ў Чырвоную армію, ваяваў на Зах. фронце супраць легіянераў Ю.Пілсудскага. Служыў у разведцы, агентурным аддзеле палітупраўлення Зах. фронту. З чэрв. 1923 старшыня заводскага камітэта Міншвейпрама. З лют. 1925 дырэктар Віцебскай швейнай фабрыкі «Прафінтэрн». У 1928 прызначаны кіраўніком Белшвейтрэста ў Мінску. У 1931—33 наркам працы БССР, узнагароджаны ордэнам Працоўнага чырвонага сцяга. У 1933—34 старшыня Віцебскага гарсавета. У другой палове 1930-х г. старшыня прэзідыума Белкаапсаюза, дырэктар завода па вытворчасці цэглы ў Мінску. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 5.7.1938 у Мінску па адрасе: плошча Свабоды, д. 7, кв. 14. Асуджаны тройкай НКВД 1.11.1938 за «шпіянаж на карысць польскай разведкі, па даручэнні якой праводзіў шкодніцкую работу ў галіне швейнай і цаглянай прамысловасці» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.2.1956. Асабовая справа Б. № 5849-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАХАНЧЫК Аляксандр** [1926, мяст. Гарадзея Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 19.8.1999, г.п. Гарадзея], настаўнік, вайсковец, публіцыст. З 1942 вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Вясной 1944 паступіў у афіцэрскую школу Беларускай краёвай абароны ў Мінску. Неўзабаве выехаў у Германію. У складзе Рускай Вызваленчай Арміі генерала Бунячэнкі ў маі 1945 вызваляў Прагу. Арыштаваны «Смершам». Асуджаны да зняволення і этапаваны ў Інцінскі (пасля Мінеральны, у якім налічвалася да 35000 вязняў) канцлагер МДБ Комі АССР (Інта). У Беларусь вярнуўся ў 1970-я г. З канца 1980-х г. друкаваў артыкулы ў газ. «Зважай» (Таронта), «Беларус» (Нью-Ёрк), «Пагоня» (Гродна), час. «Голас часу» (Лондан).

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Кісель З.* Беларусь губляе сваіх верных сыноў // *Пагоня*. 1999. 26 жн.

**БАХАР Міхаіл Дзімітрыевіч*** [1910, в. Суляцічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.2.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту адказны выканаўца «Уралцветметстроя». Арыштаваны 20.11.1937 у Краснауральску Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 15.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *ЭГБ,* т. 6—1, с. 444.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

**БАЦЯНОЎСКІ Альберт Антонавіч** [н. 20.9.1929, в. Снігальшчына (?) Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — ?], удзельнік антысавецкага маладзёжнага руху. Скончыў у 1943 сёмы клас Чарнеўскай школы. Увосень 1944 паступіў у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Далучыўся да ўтворанага яго навучэнцамі патрыятычнага гуртка (Глыбоцкая група СБП). 1.3.1947 (паводле іншых звестак 6.3.1947) арыштаваны органамі МДБ за прыналежнасць да падпольнай арганізацыі. 16.6.1947 асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у розных мясцінах, у тым ліку і ў канцлагеры «Краснае ўрочышча» пад Мінскам, дзе працаваў на будоўлі Мінскага аўтамабільнага завода. Пасля вызвалення (1954) вярнуўся на бацькаўшчыну ў Глыбокае. Працаваў рабочым на розных работах, пакуль не перажыў інсульт (1988) і не атрымаў II групу інваліднасці. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 26.11.1992. Справа Б. № 23525-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БАШКЕВІЧ Аляксей Нічыпаравіч*** [1889, в. Дудзічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 11.8.1933 у Горках. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі «БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер

АДПУ Карэла-Фінскай АССР. Вызвалены ў снеж. 1938. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Групавая справа Б. і некаторых іншых выкладчыкаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАШКЕВІЧ Вадзім Ігнатавіч** [12(24).3.1904, в. Сёмкаў Гарадок Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 30.10.1937, Мінск, НКВД], службовец. З сям'і настаўнікаў. Да 1919 скончыў школу першай ступені і 3 курсы Мінскай гімназіі. У сувязі з заняццем Мінска польскімі легіянерамі ў жн. 1919 — ліп. 1920 вучоба была перапынена. У 1920 працаваў загадчыкам валаснога рэўкама ў Сенніцы каля Мінска. Пасля быў загадчыкам клуба ў в. Новы Двор Самахвалавіцкага пав., інструктарам Мінскага павятовага камітэта, загадчыкам аддзела палітпрасветы і нам. сакратара Мінскага павятовага камітэта камсамола Беларусі. З сак. 1924 інструктар Барысаўскага акруговага камітэта КСМБ, у ліст. пераведзены на пасаду загадчыка аддзела палітпрасветы Слуцкага акруговага камітэта ЛКСМБ. У 1928 уступіў у ВКП(б). У студз. 1931 прызначаны нам. загадчыка сектара навукі і культуры ЦК КП(б)Б, затым начальнік Упраўлення вышэйшай школы наркамасветы БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. 23.8.1936 пастановай бюро ЦК КП(б)Б адхілены ад работы «за сувязь з нацдэмамі і прамое патуранне контррэвалюцыйным трацкісцкім элементам». Са жн. 1936 беспра-

цоўны, нягледзячы на тое, што неаднаразова звяртаўся ў партыйныя і савецкія органы з просьбай уладкаваць яго на работу. Арыштаваны ў Мінску ў 1936 па адрасе: вул. Валадарскага, д. 30, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.5.1956. Асабовая справа Б. № 6577-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БАШМАЧНІКАЎ Віктар Уладзіміравіч*** [5(18).4.1902, пас. Рудня Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], партыйны дзеяч. З сям'і настаўнікаў. Скончыў рабфак (1925), два гады вучыўся на вячэрнім аддзяленні БДУ. 16-цігадовым юнаком уступіў у Чырвоную армію. Пасля грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі на гаспадарчай рабоце. З вер. 1925 загадчык арганізацыйнага аддзела Цэнтральнага Савета Таварыства садзейнічання авіяцыі БССР. Восенню 1926 абраны старшынёй Цэнтральнага праўлення пралетарскага студэнцтва Беларускай ССР. З кастр. 1929 на адказных пасадах у прафсаюзах рэспублікі. У ліп. 1932 прызначаны загадчыкам арганізацыйнага аддзела Віцебскага гаркама КП(б)Б, з лют. 1935 яго другі сакратар. З сак. да вер. 1937 загадчык культпрасветаддзела ЦК КП(б) Беларусі. У ліст. 1937 пераведзены ў Саранск Мардоўскай АССР, дзе працаваў нам. наркама

асветы. 9.12.1937 арыштаваны НКВД Мардоўскай ССР і этапаваны ў Мінск. 28.6.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР асуджаны як «актыўны ўдзельнік антысавецкай арганізацыі правых і нацфашыстаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.8.1957.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БАЯРЧЫК Баляслаў Іванавіч*** [1872, в. Цацкі Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту юрыст Омскага губернскага ваенкамата. 7.10.1920 арыштаваны Омскай губернскай надзвычайнай камісіяй. Абвінавачваўся ў «прыналежнасці да падпольнай белагвардзейскай арганізацыі». 11.11.1920 справа Б. спынена, а ён вызвалены з-за недаказанасці злачынства. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 25.5.1995.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**БАЯРЫН Міхаіл Сцяпанавіч** [1922, Мінскай губ. — ?], артыст. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту саліст балета Беларускага дзяржаўнага ансамбля песні і танца (Гродна). Арыштаваны 18.5.1946. Асуджаны 7.8.1948 асобай нарадай НКВД як "сацыяльна-небяспечны элемент" да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў адзін з магаданскіх канцлагераў МДБ. Далейшы лёс невядомы. Рэабіліта-

ваны 29.4.1960 судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Б. № П-7143 захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**БЕЕЎ Мікалай Любімавіч*** [1891, Магілёў — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту загадчык сельскагаспадарчай арцелі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.9.1937 у працоўным пасёлку № 31 Акмолінскай вобл. 31.10.1937 асуджаны «тройкай» УНКВД Карагандзінскай вобл. за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Месца і дата смерці невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Цалінаградскага абл. суда 24.8.1967.

Кр.: *Хранить вечно*.

**БЕЙЛІН Абрам Рыгоравіч** [1886, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 1980, Масква], партыйны і гаспадарчы дзеяч. З яўрэйскай сям'і. Адукацыю атрымаў, як пісаў у анкетах, хатнюю. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 арыштаваны і асуджаны да 8 гадоў катаргі. Пасля трох гадоў катаржнага зняволення пакаранне было заменена турмой. Вызваліўшыся (1910), аднавіў партыйныя сувязі і працягваў рэвалюцыйную работу. У 1911—17 знаходзіўся на службе ў арміі, удзельнічаў у баявых дзеяннях на фронце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 узначаліў Невельскую бальшавіцкую арганізацыю, быў абраны старшынёй Невельскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Кастрычніцкі пераварот 1917 сустрэў у Петраградзе, куды прыехаў атрымаць парады, як змагацца з

контррэвалюцыйнай карнілаўшчынай. У Смольным сустрэўся з У. Ленiным, які падпісаў яму рэвалюцыйны мандат, з якім ён вярнууся ў Невель. Па яго просьбе на дапамогу невельскаму рэўкаму прыбыў атрад балтыйскіх матросаў, і карнілаўцы не толькі былі затрыманы, але асобныя іх воінскія часці раззброены. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады старшыня Надзвычайнай камісіі, кіраўнік павятовага камітэта бальшавіцкай партыі. З канца 1919 сакратар Полацкага павятовага камітэта бальшавіцкай партыі, старшыня павятовых рэўкама і выканкама. У час польска-савецкай вайны 1919—20 на фронце. З мая 1921 нам. старшыні Віцебскага губвыканкама. З 1924 адказны сакратар ЦКК КП(б)Б. У 1926—30 член бюро ЦК КП(б)Б, адказны сакратар Яўрэйскага бюро ЦК КП(б)Б. У 1929 выключаны з КП(б)Б, але неўзабаве адноўлены. З 1930 на рабоце ў ЦКК ВКП(б) у Маскве, затым у Казахстане і Татарыі. У 1937 рэпрэсаваны. Рэабілітаваны.

Літ.: Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002. С. 645; Полацк. Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн., 2002. С. 338.

**БЕКАРЭВІЧ Уладзімір Сяргеевіч*** [1892, в. Белая Дуброва Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 19.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык сектара (аддзела) Смаленскага прамысловага банка. Арыштаваны 21.7.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 10.10.1938 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БЕКЕР Гірш Майсеевіч*** [1879, Панявеж Ковенскай губ., цяпер Панявежыс, Літва — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], акцёр-фокуснік. З сям'і службоўца. Арыштаваны 15.10.1937. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 20.10.1937 як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 13.10.1989. Асабовая справа Б. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик.*

**БЕКЕР Саламон Аронавіч*** [27.2.1907, Плоцк Варшаўскай губ., цяпер Польшча — 3.11.1937, Мінск, НКВД], рэдактар. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў стыльрэдактарам у польскай мінскай газеце «Орка» («Ворыва»). Арыштаваны 29.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 87, кв. 38. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.10.1937 за «супрацоўніцтва з польскімі разведорганамі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Б. № 25505-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЕКІШ Іван Рыгоравіч*** [1891, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту заатэхнік Бутурскага мяса-малочнага саўгаса Краснаярскага (?) краю. Арыштаваны 17.5.1937.

Асуджаны судом Краснаярскага краю 17.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Месца і дата смерці невядомы. Рэабілітаваны пастановай прэзідыума Вярхоўнага суда РСФСР у 1961.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия*.

**БЕЛАВУСАЎ Мікалай Сямёнавіч*** [май 1890, в. Парфёнаўка Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 16.7.1942, Марыінск, ГУЛАГ], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладаў у Інстытуце журналістыкі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.7.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да 15 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Кемераўская вобл. (Марыінск). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.12.1958. Асабовая справа Б. № 13533-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БЕЛАЗОРАЎ Віктар Сяргеевіч** [1886, Варонеж, Расія — 28.2.1938, Масква, НКВД], музыкант, вайсковец. З шляхецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1930-я г. дырэктар духавога аркестра пры штабе ваенізаванай аховы ў г. Свабодны Амурскай вобл. Арыш-

таваны 22.11.1937 у пас. Угодскі завод Маскоўскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД 15.2.1938 за «шпіёнска-разведвальную працу на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.4.1989. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БЕЛАКОЗ Іван Восіпавіч** [1905, в. Юраўляны Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 4.11.1937, Томск, НКВД], студэнт. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту вучыўся ў адным з томскіх інстытутаў. Арыштаваны 22.8.1937. Асуджаны 18.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай латышскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.2.1959.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

Кр.: *Боль людская.*

**БЕЛАПОЛЬСКІ Аляксандр Абрамавіч*** [1887, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — ? ], хімік (?). З мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне (на баку бальшавікоў). Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту член прэзідыума Віцебскага раённага аддзела Саюза хімікаў. Арыштаваны 25.3.1925. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 10.8.1925 як былы «сакрэтны супрацоўнік Віленскага губернскага жандармскага ўпраўлення» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракура-

турай Віцебскай вобл. 25.5.1992. Асабовая справа Б. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**БЕЛАРУСАЎ Аляксей Аляксандравіч*** [1898, в. Пятроўцы Бабруйскага пав. Мінскай губ, цяпер Кіраўскі р-н Магілёўскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. Падчас арышту начальнік акруговага ваеннага склада № 161, інтэндант 2 рангу. Арыштаваны ў Ленінградзе 2.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «контррэвалюцыйную і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог. Электронная книга памяти.* СПб., 2003.

**БЕЛЕНЬКІ Рыгор Якаўлевіч** [1885, мяст. Свержань Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 14.3.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху, верагодна, брат Абрама і Яўхіма *Беленькага*. З сям'і службоўца. З юнацкіх гадоў пад уплывам мінскіх рабочых-рамеснікаў уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. Арыштаваны ў чэрв. 1903. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да Мінскай арганізацыі Бунда і распаўсюджванні нелегальнай літаратуры. Сасланы на 3 гады ў Архангельскую губ. Вызвалены па маніфесту 1904, вярнуўся ў Мінск, дзе прыняў актыўны ўдзел у дзейнасці мясцовай арганізацыі бальшавікоў. У час рэвалюцыі 1905—07 некалькі разоў арыштоўваўся. У чэрв. 1905 пераехаў у Вільню, затым у Пецярбург. Нелегальна вёў рэвалюцыйную работу ў Дзвінску і Коўне. У сак. 1910 арышта-

ваны за прыналежнасць да Дзвінскай ваеннай арганізацыі і сасланы ў Енісейскую губ. Адтуль уцёк і выехаў у Парыж. У 1914—17 з'яўляўся сакратаром Парыжскай секцыі бальшавікоў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Расію. Актыўны ўдзельнік Кастрычніцкага перавароту 1917 ў Маскве. Да 1925 сакратар Краснапрэсненскага райкама РКП(б), затым загадчык агітпрапа ў выканкаме Камінтэрна. Пасля XIV з'езда ВКП(б) (снеж. 1925) прымкнуў да групы Зіноўева-Каменева-Троцкага. За актыўную апазіцыйную дзейнасць выключаны з ВКП(б), але хутка адноўлены. У 1936—37 дырэктар Інстытута павышэння кваліфікацыі гаспадарнікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў мясцовай прамысловасці. Арыштаваны 18.9.1937 у Маскве па адрасе: Сіўцаў Вражак зав., д. 15/25, кв. 66. Асуджаны 14.3.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.6.1956.

Тв.: В рядах РСДРП // Каторга и ссылка. 1925. № 4.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Літ.: Деятели революционного движения в России: Биобиблиографический словарь. М., 1931. Т. 5. Вып. 1; *Попов И.В.* Воспоминания. 2-е изд. М., 1989; Воспоминания о В.И.Ленине. Т. 4. М., 1990; *ЭГБ*, т. 1.

**БЕЛЕНЬКІ Яўхім Якаўлевіч** [1875, мяст. Свержань Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 25.6.1967, Масква], удзельнік рэвалюцыйнага руху Беларусі, верагодна,

брат Абрама *Беленькага* і Рыгора *Беленькага.* З сям'і службоўца. Быў членам Бунда, іскраўскай групы ў Мінску (з 1901). Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Мінскай арганізацыі РСДРП. Удзельнічаў у стварэнні падпольнай друкарні Паўн.-Зах. камітэта РСДРП. Удзельнічаў у 1-й расійскай рэвалюцыі 1905—07. У снеж. 1905 з'яўляўся членам Мінскага кааліцыйнага савета па кіраўніцтву забастоўкай чыгуначнікаў. У 1906 сакратар Магілёўскага акруговага камітэта РСДРП, потым на падпольнай партыйнай рабоце ў Кіеве і Екацярынаславе. Двойчы арыштаваны (1902 і 1904), у 1907 сасланы ў Валагодскую губ. У 1909 уцёк з ссылкі і нелегальна жыў у Пецярбургу. Удзельнічаў у Лютаўскай рэвалюцыі і Кастрычніцкім перавароце 1917. Працаваў у ВСНГ у 1918—21, а потым у 1922—39 у наркамаце фінансаў СССР.

Тв.: Октябрь на Пресне. Воспоминания. М., 1922.

Літ.: Деятели революционного движения в России: Биобиблиографический словарь. М., 1931. Т. 5. Вып. 1; *ЭГБ*, т. 1.

**БЕЛЕНЬКІ Абрам Якаўлевіч** [1883, мяст. Свержань Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 16.10.1941, Масква, «Камунарка», НКВД], супрацоўнік НКВД, верагодна, брат Рыгора *Беленькага* і Яўхіма *Беленькага.* З сям'і службоўца. Атрымаў пачатковую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту памочнік (нам.) асобнаўпаўнаважанага НКВД СССР. Арыштаваны 9.5.1938 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2 (Дом урада), кв. 53. Асуджаны 7.7.1941 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай змове ў НКВД» да ВМП. Расстраляны. Рэабіліта-

ваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.5.1956.

*Кр.: Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БЕЛЫ Міхаіл Міхайлавіч*** [н. 1931 (паводле іншых звестак 1933), в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.], студэнт. З сялянскай сям'і. Пляменнік Якуба *Коласа*, брат Лявона *Белага*, разам з якім распаўсюджваў у 1957 у Мінску лістоўкі ў абарону бел. мовы і з заклікамі да беларусаў аб вызваленні. Падчас арышту вучыўся ў Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі. Арыштаваны 19.4.1957 у Мінску па адрасе: вул. Бабруйская, д. 20, кв. 303. Асуджаны 27.6.1957 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў (заменены на 4 гады пазбаўлення волі). Этапаваны ў Дуброўны (былы Цемнікаўскі) канцлагер Мардоўскай АССР. Вызвалены ў маі 1960. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда Беларусі 18.6.1992. Асабовая справа Б. № 34949-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *ДА РФ.* Ф. 8131, воп. 31, спр. 82756.

Літ.: *58*[10], с. 335.

**БЕЛЫ Георгій Уладзіміравіч*** [1928, Мінск — ?], навучэнец. З сям'і рабочага. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту вучобу, верагодна, сумяшчаў з работай токарам на Мінскім за-

водзе імя Варашылава. Арыштаваны 31.12.1944. Асуджаны 19.1.1947 (?) як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі «Саюз беларускай моладзі» да 3 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 1.4.1992 прэзідыумам Мінскага абл. суда. Асабовая справа Б. № 33019-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЕЛЫШАЎ Яўстрат Яфрэмавіч*** [1893, в. Замяселле Себежскага пав. Віцебскай губ., цяпер Пскоўская вобл., Расія — 25.2.1938, Іркуцк, НКВД], аграном. З бел. сям'і. Падчас арышту аграном Слюдзянскага раённага заатэхнічнага аддзела. Арыштаваны 12.1.1938 у г. Слюдзянку Іркуцкай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД Іркуцкай вобл. 22.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пастановай ваеннага трыбунала Забайкальскай ваеннай акругі 14.12.1956.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

Кр.: *Жертвы политических репрессий Иркутской области*.

**БЕЛЬЧАНКА Баніфацый Рыгоравіч*** [1895, в. Асарэвічы Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Брагінскі р-н Гомельскай вобл. — 12.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1921 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар 2-й Пскоўскай МТС. Арыштаваны 11.6.1937 у Пскове. Адначасова выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай «тройкай» НКВД 4.11.1937

за «антысавецкую агітацыю» і «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БЕЛЯНЕЦ Станіслаў Міхайлавіч*** [1890, в. Цінавічы Аўгустоўскага пав. Сувалкаўскай губ., цяпер Польшча — 1.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Маскоўскага завода трыкатажных машын. Арыштаваны 22.5.1938 у Маскве па адрасе: Ленінградскае шасэ, д. 92, кв. 46. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.1.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

**БЕНЕК Казімір Францавіч** [24.1(5.2).1895, в. Радашавічы Вялюньскага пав. Калішскай губ., цяпер Лодзінскае ваяв., Польшча – лют. 1938, НКВД, Мінск], дзяржаўны дзеяч. З 17 гадоў прымаў удзел у рэвалюцыйным руху, у 1914 за распаўсюджанне антыўрадавых лістовак арыштаваны і зняволены ў Модлінскую крэпасць, адкуль здолеў уцячы. Працаваў на заводах Крывога Рога, Екацярынаслава. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 у Каменскім (Украіна), дзе ўступіў у РСДРП(б); абраны сакратаром выканкама гарадскога Савета; памочнік (нам.) ваенкама раёна, член гарадской Думы, камісар па польскіх справах. Удзельнічаў у Кас-

трычніцкім пераваroце 1917 ў Маскве, куды прыехаў на канферэнцыю СДКПіЛ. Вясной 1918 ваяваў супраць нямецкіх акупантаў у чырвонагвардзейскім атрадзе. Са снеж. 1918 камісар камандных курсаў Заходняй стралковай дывізіі, нам. начальніка палітаддзела 8-й дывізіі, інструктар палітаддзела 16-й арміі. У 1920—23 сакратар Магілёўскага павятовага камітэта кампартыі, старшыня Магілёўскага павятовага выканкама, загадчык аддзела кіравання Гомельскага губернскага выканкама. Падчас партыйнай чысткі 1921 абвінавачаны ў «пралетарскай ненадзейнасці, нацыяналістычных, сялянскіх ухілах» і ў «шпіянажы». Толькі высокі аўтарытэт Б. сярод сваіх таварышаў дазволіў яму тады пазбегнуць рэпрэсій. З 1923 знаходзіўся ў распараджэнні ЦК РКП(б), затым працаваў сакратаром Барысаўскага павятовага камітэта Кампартыі Беларусі. З 1924 у органах партыйна-дзяржаўнага кантролю: член ЦКК КП(б)Б і яе прэзідыума, член калегіі наркамата рабоча-сялянскай інспекцыі БССР. У 1927—29 наркам працы, у 1929—30 наркам гандлю, у 1933—37 наркам земляробства БССР. У 1930—34 нам. старшыні СНК БССР, у 1930—37 член бюро ЦК КП(б)Б, член ЦВК СССР (з 1931). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 25.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, 2-і Дом Саветаў, кв. 9. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. У ходзе следства спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.10.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» і «правядзенні шкодніцкай работы ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.11.1956. Асабовая справа Б. № 7998-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2; Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002. С. 645; *Нестерович Н.* Потенциально опасен… // Белорусская нива. 1992. 17 марта; *Ён жа.* Почему они оговорили себя и других // *Знамя юности.* 1992. 4 сент.; *Бусько Н.* Дважды обвиненный // *Человек и экономика.* 1997. № 2. С. 40—41; *БЭ*, т. 3; *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001.

**БЕРАЗНЯК Хаім Вульфавіч*** [1896, Брэст — 13.04.1938, Мінск, НКВД], мастак. З сям'і службоўца. Працаваў мастаком-дэкаратарам у ГУМе Мінска. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 6, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.3.1938 як «агент германскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 2.10.1957. Асабовая справа Б. № 11008-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЕРГМАН Сцяпан Сямёнавіч** [сапр.: Эпштэйн; 9.3.1904, Вільня — 14.10.2000, Польшча), удзельнік рабочага руху, публіцыст, перакладчык, муж Аляксандры *Бергман*. З сям'і друкара. З юнацтва ў рабочай маладзёжнай арганізацыі «Юганд» у Вільні, са снеж. 1919 член Саюза камуністычнай моладзі. У ліп. 1920 як член гарадскога камітэта СКМ пакінуты ў падполлі ў Вільні. Працаваў друкаром, выконваў абавязкі сакратара Цэнтральнага бюро маладзёжнай секцыі КСМ пры прафсаюзе. У 1922 арыштаваны дэфензівай за арганізацыю перадвыбарчага мітынгу блокам «Саюзу пралетарыяту

гарадоў і вёсак». З 1923 у шэрагах КПЗБ. Па заданні партыі арганізаваў падпольную друкарню. З вер. 1924 працаваў у Беластоку як кіраўнік друкарні ЦК КПЗБ. Арыштаваны ў снеж. 1924. У 1925 Віленскім акруговым судом асуджаны да 3 гадоў пазбаўлення волі. У час зняволення ў Лукішках член турэмнага камітэта і адзін з рэдактараў-выдаўцоў часопіса палітзняволеных «Лукішскі сцяг». Са жн. 1928 сакратар Гродзенскага падпольнага гаркама КПЗБ. У 1930 накіраваны ў Маскву на вучобу ў міжнародную ленінскую школу пры Камінтэрне. У вер. 1931 вярнуўся ў Польшчу, працаваў у сакратарыяце ЦК КПЗБ. У 1932—34 узначальваў нацыянальны аддзел ЦК КПЗБ, у 1932 удзельнічаў у VI (апошнім) з’ездзе КПП. У 1933 кіраваў краёвай рэдакцыяй ЦК КПЗБ, друкаваўся ў падпольным друку Зах. Беларусі. У 1934 эміграваў у СССР. Працаваў інструктарам прэсы ў Мінскім гарадскім камітэце КПБ, у 1935 — супрацоўнік палітаддзела бел. чыгункі. 6.11.1935 арыштаваны. Высланы ў Магаданскі край. У ліп. 1938 прывезены ў Мінск на даследаванне. Сядзеў у адной камеры з Кузьмой *Чорным*. Вызвалены ў ліст. 1940. У 1956 рэабілітаваны. У крас. 1945 выехаў у Польшчу. Адзін з арганізатараў выдавецтва «Ксёнжка» ў Лодзі, пазней вядомага як выдавецтва «Książka i wiedza». Працаваў загадчыкам рэдакцыі перакладаў. Рэдактар і перакладчык твораў класікаў марксізму на польскую мову. Дапамагаў жонцы ў даследаванні і публікацыі яе работ пра нацыянальна-вызваленчы і рэвалюцыйны рух Зах. Беларусі 1920—30-х г. Апублікаваў з пасляслоўем «Беларускія палітычныя пастулаты» Б.*Тарашкевіча*. У «Слоўніку біяграфічным дзеячаў польскага рабочага руху» надрукаваў 8 нарысаў-персаналій дзеячаў

СДКПіЛ, а таксама Бунда. Падрыхтаваў кнігу ўспамінаў Ю.Лукашэвіча «Першага сакавіка 1887 г.», выдадзеную ў Варшаве ў 1981. У яўрэйскай газ. «Folks Sztyme» надрукаваў шэраг артыкулаў пра ўдзельнікаў рабочага руху даваеннага часу. Пераклаў «Дзённікі віленскага гета» А.Суцкевера, «Дарогай залатых сонцаў» М.Дварэцкага, кн. М.Драгаманава «Гістарычная Польшча і вялікаруская дэмакратыя».

Літ.: *ЭГБ,* т.6—2

**БЕРЗІН Аўгуст Іванавіч*** [1898, в. Сылдыбшас, цяпер Латвія — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1920-я г. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 11.8.1933 у Горках па адрасе: вул. Першамайская, д. 7, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі «БНЦ» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 21.10.1934. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа Б. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЖАСТОЎСКІ Міхал** [? — 1800, Кёнігсберг, Прусія], паліт. дзеяч. З шляхецкага роду герба «Стрэмя». У маладосці, верагодна, служыў у французскім войску. У 1782 быў паслом на Сейм ад Ваўкавыскага пав. Трымаў староствы Пуньскае, Доўгаўскае, Араньскае; Каняўскае староства саступіў прускаму каралю за 10 тыс. талераў штогадовай рэнты. Быў жанаты са сваёй стрыечнай сястрой Барбарай — удаве Юрыя Патоцкага. У 1791

атрымаў ад караля ордэн св. Станіслава. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1793—94. Арыштаваны ў Вільні 12.4.1794, вывезены ў Смаленск, дзе знаходзіўся ў зняволенні 15 месяцаў. Паводле прысуду 20.6.1795 вызвалены, перададзены на парукі. Выехаў у Кёнігсберг.

Літ.: *PSB*, III, z. 1.

**БЖОЗА Юлій Германавіч** [1899, Ломжа, цяпер Польшча — 4.1.1938, Мінск або Віцебск, НКВД], педагог. Да 1917 працаваў настаўнікам. Са жн. 1917 да ліст. 1918 вучыўся ў Страсбургскім ун-це на прыродазнаўча-біялагічным ф-це. Са снеж. 1918 працаваў на вячэрніх курсах лектарам па прыродазнаўству і гісторыі культуры рабочага Дома Яўрэйскай сацыял-дэмакратычнай партыі «Паалей-Цыён» у Ломжы. У снеж. 1919 прызваны ў польскую армію. Служыў у Ломжы і Слоніме, адкуль у маі 1920 дэзерціраваў. Настаўнічаў у народнай школе ў Слонімскім пав. Гродзенскай губ. Са жн. 1920 старшыня камітэта Яўрэйскай камуністычнай партыі «Паалей-Цыён» у Навагрудку, затым інструктар ЦК ЯКП «Паалей-Цыён» у Мінску і Маскве. З кастр. 1921 настаўнік яўрэйскай школы ў Оршы, з восені 1923 на партыйнай рабоце — нам. загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды Аршанскага павятовага камітэта Кампартыі Беларусі, затым у Віцебскім акружкаме КП(б)Б. У вер. 1925 перайшоў на выкладчыцкую работу ў Віцебскі ветэрынарны інстытут — працаваў загадчыкам кафедры марксізму-ленінізму. Пазней узначальваў такія ж кафедры ў Віцебскім педагагічным і Віцебскім медыцынскім інстытутах. 5.11.1937 арыштаваны НКВД БССР. Праз тыдзень Віцебскім гаркамам выключаны з

партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 3.1.1938 як «член шпіёнскай арганізацыі», «вораг народа» і за «контррэвалюцыйную дзейнасць»да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.6.1955. Асабовая справа Б. № 8462-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**БІКУС Георгій Аляксандравіч*** [1896, ? — 29.10.1937, Астрахань, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзела кадраў Паўночна-Каспійскага ўпраўлення «Мотарыбцэнтр». Арыштаваны ў Астрахані. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 12.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1989.

Кр.: *Из тьмы забвения*.

**БІЛЬДЗЮКЕВІЧ Лявон Леанідавіч*** [6.1.1895, мяст. Івянец, цяпер г. п. у Валожынскім р-не Мінскай вобл. — 18.8.1942, ГУЛАГ], навуковец. З сям'і службоўца. Скончыў Кіеўскі ун-т. Працаваў навуковым супрацоўнікам у Беларускім політэхнічным інстытуце. Ажаніўся, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 20.6.1938 у Мінску па адрасе: вул. Сляпянская, д. 15, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 15.8.1939 як «удзельнік контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 28.8.1956. Справа Б. № 7928-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 6—2.

**БІНДЗЮК Павел Мікалаевіч** [12.2.1889 — 1937 (?), Ліпецк, НКВД], дзеяч народнай асветы. Пасля настаўніцкай школы ў Шчучыне (1908) працаваў на ніве народнай адукацыі. З пачаткам 1-й сусветнай вайны прызваны ў армію, у якой служыў да снеж. 1917. Пасля дэмабілізацыі прыехаў у Дзісну, працаваў у аддзеле народнай адукацыі. З наступленнем нямецкіх войск у лют. 1918 эвакуіраваўся ў Ліпецк, дзе працаваў да сак. 1920 у органах асветы. З вызваленнем Беларусі ад польскіх войскаў пераехаў у Вільню, дзе ўзначальваў адну з бел. школ, затым выкладаў у Віленскай гімназіі. З 1924 у Мінску, працаваў справаводам у наркамасветы і выкладаў на рабочым ф-це БДУ. У 1928 накіраваны ў Віцебск дэканам рабфака. Арыштаваны ДПУ БССР на сваёй кватэры 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». На следстве вінаватым сябе не прызнаў. 10.4.1931 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР асуджаны да 3 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Пасля вызвалення працаваў фрэзероўшчыкам на Ліпецкім механічным і мотарамонтным заводзе. У другой палове 1930-х г. зноў арыштаваны і за «здраду радзіме» асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*.

Кр.: *Помнить поименно. Книга памяти жертв политических репрессий Липецкого края с ноября 1917 года*. Липецк, 1997. Т. 1.

**БІРУЛЯ Антон Антонавіч*** [1901, в. Кобзевічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 30.6.1938, Мінск, НКВД], вайсковец. З сялянскай сям’і. З 1919 служыў у Чырвонай арміі. У

1921 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. палкоўнік, камандзір артылерыйскага палка 2 стралковай дывізіі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 19.12.1937 у пасёлку Козырава (цяпер р-н вул. Вялікаморскай у Мінску). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.6.1938 як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.11.1956. Асабовая справа Б. № 10473-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БІРЫЧ Аляксандр Самуілавіч** [1904, в. Куплін Пружанскага пав., Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 15.9.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту інспектар Камітэта па кіраванню навучальнымі ўстановамі. Арыштаваны 14.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Герцэна, д. 26/2, кв. 53. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.9.1957.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БІСПІНГ Казімір Іосіфовіч** [24.2.1887, маёнтак Струбніца Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], вайсковец. З шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Служыў

у царскай і польскай арміях. Быў жанаты, меў траіх дзяцей. Арыштаваны 12.10.1939 ва ўласным маёнтку. Асуджаны 3.2.1941 асобай нарадай НКВД за «ўдзел у барацьбе з Чырвонай арміяй» да 8 гадоў ППК і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 6.12.1993 прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі. Асабовая справа Б. № П-20487 захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**БІЮЦ Аляксандр Ільіч*** [1901, в. Лядкі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік штаба проціпаветранай і хімічнай абароны Чарнігаўскіх халадзільнікаў (?). Арыштаваны 21.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: 1-я Чырвонаармейская вул., д. 10, кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 за «шпіёнскую контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БЛАДЫКА Нічыпар Міхайлавіч** [1889, в. Рамашка (?) Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу. З 14 гадоў працаваў землякопам, лесарубам, конюхам, рабочым на

чыгунцы. У 1918 уступіў у Чырвоную армію, стаў членам ВКП(б). Нейкі час быў агентам па рэквізіцыі хлеба і жывёлы ў «кулакоў». З 1922 камандзір узвода часцей асобага прызначэння, якія былі створаны для падаўлення антыбальшавіцкіх мецяжоў. У сярэдзіне 1920-х г. накіраваны на вучобу ў Ціміразеўскую сельскагаспадарчую акадэмію ў Маскве, потым у аспірантуру Усесаюзнага навукова-даследчага сельскагаспадарчага (?) інстытута. Пасля яе сканчэння (1933) выкладаў у Камуністычным ун-це народаў Захаду. З кастр. 1934 аспірант, а з 1935 сакратар партарганізацыі Інстытута эканомікі БелАН. У 1937 прызначаны старшынёй савета па вывучэнні вытворчых сіл БССР. З ліп. 1937 рэктар БДУ. 10.10.1937 на партыйным сходзе БелАН атрымаў строгую вымову за «страту бальшавіцкай пільнасці». 19.12.1937 зняты з работы. У лют. 1938 накіраваны ў Ніжне-Ноўгарадскі сельскагаспадарчы інстытут. Арыштаваны ў чэрв. 1938. Асуджаны 5.8.1939 да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны на Калыму. Вызвалены ў кастр. 1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.4.1957. Асабовая справа Б. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 60—67.

**БЛАЖЭВІЧ Іван Антонавіч** [1899, Віленская губ. — 26.4.1937, Масква, «Камунарка», НКВД], педагог. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту працаваў у Школе ўдасканалення камандзірскага саставу НКВД СССР. Арыштаваны 20.9.1937 у Маскве па адрасе: Ленінградская шаша, д. 3/5,

кв. 110. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.4.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Галоўнай ваеннай пракуратурай РФ 21.4.1992.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БЛАЖЭВІЧ Іосіф Францавіч** [13(25).9.1891, в. Навасёлкі Трокскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 8.5.1939 (паводле іншых звестак 16.3.1939), Масква, НКВД], савецкі ваеначальнік. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Віленскае ваеннае вучылішча (1913). Быў камандзірам роты, батальёну, загадчыкам падрыхтоўчых курсаў 5-й арміі Паўночнага фронту. У 1917 накіраваны ў акадэмію генштаба. Пасля Кастрычніцкага перавароту абраны камандзірам батальёна. З кастр. 1918 на Усх. фронце, камандзір дывізіі. З ліст. 1921 камандуючы вайскамі 1-й арміі Туркестанскага фронту. З 1926 працаваў у штабе РС ЧА. Падчас арышту выконваў абавязкі начальніка Упраўлення супрацьпаветранай абароны Чырвонай арміі. Быў кандыдатам у члены ЦВК БССР. Арыштаваны 18.2.1938 у Маскве па адрасе: Чыстыя Пруды, д. 12/5, кв. 3. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.3.1939 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 25.8.1956.

Літ.: *Расстрельные списки: Донское кладбище; ЭГБ,* т. 2.

**БЛЕЦКА Уладзімір Пятровіч*** [1905, в. Карзюкі Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], службовец, ра-

ботнік тэатра. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Першым беларускім драматычным тэатры. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Жыў у Мінску па адрасе: вул. Полацкая, д. 19. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.1.1943 (?). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.7.1943 як «сакрэтны агент нямецкай разведкі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Абаканскага р-на Краснаярскага краю. Вызвалены 3.1.1950. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 4.4.1990. Асабовая справа Б. № 30741-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БЛІЗНЮК Восіп*** [12.11.1930, в. Шаматова Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1.8.1994, Смаргонь Гродзенскай вобл.], удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху. Нарадзіўся ў шматдзетнай сялянскай сям’і. Вучыўся ў Смаргонскай школе. У пачатку 1950 за ўдзел у падпольнай антыкамуністычнай арганізацыі смаргонскіх школьнікаў арыштаваны. Летам таго ж года асуджаны трыбуналам БВА да 25 гадоў папраўча-працоўных работ. Пасля смерці Сталіна вызвалены і вярнуўся ў родную вёску.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Чарняўскі М.М.* Да гісторыі Мядзельска-Смаргонскага вучнёўскага падполля // *Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі:* Матэрыялы нав.-практ. канферэнцыі (Мінск, 27—28 лютага 1998 г.). Мн., 1998; *Антысавецкія рухі*.

**БЛІЗНЮК Сцяпан Андрэевіч*** [1905, в. Падлессе Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту эканаміст Дзяржплана Казахскай ССР. Арыштаваны ў Алма-Аце па адрасе: вул. Талгарская, д. 24. Асуджаны «тройкай» НКВД 12.10.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Туркестанскай ВА 25.5.1989.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга Скорби.*

**БЛІНЧЫКАЎ Моталь Абелевіч** [13(25).3.1896, Краслава, цяпер Латвія — 11.11.1935], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. У рэвалюцыйным руху з 1912. Знаходзіўся пад уплывам Бунда. У 1916—17 праводзіў рэвалюцыйную работу ў царскай арміі, за што неаднойчы арыштоўваўся. З 1919 у Чырвонай арміі — нам. начальніка палітаддзела 17-й дывізіі на Зах. фронце. З канца 1920 нам. наркама працы БССР. У ліст. 1921 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь — з'яўляўся сакратаром Беластоцкага акруговага камітэта Кампартыі Польшчы. У 1922—28 зняволены ў турмах Польшчы. Пасля выхаду на волю зноў на партыйнай рабоце ў падполлі. У 1928—35 член Бюро ЦК КПЗБ, кіраўнік Краявога сакратарыята ЦК Кампартыі Зах. Беларусі. Быў дэлегатам 1-га і 2-га з'ездаў КПЗБ, якія адбыліся ў 1928 і 1935.

Тв.: *Якаўлеў Л.* Заходняя Беларусь. Мн., 1931; Што такое «Прампартыя» і за што яе судзіў Вярхоўны суд СССР. Мн., 1931.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Орехво Н.С.* Дела и люди КПЗБ: Воспоминания. Мн., 1983; *Валахановіч А.І., Міхнюк У.М.* Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Бранїслава Тарашкевіча. Мн., 1999. С. 171; *ЭГБ,* т. 2; *БЭ*, т. 3.

**БЛОЦІЧ Рыгор Міхайлавіч** [1899, в. Шані Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 28.10.1937, Томск, НКВД], журналіст. Падчас арышту загадчык сельскагаспадарчага аддзела газ. «Красное знамя». Арыштаваны 11.3.1937 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.10.1937 як «член трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны 28.10.1937. Рэабілітаваны 22.4.1958.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Боль людская.*

**БОБРЫК Дзмітрый Рыгоравіч*** [снеж. 1900, в. Хатунічы (?) Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі (?) р-н Гродзенскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік БелАН. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны ў Мінску 1.11.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 20.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» на 3 гады пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.7.1961. Асабовая справа Б. № 17157-с з яго фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БОГАН Павел Наркісавіч** [1905, в. Стахаўка Віленскай губ., цяперашняе месцазнаходжанне не ўста-

ноўлена — 9.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інжынер-нарміроўшчык Шчолкаўскага хімічнага завода. Арыштаваны 13.11.1937 у Маскве па адрасе: Ружэйны зав., д. 43, кв. 13. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 1.12.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 28.11.1989. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Літ.: *Бутовский Полигон.*

**БОГУШ Міхал (Францішак Ксавэры Міхал)** [1.1.1746, Вілкамірскі пав. Віленскага ваяв., цяпер Літва — 4.4.1820], філосаф, гісторык, тэолаг, пісьменнік, паліт. дзеяч. Скончыў езуіцкі калегіум і Віленскую езуіцкую акадэмію. Пасля забароны ў Рэчы Паспалітай у 1773 Ордэна езуітаў застаўся без заняткаў. Прыняў прапанову графа А. Тызенгаўза стаць хатнім настаўнікам яго сям'і, вандраваў з ім па Германіі, Францыі, Італіі. Пасля адстаўкі Тызенгаўза жыў у Вільні, займаўся навукай. У час Барскай канфедэрацыі 1768—1772 яе генеральны сакратар. Узяў удзел у паўстанні 1794, за што ў крас. таго ж года арыштаваны і зняволены ў Чарнігаве. Летам 1794 перавезены ў Смаленск у распараджэнне следчай камісіі. Амнісціраваны, вярнуўся ў Вільню, стаў прэлатам. Апошнія гады жыў і працаваў у Варшаве. Член Таварыства аматараў навук, ганаровы член шматлікіх еўрапейскіх навуковых таварыстваў. Аўтар прац: «Філосаф без рэлігіі» (1785), «Успаміны пра Антонія Тызенгаўза» (1820) і інш. Шэраг твораў Б. засталіся неапублікаванымі.

Літ.: *Bieliński J.* Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 2. Kraków, 1899—1900; *Емяльянчык У.* Паланез для касінераў. Мн., 1994; *ЭГБ*, т. 2.

**БОКША Георгій Іванавіч** [1896, Петракова, цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 31.10.1937, Масква, НКВД], педагог. З сям'і бел. служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык матэматыкі ў Шчолкаўскім хімічным тэхнікуме. Арыштаваны 26.9.1937 у Шчолкаве Маскоўскай вобл. па адрасе: вул. Пралетарская, д. 22. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.10.1937 за «актыўную контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 19.7.1989. Асабовая справа Б. захоўваецца ў ДА РФ.

Літ.: *Бутовский Полигон.*

**БОЛВАХ Пракоп Васілевіч*** [1897, в. Навасёлкі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інспектар аддзела рэзерваў УНКВД Ленінградскай вобл. Арыштаваны 25.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Фінскі зав., д. 6, кв. 19. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі»да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Станіслаў Ігнатавіч*** [1877, в. Вязавец Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец, брат Яўгена *Бонч-Асмалоўскага*. Падчас арышту сакратар Архонскага сельсавета. Асуджаны 27.5.1927 асобай нарадай АДПУ да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. РСО — Алания*. Владикавказ, 1999. Т. 1.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Яўген Ігнатавіч*** [1874, в. Вязавец Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 14.3.1938, Смаленск, НКВД], лекар, брат Станіслава *Бонч-Асмалоўскага*. Працаваў ветэрынарным урачом. Арыштаваны 5.2.1938 у Ельні Смаленскай вобл. Асуджаны 3.3.1938 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**БОНЧ-БАГДАНОЎСКІ Аляксандр Аляксеевіч*** [1872, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1920-я г. дырэктар Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 4.5.1931 у Віцебску па адрасе: вул. Ветэрынарная, д. 9. Абвінавачваўся як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі ў сістэме наркамата аховы здароўя БССР».

29.1.1932 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР вызвалены. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Б. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БОНЧ-БРУЕВІЧ Пётр Аляксеевіч* [**1879, Магілёў — 21.10.1937, Масква, НКВД], юрыст. З дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — юрысконсульт Усесаюзнай канторы «Спецбуд» наркамата лёгкай прамысловасці СССР. Арыштаваны 29.8.1937 па адрасе: Масква, Арбат, Вялікі Магільцэўскі зав., д. 8, кв. 12. Асуджаны «тройкай» УНКВД Маскоўскай вобл. за «контррэвалюцыйную агітацыю» 17.10.1937 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.6.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БОХАН Дарафей Лукіч*** [1905, в. Прынта Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. – 27.11.1937, Ленінград, НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік навукова-эксперыментальнай станцыі Ленінградскага завода пластмас. Арыштаваны ў Ленінградзе 20.8.1937 па адрасе: Васільеўскі востраў, 11-я лінія, д. 56а, кв. 21. Асуджаны 22.11.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БОХАН Соф’я Іванаўна*** [15.9.1912, мяст. Койданава Мінскага пав., цяпер райцэнтр Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], педагог. Атрымала сярэднюю адукацыю. Уступіла ў ВЛКСМ. Працавала настаўніцай у Дзяржынскай СШ. У 1930-я г. член ЦВК БССР, дэлегат VII Надзвычайнага з’езда Саветаў. Арыштавана 7.8.1937 у Дзяржынску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 68. Асуджана 21.10.1937 асобай нарадай пры НКВД за «сувязі з членамі ПАВ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалена 26.2.1940. Рэабілітавана. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № 10890-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БРАГІН Абрам Рыгоравіч*** [1893, мяст. Маластоўка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ, цяпер райцэнтр Краснаполле Магілёўскай вобл. – 10.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дырэктар аднаго з маскоўскіх навукова-даследчых інстытутаў. Арыштаваны 2.12.1937 у Маскве па адрасе: вул. Троіцкая, д. 6, кв. 7. Асуджаны 9.2.1938 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.11.1955.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БРАЗОЎСКІ Міхаіл Дзям'янавіч*** [1913, в. Быковічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 21.10.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту загадчык механізацыі дзяржаўнага млына. Арыштаваны 30.4.1937 у Томску. Асуджаны 4.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.11.1959.

Кр.: *Боль людская.*

**БРАЗОЎСКІ Сяргей Андрэевіч*** [1914, в. Быковічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт 1-га курса Свярдлоўскага мастацкага вучылішча. Арыштаваны 21.8.1937. Асуджаны 4.12.1937 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**БРАНЯВІЦКІ Сцяпан Юльянавіч*** [1893, в. Танежыцы (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту эканаміст Ямскога будаўнічага камбіната. Арыштаваны 29.8.1937 на ст. Ям Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БРАНЯВІЦКІ Уладзімір Іванавіч*** [1927, Баранавічы Навагрудскага ваяв., цяпер Гродзенскай (?) вобл. — ?], літаратар, журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Падчас арышту літаратурны супрацоўнік баранавіцкай раённай газ. «Чырвоная звязда». Быў жанаты. Арыштаваны 29.12.1957 у Баранавічах па адрасе: зав. Пархоменкі, д. 5. Асуджаны 28.2.1958 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Пакаранне адбываў у Брэсцкай турме. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі 5.1.1993. Асабная справа № 12072-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БРАНШТЭЙН Янкель Ізраілевіч*** [1929, мяст. Грозава Грэскага р-на Мінскай вобл., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 30.6.1963, Ленінград, бальніца закрытага тыпу], службовец. З сям'і служачага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у КПСС. Падчас арышту майстар цэха на Пінскім птушкакамбінаце. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 30.8.1962 у Пінску па адрасе: вул. З. Касмадзям'янскай, д. 61, кв. 19. Абвінавачваўся ў «спекуляцыі валютнымі каштоўнасцямі». Асуджаны 9.3.1963 да прымусовага псіхіят-

рычнага лячэння. Змешчаны ў бальніцу закрытага тыпу, дзе скончыў жыццё самагубствам. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 20.8.1963. Асабовая справа Б. № 18117-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БРЖАЗОЎСКІ Рамуальд Францавіч*** [1915, Мінск — 29.11.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту карэспандэнт польскай мінскай газ. «Орка» («Ворыва»). Арыштаваны 14.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 117, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 3.1.1938 за «антысавецкую агітацыю і шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 30.4.1989. Асабовая справа Б. № 27744-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРУК Веніямін Сымонавіч*** [1892, Орша — 15.9.1938, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела рэалізацыі трэста «Тэатрпрамзабяспечзбыт» Камітэта па справах мастацтва пры СНК СССР. Арыштаваны 26.4.1938 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Серпухаўская, д. 44, кв. 64. Асуджаны 15.9.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 28.5.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**БРЫЛОЎ Фёдар Данілавіч*** [1914, в. Каралёва Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 8.9.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага педагагічнага інстытута імя Крупскай. Арыштаваны 14.5.1937 у інтэрнаце (вул. Войнава, д. 44). Асуджаны 8.9.1937 асобай «тройкай» НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БРЫЛЬ Аўксенцій Паўлавіч*** [1887, Дзісенскі пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі (?) р-н Віцебскай вобл. — 15.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1921 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дарожны майстар 2-га акалотка 10-й дыстанцыі пуці Віцебскага ўчастка Кастрычніцкай чыгункі. Арыштаваны па адрасе: чыгуначная платформа Паветраплавальны парк, д. 1, кв. 1. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «контррэвалюцыйную і антысавецкую прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

**БРЫЛЬ Марыя Зусеўна*** [1908, Беласток, цяпер Польшча — 25.1.1938, Яраслаўль, НКВД], служачая. Апошняе месца работы — загадчыца аддзела кадраў Яраслаўскага абкама ВЛКСМ. Арыштавана 20.8.1937 у Яраслаўлі па адрасе: пр. Шмідта, д. 16. Асуджана да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана 2.6.1956.

Кр.: *Не предать забвению.*

**БРЫТ Міхаіл Ігнацьевіч*** [1901, в. Увелье, цяпер Гомельская вобл. — ?], выкладчык. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык у Вышэйшай школе прапагандыстаў пры ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 7.10.1936 у Мінску па адрасе: 1-я Савецкая гасцініца, пак. 49. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 17.5.1937 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 13.6.1989. Асабовая справа Б. № 26636-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БРЫШ Яўген Абрамавіч*** [1911, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 8.12.1937, Свярдлоўск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Уральскага індустрыяльнага інстытута. Арыштаваны 5.11.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны «тройкай» НКВД 27.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**БРЭГАДЗЕ Аляксандр Захаравіч*** [1893, Кутаісі, цяпер Грузія — ?], музыка. З сям'і рабочага. Падчас арышту кіраўнік аркестра Пінскага фанернага завода № 4. Арыштаваны 24.7.1940 у Пінску па адрасе: вул. Рамесная, д. 14. Быў жанаты. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 25.11.1940 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Эта-

паваны ў Іўдэльскі канцлагер Свярдлоўскай вобл. Вызвалены 3.9.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 30.6.1989. Асабовая справа Б. № 9328-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**БРЭЧКА Марцін Васілевіч*** [1900, в. Сланімцы Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 14.6.1938, Масква, НКВД], навучэнец (?). З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту слухач Прамысловай акадэміі імя Кагановіча. Арыштаваны 6.3.1937 у Маскве па адрасе: Галавенаўскі зав., д. 7, кв. 122. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 2.6.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.10.1957. Асабовая справа Б. № 40756 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БУБЕЛЬ-ЯРОЦКАЯ Браніслава Васілеўна** [1902, Умань Кіеўскай губ., цяпер райцэнтр Чаркаскай вобл., Украіна — 2.9.1937, Масква, НКВД], пісьменніца, драматург. З бел. сям'і. Падчас арышту член Саюза пісьменнікаў СССР. Арыштавана 4.11.1936 у Маскве па адрасе: вул. Старая Башылаўка, д. 29, кв. 2. Асуджана 2.9.1937 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за

«ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляна і пахавана разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітавана 24.11.1956.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**БУДА Аляксандр Іванавіч*** [1898, в. Язні Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі (?) р-н Мінскай вобл. — 8.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інжынер-эканаміст наркамата воднай гаспадаркі. Арыштаваны 15.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Дангаўэраўская слабада, д. 2а, кв. 58. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 1.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.5.1958. Справа захоўваецца ў ДА РФ.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**БУДАЙ Павел Пятровіч** [1899, Мінск — 12.3.1933, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік бел. аддзялення Трактарацэнтра. Арыштаваны 31.12.1932 у Мінску па адрасе: вул. Чычэрынская, д. 6, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 11.3.1933 за «контррэвалюцыйную, шпіёнскую дзейнасць і шкодніцкую дзейнасць у сельскай гаспадарцы»

да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны 12.3.1957.

Літ.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

**БУДАЛЬ Мікалай Канстанцінавіч** [1902, в. Валеўка Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.11.1937, Ніжні Тагіл (?), НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту нарміроўшчык ляснога аддзела «УВЗ» (?) імя Дзяржынскага. Арыштаваны 15.10.1937 у Ніжнім Тагіле. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 15.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.9.1956.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БУДЗІЛОВІЧ Аляксандр Фаўставіч** [14(26).2.1829, в. Жэрчыцы Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — пасля 1870, ?], удзельнік вызваленчага руху ў Беларусі. З сям'і святара бел. паходжання. Пасля заўчаснай смерці бацькі пераехаў разам з маці ў Віцебск. Скончыў Полацкую духоўную семінарыю (1853), але ад кар'еры святара адмовіўся. З 1854 на вайсковай службе ў арміі, атрымаў афіцэрскае званне. У пачатку 1860-х г. актыўны дзеяч падпольнага Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы. У 1863 арыштаваны за захоўванне нелегальнай літаратуры, але ў хуткім часе вызвалены. У вер. 1863 выйшаў

у адстаўку ў чыне падпаручніка. У час паўстання 1863—64 дапамагаў паўстанцам. У лют. 1864 за правоз зброі арыштаваны ў Дынабургу і сасланы ў Пермскую губ. Па амністыі 1867 вызвалены і пераехаў на сталае жыхарства ў Польшчу. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

Літ.: *Кісялёў Г.* Справа падпаручніка Будзіловіча // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982.

**БУДЗІЛОВІЧ Ігнат Мартынавіч** [1841, Валынская губ., цяпер Украіна — 28.8(9.9).1863, Орша], удзельнік паўстання 1863 у Беларусі. З небагатых дваран. У 1859 скончыў Кіеўскі кадэцкі корпус, служыў падпаручнікам у лейб-гвардзейскім Екацярынаслаўскім палку ў Маскве. Уваходзіў у рэвалюцыйную арганізацыю, падтрымліваў цесныя сувязі з паплечнікам К.*Каліноўскага* Л.Звяждоўскім, які быў пераведзены па службе з Вільні ў Маскву. У крас. 1863 уцёк з вайсковай часці і з Л. Звяждоўскім выехаў на Магілёўшчыну для арганізацыі паўстанцкіх атрадаў. Пад псеўданімамі Каткоў і Ян Піховіч узначаліў атрад паўстанцаў у Аршанскім пав. Наступаў на Бабінавічы і Лёзна. У канцы крас. 1863 пад Пагосцішчамі атрад уступіў у бой з царскімі войскамі і быў разбіты. Б. арыштавалі і пасадзілі ў турму. Пасля чатырохмесячнага следства асуджаны ваенным судом да расстрэлу.

Літ.: *В.[Ратч].* Очерки мятежного движения в Могилевской губернии в 1863 г. Вильно, 1865; *Дьяков В.А.* Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856—1865 гг.: Биобиблиографический словарь. М., 1967.

**БУДЗІН Шэвах (Шэвель) Аронавіч*** [1896, Ліда Віленскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 9.7.1938, Мінск, НКВД], чыноўнік. З сям'і службоўца. Падчас арышту нам. дырэктара Мінскага медыцынскага інстытута, член ВКП(б). Арыштаваны 6.12.1937 у Мінску. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 28.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.9.1957. Асабовая справа Б. № 11205-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БУДЗЬКА Алена Адамаўна*** [1900, мяст. Вызна Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Чырвоная Слабада Салігорскага р-на Мінскай вобл. — ?], сялянка-аднаасобніца. З бел. сялянскай сям'і. У пачатку 1920-х г. выйшла замуж. Гадавала семярых дзяцей. Арыштавана разам з дзецьмі ў сваёй хаце. Асуджана пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапавана з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалена з дочкамі Таццянай *Будзька* і Нінай *Будзька* 10.5.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992. Справа сям'і Б. № 47605 з фотаздымкамі яе членаў у 1990-х г. захоўвалася ў архіве інфармацыйнага цэнтра ўпраўлення ўнутраных спраў Архангельскага абл. выканаўчага камітэта.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БУДЗЬКА Васіль Мікалаевіч*** [1923, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], навучэнец, сын Алены *Будзька*. Арыштаваны з маці, братамі і сёстрамі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапаваны з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалены ў другой палове 1941 г. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Загінуў на фронце. Рэабілітаваны.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БУДЗЬКА Іван Мікалаевіч*** [1922, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], навучэнец, сын Алены *Будзька*. Арыштаваны з маці, братамі і сёстрамі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапаваны з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалены з братам Міхаілам *Будзькам* 10.7.1941. З 1941 да 1944 удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне, цяжка паранены, стаў інвалідам. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДЗЬКА Міхаіл Мікалаевіч*** [1924, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], навучэнец, сын Алены *Будзька*. Арыштаваны з маці, братамі і сёстрамі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапаваны з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалены з бра-

там Іванам *Будзькам* 10.7.1941. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДЗЬКА Ніна Мікалаеўна*** [1932, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], дачка Алены *Будзька*. Арыштавана дзіцём з маці, братамі і сястрой. Асуджана пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапавана з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалена з маці і сястрой Таццянай *Будзька* 10.5.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДЗЬКА Павел Мікалаевіч*** [1925, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], навучэнец, сын Алены *Будзька*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны з маці, братамі і сёстрамі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапаваны з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалены 25.2.1942. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДЗЬКА Рыгор Мікалаевіч*** [1929, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], сын Алены *Будзька*. Арыштаваны дзіцём з маці, братамі і сёст-

рамі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапаваны з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалены 10.5.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДЗЬКА Таццяна Мікалаеўна*** [1935, пас. Горкі, цяпер Любаньскага р-на Мінскай вобл. — ?], дачка Алены *Будзька*. Арыштавана дзіцём з маці, братамі і сястрой. Асуджана пазасудовым органам НКВД 1.8.1935 як «член сям'і арганізатара банды С. Н. Булак-Балаховіча» да высылкі. Этапавана з сям'ёй у пас. Ежма Пінежскага р-на Архангельскай вобл. Вызвалена з маці і сястрой *Нінай* 10.5.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Рэспублікі Беларусь 30.9.1992.

**БУДКЕВІЧ Анатоль Іванавіч*** [1926, Мінск — ?], артыст. З сям'і рабочага. Працаваў у Беларускім тэатры (танцавальная група). У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 25.7.1944 у Мінску па адрасе: Чэрвеньскі тракт, д. 7, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 3.9.1944 за «супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі ў час акупацыі» да 7 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Томскі канцлагер НКВД Томскай вобл. Пасля сканчэння тэрміну (1951) асуджаны на ссылку ў Краснаярскі край. Вызвалены ў 1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 31.1.1959. Асабо-

вая справа Б. № 13756-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУЙКЕВІЧ Іван Вікенцевіч*** [1896, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — 16.10.1938, Іркуцк, НКВД], медык. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — супрацоўнік (фармацэўт) Іркуцкага гарадскога аптэчнага ўпраўлення. Арыштаваны 5.4.1938. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 28.8.1938 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Адэскай ваеннай акругі 22.11.1957.

Кр.: *Жертвы политических репрессий Иркутской области*.

**БУЙКО Фёдар Сямёнавіч*** [1897, в. Казакова Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту камендант 1-га Ленінградскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 2.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БУКО Браніслаў Канстанцінавіч** [1924, в. Макашы Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], удзельнік антысавецкага падполля. Вясной 1944 мабілізаваны ў БКА. Пасля вызвалення р-на добраахвотна ўступіў у Войска Польскае, удзельнічаў у баях. Дэмабілізаваны з арміі ў

1946, вярнуўся на радзіму. У пачатку 1948 пад пагрозай арышту за службу ў БКА перайшоў на нелегальнае становішча. Хаваўся ў лясах Нясвіжскага р-на. Вясной 1948 далучыўся да партызанскай групы І.*Раманчука*. На працягу 1948—49 удзельнічаў у нападах на партыйна-савецкіх супрацоўнікаў (в. Залюбічы), фінансавых агентаў і служачых унутраных сілаў, у рэквізіцыях на поштах і ў крамах (в. Задзвеева і Хвоева). У маі 1949 з аддзелам акружаны на хутары ў Нясвіжскім р-не, трапіў у палон. У ходзе следства яму, апроч іншага, інкрымінаваўся ўдзел у падпольным «Саюзе барацьбы за вызваленне Беларусі». 17.11.1949 трыбуналам войск МДБ БВА асуджаны да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. У ходзе перагляду справы пастановай трыбунала БВА 10.12.1955 абвінавачанне ва ўдзеле ў падпольнай арганізацыі знята. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Валаханович И.А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**БУЛАЎКА Дзмітрый Рыгоравіч*** [1909, Мазыр Мінскай губ., цяпер Гомельская вобл. — 4.11.1938, Омск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную (тэхнічную) адукацыю. Падчас арышту электрамеханік ст. Омск. Арыштаваны 4.3.1938 у Омску. Асуджаны «тройкай» НКВД 16.10.1938 за «шпіянаж» і «дыверсійна-шкодніцкую работу» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 22.6.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**БУЛГАК Васіль Пятровіч*** [1916, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 9.3.1938, Свярдлоўск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт 3-га курса Свярдлоўскага (Уральскага?) горнага інстытута. Арыштаваны 21.2.1938. Асуджаны 26.2.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**БУЛГАКАЎ Іван Пятровіч*** [1920, в. Івана-Лебядзянаўка (?) Тамбоўскай вобл., Расія — ?], мастак. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны, верагодна, заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 29.12.1944 у Глуску Магілёўскай вобл. Асуджаны 11.3.1945 за «здрадніцкую дзейнасць» да 15 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай следчага аддзела УКДБ Бабруйскай вобл. 10.9.1947. Асабовая справа Б. № 8203-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**БУЛЫГА Сцяпан Міхайлавіч*** [1901, в. Мельча Віленскага пав., цяпер Вільнюскі (?) р-н, Літва — 22.11.1937, Мінск, НКВД], геолаг. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Інстытуце геалогіі БелАН. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Б. № 30206-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУЛЫНКА Сцяпан Пятровіч*** [1885, в. Ужа Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 21.2.1938, Іркуцк, НКВД], службовец. Падчас арышту падатковы інспектар раённага фінансавага аддзела. Арыштаваны 30.1.1938 у Тулуне Іркуцкай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.2.1938 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» і «антысавецкую агітацыю». Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Забайкальскай ВА 25.1.1957.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Кр.: *Жертвы политических репрессий Иркутской области.*

**БУМБЕРГ Эма Іванаўна*** [17.12.1903, Рыга, цяпер Латвія — ? ], службовец. З сям'і рабочага. У 1917 уступіла ў ВКП(б). Падчас арышту працавала ў БелАН загадчыцай бюро па сувязях з замежжам. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 2.2.1936 у Мінску. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 15.7.1936 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць, незаконнае захоўванне зброі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалена 2.2.1941. У 1959 жыла ў Рызе ў доме інвалідаў. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда БССР 25.4.1960. Асабовая справа Б. № 13845-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРАЎ Анатоль Фёдаравіч*** [1927, Полацк, цяпер Віцебскай вобл. — ?], навучэнец, верагодна, сын Фёдара *Бурава*. З сям'і служачага. Арыштаваны ў Мінску 9.3.1945. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся

на акупаванай тэрыторыі. Асуджаны 1.9.1945 за «антысавецкую агітацыю» і як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі «Саюз беларускай моладзі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер МДБ Краснаярскага краю. 15.9.1952 пераведзены на пасяленне. Вызвалены 20.3.1956. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.9.1962. Асабовая справа Б. № 17872-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРАЎ Васіль Максімавіч*** [1879, в. Руданы Себежскага пав. Віцебскай губ., цяпер Пскоўская вобл., Расія — 7.9.1937, Тара Омскай вобл., НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік паштовага аддзялення ў в. Ярмілаўка Таўрызскага р-на Омскай вобл. Арыштаваны 1.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 2.9.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 27.3.1967.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**БУРАЎ Фёдар Акімавіч*** [1897, в. Тупічана, цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец (?), верагодна, бацька Анатоля *Бурага*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Ажаніўся, гадаваў траіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся

на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 28.2.1945 у Мінску па адрасе: вул. Танкавая, д. 8, кв. 1. Асуджаны 27.6.1946 за «дапамогу нямецкім акупанатам» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Пакаранне адбываў у Мінскім лагерным аддзяленні № 3. Вызвалены 28.2.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 27.4.1979. Асабовая справа Б. № 206332-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БУРАЧЭЎСКАЯ Ксенія Львоўна*** [14.10.1904, Ігумен Мінскай губ., цяпер райцэнтр Чэрвень Мінскай вобл. — ?], хатняя гаспадыня, жонка Паўла *Бурачэўскага* і маці Тамары *Бурачэўскай*. З сям'і служачага. Атрымала сярэднюю адукацыю. Выйшла замуж, гадавала двух дзяцей. Арыштавана 19.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 2/52, кв. 29. Асуджана 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «жонка прыгаворанага да ВМП здрадніка радзімы і ворага народа былога наркама аховы здароўя БССР» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД. Вызвалена ў ліст. 1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 19.6.1956. Асабовая справа Б. № 6663-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**БУРАЧЭЎСКАЯ Тамара Паўлаўна*** [21.12.1921, Ігумен Мінскай акр., цяпер райцэнтр Чэрвень Мінскай

вобл. — ?], навучэнка, дачка Паўла і Ксеніі *Бурачэўскіх*. Падчас арышту вучаніца 8 класа вячэрняй школы. Арыштавана 8.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 48/4 (дзіцячы прыёмнік). Асуджана 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і (дачка) здрадніка радзімы і ворага народа былога наркама аховы здароўя БССР» і за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР (ст. Поцьма). Вызвалена 30.12.1939. Рэабілітавана. Асабовая справа Б. № 6170-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРАЧЭЎСКІ Павел Паўлавіч*** [20.9(2.10).1898, в. Даманава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч БССР, муж Ксеніі *Бурачэўскай* і бацька Тамары *Бурачэўскай*. З бел. сялянскай сям'і. Працоўную дзейнасць пачаў у 13 гадоў. Летам пасвіў жывёлу, а зімой працаваў на чыгунцы і лесараспрацоўках. У 1915 апынуўся ў Петраградзе. Працаваў на чыгуначным вакзале, вечарамі на працягу 2,5 гадоў вучыўся на агульнаадукацыйных курсах. У 1916—17 удзельнічаў у забастоўках, дэманстрацыях, ліпеньскіх і кастрычніцкіх падзеях 1917, выконваў даручэнні бальшавіцкай партыі. Са снеж. 1917 справавод у Петраградскім камісарыяце па ліквідацыі судовых органаў, затым у натарыяльным архіве Петраградскага акруговага суда. З ліст. 1918 на Зах. фронце. Пасля адступлення войск кайзераўскай Германіі інструктар-арганізатар па аднаўленні савецкай улады ў Полацкім, Ашмянскім і Вілейскім пав. З мая 1919 у палітаддзеле 16-й арміі.

Удзельнічаў у баях супраць палякаў, быў захоплены ў палон. Легіянеры прыгаварылі Б. да расстрэлу, але яму пашчасціла ўцячы. Устанавіў сувязі з агентурным аддзелам Палітупраўлення Зах. фронта. У крас. 1920 у партызанскім атрадзе, які дзейнічаў супраць польскіх захопнікаў, затым на падпольнай рабоце за лініяй фронту, на акупаванай тэрыторыі. З вер. 1920 на партыйнай і савецкай рабоце ў Ігуменскім пав. (цяпер Чэрвеньскі раён), у кааператыўных органах у Пухавічах і Мар'інай Горцы. У сак. 1924 у Полацкім акруговым спажыўсаюзе, затым старшыня Барысаўскага акрспажыўсаюза, у Белкаапсаюзе ў Мінску, у спажывецкай кааперацыі ў Оршы і Магілёве. З 1932 у ЦК КП(б)Б, загадчык сектара (аддзела) рабочага забеспячэння. З 1933 у Дрысе сакратар райкама партыі, з лют. 1935 першы сакратар Дрысенскага РК КП(б)Б. У тым жа годзе пераведзены ў ЦК Кампартыі Беларусі і прызначаны загадчыкам аддзела савецкага гандлю. З лют. 1936 наркам аховы здароўя БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 26.7.1937. У сувязі з арыштам выключаны з ЦК КП(б) Беларусі і з партыі. 24.11.1937 тройкай НКВД асуджаны «як член права-трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі, які праводзіў шкодніцкую работу ў наркамаце аховы здароўя БССР» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.4.1957 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР. Асабовая справа Б. № 10727-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БУРДА Сяргей Максімавіч*** [1905, ? — 9.2.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас

арышту нам. дырэктара Смаленскага радыёвузла. Арыштаваны 23.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**БУРДЫКА Іван Сямёнавіч*** [7.9.1900, в. Хутар, цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], службовец. З сялянскай сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. адказны сакратар СНК БССР. Арыштаваны 28.6.1937 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 5а, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.11.1957. Асабовая справа Б. № 11025-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БУРНОС Міхаіл Міхайлавіч*** [1907, в. Зарудаўе Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. У 1928 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Ленінградскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 11.11.1937. Адначасова выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БУРЫ Аляксандр Мацвеевіч*** [1880, Мінск — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Працаваў у Беларускім тэатры оперы і балета. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Фрунзе, д. 6, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.4.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў ссылкі. Вызвалены ў кастр. 1954. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.6.1961. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № 4168-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУРЫ Аляксандр Сцяпанавіч*** [1927, Мінск — ?], вайсковец. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Быў членам ВЛКСМ. Падчас арышту матарыст вайсковай часці № 45036. Арыштаваны 19.2.1961 у Мінску. Асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» 14.7.1961 да 7 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Вызвалены ў 1966. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 3.7.1989 пракуратурай БВА. Асабовая справа Б. № 27163-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БУСЕЛ Аляксей Аляксандравіч*** [1891, в. Меляховічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — 25.8.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1930—36 член ВКП(б). Падчас арышту інспектар аддзела тэхнічнага кантролю паравозарамонтных майстэрняў ст. Ладзейнае Поле Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 10.4.1937 на ст. Ладзейнае Поле (вул. Вакзальная, д. 118, кв. 1). Асуджа-

ны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 25.8.1937 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БУСЕЛ Сяргей Нічыпаравіч** [1901, в. Сухоўчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1939, ГУЛАГ], дзеяч бел. нацыянальнага руху. Пасля Раманаўскага вучылішча (1916) паступіў у Слуцкую земскую (беларускую) гімназію. Быў адным з лідэраў таварыства «Папараць-кветка», актыўна ўдзельнічаў у бел. нацыянальным руху. У 1918 уступіў у партыю бел. эсэраў, уваходзіў у склад яе Слуцкага павятовага камітэта. У час польска-савецкай вайны 1919—20 актыўны ўдзельнік падпольнай барацьбы супраць акупантаў, член Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта Случчыны. Адзін з арганізатараў Беларускага з'езда Случчыны 14—15.11.1920. У ліст.— снеж. 1920 прымаў актыўны ўдзел у фарміраванні 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР у мяст. Семежава. Пасля яе ліквідацыі ў складзе Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Праводзіў эсэраўскую прапаганду сярод сялян Гродзеншчыны і вайскоўцаў бел. батальёна ў Лодзі. Пасля скасавання польскімі ўладамі БВК у 1921 пераехаў у Вільню і выконваў заданні Замежнага бюро БПСР. Каб пазбегнуць арышту, перабраўся ў Коўна, працаваў у Міністэрстве беларускіх спраў пры ўрадзе Літвы. Па рэкамендацыі старшыні ўраду БНР В.*Ластоўскага* накіраваны ў Прагу вучыцца ў Вышэйшай тэхнічнай школе. У час вучобы на агранамічным ф-це ак-

тыўна ўдзельнічаў у нацыянальным жыцці бел. эміграцыі. З’яўляўся актывістам студэнцкай арганізацыі «Вольная Грамада». У 1929 пасля сканчэння вучобы вярнуўся ў Вільню. Удзельнічаў у рабоце Беларускага нацыянальнага камітэта, супрацоўнічаў з час. «Золак». У кастр. 1939, калі Чырвоная армія ўвайшла ў Зах. Беларусь, разам з бел. дзеячамі В.*Багдановічам*, А.*Луцкевічам*, А.*Неканда-Трэпкам,* У.*Самойлам* і інш. арыштаваны спецгрупай НКВД БССР і вывезены ў Мінск. У лют. 1940 прыгавораны да 15 гадоў канцлагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: Антон Луцкевич: Материалы следственного дела НКВД БССР / Подг. к печати, введение и комментарии В. Н. Михнюка, Н. М. Климовича и А. Н. Гесь. Мн., 1997. С. 190; *Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах*. Мн., 2001. С. 303—304.

**БУСЛОВІЧ Павел Восіпавіч*** [1895, в. Аўгустова, дакладнае месцазнаходжанне ўстанавіць не ўдалося — 14.10.1937, Ленінград, НКВД], навуковец, педагог. З бел. сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Ленінградскага аўтадарожнага інстытута. Арыштаваны 7.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.10.1937 за «шпіянаж» і «контррэвалюцыйную, антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**БУСЬКО Аркадзь Сцяпанавіч*** [1898, мяст. Хоўхлава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзе-

чанскі р-н Мінскай вобл. — ?, Мінск, НКВД], мастак. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Саюзфота (Беларускае аддзяленне). Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. У 1935 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 19.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая д. 81, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.9.1937 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы» да ВМП. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 10.12.1959. Асабовая справа Б. № 15066-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**БУСЬКО (БУЙНОЎ) Уладзімір Андрэевіч*** [1896, Уладзікаўказ, Расія — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў пчаляром. Арыштаваны 18.3.1947 на ст. Удзімі (Маньчжурыя, цяпер Кітай). Асуджаны 20.5.1947 да 15 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.

**БУТКЕВІЧ Цімафей Лявонавіч*** [1904, мяст. Чарэя Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. У 1924—35 член ВКП(б). Падчас арышту інжынер па тэхніцы бяспекі завода імя Сталіна. Арыштаваны 22.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. К. Маркса, д. 62, кв. 11. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БУШМАКОЎ Уладзімір Ільіч*** [1892, Перм, Расія — ?], навуковец. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам кафедры Віцебскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.12.1948 у Віцебску па адрасе: вул. Фрунзе, д. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 20.4.1949 за «тэрарыстычныя намеры» на спецпасяленне. Высланы ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Цэнтральнай камісіяй па перагляду спраў асуджаных 31.5.1954. Асабовая справа Б. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**БЫЛЬ Лука Кузьміч** [1891, в. Залессе Скідзельскай воласці Гродзенскага пав., цяпер тэрыторыя (вёска не існуе) Гродзенскага р-на — 19.11.1938, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у КПСС (1927). У жн. 1936 за «ўзорнае выкананне заданняў камандавання» ўзнагароджаны ордэнам «Чырвонай Зоркі». Да арышту капітан разведупраўлення БВА ў Смаленску. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.3.1938. Пазбаўлены воінскага звання. Асуджаны 23.9.1938 асобай нарадай НКВД за «ўдзел ў контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі ПАВ» і як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.2.1960 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Асабовая

справа Б. № П-7553 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**БЫХАВЕЦ Дзмітрый Дзмітрыевіч*** [1889, в. Зарудзіца Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 18.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту прараб геадэзічных работ Нівабуда. Арыштаваны 10.4.1937. Асуджаны асобай «тройкай» НКВД Ленінградскай вобл. 15.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БЫЧЫНАЎ Кандрат Парамонавіч*** [1903, в. Доўгавічы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 1.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1929 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. начальніка паравознага дэпо ст. Кандалакша Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 11.7.1937 на рабоце. Адначасова выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.10.1937 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны ў Левашоўскай пусташы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 18.10.1957.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**БЭР Ошар Шыманавіч*** [25.11.1898, Варшава, цяпер Польшча — 11.3.1938, Мінск, НКВД], журналіст (?). З сям'і рабочага. У 1921 уступіў у ВКП(б). Працаваў загадчыкам аддзела прамысловасці газ. «Рабочий». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 21.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 5/32, кв. 12. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 3.1.1938 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі і шпіён» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 11.8.1956. Асабовая справа Б. № 6952-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**БЯДРЫЦКІ Яўген Іванавіч** [1888, в. Нярэйша (?) Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі (?) р-н — ?, ГУЛАГ]. Скончыў павятовае вучылішча ў Магілёве. У 1925 пераехаў з Коўна ў Мінск. Працаваў у выдавецтве наркамата земляробства. У канцы 1927 арыштаваны ДПУ БССР і з М.*Адзярыхам* сасланы ў Вятку на 3 гады. Пасля сканчэння тэрміну пасяліўся ў Верхне-Дняпроўску Днепрапятроўскай вобл. Працаваў перапісчыкам у райвыканкаме. Па даручэнні ДПУ БССР 30.5.1930 арыштаваны мясцовым органам Дзяржаўнага паліт. ўпраўлення па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і этапаваны ў Мінск. Абвінавачваўся ў тым, што «з'яўляўся добраахвотнікам у арміі С.Н.Булак-Балаховіча і адбываў ссылку за прыналежнасць да нелегальнага наццэмаўскага гуртка». У час следства вінаватым сябе не прызнаў. Пастановай калегіі АДПУ СССР 10.4.1931 асуджаны да 3

гадоў канцлагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 19.9.1960.

**БЯЗЮК Іван Фёдаравіч** [1902, Ловіч Варшаўскай губ., цяпер Польшча — 28.5.1938, Масква, НКВД], інжынер. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік планавага аддзела Нара-Фамінскай фабрыкі Маскоўскай вобл., Расія. Арыштаваны 9.2.1938 у Нара-Фамінску па адрасе: Піянерскі зав., д. 28. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 19.5.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 10.9.1957. Справа захоўваецца ў ДА РФ.

Літ.: *Бутовский Полигон.*

**БЯЗМЕНАВА Яўгенія Сямёнаўна*** [1922, хут. Доўгая Дуброва Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. — ?], спявачка. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю спецыяльную музычную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. У пасляваенны час — салістка хора Беларускага дзяржаўнага радыёкамітэта. Была замужам, гадавала дзіцця. Арыштавана 29.11.1950 у Мінску па адрасе: вул. Цымлянская, д. 59. Асуджана асобай нарадай МДБ як «здрадніца радзімы» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Вызвалена 28.7.1955. Рэабілітавана 11.7.1955. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Б. № 6556-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**БЯЛЕВІЧ Леў Мікалаевіч** [н. 10.3.1928, в. Багуцкія Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл.], удзельнік пасляваеннага антысавецкага маладзёжнага руху. З восені 1944 вучыўся ў Глыбоцкім педагагічным вучылішчы. Пасля аб'яднання Глыбоцкага патрыятычнага асяродка, да якога належаў Б., з гуртком аднадумцаў з Пастаўскага педвучылішча быў створаны аб'яднаны Саюз беларускіх патрыётаў. 8.2.1947 (паводле іншых звестак 15.2.1947) Б. арыштавалі. Як ён пазней прыгадваў, «СБП праіснаваў нядоўга. Зрэшты, тэрмін гэты мог быць, як пасля стала зразумелым, і яшчэ карацейшы. Сярод нас аказаліся падасланыя энкавэдзістамі «сексоты»... Даводзіцца толькі меркаваць, чаму, маючы немалую інфармацыю, энкавэдзісты не спяшаліся распраўляцца з намі». На судзе над сябрамі СБП у Мінску, які адбыўся 16—20.6.1947, Б. асудзілі да 10 гадоў пазбаўлення волі. Да лета 1948 знаходзіўся ў лагеры «Краснае ўрочышча» пад Мінскам, дзе працаваў на будаўніцтве Мінскага аўтамабільнага завода. Потым этапаваны ў Інцінскі (пазней Мінеральны) папраўча-працоўны лагер МДБ Комі АССР. Разам з паплечнікамі-землякамі (Васілём Супруном, Кастусём Шышэем, Васілём Шастаковічам) уваходзіў у зямляцкі гурток, які ўзяў на сябе ролю бел. цэнтра ў сістэме лагераў вакол Інты. Вызвалены ў 1955. Пасля вяртання ў Беларусь ажаніўся з Марыяй Бабіч, таксама колішняй сяброўкай СБП. У 1956 з жонкай вярнуўся ў Інту, працаваў шахцёрам. Пасля выхаду на пенсію (1984) пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Полацк. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 30.10.1992. Справа Б. № 23525-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Тв.: І сорам, і крыўда, і спадзяванне // *Наша слова*. 1992. 10 чэрв.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў*. Мн., 1997; *Антысавецкія рухі*.

**БЯЛЕВІЧ Яфім Яфімавіч** [15(27).2.1888, Мінск — 13.12.1942, Магадан, ГУЛАГ], дзеяч бел. нацыянальнага руху. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, з якой за ўдзел у вучнёўскіх беспарадках у 1907 выключаны і арыштаваны. Хутка вызвалены. Скончыў гімназію экстэрнам. Паступіў на юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та (скончыў у 1912). Быў прызваны ў армію. Падчас 1-й сусветнай вайны на фронце — прапаршчык, штабс-капітан. Ад вайскоўцаў-беларусаў абраны дэлегатам на 1-ы Усебеларускі кангрэс (снеж. 1917), член яго прэзідыума. Да ліп. 1918 займаў пасаду міністра юстыцыі і фінансаў у Народным сакратарыяце — першым урадзе БНР. Як нязгодны з яго палітыкай, выйшаў у адстаўку. Пасля дыпламатычны прадстаўнік урада БНР у Кіеве, Адэсе, Берліне. У 1919 арыштаваны польскімі акупацыйнымі ўладамі, але здолеў уцячы з-пад варты. У 1918—19 член партыі сацыялістаў-федэралістаў, у 1920 член Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, з якой у жн. 1920 выйшаў з-за адмовы лідэраў падпісаць Дэкларацыю пра абвяшчэнне незалежнасці БССР ад 31.7.1920. У 1920—22 служыў у Гомелі ў чыгуначных часцях Чырвонай арміі. 1.10.1920 арыштаваны асобым аддзелам Зах. фронту па падазрэнні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці; вызвалены праз 6 месяцаў. У чэрв. 1924 удзельнічаў у ліквідацыйным з’ездзе БПС-Р. Перайшоў на фінансавую работу — у 1925—30 упаўнаважаны наркамфіна

БССР, з 1931 у Белшвейаддзяленні Вышэйнага савета народнай гаспадаркі. Арыштаваны 19.3.1932. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР асуджаны да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Свірскі канцлагер НКВД Ленінградскай вобл. У зняволенні 27.12.1936 узяты пад варту. 8.2.1937 Ленінградскім абл. судом асуджаны да 5 гадоў зняволення і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Загінуў у Магаданскім канцлагеры. Па першым прыгаворы рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 16.11.1963, па другім — пракуратурай РФ 16.12.1992.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2; *БЭ*, т. 3.

**БЯЛЕЦКІ Канстанцін Давыдавіч*** [1903, ? — 29.10.1937, Астрахань, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік лесапільнага цэха суднаверфі імя Кірава. Арыштаваны ў Астрахані. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 12.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Кр.: *Из тьмы забвения*.

**БЯЛУГА Мікалай Ільіч** [1885, в. Лакно Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — пасля 1960, Гродна), дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1919—24 служыў у Чырвонай арміі. З 1920 член ВКП(б). З 1929 да 1933 віцэ-прэзідэнт БелАН, загадчык сектара (аддзела) Белкаапсаюза. Арыштаваны 19.1.1933. Асуджаны пастановай калегіі АДПУ СССР 2.4.1933 як «удзельнік контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» і за «сабатаж» да 3

гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Казахстан. Пасля вызвалення жыў у Гродне. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 28.10.1960. Асабовая справа Б. № 16776-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Міхнюк У.* Захоўваць вечна: справа № 20951-с // Маладосць. 1992. № 6. С. 126; Возвращенные имена.

**БЯЛЯЕЎСКІ (ТАБАРНСКІ) Уладзімір (Вульф) Рафаілавіч*** [1908, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 27.11.1937, Мінск, НКВД], журналіст, рэдактар. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у КПЗБ. З 1931 у БССР, нам. рэдактара газ. «Рабочий». Арыштаваны ў Мінску 21.3.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 20.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.2.1956. Асабовая справа Б. № 5853-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАГЕР Любоў Лазараўна*** [1891, Мінск — ?], служачая. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала загадчыцай секцыі (аддзела) Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення БССР. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 4.1.1931 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 11, кв. 1. Асуджана паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 30.5.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбывала ў Казахстане. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа В. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЙНОВІЧ Фёдар Мартынавіч*** [1898, в. Рагачы Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 28.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны служачы, партыйны дзеяч, муж Ганны *Пашучэнкі*. З сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам сельгасаддзела ЦК КП(б)Б. Гадаваў дзіця. Арыштаваны 12.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, 2-гі дом Саветаў, 48/23, кв. 6. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.2.1958. Асабовая справа В. № 11487-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЙНОЎСКІ Аляксандр Эдуардавіч*** [1906, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — 16.6.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — планавік-эканаміст аддзела камплектавання і забеспячэння Маскоўскага (?) сілікатнага завода № 2. Арыштаваны 28.3.1938 у Маскве па адрасе: ст. Прэсня Акруговай чыгункі, д. 46, кв. 6. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 1.6.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 24.11.1956. Асабовая справа В. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ВАЙЦЮК Іван Ігнатавіч*** [1909, Бельскі пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту студэнт «МЭК» (?). Арыштаваны 8.8.1933 у Томску як «меншавік». 2.10.1933 вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ВАЙЦЮК Канстанцін Майсеевіч*** [1897, в. Нагор'е Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 14.9.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік ваенна-гаспадарчага аддзела 4 казацкага корпуса. Арыштаваны 15.5.1937 у Армавіры па адрасе: вул. Будзённага, д. 27. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.9.1937

за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 23.7.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЙЦЯНКОЎ Міхаіл Канстанцінавіч*** [1900, в. Дзераўцы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 25.1.1940, Масква, НКВД], службовец, вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір брыгады, нам. начальніка ўпраўлення ваеннага забеспячэння НКВД СССР. Арыштаваны 30.4.1939 у Маскве па адрасе: вул. Пакроўка, д. 20/1, кв. 4. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.1.1940 за «ўдзел у змове» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 21.3.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЙЦЯХОВІЧ Альфонс Феліксавіч*** [1895, в. Абаб'е Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер Літва — 16.9.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — часова выконваючы абавязкі старшага інжынера кватэрнаэксплуатацыйнага аддзела Уральскай ВА. Арыштаваны 9.2.1938 у Свярдлоўску. Асуджаны 15.8.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

Кр. геагр.: *ЭГБ*, т. 5.

**ВАЙЦЯХОЎСКІ Іван Антонавіч*** [1891, в. Кругля Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?, ГУЛАГ], вайсковец, службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Служыў у царскай арміі ў званні штабс-капітана, удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне. Верагодна, у 1930-я г. арыштаваны і этапаваны ў Анежскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. У зняволенні некаторы час працаваў бухгалтарам. 18.8.1937, калі, хутчэй за ўсё, адбываў пакаранне ў Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР, узяты пад варту і 9.9.1937 асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Карэльскай АССР 18.11.1959.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЙЦЯХОЎСКІ Яўген Каспeравіч*** [1908, в. Шыкалова Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту нам. галоўнага бухгалтара. Асуджаны 20.10.1937 да 8 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Трагедия народа: книга памяти жертв политических репрессий Республики Марий Эл*. Йошкар-Ола, 1996, Т. 1.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЛАДЗЬКО Іосіф Ігнатавіч** [ліст. 1887, мяст. Гарадзея Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. – 20.12.1937, НКВД], дзяржаўны дзеяч. У 1919 мабілізаваны ў Чырвоную армію, служыў нам. ваенкама ў Навагрудку, ваенкамам і членам рэўкама Рагачоўскага пав. У 1920—21 ваенкам Гомельскай губ., з 1922 старшыня выканкама Магілёўскага павятовага, Бабруйскага раённага Саветаў. У 1928 прызначаны нам. наркама земляробства БССР. У 1929—30 старшыня Віцебскага акруговага, з 1931 Мінскага гарадскога выканкамаў. У 1933—37 начальнік упраўлення сувязі БССР, упаўнаважаны наркамата сувязі СССР па БССР. На працягу 1929—37 член ЦВК БССР і ЦВК СССР. У 1937 адпраўлены ў Казахстан на пасаду ўпаўнаважанага наркамата сувязі СССР. Неўзабаве арыштаваны. Абвінавачваўся ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі правых» і «антысавецкай арганізацыі ва ўпраўленні сувязі БССР». Асуджаны да ВМП. Расстраляны ў адну ноч з Якавам *Афанасьевым*, Васілём *Дружчыцам*, Аркадзіям *Ляшчынскім,* Маркам *Матусевічам,* Фёдарам *Сулкоўскім,* Іванам *Суртам,* Дорай *Турбовіч* і інш. (усяго больш за 200 (!) чалавек). Рэабілітаваны 12.10.1957.

15.2.1938 у Мінску была арыштавана жонка Іосіфа *Валадзько,* хатняя гаспадыня Валадзько Яўгенія Мікалаеўна (нар. ў вер. 1884 у в. Звонь, цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл.). 16.5.1938 тройкай НКВД яны была асуджана як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў ППК і этапавана ў Цемнікаўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітава-

на 21.6.1966 трыбуналам БВА. Яе асабовая справа № 19501-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 2; *БЭ*, т. 3.

**ВАЛАДЗЬКО Пётр Іосіфавіч*** [20.10.1887, в. Плябанцы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 13.4.1938, Мінск, НКВД], спявак. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Беларускім тэатры оперы і балета. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937 у Мінску па адрасе: Омскі зав., д. 7, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.3.1938 як «польскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 1.3.1963. Асабовая справа В. № 4599-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЛАНЧУК Яўген Сцяпанавіч*** [1886, в. Вялікія Матыкалы Брэскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н — 17.1.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў начальнікам цэха. Арыштаваны 31.8.1937 у Надзеждзінску Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 17.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАЛЕЙКА Чэслаў Ігнатавіч** [1920, Вільня — ?], артыст. З польскай рабочай сям'і. Атрымаў сярэднюю

адукацыю. Да арышту артыст Беластоцкага тэатру. Арыштаваны 24.2.1941. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў антысавецкай арганізацыі». Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.12.1947 УМДБ Гродзенскай вобл. Асабовая справа В. № П-4498 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ВАЛКОВІЧ Даніла Іванавіч** [5(18).4.1900, в. Занёманск Гродзенскага пав., цяпер у межах Мастоў Гродзенскай вобл. — 27.11.1937, НКВД], дзяржаўны і партыйны дзеяч. У час 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Вяцкай губ. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 супрацоўнік ВЧК — нам. старшыні Малмыжскай павятовай камісіі Вяцкай губ. З 1918 у Чырвонай арміі. Ваяваў на Усх. фронце супраць арміі Калчака. Са снеж. 1920 на Зах. фронце, служыў у Бабруйскім і Мазырскіх пав. Потым на партыйнай рабоце — з 1921 загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ. З 1924 сакратар Койданаўскага, Ляхаўскага райкамаў, у апараце ЦК КП(б)Б, загадчык аддзела Мінскага, сакратар Магілёўскага акруговых камітэтаў, сакратар Клімавіцкага і Бабруйскага райкамаў КП(б)Б. У лют. 1934 прызначаны нам. наркама земляробства БССР. Са жн. 1934 2-гі сакратар ЦК КП(б)Б. З 30.5.1937 старшыня СНК БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў пачатку вер. 1937. Асуджаны 26.11.1937 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «прыналежнасць да замежнай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Імя В. носяць вуліцы ў Гродне і Мастах.

6.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 15, кв. 1, была арыштавана жонка В., Ганна Максімаўна (Майсееўна) Валковіч (Чарно), 1902 г. нараджэння, хатняя

гаспадыня. 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД СССР яна была асуджана як «член сям'і расстралянага здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ і этапавана ў Цемнікоўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена ў 1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 10.10.1956.

Літ.: *Якутаў У.* Змагар, працаўнік // *Полымя*. 1966. № 6; *Яго ж*. Из когорты первых бойцов // *Неман*. 1979. № 10; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Мн., 2001; *Протько Т.С.* Становление советской тотолитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002; *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЛОВІК Мікалай Яўгенавіч*** [1896, в. Добры Дуб (?) Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 16.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны дзеяч. З беднай бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту сакратар Серпухаўскога гаркама ВКП(б) Маскоўскай вобл. Арыштаваны 18.8.1937 у Серпухаве па адрасе: вул. Тульская, д. 8, кв. 9. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.1.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі, падрыхтоўку баявой тэрарыстычнай групы і за падрыўную работу ў Серпухаўскім раёне» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 12.11.1955.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

**ВАЛОВІЧ Аляксандр Мікалаевіч*** [1900, в. Вяззе Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 16.4.1939, Масква, «Камунарка»,

НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы інжынер планава-эканамічнага аддзела наркамата лясной прамысловасці СССР. Арыштаваны 12.10.1938 у Маскве па адрасе: Калашны зав., д. 4, кв. 24. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.4.1939 за «контррэвалюцыйную прапаганду» і «ўдзел у тэрарыстычнай групоўцы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.2.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЛЬКОВІЧ Любоў Фёдараўна*** [1906, в. Лявонавічы Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], работнік культуры. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала старшым бібліятэкарам у Цэнтральнай дзяржаўнай бібліятэцы. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 26.10.1945 у Мінску па адрасе: вул. Каменная, д. 15, кв. 4. Асуджана 15.2.1947 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда Беларусі 8.10.1993. Асабовая справа В. № 35650-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЛЬФСОН Сямён Якаўлевіч** [27.5(8.6).1894, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 1941, Мінск], дзяржаўны дзеяч, філосаф, літаратуразнавец, педагог. У 1919 скончыў Кіеўскі ун-т. З 1921 прафесар

БДУ. У 1925—30 дэкан ф-та права і гаспадаркі ун-та. З 1928 акадэмік БелАН, член ЦВК БССР (1929—38). У 1931—38 дырэктар Інстытута філасофіі і права. З 1936 акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, адначасова першы нам. дэкана ф-та грамадскіх навук БДУ. Даследаваў гісторыю філасофіі, сацыялогіі, навукі і культуры, стан рэлігійнага жыцця. Аўтар падручнікаў па дыялектычнаму матэрыялізму. Як літаратурны крытык выступаў з пазіцый вульгарнага сацыялагізму, у зборніку «Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Ідэалогія і метадалогія нацдэмакратызму» (1931) абвінавачваў бел. пісьменнікаў у нацыяналізме. Даследаваў творчасць М. Горкага, А. Пушкіна, І. Гурскага. Калі ў 1938 у НКВД дайшла чарга і да выкрывальніка нацдэмаў, знаёмыя лекары схавалі В. ў бальніцы для псіхічна хворых, дзе ён і адседзеўся (верагодна, да 1940). У сваёй прамове на паседжанні, прысвечаным трыццаціпяцігоддзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы (8.12.1940), «здолеў узняцца над спрошчанасцю сваіх [ранейшых] трактовак» (І. Багдановіч), адзначыў «незабыўныя гістарычныя заслугі Купалы». У пачатку 2-й сусветнай вайны схоплены і забіты фашыстамі, якіх ён крытыкаваў у шэрагу сваіх работ: «Расавыя тэорыі фашызму і класавая барацьба» (1934), «Расавыя тэорыі» германскага фашызму» (1937) і інш.

Тв.: Диалектический материализм. Мн., 1922; Марксизм и педагогика. Мн., 1924; Плеханов. Мн, 1924; Диалектический материализм. Ч. 1—3. 6-е изд. Мн., 1926; За марксізм. Мн., 1928; Сучасная рэлігійнасць. Мн., 1930; Супраць расавых тэорый. Мн, 1935; Сям'я і шлюб у гістарычным развіцці. Мн., 1937; В матрацной могиле: Повесть из жизни Генриха Гейне. Мн, 1940.

Літ.: *БП,* т. 1; *БЭ*, т. 3; *Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 49.

**ВАЛЫНЕЦ Наталля Дзмітрыеўна*** [1925, Вілейка Віленскага ваяв., цяпер Мінская вобл. — ?], навучэнка. З бел. сялянскай сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 19.2.1945. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 26.1.1946 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Ухта-Іжэмскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалена ў 1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 8.2.1989. Асабовая справа В. № 21039-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЛЫНСКІ Сяргей Аляксеевіч** [7(19).5.1874, Шчыгры Курскай губ., цяпер Курская вобл., Расія — ?], рэвалюцыйны дзеяч. З дваранскай сям'і. З 1894 вучыўся ў Маскоўскім ун-це, з якога быў выключаны за паліт. дзейнасць (1898). Высланы пад нагляд паліцыі ў Курск, дзе арганізаваў гурток сацыял-дэмакратычнай накіраванасці, наладзіў выпуск лістовак. У 1903 атрымаў магчымасць скончыць ун-т і пераехаў у Мінск. Працаваў памочнікам юрысконсульта на Лібава-Роменскай чыгунцы. З 1903 член РСДРП, далучыўся да Мінскай групы партыі, вёў агітацыю сярод чыгуначнікаў. Памочніцай В. ў групе была яго жонка, якая адказвала за сувязі з друкарняй, выконвала абавязкі сакратара і касіра. Пасля Курлоўскага расстрэлу 1905 В. ўвайшоў у склад Мінскага Кааліцыйнага Савета, што рыхтаваў забастоўку чыгуначнікаў як частку Усерасійскай паліт. стачкі. Падчас стачкі ў кастр. 1905 Савет 12 дзён тры-

маў пад сваім кантролем чыгуначны вузел, стварыў камісію ўзаемадапамогі, суд гонару. У снеж. 1905 дэлегаваны Мінскім камітэтам чыгуначнага саюза ў Маскву на Канферэнцыю чыгуначнікаў. Пасля вяртання з яе арыштаваны (8.12.1905). З турмы тайна перадаваў свае тэксты жонцы, якая выкарыстоўвала іх для стварэння лістовак, што распаўсюджваліся ў Мінску. Вызвалены ў маі 1906 пад заклад. Адышоў ад актыўнай дзейнасці, але працягваў дапамагаць рэвалюцыянерам. У пачатку 1-й сусветнай вайны парваў з бальшавікамі. З набліжэннем фронту выехаў у Маскву, дзе ў 1917 уступіў у Маскоўскую арганізацыю меншавікоў. У 1920 парваў і з імі. Шлях у ВКП(б) быў таксама для яго закрыты. Да 1933 працаваў юрысконсультам Маскоўскага Саюза металістаў. Сумесна з жонкай напісаў успаміны пра падзеі рэвалюцыі 1905 у Мінску, рукапіс якіх захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Далейшы лёс сям'і невядомы.

Літ.: *Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы*. Мн., 1955; *Всероссийская политическая стачка в октябре 1905 г.* Ч. 1. М.; Л., 1955; *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЛЯШКЕВІЧ Аляксандр Іванавіч*** [1897, Бельск-Падляшскі, цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 17.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык лабараторыі фабрыкі «Пяцігодка». Арыштаваны 5.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: праспект Карла Лібкнехта, д. 19/21, кв. 35. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 12.10.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ВАНЬКЕВІЧ Аляксандр Аляксандравіч*** [1895, в. Белічаны Барысаўскага (?) пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў галоўным бухгалтарам. Арыштаваны 20.7.1937 у Алма-Аце. Асуджаны Вярхоўным судом СССР 20.10.1937 за «антысавецкую шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны 22.2.1958.

Кр.: *Книга Скорби*.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАРДОМСКАЯ Любоў Сямёнаўна*** [1928, Мінск — ?], навучэнка. З бел. сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучаніца і пеўчая духоўнага хору манастыра. Арыштавана 2.10.1944 у Мінску па адрасе: вул. Пераможная, д. 26, кв. 2. Асуджана 30.12.1944 як «член нацыяналістычнай арганізацыі «Саюза беларускай моладзі» і за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалена 4.12.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 11.5.1960. Асабовая справа В. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАРОНЧАНКА Аляксандр Аўксенцевіч*** [14.2.1905, Чэрыкаў Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1935—36 загадчык агітацыйна-

масавага аддзела Мінскага гаркама КП(б)Б, пасля сакратар Кагановіцкага РК КП(б)Б Мінска, наркам асветы БССР. Арыштаваны 3.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Валадарскага, д. 28. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «актыўны член антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі, створанай па заданні палякаў» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.5.1957. Асабовая справа В. № 10308-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАРОНЧАНКА (ЯСЕНЬКІНА, ЯСЭПКІНА) Хася Самуілаўна*** [1908, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], педагог, жонка Аляксандра *Варончанкі*. З яўрэйскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у Мінскай вячэрняй школе № 15. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 20.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чыгуначная, д. 10, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «член сям'і ворага народа, прыгаворанага да ВМП, і саўдзельніца яго контррэвалюцыйных злачынстваў» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 27.7.1957. Асабовая справа В. № 10634-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАРЭНІК Антон Сцяпанавіч*** [1888, в. Чаркасы Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н — 25.9.1938, Мінск, НКВД], музыкант. З сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў у кінатэатры «Чырвоная зорка». Арыштаваны 23.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Садовая, д. 17, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.9.1938 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа В. № 24077-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАРЭНІК Васіль Васілевіч*** [1904, в. Даўгінава (?) Вілейскага пав. Мінскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 8.12.1937, Свярдлоўск, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт 5-га курса будаўнічага ф-та Уральскага індустрыяльнага інстытута. Арыштаваны 28.9.1937 у Свярдлоўскім «Втузгарадку». Асуджаны 27.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ВАСЕРМАН Саул Ісакавіч*** [1893, Мінск — 29.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, муж Ганны *Васерман*. З сям'і рабочага. У 1930-я г. наркам камунальнай гаспадаркі БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 31/33, кв. 67. Выключаны з ВКП(б) як «выяўлены вораг народа». Асуджаны пазасудовым орга-

нам НКВД 29.6.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі правых» і «ажыццяўленне шкодніцкай работы ў камунальнай гаспадарцы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.8.1957. Асабовая справа В. № 10862-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

22.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 71, кв. 50 была арыштавана жонка В., хатняя гаспадыня Васерман Ганна Маркаўна (н. 8.12.1901 у Мінску ў сям'і службоўца, атрымала сярэднюю адукацыю). 8.10.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «жонка здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ і этапавана ў Цемнікаўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР (пас. Явар). Вызвалена 22.9.1942. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.9.1956. Яе асабовая справа № 7935-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАСІЛЕВІЧ Іван Іванавіч*** [18(30).6.1895, в. Падстарынь Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Падстарыны Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. — 25.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі ваенны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Чугуеўскае ваеннае вучылішча (1916). У 1-ю сусветную вайну — прапаршчык на Заходнім фронце. Са снеж. 1918 у Чырвонай арміі. Удзельнічаў ва ўстанаўленні савецкай улады ў Тульскай губ. У 1921—23 начальнік палітаддзела 17-й дывізіі. З 1929 начальнік і ваенкам Аб'яднанай беларускай вайсковай школы. Член ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР (1929—32). Узнагароджаны ордэнам Леніна. Падчас арышту камандзір 26-га стралковага корпу-

са асобай Чырвонасцяжнай Далёкаўсходняй арміі, камандзір дывізіі. Арыштаваны 25.6.1937 у в. Сяргееўка Градэкаўскага р-на Усурыйскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.8.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.4.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

Кр. геагр: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *БелСЭ*, т.2. Мн., 1970; *ЭГБ,* т.2.

**ВАСІЛЕЎСКІ Мікалай Пятровіч** [крас. 1904, в. Сіняўская Слабада, цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл., паводле іншых звестак Санкт-Пецярбург — 1937 (?)], мастак. Першы раз арыштаваны (разам з бацькам) падлеткам у 1920 (?) у Мінску на рагу вул. Нагорнай і Гаспітальнай. 29.7.1920 пастановай калегіі АДПУ СССР прыгавораны як «член сям'і асуджанага» да высылкі. У 1920-я г. скончыў Віленскую беларускую гімназію. Займаўся ў мастацкай студыі пры гімназіі ў Я. *Драздовіча*. У 1926—27 супрацоўнічаў з час. «Маланка». Уступіў у КСМЗБ. З 1930 жыў у БССР. Працаваў мастаком-карыкатурыстам у газ. «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Калгаснік Беларусі». Арыштаваны 12.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Слонімская, д. 5, кв. 2. Прыгавораны пастановай калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Па першай справе (№ 34744-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 19.10.1992, па другой (№ 10182-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі з фотаздымкам) рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭліМБел*, т. 1; *БЭ*, т. 4.

**ВАСІЛЮК Мікалай Мікітавіч*** [1886, в. Лясок Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 10.11.1937, Орша, НКВД], журналіст. З сялянскай сям'і. Падчас арышту супрацоўнік Аршанскага раённага вузла сувязі. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 22.8.1937 у Оршы. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 28.10.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 13.9.1966. Асабовая справа В. № 13352-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВАСТОКАЎ Мікалай Мікалаевіч*** [1891, Ніжні Ноўгарад, Расія — ?], акцёр. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Беларускім дзяржаўным радыёкамітэце. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 25.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Флакса, д. 21, кв. 2. Асуджаны 30.6.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Мінскім абл. судом 10.1.1990. Асабовая справа В. № 29070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАСЮКЕВІЧ Віктар Антонавіч*** [1919, Таганрог, Расія — ?], літаратар. З сям'і служboўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВЛКСМ. Падчас арышту

супрацоўнік газ. «Знамя свабоды» (?). Арыштаваны 24.12.1940 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.4.1941 за «антысавецкую агітацыю» да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 4.11.1969. Асабовая справа В. № 20110-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВАЎКОВІЧ Лука Міхайлавіч*** [1899, в. Занёманск Гродзенскага пав., цяпер у межах Мастоў Гродзенскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], з бел. сялянскай сям'і. У 1926—36 член ВКП(б). Падчас арышту слухач вучэбнага камбіната імя Молатава. Арыштаваны 4.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Малы пр., д. 36/38, кв. 17. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ВАЎНЯНКА Вікенцій Іосіфавіч*** [1911, в. Скрыпчына Віленскай губ., цяпер Літва (?) — 6.11.1937, Казань, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Казанскага інстытута інжынераў камунальнага будаўніцтва. Арыштаваны 23.9.1937. Асуджаны калегіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.11.1937 за «дапамогу міжнароднай буржуазіі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.5.1969.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан*.

**ВАШКЕВІЧ Пётр Емяльянавіч*** [1900, в. Гатава, цяпер Мінскі р-н. — 8.10 (паводле іншых звестак — 11.11) 1938, Магілёў, НКВД], архівіст. З бел. сялянскай сям'і. У 1917 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Цэнтральнага архіва Магілёва. Арыштаваны 16.2.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.9.1938 да ВМП за «шпіянаж». Расстраляны. Рэабілітаваны 4.2.1960. Асабовая справа В. № 6991-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ВАШЧАВОЗ Піліп Андрэевіч*** [1905, в. Максімаўка Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 29.8.1933 у Горках па адрасе: зав. Фермсі, д. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Справа В. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВАЯВОДА Казімір Іосіфавіч*** [1898, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 31.10.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — начальнік рамонтнага цэха Томскага электрамеханічнага завода (?). Арыштаваны

10.6.1938. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 23.10.1938 як «агент германскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.11.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

**ВЕНЧЫК Антон Антонавіч*** [1912, Ігумен Мінскай губ., цяпер Чэрвень Мінскай вобл. — ?], работнік культуры. З сям'і рабочага. Падчас арышту супрацоўнік чэрвеньскай раённай газеты. Арыштаваны 16.5.1931. Асуджаны 8.9.1931 як «член трацкісцкай арганізацыі» да 3 гадоў ссылкі. 29.1.1934 асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ да 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 30.7.1989. Асабовая справа В. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВЕРАМЕЙЧЫК Сямён Засімавіч*** [1903, в. Рачэнь Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 24.12.1937, Віцебск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1929 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарна-заатэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 17.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 6.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 25.3.1958. Асабовая справа В. № 7062-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВЕРАМЯЮК Архіп Рыгоравіч*** [1891, в. Аўгустова Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — начальнік Ленінградскага абл. ўпраўлення сувязі. Арыштаваны 30.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Саюза Сувязі, д. 14, кв. 65. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ВЕРХАВЕЦ Міхаіл Кузьміч*** [1904, в. Смаляны Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — нам. начальніка трэста «Уралбудшлях». Арыштаваны 15.7.1938 у Свярдлоўску. Асуджаны 28.10.1938 да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВЕЧАР Ніка Фёдараўна*** [1905, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], хатняя гаспадыня. З бел. сям'і. Атрымала сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску

па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 34. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як “жонка расстралянага здрадніка радзімы” да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (в. Далінская). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асобная справа В. № 6759-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВІЛЬБУШЭВІЧ Маня** [Марыя Уладзіміраўна (Вульфаўна); 1879, Гродна — ?, Палесціна], удзельніца рабочага і сіяністкага руху. З сям’і купца, які валодаў маёнткам Ласосна (у наваколлі Гродна). Атрымала хатнюю адукацыю (з-за дрэннага здароўя не магла рэгулярна наведваць гімназію). З канца 1890-х г. уваходзіла ў мінскі гурток Бунда на чале з Я.*Гурвіч*. Арыштавана 7.3.1900 у сувязі з правалам падпольнай друкарні Мінскага камітэта Бунда. Разам з іншымі арыштаванымі бундаўцамі дастаўлена ў Маскву. Падчас допытаў трапіла пад уплыў тэорыі начальніка Маскоўскага ахоўнага аддзялення С.Зубатава аб магчымасці легальнага рабочага руху, які падтрымліваўся ўрадам. Вызвалена ў жн. 1900, вярнулася ў Гродна, дзе занялася прапагандай зубатаўскіх ідэй. Тым жа часам датуецца пачатак яе зацікаўленасці сіянізмам. З вясны 1901 разгарнула агітацыю зубатаўскіх ідэй у Мінску. Вылучалася арганізацыйнымі здольнасцямі і неўтаймаванай энергіяй – у жн. 1901 пад уплывам яе групы знаходзілася ўжо 6 цэхаў мінскіх рабочых. З-за сваёй празубатаўскай дзейнасці вымушана пакінуць Бунд. У чэрв. 1901 разам з прыхільнікамі заснавала Яўрэйскую незалежную рабочую партыю (ЯНРП), якая апублікавала

свой маніфест і праграму. Пад уздзеяннем агітацыі ЯНРП у Мінску амаль бесперапынна адбываліся стачкі, у выніку чаго было значна палепшана матэрыяльнае становішча рабочых горада. В. рэгулярна інфармавала Дэпартамент паліцыі і асабіста Зубатава пра ўсе падрабязнасці руху, назвала імёны некаторых дзеячаў Бунда, якія потым былі арыштаваныя. Дамаглася дазволу на правядзенне ў Мінску ў ліст. 1901 легальнага Усерасійскага з'езду прадстаўнікоў ЯНРП і гурткоў рабочых-сіяністаў («Паалей Цыён»). У маі 1902 міністр унутраных спраў Расіі В. Плеве даручыў ЯНРП пашырыць сваю дзейнасць на Вільню. З вер. 1902 займалася ўтварэннем зубатаўскіх рабочых саюзаў у Адэсе. 1903 стаў годам чарговых радыкальных пераглядаў В. сваіх поглядаў — менавіта тады Плеве загадаў забараніць яўрэйскі рабочы рух, ЯНРП ліквідавалі, а ў Кішынёве адбыліся яўрэйскія пагромы. В. расчаравалася ў зубатаўскай тэорыі «сацыяльнай манархіі» і цалкам захапілася сіянізмам, летам 1903 утупіла ў «Паалей Цыён». З 1904 жыла ў Швейцарыі, потым у ЗША, Палесціне, дзе працавала ў сіяніцкіх сацыялістычных калоніях.

Літ.: *Бухбиндер Н.А.* Независимая еврейская рабочая партия // *Красная летопись*. 1922, № 2/3; *Заславский Д.О.* Зубатов и Маня Вильбушевич. М., 1923; *Бич М.О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг. Мн., 1983; *ЭГБ*, т. 2.

**ВІЛЯНСТОВІЧ Павел Рыгоравіч** [крас. 1891, в. Касцюкі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1955, Горкі, цяпер Ніжні Ноўгарад, Расія], дзяржаўны, партыйны і культурны дзеяч. У 1913—17 знаходзіўся ў эміграцыі ў ЗША. Пасля

Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся на радзіму. Далучыўся да партыі бальшавікоў. З 1918 загадчык аддзела і в. а. старшыні рэўкама ў Бабруйску, нам. старшыні павятовага выканкама ў Рагачове. На працягу 1921—23 загадчык аддзела Бабруйскага, Мінскага, Мазырскага павятовых выканкамаў. У 1924—29 сакратар Горацкага павятовага і Аршанскага акруговага камітэтаў КП(б)Б, нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК і адказны сакратар ЦКК КП(б)Б, нам. наркама Рабоча-сялянскай інспекцыі. Член ЦВК БССР (1926—29). Адначасова з'яўляўся старшынёй Цэнтральнага бюро краязнаўства БССР. У 1929—31 член ЦК КП(б)Б. З пачаткам наступу на бел. культуру пазбаўлены магчымасці працаваць на радзіме, зняты з кіруючых пасадаў і адпраўлены на гаспадарчую работу ў Варонеж. Арыштаваны і зняволены ў студз. 1938. Пасля вызвалення пасяліўся ў Горках. Дачакаўся прыжыццёвай рэабілітацыі 2.7.1955.

Кр. геагр: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *ЭГБ*, т. 2.

**ВІНЕР Уладзімір Уладзіміравіч*** [1872, Астрахань, Расія — ?], навуковец, педагог. З сям'і вайскоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар БДУ. Арыштаваны 25.4.1931 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 18.8.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў ссылкі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 26.12.1989. Асабовая справа В. № 29282-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВІР Міхаіл Антонавіч*** [1905, в. Мольнічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 10.8.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Апошняе месца работы — эканаміст завода «13 кастрычнік». Арыштаваны 28.3.1938 на станцыі Вешнякі Маскоўска-Казанскай (?) чыгункі па адрасе: вул. Сацыялістычная, д. 28. Асуджаны «тройкай» НКВД 2.8.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 6.8.1962. Асабовая справа В. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВІСКОЎСКІ Станіслаў Іванавіч** [12.2.1839, Варшава — ?,], удзельнік паўстання 1863—64 у Беларусі. З дробнамаянтковай мсціслаўскай шляхты. У 1858 паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут, дзе вучыўся на сродкі Т.Чудоўскага — дзеяча рэвалюцыйнага руху на Магілёўшчыне. Хутка В. стаў адным з лідэраў студэнцтва ў інстытуце. Вылучаўся поспехамі ў вучобе, у жн. 1861 прымаў удзел у сельскагаспадарчым з'ездзе ў Горках. З пачаткам паўстання В. 1(13).3.1863 прызначаны паўстанцкім начальнікам г. Горкі. З Масквы і Пецярбурга прывёз зброю. У ноч на 24.4(6.5).1863 паўстанцкія сілы на чале з В. і Звяждоўскім занялі Горкі. Пасля разгрому паўстанцаў царскімі войскамі В. склаў зброю. Падчас следства знаходзіўся ў турмах Магілёва і Вільні. Атрымаў смяротны прысуд, заменены на 12-гадовую катаргу ў Сібіры. У канцы 1870-х г. жыў у Іркуцку. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *В. [Ратч].* Очерки мятежного движения в Могилевской губернии… в 1863 году. Вильна, 1865; *Цытовіч С.* 1863 год у Горы-Горках, быўш. Магілёўскай губ.: (Падзеі паўстання) // *Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН*. Кн. 8. Працы клясы гісторыі. Т. 3. Мн., 1929; *Восстание в Литве и Белоруссии. 1863—1864 гг.* М., 1965; *ЭГБ*, т. 2.

**ВІСЛАВУХ Ігнат Баляслаў** [10(22).11.1855, маёнтак Саха (?) Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл. — 13.9.1937, Львоў], грамадскі дзеяч, публіцыст, рэдактар. У 1874—79 вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. Падчас вучобы далучыўся да народніцкага руху, вёў сацыялістычную прапаганду сярод бел. і польскага студэнцтва, падтрымліваў сувязі з І. Грынявіцкім. Арыштаваны ў 1879. У тым жа годзе вызвалены. Выехаў у Варшаву, дзе стаў адным з кіраўнікоў мясцовай сацыялдэмакратычнай арганізацыі. Склаў новую, дэмакратычную па свайму характару, праграму арганізацыі. Зноў арыштаваны ў лют. 1880. Зняволены ў турме на 3 гады. Пасля вызвалення (1883) высланы ў бацькоўскі маёнтак пад публічны нагляд паліцыі. У 1884 выехаў у Аўстра-Венгрыю і пасяліўся ў Галіцыі. У 1886—87 рэдактар львоўскага час. «Przegląd Społeczny» («Грамадскі агляд»). У 1889 заснаваў газ. «Przyjaciel Ludu» («Сябар народа»). Журналісцкай дзейнасцю садзейнічаў арганізацыйнаму афармленню сялянскага руху. Разам з В. у грамадскім руху Беларусі і Польшчы брала ўдзел яго жонка Марыя і яе маці С. А. Баўфал (у 1887 яе саслалі на 2 гады ў Сургут Табольскай губ.). Праз Баўфал падтрымліваў сувязі з асяродкамі Вільні, Гродна, Віцебска. У 1922—28 сенатар Польшчы.

*Леанід Маракоў*

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Деятели революционного движения в России: Библиографический словарь.* Т. 3, вып. 1. М., 1933; *Общественное движение на польских землях: Основные идейные течения и политические партии в 1864—1914 гг.* М., 1988; *ЭГБ*, т. 2.

**ВІТКОЎСКІ Мікалай Афанасьевіч*** [1907, в. Сухарава Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер у межах Мінска — 10.11.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — інжынер мантажна-тэхнічнага трэста. Арыштаваны 2.10.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны 2.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВІЦКІ Дзмітрый Уладзіміравіч*** [1914, Полацк Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне (з ліп. 1943). Пасля перамогі жыў у в. Гяйценава Дрысенскага р-на (цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл.). Працаваў землеўладкавальнікам у Маладзечанскім аддзяленні землеўладкавання. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 20.12.1954. Асуджаны 19.5.1955 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 9.11.1993. Асабовая справа В. № 23306-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ВІШНЕЎСКІ Вітольд Францавіч*** [1885, Магілёўская (?) губ., цяпер Магілёўская вобл. — 20.11.1937, Уфа, НКВД], медык, вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Апошняе месца работы — урач санітарнай часці НКВД Башкірскай АССР. Арыштаваны 15.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД СССР за «антысавецкую агітацыю і ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.1.1958.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**ВІШНЯВЕЦКІ Мікалай Пятровіч** [1897, Магілёў — 1941, ГУЛАГ], вайсковец. У 1916 скончыў Маскоўскую школу прапаршчыкаў. У 1917 па даручэнні ваеннай арганізацыі Петраградскага камітэта РСДРП(б) вёў антываенную агітацыю сярод салдат. Арыштаваны ў ліп. 1917. З восені таго ж года старшыня штаба Чырвонай гвардыі Выбаргскага р-на Петраграда; камісар гвардыі Маскоўскага рэзервовага палка. У 1918 ваяваў супраць войск Доўбар-Мусніцкага і нямецкіх акупантаў. Член Вышэйшай ваеннай інспекцыі, член РВС Рэзервовай арміі. Са студз. 1919 член РВС Украінскага фронта, з лета 1919 у 1-й Коннай арміі, камісар 11-й кавалерыйскай дывізіі. У 1920-х г. скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе. У 1930-я г. на дыпламатычнай рабоце ў Японіі. Потым на камандных пасадах у Чырвонай арміі. Арыштаваны ў 1938, асуджаны да зняволення ў канцлагерах. Загінуў у ГУЛАГу. Рэабілітаваны ў 1956. Імем В. названа вуліца ў Магілёве.

Літ.: *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Магілёва.* Мн., 1998.

**ВОЛКАЎ Іван Іванавіч*** [1918, в. Бучкава Цвярской губ., цяпер Цвярской вобл., Расія — ?], грамадскі дзеяч. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. У 1953 — вязень Брэсцкай турмы. Узяты пад варту 10.8.1953. Асуджаны 12.9.1953 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў пазбаўлення волі (заменена на 5 гадоў). Накіраваны ў Аршанскую турму. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі 21.1.1992. Асабовая справа В. № 11094-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ВОЛКАЎ Сцяпан Сяргеевіч*** [1894, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 27.4.1941, ГУЛАГ], службовец. З бел. сям'і. У 1928 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік водазабеспячэння станцыі Курган Курганскай вобл. (Расія). Арыштаваны 4.2.1937. Асуджаны Лінейным судом Паўднёваўральскай чыгункі 15.9.1937 за «дыверсійна-шкодніцкую дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі (з мая 1938 рэфармаваны ва Ухта-Іжэмскі) канцлагер НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны аддзелам КДБ Паўднёваўральскай чыгункі 4.10.1957.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области*. Курган, 2002. Т. 1.

**ВОЛЬНІК Людвік Казіміравіч*** [1889, в. Слесін, Паморскага ваяв., цяпер Польшча — ?], службовец. З сям'і ра-

бочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. бургамістр Баранавічаў. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 29.9.1939. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 4.9.1940 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Сібірскі (?) канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Вызвалены 2.9.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 31.7.1989. Асабовая справа В. № 9472-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ВОЛЬФ Рамана Давыдаўна** [12.12.1899, Варшава — 1937, НКВД], дзяячка рэвалюцыйнага руху. У час грамадзянскай вайны ў Расіі сакратар Харкаўскага і Гомельскага падпольных камітэтаў РКП(б). У 1920—24 у РВС Зах. фронту, у калегіі ВЧК—ГПУ. У 1924 накіравана на падпольную работу ў Зах. Беларусь: сакратар Віленскага, Беластоцкага, Брэсцкага акруговых камітэтаў КПЗБ, сябра ЦК КПЗБ. Затым сакратар Дамброўскага акруговага камітэта КП Польшчы. Таксама курыравала прафсаюзную работу; на III Канферэнцыі КПЗБ у Маскве ў студз. 1926 выступіла з дакладам пра дзейнасць партыі ў прафесійных саюзах. Арыштавана польскімі ўладамі ў жн. 1926. На «працэсе 133-х» (17.4—28.5.1928, Беласток) асуджана да 6 гадоў пазбаўлення волі. Паводле рашэння кіраўніцтва КПЗБ В. дзеля крытыкі палітыкі польскага ўраду ў ліку нешматлікіх прызналася ў сваёй прыналежнасці да кампартыі і яе кіруючых органаў. З-за вастрыні сваіх выступаў неаднаразова пазбаўлялася на судзе слова і выводзілася з залы. Пасля вызвалення ў 1932 выехала ў БССР, са жн. 1933

член Бюро ЦК КПЗБ і яго прадстаўнік пры ЦК КП(б)Б у Мінску. У 1934 сябра Польскага сакратарыята пры ЦК Кампартыі Францыі. У жн. 1937 вярнулася ў СССР. У хуткім часе арыштавана НКВД і расстраляна. Рэабілітавана пасмяротна.

Літ.: *Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Документы и материалы.* Т. 1 (1921—1929 гг.). Мн., 1962; *Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).* Мн. 1968; *Арэхва М.* Працэс «ста трыццаці трох» // *Полымя.* 1969. № 9; *Орехво Н.С.* Дела и люди КПЗБ: Воспоминания. Мн., 1983. С. 110—125; *Bergman A.* Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984. S. 23, 31–32; *ЭГБ*, т. 2.

**ВОСТРЫКАЎ Цімох (Міхась)** [н. 28.8.1922, в. Баршчоўка Гомельскага пав. Гомельскай губ., цяпер Добрушскі р-н Гомельскай вобл.], удзельнік антысавецкага руху. У 1940 скончыў двухмесячныя настаўніцкія курсы і да пачатку нямецкай акупацыі настаўнічаў у Маларыцкім р-не Брэсцкай вобл. У 1941 мабілізаваны ў Чырвоную армію. У першыя месяцы вайны трапіў у нямецкае акружэнне, адпраўлены ў канцлагер для ваеннапалонных. Уцёк з лагера ў Гомель. У 1942 працаваў як «остарбайтэр» у Германіі. В. прыгадваў: «Прыкінуўся прыпадачным і, атрымаўшы дакумент, што нягодны для працы, вярнуўся ў Гомель. Там мне далі даведку, што я добраахвотна паехаў у Нямеччыну, але як хворы вярнуўся назад». У 1943 перад В. паўстала дылема: альбо вяртацца да савецкага жыцця, альбо шукаць іншай перспектывы. В. ізноў скіраваўся ў Германію, дзе ў 1944 апынуўся ў амерыканскай акупацыйнай зоне. У 1945 змяніў у дакументах імя Цімох на

Міхась і назваўся ўраджэнцам Зах. Беларусі з увагі на прымусовую рэпатрыяцыю ўсіх «усходнікаў» у СССР. З 1946 да 1948 вучыўся ў Міхельсдорфскай беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Па прызнанні В., менавіта дзякуючы навучанню ў гімназіі ён з простага праціўніка савецкага рэжыму ператварыўся ў свядомага беларуса. Пасля сканчэння гімназіі разам з аднакласнікамі ўдзельнічаў у выпуску і распаўсюджванні час. «Наперад». Напрыканцы 1948 скіраваўся на заробкі ў вугальныя шахты Англіі. У 1950 з ім сустрэўся тагачасны прадстаўнік Рады БНР, звязаны з амерыканскай разведкай, Барыс Рагуля, які прапанаваў навучанне ў Лювенскім ун-це ў Бельгіі. У 1951 В. апынуўся на амерыканскай вайсковай базе Бадверысгофен пад Мюнхенам. Пасля спецпадрыхтоўкі ў складзе чатырохасобавай групы як паўнамоцны прадстаўнік Рады БНР у ноч з 26 на 27 жн. 1952 дэсантаваўся на тэрыторыю БССР. Арыштаваны органамі МДБ 5.9.1952 праз здраду аднаго з удзельнікаў высадкі. Да 1955 знаходзіўся ў мінскай следчай турме «Валадарцы». У 1955 асуджаны да 23 гадоў папраўча-працоўных лагераў. У зняволенні (у лагерах Мардовіі) знаходзіўся да 1975. Пасля вызвалення працаваў на розных будоўлях. Выйшаў на пенсію на пачатку 1980-х г. Паводле сцверджання В., «ён падрабязным чынам занатаваў свае ўспаміны, якія адносяцца да стасункаў з амерыканскай выведкай і высадкі ў Беларусі». Сёння В. лічыць, што «яшчэ не прыйшоў час» публікаваць дэталі гэтай справы. Жыве ў Гомелі.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Максімюк Я.* Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945—1950. Нью Ёрк — Беласток, 1994; *Антысавецкія рухі*.

*Леанід Маракоў*

**ВОЮШ Рыгор Барысавіч*** [1901, в. Слабодка Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы. Арыштаваны 16.11.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны 16.1.1938 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВРОНСКАЯ Ганна Міхайлаўна*** [12.6.1906, Барысаў Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?], педагог, жонка Георгія *Ерафеева*. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у Мінскай СШ № 14. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 8.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 35, кв. 25 (?). Асуджана 8.10.1938 як «член сям'і асуджанага ўдзельніка контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 9.4.1957. Асабовая справа В. № 10312-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВЫСОЦКІ Антон Антонавіч** [1905, Масква — 27.10.1937, Масква, НКВД], журналіст. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. рэдактара газ. «Комсомольская правда». Арыштаваны 8.7.1937 у Маскве па адрасе: Сярэдне-Цішынскі зав., д. 3/5, кв. 49.

Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 27.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 29.12.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ВЫСОЦКІ Іосіф Вікенцевіч*** [1903, в. Новая Старына Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 21.11.1937, Мінск, НКВД], работнік культуры. З сялянскай сям'і. Падчас арышту дэкаратар БДТ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску. 13.11.1937 «тройкай» НКВД асуджаны як «агент польскіх разведорганаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 14.8.1958. Асабовая справа В. № 12273-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВЫШАНЧУК Максімілян Андрэевіч*** [1891, мяст. Расто (?) Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі (?) р-н Брэсцкай вобл. — 9.11.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту інспектар аховы працы Томскага гарадскога камітэта саюза медыкаў. Арыштаваны 29.8.1937. Асуджаны 27.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.4.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ВЯЛІЧКА Платон Іванавіч*** [1893, в. Касцюковічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?, ГУЛАГ], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Працаваў в. а. начальніка харчовай базы. 24.2.1938 узяты пад варту у Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Мядзведжагорскага р-на Карэла-Фінскай АССР. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.3.1938 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Карэльскай АССР 28.3.1958.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ВЯЛІЧКА Юлій Валяр'янавіч*** [1890, в. Мар'янава (?) Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская (?) вобл. — 3.1.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў аграномам. Арыштаваны 17.12.1937 у Томску. Асуджаны 25.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.2.1963.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ВЯЛОВІЧ (ЖУРНЕВІЧ) Людміла Яўстафіеўна*** [1906, в. Сухая Даліна Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 25.11.1938, Полацк, НКВД], педагог, жонка Уладзіміра *Вяловіча*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у Полацкай СШ № 10. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 13.7.1937. Асуджана «тройкай» НКВД 15.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП.

Расстраляна. Рэабілітавана трыбуналам БВА 31.3.1970. Асабовая справа В. № 13816-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВЯЛОВІЧ Уладзімір Мікалаевіч*** [1.3.1902, в. Бярозаўка Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 5.1.1938, Полацк, НКВД], службовец, муж Людмілы *Вяловіч*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў планавіком Полацкай лесапрамысловай гаспадаркі. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 13.7.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 31.3.1970. Асабовая справа В. № 13805-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ВЯРБІЦКІ Іван Карлавіч*** [1877, в. Дзяўчы (?) Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], работнік культуры. З сялянскай сям'і. Падчас арышту настройшчык інструментаў у МБПТ. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 22.3.1929 у Мінску па адрасе: вул. Луначарскага, д. 5, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 26.7.1929 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 22.11.1991. Асабовая справа В. № 31874-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВЯРДЗЕРАЎСКІ Дзмітрый Аляксеевіч*** [1869, Масква — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту хімік-кансультант навукова-даследчай лабараторыі завода № 40. Арыштаваны 2.4.1934 у Казані. Асуджаны судовай калегіяй АДПУ Татарскай АССР 25.5.1934 як «удзельнік шкодніцкай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (прысуд быў заменены на 10 гадоў ссылкі ў Казахстан). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 7.5.1956.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

**ВЯРЖБІЦКІ Аляксандр Рычардавіч*** [1891, Варшава, Польшча — 7.7.1943, ГУЛАГ], музейны работнік. З сям'і рабочага. У час 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў унтэр-афіцэр царскай арміі (да 1919). У пасляваенны час навуковы супрацоўнік, затым загадчык фінансавага аддзела Дзяржаўнага музея БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 10.8.1933 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 15, кв. 9. Асуджаны калегіяй АДПУ 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў пазбаўлення волі (заменены на ссылку). 13.9.1937 зноў арыштаваны і 16.11.1937 асуджаны «тройкай» НКВД да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Пакаранне адбываў ва Ухта-Пячорскім, потым Ухта-Іжэмскім альбо Пячорскім канцлагерах НКВД Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Справа В. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ВЯРЖБІЦКІ Восіп Восіпавіч*** [1888, в. Агароднікі Гродзенскага пав., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], журналіст. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту супрацоўнік газ. «Балтиец» завода № 189 імя Арджанікідзе і інструктар газеты Пралетарскага паравознага завода. Арыштаваны ў Ленінградзе 1.11.1937 па адрасе: Васільеўскі востраў, 2-я лінія, д. 61, кв. 56. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «контррэвалюцыйную, антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВЯРХОЎСКІ Іван Радзівонавіч*** [1895, в. Бутава Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Працаваў асістэнтам у «ТЭМІІТ» (?). Арыштаваны 1.11.1936 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.4.1937 як «член трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 13.4.1956.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВЯРШКОЎ Васіль Нікіфаравіч*** [1893, в. Ліпаўка Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], ветэрынар. З бел. сялян-

скай сям'і. Скончыў царкоўна-прыходскую школу. Апошняе месца работы — ветэрынарны фельчар райзо. Арыштаваны 19.11.1942 у в. Бяляеўка Любінскага р-на Омскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 8.9.1943 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне адбываў у Омскай папраўча-працоўнай калоніі № 7 (?). Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 29.6.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ВЯЧОРАК Альфрэд Антонавіч*** [1892, Беласток, Гродзенскай губ., цяпер Польшча — 3.8.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец, навуковец. З бел. сям'і. Падчас аршыту загадчык кафедры (?) трэста «Усходстальлес». Арыштаваны 5.7.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны 3.8.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ГАВЕЙКА (ВОРАНАЎ) Уладзімір Фёдаравіч*** [1900, мяст. Лыскава Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 21.11.1937, Свярдлоўск, НКВД], партыйны работнік. З бел. сям'і. Падчас арышту сакратар партыйнага камітэта Шамотнага завода. Арыштаваны 21.8.1937 на ст. Баргдановічы (?) Сухаложскага р-на Свярдлоўскай вобл. 15.11.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАДУНОЎ Афанасій Фёдаравіч*** [1903, в. Ядраная Слабада Магілёўскай губ., цяпер Клічаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную (тэхнічную) адукацыю. Падчас арышту загадчык (дырэктар) Карвугалю. Арыштаваны 8.1.1935 у Карагандзе. Асуджаны 14.3.1935 спецыяльнай калегіяй казахскага аддзялення НКВД за «антысавецкую агітацыю» да 2 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЙДУКЕВІЧ Іван Іванавіч*** [1898, в. Малькавічы Віленскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 25.2.1944, Масква, «Камунарка», НКВД], інжынер. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту галоўны інжынер Маскоўскага камбіната высокагатунковых вырабаў трэста «Хлебапячэн-

не». Арыштаваны 18.3.1943 у Маскве па адрасе: Скацерны зав., д. 5, кв. 4. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.2.1944 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай СССР 21.2.1990.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ГАЙДУКЕВІЧ Станіслаў Сільвестравіч*** [13.5.1876, Мінск — 25.5.1937, Мінск, НКВД], архітэктар, брат Ядвігі *Гайдукевіч*. З шляхецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у праектным бюро. Арыштаваны 5.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. К.Маркса, д. 40, кв. 16. Ва ўнутранай турме НКВД скончыў жыццё самагубствам (ускрыў сабе вены). Рэабілітаваны ваеннай пракуратурай 22.8.1957. Асабовая справа Г. № 11251-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЙДУКЕВІЧ Ядвіга Сільвестраўна*** [15.10.1885, Мінск — 15.3.1938, Мінск, НКВД], педагог, сястра *Станіслава Гайдукевіча*. З шляхецкай сям'і. Атрымала вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у Дамавіцкай няпоўнай СШ Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. Выйшла замуж. Арыштавана 25.12.1937 у в. Дамавіцк. Асуджана 15.3.1938 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана трыбуналам БВА 20.1.1967. Асабовая справа Г. № 19658-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЙДУЧАК Канстанцін Пятровіч*** [1890, мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — 3.11.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік 3-га аўтобуснага парка Масквы. Арыштаваны 22.8.1937 у Маскве па адрасе: 6-ы Лучавы прасек, д. 7, кв. 4. Асуджаны 6.10.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж, удзел у трацкісцкай антысавецкай арганізацыі і шкодніцтва» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1957. Асабовая справа Г. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЙДУЧЭНЯ Іван Іванавіч*** [1893, ? — 10.11.1937, Смаленск, НКВД], ветэрынарны ўрач. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную або вышэйшую адукацыю. Працаваў ветэрынарам на ст. Смаленск. Арыштаваны 2.10.1937. У канцы 1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ГАЛАВАЧЭНКА Іван Андрэевіч*** [1894, в. Бірча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 19.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік дэпо ст. Фаянсавая Маскоўска-Кіеўскай чыгункі Калужскай

вобл. Арыштаваны 3.5.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.2.1938 за «дыверсійнашкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай РФ 29.10.1993.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЛЕНКА Сідар Фаміч*** [1889, в. Блудзень Гродзенскай губ., цяпер в. Першамайская Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. — 4.7.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — інжынер па планаванню завода НКПС імя Вайтовіча. Арыштаваны 21.9.1937 на ст. Салтыкоўка, вул. Кастрычніцкая, д. 17, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 20.6.1938 за «антысавецкую агітацыю і ўдзел ў антысавецкай трацкісцкай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 7.4.1958. Асабовая справа Г. № 50505 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЛЁРКІН Ісак Юдавіч*** [1909, Полацк, цяпер Віцебскай вобл. — 13.10.1937, Орша, НКВД], мастак. З купецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту працаваў на Аршанскім ільнокамбінаце. Арыштаваны 4.8.1937 у Оршы. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.9.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны праку-

рорам Віцебскай вобл. 4.10.1989. Асабовая справа Г. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ГАЛКОЎСКІ Міхаіл Аляксандравіч*** [1899, в. Дзернавая (?) Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 4.11.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец, верагодна, сын Аляксандра *Галкоўскага*. Падчас арышту старшы бухгалтар-інструктар «УВЗ» (?). Арыштаваны 6.8.1937 у Ніжнім Тагіле Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 29.10.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЛУЗА Пётр Трыфанавіч*** [1922, в. Хмялёўка Омскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту курсант Омскага (?) мінамётнага вучылішча. Арыштаваны 15.7.1942. Асуджаны трыбуналам Омскага гарнізона 7.10.1942 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Сібірскай ВА 10.9.1991.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ГАЛУШЭВІЧ Леанід Міхайлавіч*** [1885, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — 16.9.1937, Мас-

ква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. старшы інспектар Саюза электрасувязі. Арыштаваны 5.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. 7-я Чырвонаармейская, д. 5, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД як «член польскай масонскай ложы «Блакітны крыж», а таксама за «контррэвалюцыйную фашысцкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.3.1990. Асабовая справа Г. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ГАЛЫНСКІ Афроім Гіршавіч*** [1921, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], музыкант. З сям’і рабочага. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. З 1941 дырыжор духавога аркестра вайсковай часці № 3205. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 15.4.1950 у Таліне. Асуджаны 30.5.1950 за «контррэвалюцыйную прапаганду і агітацыю» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны паводле пастановы трыбунала Прыбалтыйскай ВА 16.11.1956. Асабовая справа Г. № 7516-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГАМАЛІЦКІ Мікалай Георгіевіч*** [1901, в. Звяняга Вольскай (?) губ., цяпер Расія (?) — 28.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям’і. Падчас арышту інжынер Райміжлеспрамсаюза. Арыштаваны 24.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй

НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ГАМАРНІК Ян Барысавіч** [2(14).6.1894, Жытомір, Украіна — 31.5.1937], дзяржаўны і ваенны дзеяч. Аўстрыец паводле паходжання. З 1915 вучыўся ў Кіеўскім ун-це. З 1916 член РСДРП; пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 сакратар Кіеўскага камітэта РСДРП(б). У 1918—20 член Усеўкраінскага падпольнага цэнтра; член РВС Паўдн. групы 12-й арміі, камісар дывізіі; старшыня Адэскага, Кіеўскага губкамаў КП(б)У, Кіеўскага губвыканкама. З 1923 на Далёкім Усходзе — старшыня Дальрэўкама, крайвыканкама, сакратар Далькрайкама ВКП(б). Кандыдат у члены ЦК ВКП(б) (1925—27). У ліст. 1928 прызначаны 1-м сакратаром ЦК і членам Бюро ЦК КП(б)Б; член РВС БВА. Член ЦВК СССР і ЦВК БССР (1929). Вылучаўся карэктнасцю і тактоўнасцю, добры выступоўца і арганізатар. Устрымліваўся ад заангажаванасці ў барацьбе паміж рознымі кланамі ў КП(б)Б. На пасадзе ў Беларусі доўга не пратрымаўся: у 1929 яго прызначылі начальнікам Палітупраўлення БВА, а ў ліст. 1929 перавялі ў Маскву начальнікам Палітупраўлення Чырвонай арміі; адначасова адказны сакратар газ. «Красная звезда». Армейскі камісар 1-га рангу (1935). З 1930 нам. наркама абароны і нам. старшыні РВС СССР. У атмасферы цкаванняў як «вораг народа» скончыў жыццё самагубствам. Рэабілітаваны ў 1956. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

Літ.: *Салехов Н.И.* Я.Б.Гамарник: Очерк о жизни и деятельности. М., 1964; *Ян Гамарник: Воспоминания друзей и соратников*. М., 1978;

*Реабилитированы историей*. М., 1989; *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001; *Протько Т. С.* Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002; *ЭГБ*, т. 2; *БЭ*, т. 5.

**ГАМЗА Васіль Лявонавіч*** [1904, Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 26.5.1938, Масква, НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. У 1929 уступіў у ВКП(б). У 1935 выключаны з ВКП(б) за «грубае парушэнне партыйнай дысцыпліны». Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі «Союззаготпушнины». Арыштаваны 6.3.1938 у Маскве па адрасе: вул. Цэнтральная, д. 64, кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 16.5.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 1.8.1989. Асабовая справа Г. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГАНЧАРУК Іван Анікеевіч*** [1898, Мінск — 28.10.1937, Омск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — нам. начальніка крэдытнага ўпраўлення Омскага абл. дзяржаўнага банка. Арыштаваны 3.7.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.10.1937 за «антысавецкую дзейнасць» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 29.11.1956.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**ГАРАНСКІ Канстанцін Піліпавіч** [10.5.1881, Полацк, цяпер Віцебская вобл. — 27.11.1938, Мінск, НКВД], вайсковец, педагог. У 1898 скончыў Полацкі кадэцкі корпус, у 1901 Канстанцінаўскае артылерыйскае вучылішча, затым Артылерыйскую акадэмію ў Пецярбургу. Удзельнічаў у руска-японскай і 1-й сусветнай войнах, узнагароджаны царскімі ордэнамі. З 1919 у Чырвонай арміі. З 1921 выкладчык Вышэйшай ваеннай школы Прыволжскай ВА, 7-й казанскай пяхотнай школы. З 1923 жыў у Віцебску, потым у Мінску, кіраваў і выкладаў курс артылерыі ў Аб’яднанай бел. вайсковай школе імя ЦВК БССР (1923—31). Загадваў ваенна-вучэбнай часткай БДУ (1931). Падчас арышту старшы выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 28.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Мопраўская, д. 21, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.11.1938 як «агент нямецкай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 30.10.1956. Асабовая справа Г. № 7403-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Віцебска. Мн., 2002. Т. 2.

**ГАРАЎСКІ-ГРАКАЛА Адам Іванавіч*** [16.1.1905, хут. Мурашкі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 27.8.1937, Мінск, НКВД], навуковец, брат Вільгельма *Гараўскага*. З сям’і шляхціца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 21.1.1937 у Мінску па адрасе: вул. Чыгуначная, д. 10. Асуджаны пракуратурай СССР 25.8.1937 да ВМП як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі і вораг народа, які садзей-

нічаў шпіёнскай дзейнасці брата, аўтара шэрагу нацыянал-фашысцкіх твораў». Рэабілітаваны трыбуналам БВА 27.11.1958. Справа Г. № 13307-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГАРАЧЫ Эдуард Мікалаевіч*** [1936, Яраслаўль, Расія — ?], акцёр. З дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Арыштаваны 25.1.1962 у Мінску па адрасе: вул. К. Лібкнехта, д. 172. Паводле дадзеных следства, Г. з 1957 чытаў і распаўсюджваў сярод сяброў атрыманыя з Масквы рукапісныя зборнікі і анекдоты: пародыю на гімн СССР, прозу Уліціна («Табу», «Анты-Асаркан»). Асуджаны 6.6.1962 за «антысавецкую агітацыю» да 2 гадоў папраўча-працоўных лагераў. У судзе заявіў, «што быў незадаволены савецкай уладай, меркаваў, што сацыялізм будуецца на прыгнёце асобы, што савецкая прамысловасць пабудавана на прыгнёце сялян». Этапаваны ў Дубраўны (былы Цемнікаўскі) канцлагер Мардоўскай АССР (ст. Поцьма). Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда Беларусі 9.12.1983. Асабовая справа Г. № 35747-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 92547.

Літ.: *58$^{10}$*, с. 592; Тэатральная Беларусь. Т. 1. С. 249.

**ГАРБАЦЭВІЧ-КЛІНЦЭВІЧ Пётр Аляксандравіч*** [ліп. 1903, мяст. Трабы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. —

27.2.1938, Мінск, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, навуковец, брат Сямёна *Клінцэвіча.* З сялянскай сям'і. Падчас 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Самары. Скончыў сярэднюю школу. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне (на баку бальшавікоў). У 1920 уступіў у ВКП(б). З 1922 на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. Пасля вяртання ў БССР навуковы супрацоўнік камісіі па Зах. Беларусі БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 31.8.1933 у Мінску па адрасе: вул. Універсітэцкая, д. 36/29, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены 25.7.1935. Зноў арыштаваны ў 1937. «Тройкай» НКВД 13.2.1938 прыгавораны да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 10182-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956, па другой 28.11.1956.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАРБАЧОЎ Савелій Паўлавіч*** [1889, в. Ляды Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], навуковец, педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны ў Горках у інтэрнаце акадэміі 11.8.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ». Вызвалены 21.1.1934 (?). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Справа Г. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАРБАЧОЎ Фёдар Філімонавіч*** [1902, в. Дзямяшкава Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — ?, ГУЛАГ], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня прамысловай арцелі. Арыштаваны 13.12.1937 у Кемі. Асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР 28.12.1937 за «здраду радзіме», «антысавецкую дзейнасць» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны пракурорам Карэліі 7.5.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А. Дзмітрыева.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАРДЗЕЙ Сільвестр Юр'евіч*** [14.9.1894, в. Шкленск Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 25.4.1938, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Правіянцкая, д. 10/19, кв. 1. Асуджаны 29.3.1938 як «агент польскіх разведорганаў, які займаўся зборам шпіёнскіх звестак і дыверсіямі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.12.1957. Асабовая справа Г. № 11183-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

У пасляваенны час таксама была рэпрэсавана дачка Г. — Нінэль, 1925 г. нараджэння, студэнтка МВПІ. 18.6.1948 яна была арыштавана ў Мінску па адрасе: Цнянскі зав., д. 10, кв. 1. Асобай нарадай МДБ 30.10.1948 асуджана да 3 гадоў папраўча-працоўных

работ і этапавана ў канцлагер «Волгабуд» МДБ Яраслаўская вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Беларусі 15.6.1992. Асабовая справа Н. Гардзей № 34410-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАРДЗЕЙКА Аляксандр** [н. 6.6.1928, в. Рацкевічы Косаўскага пав. Палескага ваяв., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.], удзельнік бел. патрыятычнага падполля. З 1939 жыў на Слонімшчыне. Скончыў Слонімскую СШ. У пачатку мая 1946 узяў удзел у заснаванні падпольнай арганізацыі з канспіратыўнай назвай «Чайка». Арыштаваны органамі МДБ 17.7.1947 і асуджаны ваенным трыбуналам 16—18.10.1947 у Баранавічах да 10 гадоў зняволення і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапамі прайшоў праз турмы Баранавічаў, Оршы і лагеры Княжпагоста, Сольвычагорска, Тайшэта, Магадана. Вызвалены 24.11.1954. Застаўся ў Магадане. У 1959 скончыў Магаданскі горна-геалагічны тэхнікум, працаваў геолагам. У Беларусь вярнуўся ў студз. 1965, уладкаваўся на работу ў аб'яднанне «Беларуськалій». З 1978 на пенсіі. Жыве ў Салігорску.

Літ.: *Антысавецкія рухі*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАРДЗІЕНКА Вера Пятроўна*** [1927, Мінск — ?], навучэнка. З сям'і службоўца. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 21.9.1944 у Мінску па адрасе: Пугачоўскі зав., д. 11,

кв. 2. Асуджана 30.12.1944 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» і за «контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалена 5.7.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 11.5.1960. Асабовая справа Г. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРНОЎСКІ Вячаслаў** [? — ?], удзельнік нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Грэцыі. У 1820 у Магілёве ўступіў у тайнае грэчаскае рэвалюцыйнае таварыства. У пачатку 1821 выехаў у Валахію (Румынія), дзе сфарміраваў уланскі полк. На працягу 3 месяцаў прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць турэцкіх акупантаў. Ваяваў у складзе расійскіх войск пад камандаваннем генерала Аляксандра Інсіланці. Пасля паражэння пад Драгашанамі перайшоў аўстрыйскую мяжу, але быў схоплены і зняволены ў турме на працягу 5 гадоў. Паводле патрабавання цара Аляксандра I у 1826 выдадзены Расіі. Вернуты ў Магілёў пад пільны нагляд паліцыі. У 1837 урад Грэцыі завочна ўзнагародзіў Г. найвышэйшым ордэнам «Збавіцеля».

Літ.: Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Магілёва. Мн., 1998. С. 130—131.

**ГАРЫЗОНТАЎ Пётр Дзмітрыевіч*** [1902, Петрапаўлаўск, Расія — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік Інстытута свінагадоўлі. Арыштаваны 26.3.1931 у Мінску па адрасе: вул. Нова-Серпухоўская,

д. 25, кв. 2. Абвінавачваўся як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі, што існавала ў сістэме наркамата аховы здароўя БССР». Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 29.1.1932 вызвалены (з залікам тэрміну папярэдняга зняволення). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Г. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАРЭЛЫШАЎ Сяргей Яфімавіч*** [1915, Віцебская губ., цяпер Віцебская (?) вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў інжынерам. Арыштаваны 28.9.1941. Асуджаны Куйбышаўскім абл. судом у 1941 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом РСФСР 7.8.1990.

Кр.: *Белая книга.*

**ГАТАЎ Навум Барысавіч*** [1882, Мінск — ?], юрыст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Мінскай калегіі праваабаронцаў. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 24.11.1930 у Астрашыцкім гарадку. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 6.6.1931 як «інфарматар, які садзейнічаў падробцы дакументаў» (?) да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. 22.2.1933 датэрмінова вызвалены, але пазбаўлены права жыць у вызначаных месцах да заканчэння тэрміну дзеяння прыгавора. Далейшы лёс

невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай РБ 18.11.1992. Асабовая справа Г. № 35000-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЎРЫЛЕНКАЎ Сямён Пятровіч*** [1880, мяст. Дрыбін Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 29.11.1937, Масква, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную медыцынскую адукацыю. Працаваў фельчарам. Падчас арышту пенсіянер, інвалід 2-й групы. Арыштаваны ў 1937 у Маскве па адрасе: вул. 2-я Ізвозная, д. 36б, пакой 72. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 23.12.1937 як «падазроны ў шпіёнскай дзейнасці» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 11.10.1956. Асабовая справа Г. № 39903 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГАЎРЫЛІК Аляксандра Антонаўна*** [1907, ? — 8.6.1938, ?, НКВД], навуковец. З бел. сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. навуковы супрацоўнік пладоваягаднай станцыі. Арыштавана 11.2.1938. Асуджана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляна. Месца смерці невядома. Рэабілітавана СССР 30.8.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**ГАЎРЫЛІК Ванда Генрыхаўна*** [1900, Лодзь, цяпер Польшча — ?], навуковец, жонка Язэпа *Гаўрыліка*. З сям'і служачага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. У пачатку 1930-х г. старшы навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштавана 11.10.1933 у Мінску ў гасцініцы «Еўропа». Асуджана калегіяй АДПУ 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў (заменена на ссылку). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.4.1956. Справа Г. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГАЎРЫЛЮК Пётр Ануфрыевіч*** [1895, в. Вялікія Салохі Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык планавага аддзела арцелі Метбытрамонт Фрунзенскага р-на. Арыштаваны 20.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Друкароў, д. 15, кв. 39. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ГАШКЕВІЧ Мікалай Міхайлавіч*** [1890, Мсціслаў Магілёўскай губ., цяпер Магілёўскай вобл. — 4.6.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 15.2.1938 па адрасе: Маскоўская вобл., Васкрасенскі р-н, пас. Крывякіна, д. 5а, кв. 13. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.3.1938 за «шпіянаж на

карысць Германіі». Расстраляны і пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.10.1957. Асабовая справа Г. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ГАЯНКОЎ (ГАЕНКАЎ) Сцяпан Раманавіч*** [1898, Мінск — 22.11.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту старшы бухгалтар Томскай швейнай фабрыкі. Арыштаваны 10.7.1937. Асуджаны 18.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 31.5.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ГВАРДЗІЕНКА Піліп Абрамавіч*** [1886, в. Нікавічы Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту дырэктар саўгаса «Лектэхсыравіна». Арыштаваны 29.8.1930 у в. Джаланаш (?). Вызвалены і рэабілітаваны паводле пастановы АДПУ Карэльскай АССР 21.1.1931. Далейшы лёс невядомы

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГЕДРОЙЦ (ЮРАГА) Леанід (Леапольд) Адольфавіч*** [1900, пас. Ноўка Дзвінскага пав.

Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілскі р-н, Латвія — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту супрацоўнік лінейна-тэхнічнага вузла пры Ленінградскім абл. упраўленні сувязі. Арыштаваны 7.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. Нахімсона, д. 19, кв. 14. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ГЕЙ Канстанцін Веньямінавіч** [жн. 1896, Санкт-Пецярбург — 25.2.1939, Масква, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля кастр. 1917 займаў кіруючыя пасады на Пскоўшчыне — старшыня Пскоўскага губвыканкама, сакратар Пскоўскага губкама РКП(б). З 1922 загадчык арганізацыйнага аддзела Паўн.-Зах. бюро ЦК РКП(б). З 1923 сакратар Свярдлоўскага губкама. У 1924—34 кандыдат у члены ЦК ВКП(б). З 1925 у Маскве загадчык арганізацыйнага аддзела ЦК ВКП(б), член Выканкама Прафінтэрна. З 3.1.1930 да 18.1.1932 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б. Член ЦВК БССР (1930—32). Гады кіравання Г. ў Беларусі адзначаны разгортваннем барацьбы супраць «нацдэмаў». У нетрах ГПУ быў сфальсіфікаваны працэс па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1932 накіраваны на пасаду сакратара Маскоўскага камітэта ВКП(б). Чарговыя ратацыі ў 1934 прывялі Г. на пасаду ўпаўнаважанага Камісіі савецкага кантролю пры СНК СССР па Узбекістане, у 1937 па Горкаўскай вобл. Арыштаваны 2.10.1938 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2,

кв. 333. Асуджаны 25.2.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940*. М., 1993. Вып. 1.

Літ.: *Страницы истории Компартии Белоруссии: суждения, аргументы, факты*. Мн., 1990; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001; *ЭГБ*, т. 2.

**ГЕЛЕР Эмануіл Раманавіч*** [1903, Беласток, цяпер Польшча — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 20.11.1933 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 13, кв. 7. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 26.5.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Казахстане. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Г. № 6743-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕЛЬТМАН Віктар** [23.12.1796, в. Вярховічы Брэсцкага пав. Слонімскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 16.7.1874, Брусель, Бельгія], публіцыст і рэвалюцыйны дзеяч. Дзед Стафана *Гельтмана*. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. У 1819 стварыў дзве тайныя арганізацыі — патрыятычнае таварыства ў Свіслацкай гімназіі (з удзелам брата Іосіфа) і студэнцкую арганізацыю «Саюз вольных палякаў» у Варшаве,

стаў рэдактарам яе органа «Dekada Polska». Прымаў удзел у паўстанні 1830—31. Потым удзельнічаў у падрыхтоўцы Кракаўскага паўстання 1846 і паўстання ў Галіцыі ў 1848. Падчас рэвалюцыі 1848—49 у Германіі кіраваў абаронай Дрэздэна. Адзін з аўтараў маніфестаў паўстанцаў. Імкнуўся да аб'яднання барацьбы за незалежнасць Рэчы Паспалітай з барацьбой за ліквідацыю феадальна-прыгонных адносінаў. У 1860-х г. вывучаў грамадска-паліт. жыццё эміграцыі з былой Рэчы Паспалітай. Памёр у выгнанні.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Emigracja polska od r. 1831 do 1863: Krótki rys historyczny. Lipsk, 1865; Demokracja polska na emigracji. Lipsk, 1866.

Літ.: *PSB*; *ЭГБ*, т. 2; *БЭ*, т. 5.

**ГЕЛЬФМАН Геся Мееравуна (Міронаўна)** [паміж 1852—55, г. Мазыр — 1.2.1882, Пецярбург], удзельніца народніцкага руху, выдавец. У 1874 вучылася на жаночых курсах у Кіеве. Вяла рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых. У 1877 прыгаворана да 2 гадоў зняволення. З 1879 член партыі «Народная воля». На канспіратыўных кватэрах Г. у Пецярбургу размяшчалася друкарня нарадавольскага выдання «Рабочая газета», хаваліся выбуховыя рэчывы, рыхтаваўся замах на Аляксандра II. Разам з іншымі арганізатарамі замаху арыштавана 15.3.1881. Прыгаворана да павешання, але ў сувязі з цяжарнасцю выкананне пакарання было адкладзена. Шырокая кампанія ў абарону Г. у замежным друку прымусіла цара замяніць павешанне пажыццёвай катаргай. Памерла ў доме папярэдняга зняволення ў час родаў.

*Леанід Маракоў*

Літ.: *Гельніца Р.* Жалябаўка з Мазыра // *Гомельская праўда*. 1969, 22 лют.; *Mexaў У.* Далучэнне. Мн., 1992; *ЭГБ*, т. 2; *БЭ*, т. 5.

**ГЕНІЮШ Іван Пятровіч** [1902, в. Крынкі Беластоцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 10 (?).2.1979, г. п. Зэльва Гродзенскай вобл.], грамадскі дзеяч, лекар-венеролаг, муж Ларысы *Геніюш*. Выпускнік Карлава ун-та ў Празе. Застаўся працаваць у Чэхаславакіі. У лют. 1935 узяў шлюб з Ларысай Міклашэвіч, у будучым вядомай паэтэсай Л. *Геніюш*. З 1941 сябра пражскага аддзела Беларускага камітэта самапомачы, увайшоў у склад рэвізійнай камісіі. У 1943 працаваў у Слоніме ў грамадзянскай адміністрацыі і лекарам. У ліп. 1947 разам з сям'ёй атрымаў чэхаславацкае грамадзянства. Арыштаваны ў Празе 5.3.1948, пазбаўлены грамадзянства. Знаходзіўся ў турмах Чэхаславакіі, Вены. Вывезены ў СССР, пасаджаны ва ўнутраную турму МДБ. У 1949 асуджаны Вярхоўным судом БССР да 25 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Вызвалены ў 1956. Разам з жонкай вярнуўся ў Беларусь, жыў у Зэльве. Працаваў фельчарам у Зэльвенскай паліклініцы.

Літ.: *Геніюш Л.* Споведзь. Мн., 1993.

**ГЕНІЮШ Уладзіслаў Пятровіч** [1884 (?) — 4.10.1938, Смаленск, НКВД], быў членам ВКП(б). Арыштаваны 27.6.1938 у Дарагабужскім р-не Смаленскай вобл. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 26.10.1938 «тройкай» НКВД за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**ГЕНФЕР Сара Саламонаўна*** [лют. 1907, Крамянчуг, цяпер Украіна — ?], педагог, жонка Васіля *Шаранговіча*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 3.3.1938 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 21/2, кв. 33. Асуджана 16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Цемнікаўскі канцлагер НКВД Мардоўскай АССР. Вызвалена, верагодна, у другой палове 1940-х г. 16.12.1949 зноў арыштавана і ў 1950 асуджана да ссылкі. Канчаткова вызвалена ў 1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.10.1956. Асабовая справа Г. № 7533-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕРАСІМУК Іван Маркавіч*** [1888, в. Гарэнка Крамянецкага пав. Валынскай губ., цяпер Украіна — 27.8.1937, Ленінград, НКВД], навуковец. З бел. сялянскай сям'і. У 1919 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. супрацоўнік парахавой лабараторыі марскога аддзела Навукова-даследчага артылерыйскага інстытута. У 1936 выключаны з партыі. Арыштаваны 1.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 25.8.1937 за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

**ГЕРМАН Ашэр Генухавіч*** [1899, Варшава — ?], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у

ВКП(б). У 1930-я г. дацэнт БДУ. Арыштаваны 21.9.1935 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 26, кв. 11. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 10.2.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 22.12.1989. Асабовая справа Г. № 29234-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕРМАНОВІЧ Канстанцін Іванавіч*** [1889, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту працаваў інжынерам. Арыштаваны 3.10.1940. Асуджаны Куйбышаўскім лінейным судом чыгунак 30.10.1940 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 19.4.1990.

Кр.: *Белая книга*.

**ГЕРМАНОВІЧ Маркіян Якаўлевіч*** [1895, в. Дзяменічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл. — 20.9.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. камандуючага войскамі Ленінградскай ВА. Арыштаваны 7.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Артылерыйская, д. 10, кв. 6. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда 20.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 6.4.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище. 1934—1940*. М., 1993. Вып. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГЕРМАНОВІЧ Яніна Міхайлаўна*** [1909, в. Раванічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 1959, Мінск], службовец, жонка Тодара *Кляшторнага*. З сялянскай сям'і. Атрымала сярэднюю адукацыю. Выйшла замуж, гадавала траіх дочак. Падчас арышту працавала ў 1-й сталовай Мінваенгандлю. Арыштавана 28.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Фабрычная, д. 10/4, кв. 7. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «член сям'і (жонка) здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. 24.1.1938 прыбыла з Аршанскай турмы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 1.12.1945. Верагодна, у канцы 1940-х — пачатку 1950-х г. зноў арыштавана і выслана ў г. Бялова Кемераўскай вобл. Канчаткова вызвалена ў 1955. Рэабілітавана трыбуналам БВА 4.11.1955. Як напісана ў асобнай справе Г. № 5570-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі), у 1957 кошт канфіскаванай у яе маёмасці быў «кампенсаваны».

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГЕРЦОВІЧ Леў Барысавіч** [1906, в. Сяліба Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 25.2.1939, Масква, НКВД], партыйны дзеяч, сакратар ЦК ЛКСМБ. З яўрэйскай сям'і. Атры-

маў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 3.12.1938 у Маскве па адрасе: вул. Страмынка, д. 23, кв. 117. Асуджаны 25.2.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.9.1956.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГЕРЦЫК Абрам Якаўлевіч*** [16.5.1883, Мінск — ?], службовец, брат Ільі *Герцыка*. З мяшчанскай сям'і. Падчас арышту галоўны бухгалтар Цэнтрбелсаюза. Арыштаваны 29.11.1924 у Мінску па адрасе: вул. Новамаскоўская, д. 21, кв. 5. Асуджаны асобай нарадай пры АДПУ 30.1.1925 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Краснаярскі канцлагер (Канск). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 8.11.1989. Асабовая справа Г. № 28686-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕРЦЫК Ілья Якаўлевіч*** [1872, Мінск — 21.7.1938, Акцюбінск, ГУЛАГ], навуковец, брат Абрама *Герцыка*. З мяшчанскай сям'і. Быў членам Бунда. Падчас арышту дацэнт БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.3.1931. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 23.7.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцтва» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Загінуў у адным з канцлагераў НКВД Казахскай ССР (?). Рэабілітаваны

судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.10.1957. Асабовая справа Г. № 11457-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕРШОН (ШВЕДЗІК) Броня Борухаўна*** [9.8.1898, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], педагог, жонка Іосіфа *Гершона.* З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у школе слабаграматных пры Мінскай войлачнай фабрыцы. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 4.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Рабкораўская, д. 16, кв. 8. Асуджана 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 13.1.1956. Асабовая справа Г. № 6585-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕРШОН Іосіф Хаймавіч*** [лют. 1900, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны служачы, муж Броні *Гершон.* З сям'і рабочага. Атрымаў пачатковую адукацыю. У 1919 уступіў у ВКП(б). Ажаніўся, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас арышту нам. наркама асветы БССР. Арыштаваны 26.6.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, д. 21/25, кв. 7. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычнашпіёнскай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй

Вярхоўнага суда СССР 13.8.1957. Асабовая справа Г. № 10812-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЕСЕН Сяргей Міхайлавіч** [1898, ? — 31.10.1937, Мінск, НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч, рэдактар. Член РСДРП з 1916. У пачатаку 1920-х г. жыў на Урале, потым у Маскве, рэдактар «Рабочей газеты». У 1924—25 сакратар Камуністычнага Інтэрнацыянала моладзі. З 1925 у Мінску, загадчык арганізацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б. Член ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б. Па даручэнні ЦК КП(б)Б у 1926 удзельнічаў у кампаніі крытыкі і забароны публікацыі кнігі М. *Доўнар-Запольскага* «Гісторыя Беларусі». Арганізаваў барацьбу супраць «бундаўскіх традыцый» у КП(б)Б. Пазбаўлены пасады ў ліп. 1926. У кастр. 1926 выведзены са складу ЦК. Працаваў рэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Падтрымліваў сувязі з літаб'яднаннем «Маладняк», выступаў на пасяджэннях яго Цэнтральнага бюро. Выязджаў у Ленінград і Маскву, дзе ўдзельнічаў у фракцыйных выступах апазіцыі. Выключаны з ВКП(б) як трацкіст у снеж. 1927 на XV з'ездзе ВКП(б). Адноўлены ў партыі ў 1928. Накіраваны ў РСФСР. Працаваў у дзяржаўных органах, выкладаў ва ун-тах. Да арышту займаў пасаду ўпаўнаважанага Наркамата цяжкай прамысловасці СССР па Зах. вобл. ў Смаленску. Удзельнік трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі. Арыштаваны ў снеж. 1934. У студз. 1935 асуджаны да 6 гадоў папраўча-працоўных работ па справе «Маскоўскага цэнтра». У крас. 1937 узяты пад варту ў канцлагеры і этапаваны ў Мінск. 30.4.1937 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу за «сувязі з беларускімі нацфашыстамі». Рэабілітаваны ў 1958.

Літ.: *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001; *Перед крутым поворотом*: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928 гг.). Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001.

**ГІЖЫЦКІ Баляслаў Адольфавіч*** [1888, Магілёў — 4.11.1937, Адэса, НКВД], педагог. З сям'і шляхціца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў на ваеннай кафедры Адэскага індустрыяльнага інстытута. Быў жанаты. Арыштаваны ў Адэсе. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 26.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай кулацкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Адэскай ВА 11.3.1958. Асабовая справа Г. № 8693-СН з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГІКАЛА Мікалай Фёдаравіч*** [8(20).3.1897 (паводле іншых звестак 1896), Адэса, цяпер Украіна — 25.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1915 скончыў Тыфліскую ваеннафельчарскую школу. У 1917 уступіў у РСДРП. Удзельнічаў ва ўсталяванні савецкай улады на паўн. Каўказе; у 1918 старшыня Савета г. Грозны. У далейшым член Каўказскага краявога камітэта РКП(б), ваенны камісар Церскай вобл. і Дагестана. У 1920-х г. працаваў у Сярэдняй Азіі. У 1929 скончыў Камуністычную акадэмію ў Маскве. Прызначаўся сакратаром ЦК КП(б) Узбекістана і Азербайджана. У 1930—34 член Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі ВКП(б). З 1931 сакратар Маскоўскага абкама і гаркама ВКП(б). У студз. 1932 накіраваны ў

Беларусь на пасаду 1-а сакратара ЦК КП(б)Б. Член Бюро ЦК КП(б)Б, Прэзідыума ЦВК БССР, Рэўваенсавета БВА. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б) з 1934. Член ЦВК СССР. Працуючы ў Беларусі, шмат увагі надаваў развіццю гаспадаркі і культурнаму будаўніцтву, у 1932 аб'явіў БССР рэспублікай усеагульнай пісьменнасці. Многія пытанні вырашаў адміністрацыйна-каманднымі метадамі, спрыяў прымусовай калектывізацыі, удзельнічаў у разгортванні масавых рэпрэсій у БССР. Старшынёй камісіі па чыстцы ва ўстановах культуры, адукацыі і навукі была яго жонка Чыжова — дырэктар Інстытута журналістыкі. У лют. 1937 Г. пераведзены ва Украіну на пасаду 1-га сакратара Харкаўскага гаркама КП(б)У. Член палітбюро ЦК КП(б)У. Сам стаў ахвяраю карнай палітыкі. Арыштаваны 11.10.1937 у Маскве па адрасе: Стараканюшанны зав., д. 19/17, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 25.4.1938 як «англійскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй вярхоўнага суда СССР 10.8.1955. Асабовая справа Г. № 3626 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Касцюк М.* Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мн., 2000; *Платонаў Р.П.* Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц. Мн., 2001; *Протько Т.С.* Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917—1941 гг.). Мн., 2002; *ЭГБ*, т. 2.

**ГІМЕЛЬФАРБ Самуіл Майсеевіч*** [1.3.1894, мяст. Індура Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 20.12.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і службоўца.

Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык кафедры Беларускага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 13. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 27.8.1936 да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. 17.11.1937 вернуты з канцлагера ў Мінск. 19.12.1937 пазасудовым органам НКВД прыгавораны як «член антысавецкай трацкісцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.12.1957. Асабовая справа Г. № 11053-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГІНЬКО Іван Піліпавіч** [3.1.1912, в. Загор'е Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобл. — 1980-я г., Масква], бел. паліт. дзеяч, інжынер. Скончыў у Глыбокім сямігадовую школу (1927) і прыватную гімназію імя Люблінскай уніі (1931). У 1930-я г. жыў у Варшаве, прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці мясцовага Асветнага таварыства беларусаў. У 1939 атрымаўшы дыплом інжынера-геадэзіста, вярнуўся ў Беларусь. У 1940—41 працаваў па спецыяльнасці ва Усх. Беларусі. Падчас нямецкай акупацыі старшыня БНС у Глыбоцкай акрузе. Удзельнік нацыянальнага антынацысцкага падполля, сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі. Удзельнік II Усебеларускага кангрэса. Летам 1944 выехаў на Захад, але ў ліст. 1944 вярнуўся з мэтай арганізацыі ў Беларусі антысавецкага падполля. У снеж. 1944 арыштаваны дзяржбяспекай. У 1946 асуджаны да 25 гадоў папраўча-працоўных ра-

бот. У пачатку 1950-х г. знаходзіўся ў Мінеральным канцлагеры МДБ Комі АССР (Інта). Пасля вызвалення (1956) з дапамогай жонкі атрымаў дазвол на пражыванне ў Маскве.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Ёрш С.* Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежнай Партыі. Мн., 1998; Беларускі нацыяналізм (даведнік). Укл. *П. Казак,* [2001], Мн.

**ГІРЫС Мікалай Рыгоравіч*** [1888, в. Бор Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту эканаміст будаўніцтва вузкакалейнай чыгункі. Арыштаваны 19.1.1938 на ст. Азанка Верхне-Таўдзінскага р-на Омскай вобл. Асуджаны 16.10.1938 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГІЧАН Марыя Іванаўна*** [1904, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — ?], медык. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту аспірант Мінскага медыцынскага інстытута. Арыштавана 26.9.1933 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 29/1а. Асуджана паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Байкала-Амурскі канцлагер (?). Пасля 1941 ў Свабодненскім канцлагеры НКВД Хабараўскага краю.

Вызвалена 26.9.1943. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Г. № 10182-с (спынена пастановай КДБ БССР 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГЛАДОЎСКІ Іван Іванавіч*** [1899, ст. Увараўка Заходняй чыгункі — 1.9.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. начальніка 1-й дыстанцыйнай службы пуці Зах. чыгункі. Арыштаваны 6.11.1937 у Маскве па адрасе: вул. Бутырскі вал, д. 5/7, кв. 62. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.3.1938 за «ўдзел у права-трацкісцкай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 5.4.1995. Асабовая справа Г. № 66271 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ГЛІНСКІ Кастусь** [8.2.1906, мяст. Прытычына (?) Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобл. — 14.6.1987, Лондан, Вялікабрытанія], бел. паліт. дзеяч, юрыст, выдавец. Скончыў гімназію ў мяст. Дзісна і юрыдычны ф-т Віленскага ун-та. У 1930-я г. актывіст Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні, удзельнічаў у выданні часопіса «Студэнцкая думка». Пазней уваходзіў у студэнцкую арганізацыю «Скарынія», быў рэдактарам-выдаўцом грамадска-навуковага і літаратурнага час. «Новая варта» («Novaja varta»), што выдаваўся ў Вільні ў 1931—32, 1934. У другой палове 1930-х г. працаваў суддзёй у Ашмянах. Пасля ўсталя-

вання ў Зах. Беларусі ў 1939 савецкай улады арыштаваны дзяржбяспекай і асуджаны да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Анежскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. З кастр. 1941 у польскім корпусе Андэрса. Пасля вайны жыў у Вялікабрытаніі, прымаў актыўны ўдзел у бел. грамадскім і рэлігійным жыцці. Быў сябрам прэзідыума Беларускага вызвольнага фронту, старшынёй прадстаўніцтва Беларускай цэнтральнай рады ў Вялікабрытаніі, кіраўніком філіяла Антыбальшавіцкага блоку народаў у гэтай краіне.

Літ.: Канстанцін Глінскі (некралог) // *Беларуская думка* (ЗША). 1988. № 33.

**ГЛУШАК Мар'ян Францавіч*** [1920, Каменка-Струмілава Цярнопальскага ваяв., Польшча, цяпер Украіна — ?], архітэктар. З сям'і службоўца. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў у Пінскім аблвыканкаме. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 15.9.1945. Асуджаны 3.11.1945 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 21.8.1989. Асабовая справа Г. № 9807-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**ГНІЛЯКЕВІЧ Міхаіл Паўлавіч** [25.1(6.2).1887, в. Асташына Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 11.8.1945, ?], дзяржаўны дзеяч. З бел. сям'і. У 1907—14 працаваў на заводах Пецярбурга. За ўдзел у рэвалюцыйным руху зняволены. У 1914 мабілізаваны ў армію. У 1917 адзін з арга-

нізатараў Чырвонай гвардыі ў Петраградзе. З 1919 на партыйнай і прафсаюзнай рабоце ў БССР. Член ЦВК БССР у 1922—33 і яго прэзідыума ў 1931—33. З мая 1929 наркам працы БССР, у сак. 1931 — вер. 1933 сакратар ЦВК БССР. Пасля на партыйнай і прафсаюзнай рабоце ў РСФСР.

16.5.1938 асобай нарадай пры НКВД СССР як «член сям'і здрадніка радзімы» да 8 папраўча-працоўных работ была асуджана жонка або сваячка Г. Фядора Антонаўна Гнілякевіч (н. ў 1896 у в. Асташына Навагрудскага пав.). 12.6.1938 яна была этапавана з Бутырскай турмы ў Акмолінскае аддзяленне Карагандзінскага канцлагера Казахскай ССР. Вызвалена 24.4.1946. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 3; *БЭ*, т. 5.

**ГОЙЖА Антон Андрэевіч*** [1891, в. Трыбушкі Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Быў жанаты, гадаваў двух сыноў. Падчас арышту начальнік Казахбудшляху. Арыштаваны 28.6.1938. Асуджаны 29.8.1939. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Хранить вечно.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГОЛАШ Альфрэд Юр'евіч*** [1888, Мінск — 13.4.1938, Мінск, НКВД], садавод. З купецкай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў ва універсі-

тэцкім гарадку. Арыштаваны 9.1.1938 у Мінску па адрасе: зав. Масляўскі, д. 7, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.3.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Германіі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 19.3.1959. Асабовая справа Г. № 13903-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОЛУБ Усевалад Пятровіч*** [22.12.1903, Мінск — 14.11.1938, Мінск, НКВД], музыкант. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Кіраваў музычнымі гурткамі фабрычна-заводскага вучылішча Наркамасветы, таварыства сляпых, арцелі «Новы шлях». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 5.8.1938 у Мінску па адрасе: вул. Заслаўская, д. 38/9, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 16.10.1938 як «агент латвійскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Г. № 24537-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОЛЮДАЎ Сцяпан Георгіевіч*** [1911, в. Казлова Віцебскай губ., цяпер Віцебская (?) вобл. — 19.6.1938, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Томскага медыцынскага інстытута (?), член ВКП(б). Арыштаваны 29.9.1937. Выключаны з партыі ў сувязі з арыштам. Асуджаны 19.6.1938 як «член трацкісцкай фашысцка-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.3.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ГОРАЎ Уладзімір Яфімавіч*** [1900, Веліж Віцебскай губ., цяпер Смаленская вобл. — 20.6.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту ваенны аташэ СССР у Іспаніі, камбрыг. Арыштаваны 25.1.1938 у Маскве па адрасе: Лубянскі праезд, д. 17, кв. 26. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.6.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.10.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ГОРСКІ Віктар Львовіч*** [1906, Горкі Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], навуковец, педагог. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 13.9.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Групавая справа Г. і некаторых іншых выкладчыкаў Горацкай акадэміі № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГОТЛІБАЙТЭ Хана Ільінічна*** [1906, Пільтвіке, цяпер Латвія — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала выкладчыкам у

Віцебскім педагагічным інстытуце. Арыштавана 23.6.1941 у Віцебску па адрасе: вул. Дэпутацкая, д. 1. Абвінавачвалася ў «правядзенні антысавецкай агітацыі». Вызвалена і рэабілітавана 10.11.1941. Асабовая справа Г. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ГОТФРЫД Леў Аляксеевіч*** [1904, Арцёмаўск, цяпер Краснаярскі край, Расія — 28.06.1938, Мінск, НКВД], партыйны дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б)Б. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 5.11.1937 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам 28.6.1938 як «член трацкісцкай шкодніцка-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.12.1956. Асабовая справа Г. № 16371-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ГРАБНІЦКІ Отан Мікалаевіч** [28.2.1829, маёнтак Арэхаўна Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 7.1.1865, Екацярынбург, перасыльная турма], ваенны дзеяч. З шляхецкага роду (бацька Г. ў розныя гады быў лепельскім павятовым і віцебскім губернскім маршалкам шляхты). Вучыўся ў прыватным пансіёне ў Вільні, пасля заканчэння якога паступіў на вайсковую службу, юнкер уланскага палка ў Крыме. Падтрымліваў кантакты з татарскім антыцарскім рухам, за што ў 1854 арыштаваны і за «шкод-

ны характар думак» зняволены на 2 гады ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Потым адпраўлены салдатам у Сібірскі асобны корпус. У 1859 выйшаў у адстаўку і атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму. З першых дзён далучыўся да паўстання 1863—64, камандаваў атрадам інсургентаў у Віцебскай губ., які быў разбіты карнымі войскамі. Узяты ў палон, асуджаны да 6 гадоў катаргі. Загінуў па дарозе ў Сібір.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Дьяков В.А.* Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856—1865 годов: Библиографический словарь. М., 1967; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРАБОЎСКІ Андрэй Паўлавіч*** [1896, в. Сіпаліна Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — 4.11.1937, Томск, НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную медыцынскую адукацыю. Падчас арышту загадчык медпункта в. Мішуціна Зыранскага р-на Томскай вобл. Арыштаваны 29.7.1937. Асуджаны 18.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.9.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГРАБОЎСКІ Стафан** [24.6.1767, в. Асташына Навагрудскага пав., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 4.6.1847], ваенны і паліт. дзеяч. Скончыўшы Рыцарскую школу ў Варшаве, быў накіраваны служыць

харунжым у войска ВКЛ. Член Віленскай масонскай ложы. У час ваенных дзеянняў Рэчы Паспалітай з Расіяй у 1792 падпалкоўнік Г. вызначыўся ў баях пад Мірам і Брэстам. Пры вызваленні ў крас. 1794 Вільні ад расійскага гарнізона менавіта падыход атрада Г. адыграў рашаючую ролю ў адступленні войск праціўніка. Браў удзел у баях пад Соламі і Палянамі, у ліп. 1794 удзельнічаў у абароне Вільні. У канцы жн. 1794 узначаліў рэйд 2-тысячнага атрада на Міншчыну і Магілёўшчыну па маршруту Араны—Койданава—Пухавічы—Бабруйск—Любань. Разбіты ў Любанскім баі 4.9.1794, вымушаны капітуляваць. Зняволены ў Смаленскай турме. Паводле прысуду следчай камісіі высланы ў Кастрамскую губ. У 1796 амнісціраваны імператарам Паўлам І. У час расійска-французскай вайны 1812 перайшоў на бок Напалеона[7]. Абраны брэсцкім

[7] У адрозненне ад рэпрэсій пасля паўстання 1794, адносіны да бел. удзельнікаў вайны 1812, якія падтрымалі Напалеона, мелі прынцыпова іншы характар. Прыгоннае сялянства ў цэлым, асабліва ва ўсходніх губернях, больш або менш актыўна выступала ў падтрымку расійскіх войскаў. Шляхта ж падзялілася. Меншасць (да прыкладу, Міхал Агінскі) была на баку Аляксандра І, большасць жа, спадзеючыся, што французы дапамогуць адрадзіць Рэч Паспалітую, ваявала на баку Напалеона (як Дамінік Радзівіл) ці працавала чыноўніцтвам у мясцовай (французскай) адміністрацыі (як Ян Ходзька). Таму да такіх «здраднікаў», захапіўшы іх у палон, адносіліся, як да ваеннапалонных, у той час даволі гуманна, у горшым выпадку адпраўлялі ў ссылку. Чыноўнікі ж, якія служылі французскай адміністрацыі, найчасцей замяняліся. Рэквізіцыі закранулі толькі буйных магнатаў (Нясвіж). Таму ўдзельнікі вайны 1812, якія падтрымалі французаў і потым прама ці ўскосна былі за гэта пакараны, патрабуюць іншага падыходу.

маршалкам і арганізоўваў войска ў Брэсцкім пав. Атрымаўшы званне генерал-маёра, узначаліў Вайсковы камітэт у Вільні. Затым пад камандай Ю.Панятоўскага змагаўся супраць войск антыфранцузскай кааліцыі. Трапіў у палон пад Лейпцыгам. Дзякуючы хадайніцтву А.Чартарыйскага вызвалены і з захаваннем вайсковага звання ўведзены ў склад вышэйшай адміністрацыі Варшаўскага княства. Зблізіўся з імператарам Аляксандрам І. У 1816 прызначаны дырэктарам Вайсковай камісіі, у 1825 міністрам-сакратаром Царства Польскага, падкантрольнага Расіі. У 1826 атрымаў званне генерала дывізіі. Удзельнік руска-турэцкай вайны 1826—29. У 1832—39 член Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі. З 1839 у адстаўцы.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Mościcki H.* Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. T. 1: 1772—1800. Wilno, 1913; *ЭГБ*, т. 3; *БЭ*, т. 5.

**ГРАБОЎСКІ Ян Уладзіслававіч** [1917, мяст. Ставіскі, цяпер Падляскага ваяв., Польшча — ?], музыкант. З сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту артыст тэатра «Чырвоная зорка» (Ломжа). Арыштаваны 12.3.1941. Абвінавачваўся ва «ўдзеле ў контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі». Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 31.12.1964. Асабовая справа Г. № П-8351 захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**ГРАДОЎСКІ Юльян Іосіфавіч*** [1896 (паводле іншых звестак 1899), мяст. Сідра Сакольскага пав., Гро-

дзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча (паводле іншых звестак Украіна) — ?], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1920—23 у Чырвонай арміі. Затым супрацоўнік газ. «Савецкая Беларусь». Арыштаваны 18.6.1927 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 86, кв. 20. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 8.8.1927 як «агент польскай разведкі» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер НКВД Комі АССР. У пачатку 1930-х г., верагодна, быў вызвалены. Працаваў аграномам. Зноў арыштаваны 2.12.1936 у Архангельску. Асуджаны 14.2.1937 Архангельскім абл. судом за «здраду радзіме» да 7 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Па першай справе Г. (№ 33372-с, захоўваецца з фотаздымкам у архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны ваеннай пракуратурай Беларуси 21.5.1992. Па другой ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.3.1992.

Кр.: *Поморский Мемориал: Книга памяти жертв политических репрессий*. Архангельск, Т. 1.

**ГРАЗДЗЕНЯ Антон Іванавіч*** [1893, в. Дабраволя Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ, цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 5.11.1937, Томск, НКВД], лекар. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую медыцынскую адукацыю. Працаваў у Бундзюрскай бальніцы. Арыштаваны 8.9.1937 у пас. Бундзюры Чаінскага р-на Томскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 18.10.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай ар-

ганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 21.11.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГРАКОВІЧ Вікенцій Антонавіч** [1901, в. Расохі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў заатэхнікам у саўгасе «Горкі-Апчак» Мінскай вобл. Быў жанаты, гадаваў васьмярых дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 1.2.1945. Асуджаны за «здраду радзіме» 24.11.1945 да 5 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Вызвалены 29.1.1950. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.11.1960. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Г. № 16808-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГРАЧАНІК Аляксандр Іванавіч** [1892, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 14.6.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], педагог, вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту камбрыг, старшы выкладчык кафедры тактыкі ваеннай акадэміі механізацыі і матарызацыі Чырвонай арміі. Арыштаваны 10.3.1938 у Маскве па адрасе: Патапаўскі зав., д. 9/11, кв. 34. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.6.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэра-

рыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.2.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ГРУДНІЦКІ Яўген Рыгоравіч*** [1907, в. Рачэнь Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н, Мінскай вобл. — 27.12.1937, Мінск, НКВД], служачы. З сялянскай сям'і. У 1930-я г. загадчык склада зброі ваеннай кафедры Юрыдычнага інстытута, член ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 28, кв. 3. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Г. № 24541-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГРУЗД Валянціна Антонаўна*** [1916, Алчэўск Кіеўскай губ. або м. Крывічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — ?], літаратурны работнік. Мела нясконачаную вышэйшую адукацыю. Працавала ў «Сялянскай газеце». Арыштавана 23.10.1944 у Вілейцы. Асуджана 7.7.1945 за «антысавецкую дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Мінскай вобл. 25.5.1995. Асабовая справа Г. № 36282-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГРУЗДЗЬ Васіль Антонавіч*** [1914, Алчэўск, цяпер Украіна — 29.9.1937, Свярдлоўск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт 2-га курса Уральскага (?) горнага інстытута. Арыштаваны 16.6.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны 24.9.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ГРУЗЕЛЬ Вацлаў Пятровіч** [24.9.1884, Сахачэўскі пав. Варшаўскай губ., цяпер Мазавецкае ваяв., Польшча — 21.8.1937, Масква, НКВД], дзяржаўны дзеяч. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1910-я г. вёў рэвалюцыйную работу ў Польшчы, на Каўказе і Украіне. Член СДКПіЛ і РСДРП. Удзельнічаў ва ўзброеных паўстаннях і партызанскіх выступленнях. Двойчы зняволены ў турме, сасланы. У 1918—21 служыў у Чырвонай арміі на Зах. і Паўдн. франтах. З 1921 старшыня Мінскага павятовага выканкама, сакратар Бабруйскага павятовага камітэта КП(б)Б, старшыня Бабруйскага павятовага выканкама. Узначальваў цэнтральныя органы ўлады БССР: у 1924—26 наркам Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР, старшыня Бюджэтнай камісіі ЦВК БССР, да 1925 старшыня Цэнтральнай кантрольнай камісіі КП(б)Б. Кандыдат у члены Польскага бюро пры ЦК КП(б)Б у 1922; кандыдат у члены (1921—22) і член (1923—24) ЦБ КП(б)Б. Член ЦВК БССР у 1921—26 і ЦВК СССР у 1922—27. У 1926 накіраваны на работу ў РСФСР. Апошняе месца работы — адказны сакратар партыйнай калегіі Камісіі партыйнага кантро-

лю пры ЦК ВКП(б) Яраслаўскай вобл. Арыштаваны 16.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. Серафімовіча, д. 2, кв. 307. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.8.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 23.5.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Літ.: *ЭГБ*, т. 3; *БЭ*, т. 5.

**ГРУК Уладзімір Маркавіч*** [1912, Звянігарад Маскоўскай губ., цяпер Маскоўская вобл., Расія — ?, ГУЛАГ], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную або вышэйшую адукацыю. Інжынер-пуцеец. У 1930-я г. знаходзіўся ў зняволенні ў Беламорска-Балтыйскім канцлагеры НКВД Карэла-Фінскай АССР. 9.8.1935 (?) узяты пад варту. 20.11.1937 асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Карэльскай АССР 30.5.1964.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ГРЫБОЎСКІ Павел Фаміч*** [1902, в. Цвятаеўка, цяпер Краснаўсольскі р-н, Башкортастан, Расія — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса. Арыштаваны 29.11.1937. Асуджаны за «шкодніцкую дзейнасць» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да 10 гадоў папраў-

ча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.10.1965.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ГРЫГАРУК Іван Антонавіч*** [1900, в. Трасцяніца Бельскага пав. Гродзенсквй губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 29.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшыня Чырвонагвардзейскага раённага выканаўчага камітэта Ленінградскай вобл. Арыштаваны 20.6.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Гулярная, д. 25, кв. 55. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у Ленінградзе 29.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

**ГРЫДЗЮШКА Браніслаў Міхайлавіч*** [1895, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту старшыня Дзядовіцкага раённага савета «Асаавіяхіма». Арыштаваны 23.7.1937. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у Ленінградзе 2.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны 4.8.1956.

Кр.: *Не предать забвению.*

**ГРЫНБЛАТ Леапольд Саламонавіч*** [1901, Мінск — ?], інжынер-электрык. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне. Арыштаваны 29.5.1968 у Мінску па адрасе: Ленінскі праспект, д. 23, кв. 34. Па дадзеных следства, у студз. 1968 (будучы пенсіянерам) скапіраваў і даваў чытаць знаёмым антысавецкі «Ліст сябру»; рэгулярна слухаў «Голас Амерыкі» і «Голас Ізраіля». Падчас вобыску ў яго кватэры знойдзена сіяністская літаратура. На паведамленні аб арышце Г. пракурор аддзела па нагляду за следствам у органах дзяржаўнай бяспекі пракуратуры СССР наклаў рэзалюцыю: «[Следчы] т. Бялінскі піша нейкую лухту. «Праслухоўваў ...» — у гэтым няма складу злачынства! А «Ліст сябру» АДЗІН, сам па сабе яшчэ недастатковы для арышту 67-гадовага старога. Што, у Беларусі няма чаго т. Бялінскаму рабіць?» Але, нягледзячы на такое заступніцтва, 4.12.1968 Г. быў асуджаны за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 1 года і 6 месяцаў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны 29.4.1996 прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі. Асабовая справа Г. № 36834-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 2595.

Літ.: *58*[10], с. 692—693.

**ГРЫНЁЎ Уладзіслаў Аркадзевіч*** [сак. 1891, Магілёў — ?], журналіст. З дваранскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў загадчыкам вайсковага аддзела газ. «Рабочий» (?). Арыштаваны 9.1.1931 у Мінску па адрасе: Лагойскі зав., д. 13, кв. 1. Асуджаны

паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 18.7.1931 за «садзейнічанне белапалякам» да ВМП (прысуд быў заменены на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа Г. № 24815-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГРЫНШТЭЙН Хема Барысавіч*** [1907, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Меў нясконачаную сярэднеспецыяльную адукацыю. У 1930-я г. рэдактар шматтыражкі Бабруйскага лесакамбіната. Арыштаваны 2.9.1937. Абвінавачваўся ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці». Вызвалены да суда. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Бабруйскім НКВД 15.12.1938. Асабовая справа Г. № 5781 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ГРЫНЯВІЦКІ Ігнат Яўхімавіч** [жн. 1855, паводле іншых звестак восень 1856, маёнтак Басін Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Калінаўка Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 1(13).3.1881, Пецярбург], нарадаволец, публіцыст. З маламаёмаснага дваранства. Вучыўся ў Беластоцкім рэальным вучылішчы, у Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце (1875—80), дзе ўдзельнічаў у польска-літоўска-бел. і рускіх рэвалюцыйных гуртках. У ліст. 1875 за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях часова адлічаны з інстытута. Вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых, збіраў грошы паліт. вязням, вырабляў пашпарты рэвалюцыянерам. З 1879

член партыі «Народная воля», адзін з заснавальнікаў яе бел. фракцыі, нацыянальная праграма якой была надрукавана ў 1884 у час. «Гоман». У 1880 разам з А.Жалябавым, С.Пяроўскай і інш. ўвайшоў у цэнтральны нарадавольскі гурток прапагандыстаў. Стаў адным са стваральнікаў і аўтараў нарадавольскай «Рабочей газеты». Таксама ўвайшоў у склад групы, якая ўсю зіму (1880— 81) сачыла за перамяшчэннямі цара Аляксандра II. 26.2.1881 быў прызначаны адным з 4 выканаўцаў, якім «Народная воля» даручыла здзейсніць тэрарыстычны акт. У ноч перад замахам склаў тэстамент, у якім напісаў: «Я не буду ўдзельнічаць у апошняй барацьбе. Лёс асудзіў мяне на раннюю гібель». 1(13).3.1881 бомбай, кінутай Г., Аляксандр II быў забіты. Смяротна паранены Г. памёр у прыдворным Канюшанным шпіталі. Імя Г. носіць мост у Пецярбургу, які знаходзіцца недалёка ад месца замаху.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Завещание И.И.Гриневицкого // *«Народная воля» в документах и воспоминаниях*. М., 1930.

Літ.: Биография Гриневицкого // *На Родине*. Лондон. 1882. № 1; *Глинский Б.Б.* Революционный период русской истории (1861—1881 гг.). Ч. 2. СПб., 1913; *Жуковский-Жук И.И.* Игнатий Иоакимович Гриневицкий. М., 1930; *Ліпскі У.* Невядомы: Аповесць пра Ігната Грынявіцкага. Мн., 1990; *1 марта 1881 года. Казнь императора Александра II: Документы и воспоминания*. Л., 1991; *Арлоў У.А.* Прысуд выканаў невядомы: Ігнат Грынявіцкі. Мн., 1992; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫСЕВІЧ Рыгор Пятровіч** [1896, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Бельск-Падляшскі Падляшскага ваяв., Польшча — 1938, НКВД], дзяржаўны дзеяч. У 8 гадоў пачаў працаваць на кафляным заводзе ў Бель-

ску. У 1910 за ўдзел у забастоўцы звольнены з завода. Уладкаваўся на чыгунку. У 1915 мабілізаваны ў армію і накіраваны на фронт. У 1917 уступіў у РКП(б). У 1918—20 у Чырвонай арміі. У 1920—21 на гаспадарчай і партыйнай рабоце ў Баранавічах. Пасля заключэння Рыжскага міру і перадачы Зах. Беларусі Польшчы пераехаў у Барысаў. У 1926 скончыў Ленінградскі камуністычны ун-т. На працягу 1926—29 сакратар Магілёўскага, Бабруйскага акруговых камітэтаў КП(б)Б. З 1929 старшыня Вышэйшага савета народнай гаспадаркі БССР, у 1932—33 наркам лёгкай прамысловасці БССР. Член ЦК КП(б)Б у 1927—34, член Бюро ЦК КП(б)Б у 1929—34. Падчас барацьбы ўнутры партыйнай вярхушкі КП(б)Б па загаду Гікалы Г. як чалавек Галадзеда быў зняты з пасад і накіраваны начальнікам паліт-аддзела чыгункі ў Сібір. Арыштаваны і расстраляны ў 1938. Рэабілітаваны ў 1956.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫСЕВІЧ Ян Станіслававіч*** [1899, Гродзенская (?) губ., цяпер Гродзенская вобл. — 20.11.1937, Башкірская АССР, НКВД], юрыст. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту стажор калегіі адвакатаў Уфы. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23.8.1937 за «антысавецкую агітацыю і ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 14.1.1958.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ГРЫЦ Вера Апанасаўна** [5.11.1905, в. Ганчары Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — пасля 1970-х г., Мінск], навучэнка, сястра Зоі *Грыц*. З сям'і сельскага настаўніка. Падчас арышту студэнтка Мінскага садова-агароднага інстытута. Арыштавана 26.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Сухая, д. 2, кв. 1. Асуджана з сястрой 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Інцінскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл., затым у Паўночна-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалена ў 1944. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.4.1956. З 1970-х г. жыла ў Мінску. Справа сясцёр Г. № 10182-с з фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГРЫЦ Зоя Апанасаўна** [н. 31.12.1907, в. Ганчары Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], педагог, мемуарыстка, сястра Веры *Грыц*. З сям'і сельскага настаўніка. З пачаткам 1-й сусветнай вайны сям'я Г. пераехала ў Смаленск, адкуль эвакуіравалася ў Сібір. У 1921 яны вярнуліся на радзіму — спачатку жылі ў Шчучыне, потым пераехалі ў Вільню. Г. з братам і сястрой паступіла ў Віленскую беларускую гімназію. Брала ўдзел у дзейнасці гімназічнага тэатра, грала ў спектаклях «Паўлінка», «Страхі жыцця», «Збянтэжаны Саўка», пераклала з украінскай мовы п'есу «Наталка-Палтаўка», удзельнічала ў яе сцэнічнай пастаноўцы. Спявала ў «Хоры славянскай песні» пад кіраўніцтвам Р. *Шырмы*. Скончыла гімназію ў 1927. Далейшых перспектыў на вучобу

ў Польшчы не мела, бо пасля бел. гімназіі не прымалі ва ун-т. Пад Радашковічамі нелегальна перайшла мяжу з СССР, куды пасля разгрому Грамады ўцёк яе бацька. Адразу пасля пераходу арыштавана. Правяла ў ДПУ Заслаўя і Мінска 3 тыдні. У канцы 1920-х г. (?) паступіла ў БДУ (паводле іншых звестак у МВПІ), які скончыла ў 1933. Тады ж яе пачалі выклікаць у ГПУ. Арыштавана 25.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Брылеўская, д. 11/12, кв. 1. Абвінавачвалася ў шпіянажы і прыналежнасці да ПАВ. У гэты час Г. была цяжарнаю. Пад націскам ГПУ муж спыніў з ёй усялякія сувязі. Асуджана з сястрой 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Паўночна-Чыгуначны канцлагер Комі АССР (Кылтава). Паколькі мела вышэйшую адукацыю і ведала латынь, то спачатку трапіла ў медсанчастку. Брала ўдзел у рабоце драмгуртка, якім кіраваў зняволены артыст тэатра Массавета Сяргей Глебаў. Жыла ў адным памяшканні з княгіняй Ганнай Урусавай, якая шмат зрабіла дзеля далейшай адукацыі Г. У 1937 накіравана на агульныя работы на торфараспрацоўках. У лагеры паўторна выйшла замуж за эстонца; нарадзіла сыноў. Муж загінуў у зняволенні. Зноў арыштавана ў 1938, адвезена ў палітізалятар у Чэб'і, дзе была моцна катаваная. Г. прыгадвае: «Дзесьці ў 1938 нас зноў адвязлі ў турму ў Княжпагост. Калі там я выйшла ў двор, мужчыны, якія стаялі непадалёк, раптам знялі шапкі і нахілілі галовы. Я пытаюся: «А што гэта такое?» А жанчыны гавораць: «Таму што следчыя казалі: «Чаго крычыш, вось мы Грыц білі, яна маўчала». Праз нейкі час вернута ў Кылтава. Калі ў 1943 скончыўся тэрмін зняволення Г.,

яе пакінулі ў лагеры да заканчэння вайны. Вызвалена 29.7.1946. Накіравалася на Кубань, потым у Кабарду. Нідзе не магла атрымаць сталай работы. Была на мяжы самагубства. Старэйшая сястра паклікала яе да сябе ў Джэзказган, дзе здолела атрымаць работу ў чыгуначнай школе. Па даносу (дырэктара школы) у 1951 арыштавана чарговы раз. 7.1.1952 асуджана на ссылку ў Карагандзінскую вобл. Пасля вызвалення (10.9.1954) пакінута пад наглядам. Працавала ў казахскай школе. У 1964 пераехала ў Літву, потым у Мінск. Аўтар мемуараў, якія часткова апублікаваны. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.4.1956. Справа сясцёр Г. № 10182-с з іх фотаздымкамі захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв: У сталінскіх засценках // *Боль людская*. Воспоминания жертв политических репресий 1930—1950-х годов. Мн., 1999.

**ГРЭЦКІ Іван Мікалаевіч** [1898, мяст. Косава Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 1937 (?), НКВД], удзельнік нацыянальнага і рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. У 1924—27 сакратар падпольнага райкама КПЗБ у Палескім ваяв. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927. У 1928 завочна абраны выбаршчыкамі дэпутатам польскага Сейма, у сувязі з чым вызвалены з турмы. У Сейме стаў адным з кіраўнікоў фракцыі і нацыянальна-вызваленчай арганізацыі «Змаганне», абраны яе сакратаром. Зноў арыштаваны 30.8.1930 за дзейнасць у «Грамадзе», асуджаны да 8 гадоў пазбаўлення волі. У выніку абмену палітвязнямі ў 1932 перададзены са-

вецкаму боку. Жыў у Мінску. Арыштаваны НКВД. Загінуў у зняволенні.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Bergman A.* Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984. S. 50—51, 160; *ЭГБ*, т. 3; *БЭ*, т. 5.

**ГУДЗІК Сяргей Пятровіч** [1905, мяст. Быцень Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец, педагог. У 1927 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Казанскага авіяцыйнага інстытута. Арыштаваны 13.8.1936. Асуджаны асобай нарадай НКВД СССР 10.12.1936 за «садзейнічанне трацкісцкай дзейнасці» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі, затым пераведзены, хутчэй за ўсё, ва Ухта-Іжэмскі канцлагеры НКВД Комі АССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.4.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУДЗІНОВІЧ Аляксей Восіпавіч*** [1909, мяст. Азёры Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 21.2.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік мантажнага цэха Дзягцярскага рудаўпраўлення. Арыштаваны 17.12.1937. Асуджаны 15.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУДКОЎ Фёдар Андрэевіч*** [1888, в. Шэркіна (Другое Шэркіна) Віцебскай губ., цяпер Лёзненскі р-н Віцебскай вобл. — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту фельчар Ухцінскага раённага аддзела аховы здароўя Комі АССР. Арыштаваны 5.11.1944 у пас. Мадмас Комі АССР. Асуджаны 12.11.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние*.

**ГУДОВІЧ Вячаслаў Савельевіч*** [1883, Вязьма Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — ?], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — кансультант планава-эканамічнага аддзела Омскай чыгункі. Арыштаваны 16.12.1930. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ Заходнесібірскага краю 1.3.1931 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 27.6.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ГУЗОЎСКІ Аляксей Восіпавіч*** [1903, мяст. Ціхінічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 6.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік лабараторыі завода «Электраапарат», член ВКП(б). Арыштаваны 30.8.1937 у Ленінградзе па адра-

се: вул. Петрапаўлаўская, д. 6, кв. 23. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.10.1937 за «шпіянаж» і як «член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУЛЮТА Лука Сідаравіч*** [1900, в. Кажановічы Магілёўскай губ., цяпер Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер, камендант ваеннага гарадка. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 11.3.1942 у Зеленадольску Татарскай АССР. Асуджаны трыбуналам войскаў НКВД Татарскай АССР 24.4.1942 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.6.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

**ГУМІН Мікалай Міхайлавіч*** [1905, в. Старое Сяло Замосцкага пав. Холмскай губ., цяпер Польшча — 21.10.1937, Масква, НКВД], вайсковец, службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1929 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік участка Ваенспецбуда. Арыштаваны 20.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Малая Татарская, д. 16, кв. 35. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 19.10.1937 за «шкодніцкую работу, на-

кіраваную на зрыў будаўніцтва аэрадрома» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 6.7.1957. Асабовая справа Г. № 36645 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ГУРА Іван Пятровіч*** [1886, в. Брэжніца Кракаўскага пав., Аўстра-Венгрыя, цяпер Польшча — ?], грамадскі дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. На момант арышту (4.10.1939) бургамістр Докшыц. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 4.9.1940 як «кіраўнік фашысцкай арганізацыі «Стральцы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер НКВД Новасібірскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Віцебскай вобл. 22.12.1989. Асабовая справа Г. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ГУРАЛЬНІК Іосіф Майсеевіч*** [31.1.1895, мяст. Хадаркоў Кіеўскай губ., цяпер Украіна — 4.11.1937, Мінск, НКВД], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Арыштаваны 24.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 25, кв. 9. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1937 «за контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Ленінградскай ВА 11.9.1957. Асабовая справа Г. № 11321-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУРВІЧ Цыля Ісакаўна*** [1905, Мінск — ?], педагог, дачка Ісака *Гурвіча,* пляменніца Яўгеніі *Гурвіч*. Атрымала вышэйшую адукацыю (хутчэй за ўсё, скончыла БДУ). Выкладала ў МВПІ. Уступіла ў ВКП(б). Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 14.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 39, кв. 6. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «цесную сувязь з польскім агентам Шаломавым і шпіёнскую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбывала ў Паўладары. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 18.10.1955. Асабовая справа Г. № 5554-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУРСКІ Парфён Яфімавіч*** [1899, в. Васілевічы Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер горад Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. — 27.8.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік аддзела агнявыбухсклада № 70 Ленінградскай ВА. Арыштаваны 8.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 25.8.1937 за «шпіянаж» і як «член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУРСКІ Яўген Аляксандравіч*** [1920, в. Гарбацэвічы Бабруйскага пав. Гомельскай губ. — ?], навучэнец. З сям'і святара. У час 2-й сусветнай вайны заста-

ваўся на акупаванай тэрыторыі. Падчас арышту студэнт 5 курса Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 20.12.1950 у Горках Магілёўскай вобл. Асуджаны 21.4.1951 за «здраду радзіме» да 25 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер МДБ Краснаярскага краю. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.5.1956 камісіяй прэзідыума Вярхоўнага савета СССР. Асабовая справа Г. № 2524-сн з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУРЫН Яўген Іванавіч** [1895, в. Ярэмічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 16.8.1937, Масква, НКВД], партыйны дзеяч, верагодна, брат Міхаіла *Гурына-Маразоўскага*. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту сакратар Нагінскага гаркама ВКП(б) Маскоўскай вобл. Арыштаваны 22.6.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Паштовая, д. 18/20. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.8.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 22.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.* 1934—1940. М., 1993. Вып. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУРЫНОВІЧ Сцяпан Андрэевіч*** [1901, в. Шышчыцы, цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 9.2.1938,

Курск, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту нам. начальніка штаба 55 артылерыйскага палка 55 стралковай дывізіі. Арыштаваны 1.4.1937. Расстраляны. Рэабілітаваны 4.5.1967.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ГУРЫНОВІЧ Сяргей Міхайлавіч*** [1906, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 24.11.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. навуковы супрацоўнік БелАН, член ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 4.9.1937 па адрасе: вул. Камуністычная, д. 16, кв. 60. Асуджаны «тройкай» НКВД 24.11.1937 за «антысавецкую агітацыю і шкодніцкую дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны ў першую пасля прыгавору ноч. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.7.1957. Справа Г. № 15404-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ГУРЭВІЧ Вульф Ашэравіч*** [1901, в. Напраснаўка Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], работнік сельскай гаспадаркі. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў на Горкаўскай занальнай малочнай станцыі буйной рагатай жывёлы. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 24.4.1933. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член

контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер Маскоўскай вобл. У 1935 высланы ў Казахстан. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Г. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУРЭВІЧ Нохім Гіршавіч*** [1895, в. Чараўня, цяпер Старадубскі р-н Бранскай вобл., Расія — 1937 (?), Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. У 1918—20 у Чырвонай арміі, уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. член ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР. Апошняе месца работы — наркам унутранага гандлю БССР. Арыштаваны 17.7.1937 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 як «член тэрарыстычнай шпіёнскай арганізацыі» і за «падрыўную дзейнасць» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Дата смерці дакладна невядома. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.8.1957. Асабовая справа Г. № 10795-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ГУСТЫР Ян Фёдаравіч*** [1904, мяст. Ружаны Слонімскага пав., Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 17.5.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. У 1919—1920 у Чырвонай арміі. У 1925 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. навуковы супрацоўнік БелАН.

Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 29.10.1933 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8, кв. 1. Асуджаны калегіяй АДПУ 9.1.1934 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Адначасова з БССР была выслана сям'я Г. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Справа Г. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУТКОЎСКІ Павел Макаравіч** [25.1.1893, в. Забелы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 13.10.1962], графік, брат Мікалая *Гуткоўскага*. З сялянскай сям'і. Вучыўся ў іканапіснай майстэрні П. Курбатава ў Мінску, Варшаўскай мастацкай школе. У 1917—19 у Чырвонай арміі. У міжваенны час працаваў гравёрам на Мінскім мастацкім камбінаце. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 5.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Беламорская, д. 26/1. Асуджаны 3.3.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі ў перыяд акупацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з далёкаўсходніх канцлагераў. Вызвалены 20.6.1954. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 3.12.1956. Аўтар карцін «Беларускія сяляне», «Сыты галоднага не разумее» і інш. Асабовая справа Г. № 7948-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *БЭ*, т. 5.

**ГУЦЭВІЧ Антон Фёдаравіч*** [1899, в. Дзмітрыевічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дацэнт Віцебскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 1.9.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Фрунзе, д. 46, кв. 13. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 19.2.1940 як «сацыяльна-небяспечны элемент і агент польскай разведкі» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 25.9.1956. Асабовая справа Г. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ГУШЧА Якаў Мікалаевіч*** [1881, в. Слабада Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 11.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту памочнік інспектара Упраўлення марскіх сіл Чырвонай арміі. Арыштаваны 19.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Герцэна, д. 45, кв. 6. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.1.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай Расіі 15.4.1992.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАБРАВОЛЬСКІ Аляксандр Мікалаевіч*** [14.5.1895, в. Абрубы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — 23.1.1938, Слуцк, НКВД], педагог, верагодна, брат Івана *Дабравольскага* і Усціна *Дабравольскага*. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў загадчыкам вучэбнай часткі 1-й СШ Слуцка Мінскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 26.8.1937 у Слуцку па адрасе: вул. Вечарневіча, д. 14. Асуджаны 7.12.1937 «тройкай» НКВД як «палітычны эмігрант і агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.5.1957. Асабовая справа Д. № 10288-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАБРАВОЛЬСКІ Васіль Іванавіч*** [1903, Мінск — 9.5.1938, Магілёў (?), НКВД], педагог, верагодна, брат Станіслава *Дабравольскага*. З сям'і рабочага. Працаваў настаўнікам у Магілёўскай школе малапісьменных. Быў жанаты. Арыштаваны 13.2.1938. Асуджаны 9.4.1938 пазасудовым органам НКВД як «польскі агент» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.6.1959. Асабовая справа Д. № 6465 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ДАБРАВОЛЬСКІ Іван Мікалаевіч*** [1890, ? — 1.4.1938, Смаленск, НКВД], педагог, верагодна, брат Аляксандра *Дабравольскага* і Усціна *Дабравольскага*. З бел. сялянскай сям'і. Працаваў настаўнікам у Дара-

габужы Смаленскай вобл. Арыштаваны 10.11.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ДАБРАВОЛЬСКІ Станіслаў Іванавіч*** [1909, Мінск — ?], службовец, верагодна, брат Васіля *Дабравольскага*. З сям'і рабочага. Падчас арышту інструктар Койданаўскага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 26.11.1933 у в. Баранаўшчына (?). Асуджаны 26.12.1933 за «прыналежнасць да польскай разведкі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалены 5.6.1946. Зноў арыштаваны і 29.11.1950 асуджаны да ссылкі ў Краснаярскі край. Канчаткова вызвалены 30.8.1954. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 13.11.1962. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Д. № 24801-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАБРАВОЛЬСКІ Усцін Мікалаевіч*** [1905, в. Абрубы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — 19.10.1938, Масква, НКВД], службовец, верагодна, брат Аляксандра *Дабравольскага* і Івана *Дабравольскага*. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ун-т. У 1928 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — інжынер лабараторыі гідрамеханізацыі Куйбышаўскага гідравузла. Арыштаваны 8.3.1938 у Дзмітраве Маскоўскай вобл. па адрасе: вул. Бальшавіцкая, д. 9, кв. 6. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.10.1938 за «шпіёнскую дзейнасць

на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 29.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ДАВЫДЗЕНКА Сяргей Аляксандравіч*** [1895, в. Байкі Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інжынер-хімік, лабарант абл. санітарна-гігіенічнай лабараторыі. Арыштаваны 17.1.1949 у Омску. Асуджаны трыбуналам войск НКВД Омскай вобл. 23.3.1949 як «член антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. 10.7.1956 артыкул абвінавачання быў зменены на «антысавецкую агітацыю» з мерай пакарання 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 24.12.1991.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАВЫДКІНА Клара Андрэеўна*** [1927, Бабруйск, цяпер Магілёўская вобл. — ?], навучэнка. З сям'і рабочага. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў 5-м класе Бабруйскай школы. Арыштавана 28.12.1944. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 1.9.1945 як «член фашысцкай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізма» да 9 месяцаў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэаб-

ілітавана трыбуналам БВА 14.3.1975. Асабовая справа Д. № 9519 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ДАВЫДОВІЧ Я. А.*** [? — ?], пенсіянер, удзельнік яўрэйскага нацыянальнага руху. Жыхар Мінска. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Захоўваў пісталет «ТТ» з патронамі. Разам з Г. Я. *Кіпнісам* распаўсюджваў літаратуру і лісты пра становішча яўрэяў у СССР. У адным з пасланняў гаварылася: «Калі я бачу цкаванне і здзек над яўрэйскім народам, маё сэрца абліваецца крывёю. Я бачу, як мабілізаваны друк, радыё, тэлебачанне, лектары і прамоўцы, увесь дзяржаўны апарат велізарнай сусветнай дзяржавы, каб задушыць у маіх братоў-яўрэяў веру ў сябе, узвесці на іх паклёп і абылгаць іх перад грамадзянамі сваёй краіны і перад усім светам… У мяне часта пытаюцца — навошта я ўзняў голас пратэста… скажу — нельга гэтым псам-чарнасоценцам вечна ўсё спускаць з рук. Яны запаўняюць усю краіну, увесь свет». Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР указам ад 22.5.1973, улічваючы ўдзел Д. ў вайне, заслугі ў працоўнай дзейнасці, узнагароджанне баявымі ордэнамі і медалямі СССР, прымаючы пад увагу стары ўзрост і слабы стан здароўя, вызваліў Д. ад крымінальнай адказнасці. Далейшы яго лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 36, спр. 5584.

Літ.: *58[10]*, с. 750.

**ДАІБРАЎ Іван Іванавіч*** [1912, Мінск — ?], мастак. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў афарміцелем. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзя-

цей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 23.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 13, кв. 8. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 24.11.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны ў Ягрынскі канцлагер МДБ Архангельскай вобл. Вызвалены ў 1952. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Беларусі 15.2.1993. Асабовая справа Д. № 35088-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАЙЛІДЗЁНАК Адам Фаміч*** [1903, в. Гваздова Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл. — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер аддзела галоўнага энергетыка завода імя Кірава ў Ленінградзе. Арыштаваны 3.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАКУТОВІЧ Фёдар Уладзіміравіч*** [студз. 1911, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт МВПІ. Арыштаваны 11.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8/1, кв. 110. Асуджаны 3.1.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабіліта-

ваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 22.12.1989. Асабовая справа Д. № 29314-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАМАРУК Архіп Акімавіч*** [1899, в. Крукавічы (?) Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі (?) р-н Брэсцкай вобл. — 15.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інжынер-тэхнолаг завода «Барацьбіт». Арыштаваны 21.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Усачова, д. 62, кв. 236/239. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.11.1937 за «шкодніцкую дзейнасць на заводзе» і за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.10.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон*.

**ДАМБРОЎСКІ Уладзімір Аляксеевіч*** [1907, в. Патока Гродзенскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — 29.11.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту заатэхнік вучэбнай гаспадаркі Заалагічна-ветэрынарнага тэхнікума. Арыштаваны 5.9.1937 у Томску. Асуджаны 13.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.11.1964.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

**ДАМБРОЎСКІ Чэслаў Чэслававіч** [1891, в. Ракітна Бложскага пав. Варшаўскай губ., цяпер Польшча — ?], вучоны-матэматык. У 1913 скончыў Пражскі ун-т. У 1920-я г. ўступіў у ВКП(б). У 1923—35 выкладчык БДУ. З 1932 прафесар. Падчас арышту прафесар Віцебскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 29.6.1936 у Віцебску па адрасе: Пралетарскі бульвар, д. 21, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 22.7.1936 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 1.10.1966. Асабовая справа Д. № 13345-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Тв.: Да пытання аб незалежнасці пастулатаў у сістэме Д.Гільберга // *Працы БДУ*. 1932. № 26; Еще раз о решении численных уравнений // Математическое обучение. 1930. № 5.

**ДАМЕЛЬ Ян** [1780, Мітава Курляндскай губ., цяпер Елгава, Латвія — 18(30).8.1840, Мінск], мастак. З сям'і вайскоўца. У 1809 скончыў Віленскі ун-т, быў вучнем вядомых мастакоў Ф.Смуглевіча і Я.Рустэма. Застаўся выкладаць на кафедры рысунак і жывапіс. У 1820 паводле лжывага абвінавачання ў сувязях з фальшываманетчыкам сасланы ў Сібір. Фактычнай прычынай ссылкі, як стала вядома пазней, быў удзел Д. ў адной з тайных масонскіх арганізацый. Па дарозе ў ссылку свае ўражанні занатоўваў і замалёўваў у «Дзённік з вандравання ў Сібір». Знаходзіўся ў ссылцы ў Табольску (размаляваў фрэскамі мясцовы евангеліцкі касцёл), Томску (упрыгожыў фрэскамі мясцовы касцёл бернардзінцаў), Енісейску. Зблізіўся з правіцелем Сібіры графам Спяранскім, што аблегчыла яго долю ссыльнага і дапа-

магло хутчэй вярнуцца на радзіму. Вызвалены ў 1822, пасля чаго пасяліўся ў Мінску. Творчасць Д. развівалася пад уплывам класіцызму. Найбольш вядомы як майстар гістарычнага жанру ў жывапісе; сярод яго карцін: «Смерць князя Панятоўскага», «Хрышчэнне славян», «Смерць Глінскага ў няволі», «Вызваленне Т.Касцюшкі з цямніцы» (1830-я г.), «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 г.» Гістарычныя творы Д. вылучаюцца дакладнасцю дэталяў. Стварыў жывапісныя творы на рэлігійныя сюжэты, партрэты князя Д.Радзівіла, графаў І.Храптовіча, К.Тышкевіча, рэктара Віленскага ун-та Ш.Малеўскага і інш. Вялікае месца ў творчасці Д. займае пейзаж. Шырокай вядомасцю ў мінскай публікі карысталіся карыкатуры Д. Пахаваны ў касцёле Кальварыйскіх могілак Мінска. Замест помніка над яго магілай была павешана карціна «Маленне збавіцеля», якую Д. лічыў адным з найлепшых сваіх твораў.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

Літ.: *Дробаў Л. Н.* Беларускія мастакі XIX ст. Мн., 1971; *Яго ж.* Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974; *ЭГБ*, т. 3; *БЭ*, т. 6.

**ДАМІНІКОЎСКІ Міхаіл Адольфавіч** [1892, в. Барацькоўшчына Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі (?) р-н Гродзенскай вобл. — 1.11.1938, Севастопаль, НКВД], вайсковец. З бел. рабочай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). (1918). Удзельнік грамадзянскай вайны (камісар). Падчас арышту начальнік гідраграфічнага аддзела Чарнаморскага флота (Севастопаль). Арыштаваны 13.10.1937.

Асуджаны 1.11.1938 як «удзельнік ваенна-фашысцкай змовы» да ВМП. Расстраляны. Адначасова да 5 гадоў пазбаўлення волі была прыгаворана жонка Д. Рэабілітаваны 28.9.1957 Ваеннай коллегией Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Д. № П-7366 захоўваецца ў архіве УКГБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАНЕЙКА Пётр Лук'янавіч*** [1897, в. Дроздава Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл. — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік часці водазабеспячэння 1-га паравознага аддзялення ст. Волхаўбуд-1 (Барысава Горка) Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАНІЛАЎ Віктар Захаравіч*** [1919, Гарадок Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў прарабам. Арыштаваны 16.1.1942 у Талгары Ілійскага р-на Алма-Ацінскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 4.7.1942 за «антысавецкую дзейнасць» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Алма-Ацінскім абл. судом 31.8.1982.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАНІЛАЎ Еўдакім Еўдакімавіч*** [1892, Краснае Смаленскай губ., цяпер Смаленская вобл., Расія — 8.1.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў аграномам. Арыштаваны 23.10.1937 у в. Аляксандраўская Томскай вобл. Асуджаны 8.12.1937 як «член контррэвалюцыйнай ваенна-трацкісцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 7.6.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ДАНІЛЕВІЧ Станіслаў Іванавіч** [1891, в. Веліманы Дзвінскага пав. Віцебскай губ., цяпер Латвія — 15.3.1938, Свярдлоўск, НКВД], работнік культуры. Падчас арышту рэжысёр драматычнага гуртка ў клубе пры заводзе «Вольта». Арыштаваны 21.12.1937 у в. Баранча Краснаўральскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 7.2.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ДАНІЛЮК Рыгор Сцяпанавіч** [1896, Брэст — ?], вайсковец. З бел. сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір брыгады, нам. камандзіра 86 стралковай дывізіі. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага сця-

га. Арыштаваны 4.3.1938 у Казані. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 11.1.1940 за «шпіянаж на карысць польскай разведкі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.2.1954.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан.*

**ДАНІС Уладзімір Войцехавіч*** [1917, в. Пелуа, цяпер Ровенскай вобл., Украіна — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Барысаўскім ансамблі песні і танца. Арыштаваны 18.12.1944 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі», але 28.7.1945 асобай нарадай пры НКВД вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай пракуратурай Беларусі 11.3.1993. Асабовая справа Д. № 35126-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ДАРАШЭВІЧ Зінаіда Адамаўна*** [1895 ці 1896, в. Мялешкавічы., цяпер Мазырскі р-н Гомельскай вобл. (паводле іншых звестак в. Очыш (?) Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл.) — 5.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту ўпаўнаважаная акцыянернага таварыства Інтурыст (ст. Востраў Кастрычніцкай чыгункі). Арыштавана 23.7.1937. Асуджана камісіяй

НКВД і пракуратуры СССР 29.10.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляна.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАРДАК Юдаль Самуілавіч*** [1896, мяст. Ілья Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 9.7.1938, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і службоўца. У 1930-я г. супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута педагогікі. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.5.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа Д. № 30238-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**ДАСТАНКА А. Ф.*** [1903 — ?], галоўны інжынер Інстытута па праектаванню аб'ектаў энергетыкі. Жыхар Мінска. У жн. 1958 — крас. 1959 вырабляў фотамантажы з карыкатурамі на савецкі лад і дасылаў іх у рэдакцыі газет і часопісаў з гарадоў, куды ездзіў у камандзіроўкі. Асуджаны паводле артыкула «антысавецкая агітацыя і прапаганда» 30.7.1959. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 86961.

Літ.: *58[10]*, с. 533.

**ДАЎГІЛЕВІЧ Сяргей Аляксандравіч*** [1903, Мінск — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Працаваў у аркестры Тэатра оперы і балета. Быў жанаты, гада-

ваў дзіця. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 8.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Вызвалення, д. 1/35, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 24.3.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 19.4.1990. Асабовая справа Д. № 30696-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДАЎГЯЛА Сяргей Трафімавіч*** [1893, Веліж Віцебскай губ., цяпер Смаленская вобл. — 30.3.1942, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік сувязі «Средуралмедьзавода». Арыштаваны 4.8.1941 у Рэўдзе Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 11.10.1941 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ДАЎГЯЛА (ЗАВІША) Фёдар Васілевіч** [1886, в. Новыя Грамыкі Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Веткаўскі р-н Гомельскай вобл. — 23.2.1938, Томск, НКВД], службовец. Меў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік радыёсектара Нарымскага акруговага аддзела сувязі. Арыштаваны 10.12.1937 у Калпашове Томскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.1.1938 за «РОВС» (?) да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны СССР 13.9.1957.

Кр.: *Боль людская.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАЎКША Казімір Рамуальдавіч*** [1884, Чавусы Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 26.10.1937, Мінск, НКВД], журналіст, муж Марыі *Даўкшы*. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту рэдактар Мінскай польскай газ. «Орка». Гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 4.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Стараслабадская, д. 68 або 64, кв. 2. Асуджаны 14.10.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 31.8.1959. Асабовая справа Д. № 14625-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДАЎКША Марыя Фёдараўна*** [1887, Херсон, цяпер Украіна — ?], педагог, жонка Казіміра *Даўкшы*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала настаўніцай у 44-й СШ Мінска. Гадавала дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 10.10.1944 у Мінску па адрасе: вул. Стараслабадская, д. 68 або 64, кв. 2. Асуджана 3.10.1945 як «член антысавецкай арганізацыі» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер МДБ Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Вызвалена ў 1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Мінскай вобл. 26.6.1997. Асабовая справа Д. № 36997-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДВАРЧАНІН Іларыён Сымонавіч*** [сак. 1898, в. Погіры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 24.9.1945, ГУЛАГ], службовец, брат Ігната *Дварчаніна*. З бел. сялянскай сям'і. У 1920-я г. студэнт Пражскага ун-та, член Саюза беларускіх студэнтаў. У пачатку 1930-х г. нам. дырэктара Беларускага дзяржаўнага паляўнічага запаведніка. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 3.9.1933 у в. Крайцы Бягомльскага р-на Мінскай вобл. Асуджаны 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП (заменена на 10 гадоў папраўча-працоўных работ). Этапаваны ў адзін з канцлагераў АДПУ Архангельскай вобл. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Пастановай КДБ БССР 16.8.1956 Асабовая справа Д. № 10182-с (захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) спынена.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЕМІДЗЕНКА Сяргей Максімавіч*** [1904, в. Папоўка Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Першамайск Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. — ?], работнік культуры. З сялянскай сям'і. Падчас арышту мастацкі кіраўнік Мінскага раённага дома культуры. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Арыштаваны 18.7.1951 у пасёлку Ратамка каля Мінска. Асуджаны 21.11.1951 за «антысавецкую дзейнасць» да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў, 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Перавезены ў турму каля ст. Навасады Барысаўскага р-на Мінскай вобл. (п. с. УЖ-15/2). Далейшы лёс невядомы.

Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 3.2.1995. Асабовая справа Д. № 7521-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЕМІДОВІЧ Алесь Піліпавіч** [1897, Капыль, Мінскай губ. — ?], бел. нацыянальны дзеяч, паэт. Член Беларускай сацыялістычнай грамады. Скончыў Горацкі сельскагаспадарчы інстытут (1925). У 1916 у арміі. З 1917 працаваў ва Ўсерасійскім спажывецкім таварыстве ў Маскве, з 1919 — у Мінску. Арыштаваны ў 1921. З 1925 жыў у Горках, Лошыцы, працаваў у навукова-даследчым інстытуце сельскай гаспадаркі, на бульбаводчай станцыі. Пісаў вершы (з 1916), некаторыя з іх публікаваў у газ. «Дзянніца». Уваходзіў у Аршанскую філію «Маладняка». Зноў арыштаваны 19.7.1930 і асуджаны да 5 гадоў ссылкі. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *ЭГБ,* т. 6—2.

**ДЗЕМІДОВІЧ Надзея Раманаўна** [н. 24.2.1927, хут. Макейкі (?) Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.], вязень ГУЛАГу, мемуарыстка. З восені 1941 вучылася ў Слонімскай беларускай гімназіі. Сяброўка СБМ, 6.11.1943 у «Баранавіцкай газэце» дэбютавала вершам «Сябрам С.Б.М.» У снеж. 1944 у час масавых арыштаў сяброў СБМ у Слоніме перайшла на нелегальнае становішча. Члены сям’і Д. (у тым ліку і бацькі) арыштоўваліся савецкімі ўладамі як у перыяд 1939—41, так і пасля 1944. Д. хавалася да 1949, калі была арыштавана (25 вер.) у Пет-

рапаўлаўску (Паўн. Казахстан). Пад следствам яе жорстка катавалі. Трыбуналам у Баранавічах Д. была асуджана да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Тэрмін адбывала спачатку ў Гродзенскай турме, затым у Карагандзінскай вобл. (пазней Джэзказганская вобл. Казахстана) у рэжымным лагеры Кенгір. Удзельніца Кенгірскага паўстання (забастоўкі) вязняў 16.5.—26.6.1954, патопленага ў крыві. Этапавана ў Азёрны канцлагер МУС Іркуцкай вобл. (Тайшэт). Вызвалена як цяжкахворая 19.4.1956. Вярнуўшыся на радзіму, працавала на гаспадарцы ў Слонімскім р-не, потым перабралася ў Мінск, уладкавалася на завод «Гарызонт». З-за свайго лагернага мінулага была абмежавана ў магчымасці выбраць месца работы. З 1977 інвалід 2-й групы, з 1980 — 1-й. Жыве ў Калодзішчах пад Мінскам. З 1990-х г. выступае ў друку з вершамі і ўспамінамі.

Тв.: Век так ня будзе. Мн., 2002.

Літ.: *Майсеня Л.* Надзея Дземідовіч: «Я сябе вінаватай перад Радзімай не лічу» // *Пагоня*. 1998. 10 сак.; *Народная воля*. 1998. 8 мая; *Антысавецкія рухі*.

**ДЗЕМІДОВІЧ Павел Паўлавіч*** [1911 (паводле іншых звестак 1912), Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], педагог. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык фізікі Беларускага політэхнічнага інстытута. Арыштаваны 31.10.1933 у Мінску па адрасе: Чырвонаармейскі зав., д. 4. Асуджаны 9.1.1934 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3

гадоў пазбаўлення волі. 6.10.1937 Д. (на той час чырвонаармеец 113 асобнага будаўнічага батальёна) быў узяты пад варту і 22.11.1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Д. № 10182-с (спынена паводле пастановы КДБ БССР 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ДЗЁМІН Павел Фёдаравіч*** [вер. 1906, в. Дурноўская Царыцынскай губ., цяпер Валгаградская вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1927 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. нам. рэктара БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 31.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 72, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 16.7.1940 як «член антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Ухта-Іжэмскі (былы Ухта-Пячорскі) канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 2.10.1956. Асабовая справа Д. № 7208-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДЗЕНІСКЕВІЧ Мікалай Міхайлавіч** [26.4 (9.5).1904, в. Закаблукі Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 29,10.1937, Мінск, НКВД], партыйны дзеяч, муж Ірыны *Коршун*. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю

адукацыю, працаваў слесарам на Мінскай чыгунцы. З 1921 на камсамольскай рабоце. З 1925 сакратар Аршанскага камітэта ЛКСМБ, затым на партыйнай рабоце. У 1930 скончыў курсы партыйных работнікаў у Маскве. Ажаніўся, гадаваў дзіця. З 1933 загадчык аддзела ЦК КП(б)Б, сакратар Лёзненскага райкама, Віцебскага гаркама КП(б)Б (1937), другі сакратар ЦК КП(б)Б. Арыштаваны з жонкай 26.7.1937 на дачы ЦК КП(б)Б «Гарадзішча». Асуджаны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі правых» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.2.1956. Асабовая справа Д. № 5900-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ДЗЕНІСЮК Віктар Аляксеевіч*** [1902, ст. Лышчыцы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі р-н — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту нам. начальніка 7 аддзялення службы эксплуатацыі ст. Мурманск Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 3.11.1937 у Мурманску Ленінградскай вобл. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «шпіёнскую дзейнасць і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЕРАВЯШКІН Васіль Сямёнавіч*** [1917, ? — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяль-

ную адукацыю. Падчас арышту старшы лейтэнант медыцынскай службы эвакуацыйнага ўпраўлення. Арыштаваны ў Башкірыі 24.11.1943 за «антысавецкую агітацыю». Асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 18.8.1966.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ДЗЕРБУШ Сямён Герасімавіч*** [1898, в. Нарасць Суражскага пав. Чарнігаўскай губ., цяпер Украіна — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса «10 гадоў Кастрычніка». Арыштаваны 2.4.1933 у в. Ерамееўка Палтаўскага р-на Заходнесібірскага краю. Асуджаны 25.4.1933 асобай «тройкай» пры АДПУ Заходнесібірскага краю за «антысавецкую шкодніцкую дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Сібірскай ВА 15.6.1956.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**ДЗІМАНШТЭЙН Фіма Авелевіч*** [1905, мяст. Докшыцы Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 5.1.1938, Віцебск, НКВД], педагог. З яўрэйскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Выкладаў музыку ў Віцебскім медыцынскім ун-це і на Віцебскай фабрыцы «Прафінтэрн». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстра-

ляны. Рэабілітаваны 4.9.1989. Асабовая справа Д. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЬЯКАЎ Ананій Іванавіч** [1.10.1896, в. Багданаўка Мсціслаўскага пав., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, педагог. З сялянскай сям'і. Скончыў пачатковую школу. Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне. За мужнасць у баях атрымаў афіцэрскае званне. У 1918 уступіў у ВКП(б), узначаліў Вяземскі зямельны аддзел. У 1919—23 служыў у Чырвонай арміі (камандзір роты). З 1923 нам. старшыні Мсціслаўскага павятовага выканкама. У 1924 прызначаны нам. старшыні (потым старшынёй) Магілёўскага акруговага выканкама. У ліп. 1928 накіраваны на вучобу ў Прамысловую акадэмію ў Маскву, але вучыцца не давялося — быў прызначаны нам. старшыні (пазней старшынёй) Віцебскага выканкама. У 1930—34 вучыўся ў Маскве ў Інстытуце чырвонай прафесуры. З лют. 1934 нам. рэктара, рэктар БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. З восені 1935 загадчык аддзела ЦВК БССР. У ліп. 1936 прызначаны наркамам асветы БССР. Арыштаваны 11.5.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 21/52, кв. 24. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі, які праводзіў шкодніцкую работу ў галіне народнай асветы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.4.1957. Асабовая справа Д. № 10175-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*Леанід Маракоў*

22.9.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 ліпеня, д. 18, кв. 2 была арыштавана хатняя гаспадыня Дзьякава Марыя Іванаўна (н. 19.2.1904 у Мсціслаўлі, атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю). 28.11.1937 асобай нарадай НКВД асуджана як «жонка здрадніка радзімы» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ і этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 8.6.1956. Яе Асабовая справа № 6688-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 47—60.

**ДЗЯДУШЫК Сцяпан Ільіч*** [1893, в. Новая Воля (?) Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. (?) — 22.12.1937, Масква, НКВД], ?. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту беспрацоўны. Арыштаваны 20.11.1937 у Маскве па адрасе: Дуброўка, Кааператыўныя дамы, к. 2, кв. 80. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 13.12.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.8.1961. Асабовая справа Д. 65843 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ДЗЯМЕНЦЬЕЎ Мікалай Васілевіч*** [1899, ? — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік штаба 98 стралковай дывізіі. Арыштаваны 2.9.1937. Асуджаны

ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 6.8.1955.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ДЗЯМКО Уладзімір Іванавіч*** [1925, Свярдлоўск, цяпер Екацярынбург, Расія — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту камандзір узвода вайсковай часці 29287. Прыморскага краю. Арыштаваны 21.9.1949. Асуджаны 29.11.1949 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ДЗЯРВУК Іван Мікалаевіч*** [1879, в. Дуброўка Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?, Пскоў, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік пажарнай аховы торфапрадпрыемства. Арыштаваны 28.7.1938 у в. Лапаціна Пскоўскага р-на. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.10.1938 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны 17.1.1990.

Кр.: *Не предать забвению.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЗЯТЛАЎ Яфім Георгіевіч*** [1894, в. Рабава Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Удзельнік 2-й

сусветнай вайны. Падчас арышту працаваў загадчыкам Гідраметэаралагічнай станцыі. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.11.1945 у Мінску па адрасе: зав. 1-ы Пугачоўскі, д. 14, кв. 1. Асуджаны 2.10.1946 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 14.2.1994. Асабовая справа Д. № 35850-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДМІТРЫЧЭНКА Антон Ісакавіч*** [1887, в. Літоўскае Люцынскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лудзенскі р-н, Латвія — 18.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту старшыня Чырвонагвардзейскага раённага выканаўчага камітэта. Арыштаваны 3.8.1937 у Чырвонагвардзейску Ленінградскай вобл. па адрасе: вул. 25 Кастрычніка, д. 41, кв. 5. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны выязной сесіяй спецыяльнай калегіі Ленінградскага абл. суда ў Чырвонагвардзейск 1.9.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ Мітрафан Віктаравіч** [2(14).6.1867, Рэчыца Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — 30.9.1934, Масква], бел. і рускі гісторык, эканаміст, этнограф. Закончыў гісторыка-філала-

гічны ф-т Кіеўскага ун-та (1894). Шлях у навуку распачаў са збору і вывучэння песень, абрадаў, казак, паданняў Палесся. У 1888 асобнай брашурай быў апублікаваны этнаграфічны эцюд будучага вучонага. У гэтым жа годзе ў васьмі нумарах газ. «Минский листок» надрукаваны артыкул «Беларускае мінулае», у якім Д.-З. узняў праблему нацыянальнага адраджэння бел. народа аналагічна чэхам, славакам, сербам. У «Календары Северо-Западного Края на 1889 год» змясціў матэрыялы з гісторыі Беларусі, яе пісьменства, нарысы пра мову, асобныя рэгіёны краю, нізку народных песень, нататкі пра Вялікдзень. Актыўна лістуючыся з М.Я.Нікіфароўскім, Я.А.Ляцкім, У.З.Завітневічам, Я. Лучынам, Д.-З. у 1890-я г. імкнуўся аб'яднаць даследчыкаў беларушчыны. У гэты перыяд ім напісана і апублікавана вялікая серыя фальклорна-этнаграфічных даследаванняў пра сямейны побыт, абрады, вераванні беларусаў. З 1895 Д.-З. працаваў у Маскве, спачатку памочнікам архіварыуса архіва Міністэрства юстыцыі, сакратаром археаграфічнай камісіі пры Маскоўскім археалагічным таварыстве, а з 1899 прыват-дацэнтам гісторыка-філалагічнага ф-та Маскоўскага ун-та. У 2-й палове 1890-х г. вучоны займаецца архіўнымі росшукамі, у выніку чаго ў яго даследчай працы пачынае дамінаваць гістарычная тэматыка, сюжэты літоўска-бел. сярэднявечча: «Да гісторыі Люблінскай уніі», «Берасцейскае староства ў XVI ст.», «Літоўскі скарб і татарскія орды ў 1502—1509 гг.», «Старажытны народны копны суд у Паўночна-Заходняй Русі» і інш. Апублікаваныя вучоным «Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі», «Акты Літоўска-Рускай дзяржавы (XIV—XVI ст.)», «Баркулабаўскі летапіс» разам з матэрыяламі іншых архіваў Расіі

і Польшчы сталіся базай для напісання Д.-З. буйных манаграфічных даследаванняў «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага Княства Літоўскага пры Ягелонах», «Нарысы па арганізацыі заходнерускага сялянства ў XVI ст.», у якіх аналізуюцца сацыяльна-эканамічныя адносіны і сацыяльна-эканамічнае становішча Літоўска-Беларускага гаспадарства, станаўленне бел. дзяржаўнасці. У гады 1-й рускай рэвалюцыі гісторыёграф удзяляе вялікую ўвагу гісторыі станаўлення грамадскай думкі ў Расіі (арт. «Палітычныя ідэалы М.М.Сперанскага, «З гісторыі грамадскіх плыняў у Расіі»), руху дзекабрыстаў (арт. «Таемнае таварыства дзекабрыстаў», «Ідэалы дзекабрыстаў», уступ і каментар да кн. «Мемуары дзекабрыстаў»), а таксама гісторыі сялянскага пытання ў Беларусі і Расіі («Старонка з гісторыі прыгоннага права ў XVIII —XIX стст.», «На зары сялянскай свабоды»). У 1905 Д.-З. стварае ў Кіеве жаночыя курсы, а ў 1906 асноўвае камерцыйныя курсы, у 1907 пераўтвораныя ў Кіеўскі камерцыйны інстытут, які стаў першай такога тыпу навучальнай установай у краіне. Заснаванне і кіраўніцтва Кіеўскім камерцыйным інстытутам спрычынілася да даследавання Д.-З. праблем эканомікі, гаспадарчага развіцця Расіі. На нейкі час Д.-З. было забаронена чытаць лекцыі ў Кіеўскім ун-це. У 1918—1919 у сувязі з абвяшчэннем у Мінску Беларускай Народнай Рэспублікі ён прыняў дзейсны ўдзел у адбудове бел. дзяржаўнасці. Разам з прадстаўнікамі ўрада БНР удзельнічаў у перамовах з украінскім урадам аб удакладненні дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і УНР. Сумесна з І.*Цвікевічам* падрыхтаваў і накіраваў праз пасла РСФСР Х.Ракоўскага ў Кіеве ноту савецкаму ўраду аб прызнанні БНР яе ўсходніх граніц з

Расіяй. Як эканаміст спрычыніўся да стварэння ў Кіеве «Беларускай гандлёвай палаты». Супрацоўнічаў з бел. перыядычным друкам на Украіне («Белорусское слово», «Белорусское эхо») і на радзіме. Уздымаў актуальныя пытанні дзяржбудаўніцтва, асветы Беларусі. Уключаны ўрадам рэспублікі ў камісію па арганізацыі Беларускага ун-та, рыхтаваў праект яго, у газеце «Вольная Беларусь» выступаў з канкрэтнымі прапановамі аб яго структуры і эканамічных абгрунтаваннях. У 1919 у Гродне асобным выданнем на бел., англійскай, нямецкай і французскай мовах выдадзены нарыс Д.-З. «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». У Керчы ім быў арганізаваны філіял Севастопальскага ун-та. У Харкаве ў канцы 1920 Д.-З. быў арыштаваны мясцовым Саветам, але хутка вызвалены ў выніку заступніцтва вучоных і запрошаны ў Харкаўскі ун-т, Інстытут народнай гаспадаркі і кансультантам наркамата знешняга гандлю УССР. З 1922 да 1925 — прарэктар Азербайджанскага ун-та, прафесар політэхнічнага ін-та Баку, начальнік Упраўлення прамысловасці і гандлю Азербайджанскай ССР. Заснавальнік і дырэктар с.-г. і гандлёва-прамысловага музея Азербайджана. Распрацоўваў шэраг эканамічных праблем рэспублікі, у тым ліку ў кантэксце палітыкі НЭПа. З 1.10.1925 у Мінску прафесар кафедры гісторыі Беларусі педагагічнага ф-та БДУ, правадзейны член Інбелкульта, супрацоўнік Дзяржплана БССР. З вясны 1926 пазбаўлены права выкладаць у БДУ, хоць звальняць вядомага вучонага не рашаліся. Працу на бацькаўшчыне прадвырашыла ідэалагічная ацэнка рукапісу кнігі Д.-З. «Гісторыя Беларусі». У лют. 1926, рэцэнзуючы рукапіс яе, кіраўнік Гістпарта ЦК КП(б)Б В. Сербента не быў кампетэнтны ў пытаннях

бел. гісторыі і таму не мог быць аб'ектыўны. Д.-З., выдалены партнаменклатурай з Беларусі, у Маскве быў прыняты выкладчыкам у Сельскагаспадарчую акадэмію імя Ціміразева і ў Інстытут народнай гаспадаркі імя Г.В.Пляханава. Таварышы з марксісцкага таварыства гісторыкаў з Мінску «даставалі» вучонага і ў Маскве. Хаця гісторыкі Масквы і Ленінграда вылучылі кандыдатуру Д.-З. ў 1929 у акадэмікі АН СССР, абранне яго было заблакавана, а ён дачасна адпраўлены на пенсію. У апошнія гады жыцця Д.-З. працаваў у НДІ пушнінна-футравай гаспадаркі Наркамата знешняга гандлю СССР, вывучаў прамысловую кааперацыю і саматужныя промыслы.

Тв.: Белорусская свадьба и свадебные песни. Киев, 1888; Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891; Белорусское Полесье: Сб. этнограф. материалов. Вып. 1. Киев, 1895; Спорные вопросы в истории Литовско-Русского сейма. СПб., 1901; Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Исследования и статьи. Т. 1. Киев, 1909; История русского народного хозяйства. Т. 1. Киев, 1911; Народное хозяйство Белоруссии, 1861—1914 гг. Мн., 1926; Старыя беларускія архівы за межамі БССР // Працы 1-га з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Мн., 1926; Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

Літ.: *Пичета В.* Новейшая история Белоруссии в зарубежной историко-политической лнтературе // *Вести нар. комиссариата просвещения*. 1921. № 1; *Даўгяла З.І.* Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі М. В. Доўнар-Запольскага ў храналагічным парадку за 45 год (1883 — 1928) // *Зап. аддз. гуманіт. навук БАН*. Мн., 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; *Палонская-Васіленка Н.* Доўнар-Запольскі // *Запісы БІНіМ* (Нью-Ёрк). 1953. № 1 (3); *Бандарчык В.К.* Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; *Шумейко М.Т.* Неопубликованная монография М.В.Довнар-Запольского «История Белоруссии» как историографический источник // Наш радавод. Гродна, 1991; *Гануш А.Г., Кручок П.С.* Мітрафан Доўнар-Запольскі. Мн., 1995; *Михальченко С.Н. Довнар-Запольский:* историк и обществен-

ный деятель // *Вопросы истории*. 1993. № 6; *Бараноўскі Я. І.* Прадмова // Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994; Даследчык гісторыі трох народаў: М.В.Доўнар-Запольскі (Зб. навуковых артыкулаў і дакументаў). Гомель—Рэчыца. 2000; Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі. Бібліяграфічны паказальнік // Уклад. В. У. Скалабан і інш. Мн., 2001; *БП*, т. 2.

**ДРАГІЛЕЎ Уладзімір Рыгоравіч*** [1897, в. Морыўка (?) Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], вайсковец. З сям'і службоўца. Уступіў у ВКП(б). Служыў у Чырвонай арміі. Падчас арышту нам. начальніка штаба Сібірскай ВА. Арыштаваны 24.5.1937 на рабоце. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 22.2.1938 як «член антысавецкай ваеннай змовы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны пастановай Вярхоўнага суда СССР 7.7.1956. Асабовая справа Д. № 9828 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ДРОБЫШАЎ Андрэй Ціханавіч*** [1910, Гомельскі пав. Магілёўскай губ., цяпер Добрушскі р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум. Падчас арышту дырэктар базы «Сортсемовощ». Арыштаваны 27.3.1951 у Омску. Асуджаны Омскім абл. судом 12.6.1951 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. 9.11.1954 Вярхоўным судом РСФСР мера пакарання зніжана да 5 гадоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда РСФСР 7.5.1986.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**ДРОЗД Іван Міхайлавіч*** [1895, в. Перціма (?) Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва (?) — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дацэнт кафедры палітэканоміі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Быў жанаты. Арыштаваны 4.11.1935 у Горках. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.3.1936 за «антысавецкую агітацыю і шпіянаж» да 3 гадоў ссылкі ў Казахстан. У канцы 1930-х г. прыгавораны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Волжскі канцлагер Яраслаўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абл. суда 2.2.1957. Асабовая справа Д. № 2411-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ДРУСКОЎСКІ Адам Генрыхавіч*** [1892, Яраслаў Усходне-Галіцкага пав. Аўстра-Венгрыі, цяпер Польшча — ?], педагог. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык БДУ. Арыштаваны 28.6.1930 у Мінску па адрасе: вул. 2-я Шпітальная, д. 14, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.10.1930 за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 3.11.1989. Асабовая справа Д. № 29874-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУБАВЕЦ Мікіта Максімавіч*** [1894, в. Слабада Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Сенненскі р-н Віцебскай вобл. — 5.11.1937, Ленінград, НКВД], служ-

бовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту начальнік 11-й дыстанцыі пуці Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 15.8.1937 на станцыі Хвойная. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.10.1937 за «ўдзел у антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДУБІНА Пётр Сідаравіч*** [1890, ? — ?], рамеснік. З бел. сям'і. Падчас арышту майстар-саматужнік па рамонту музычных інструментаў. Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны «тройкай» УНКВД Калінінскай вобл. 25.8.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны 26.7.1989.

Кр.: *Не предать забвению.*

**ДУБІНЕЦ Іван Іванавіч*** [1904, пас. Бабінскае, цяпер Іглінскі р-н, Башкартастан; паводле іншых звестак пас. Велікскі Архангельскага р-на, Расія — 27.5.1938, Масква, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Да арышту студэнт рабочага ф-та Новасібірскага планавага інстытута. Арыштаваны ў 1930-я г. 20.3.1938 узяты пад варту і 20.5.1938 асуджаны «тройкай» НКВД за «злосную контррэвалюцыйную агітацыю сярод зняволеных» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 19.6.1989. Асабовая справа Д. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ДУБІНСКІ Віктар Аляксандравіч*** [1893, в. Наваельня Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. святара. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту адказны выканавец па забеспячэнню завода «Метліт». Арыштаваны 8.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Граноўскага, д. 1, кв. 16. Асуджаны «тройкай» НКВД 7.10.1937 за «антысавецкую агітацыю і абарону «ворага народа Тухачэўскага» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.6.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДУБОВІК Аляксандр Іпалітавіч*** [1900, Мінск — ?], службовец, верагодна, брат Паўла *Дубовіка*. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1918—19 радавы Чырвонай арміі, удзельнічаў у баях, пад Варшавай трапіў у палон. Падчас арышту загадчык вытворчасці гальванічнага цэха Мінскага велазавода. Арыштаваны 23.4.1949 у Мінску па адрасе: вул. Чкалава, д. 15, кв. 1. Асуджаны 1.6.1950 за «антысавецкую агітацыю» да 7 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Кізелаўскі канцлагер МДБ Молатаўскай (цяпер Пермскай) вобл., у 1952 у Валагодскую вобл. (ст. Шэксна). Вызвалены ў 1956. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР у снеж. 1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Д. № 7529-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУБОВІК Павел Іпалітавіч*** [чэрв. 1890, Мінск — ?], педагог, верагодна, брат Аляксандра *Дубовіка*. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту загадчык ваеннага кабінета рабочага ф-та Мінскага хіміка-тэхналагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 5.3.1933 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 7. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.4.1933 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 13.7.1989. Асабовая справа Д. № 23742-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУБОЎКА Язэп Мікалаевіч** [1910, в. Агароднікі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 28.2.1938, Масква, НКВД], вайсковец, малодшы брат *Уладзіміра Дубоўкі*. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту начальнік 3-га аддзялення Кіеўскага раённага ваенкамата Масквы. Арыштаваны 2.2.1938 у Маскве па адрасе: 2-гі Лугавы зав., д. 4, кв. 9. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.2.1938 за «ўдзел у польскай контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі ПАВ» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.10.1970. Асабовая справа Д. № 72402 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДУБРОЎСКАЯ Кацярына Міхайлаўна*** [1912, Мінск — ?], перакладчык. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас 2-й сусветнай вайны працавала ў 4-м аддзяленні мінскай паліцыі. Арыштавана 17.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Вакзальная, д. 33. Асуджана пазасудовым органам НКВД 16.3.1945 за «работу перакладчыцай у нямецкіх органах» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (Магадан, бух. Нагаева). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 25.5.1990. Асабовая справа Д. № 30977-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДУДЗІК Канстанцін Сямёнавіч*** [1889, в. Маразовічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 20.9.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік Ягоршынскай ГРЭС. Арыштаваны 9.8.1937 у пас. Ягрэс Ягоршынскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 11.9.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДУДКІН Канстанцін Мікалаевіч*** [1899, в. Затваранцы (?) Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі (?) р-н Гродзенскай вобл. — 20.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і.

У 1924 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзела тэхнічнага кантролю завода № 2 Ленабласаавіяхіма. Арыштаваны 10.9.1937 у Ленінградзе. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ДУКОР Ілья Шаломавіч** [ 1896, Ліда Віленскай губ., цяпер райцэнтр Гродзенскай вобл. — ?], журналіст. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да арышту рэдактар газ. «Красное Знамя» (г. Варашылаў-Усурыйскі). Арыштаваны 1.9.1942. Асуджаны 11.12.1942 асобай нарадай НКВД за «антысавецкую агітацыю» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці (заменена на 10 гадоў ППК). Вызвалены ў студз. 1952. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 3.6.1959 пленумам Вярхоўнага суда СССР. Асабовая справа Д. № П-8075 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Административно-территориальное деление союзных республик; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДУЧЫЦ Вікенцій Фёдаравіч*** [1907, мяст. Лахва Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл. — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Віцебскай навукова-даследчай ветэрынарнай станцыі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 21.9.1937. Асуджаны

«тройкай» НКВД 22.10.1937 як «польскі агент» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.9.1958. Асабовая справа Д. № 7751-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ДЫДЫРКА Уладзімір Кандратавіч** [1877, в. Дзехнаўка Чаркаскага пав. Кіеўскай губ., цяпер Украіна — 15.3.1938, Мінск, НКВД], матэматык, аўтар першай манаграфіі па матэматыцы, што была надрукавана вучоным БДУ. З шляхецкай сям'і. Скончыў Кіеўскі ун-т. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. З вер. 1922 выкладчык БДУ, з кастр. 1932 прафесар. У 1928 у час камандзіроўкі ў Гетынгенскі ун-т удзельнічаў у рабоце навуковага семінара пад кіраўніцтвам Д.Гільберта. Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148, кв. 19. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 21.1.1938 як «агент германскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.9.1965. Асабовая справа Д. № 19338-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДЫМАН Уладзімір Лаўрынавіч*** [1875, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — 21.10.1929, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту член праўлення патронна-трубачнага трэста СССР. Арыштаваны 14.5.1928 у Маскве. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 21.10.1929 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі і шпіянаж» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Вагань-

каўскіх могілках. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда СССР 16.1.1989.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище. 1926—1936.* М., 1995.

**ДЫНДЗІН Аляксей Васілевіч*** [1902, в. Цяпча Долінскага пав., Аўстра-Венгрыя, цяпер Украіна — 28.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1930-я г. нам. наркама саўгасаў БССР. Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 15.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камсамольская, д. 31/33, кв. 19. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.6.1938 як «член тэрарыстычнай дыверсійна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28.3.1961. Асабовая справа Д. № 17027-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ДЭМУХ Мікалай Канстанцінавіч** [1920, в. Квачы Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], удзельнік пасляваеннага ўзброенага антысавецкага падполля. У жн. 1944 — ліп. 1945 служыў у Савецкай арміі, удзельнічаў у баях, быў паранены. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся на радзіму, дзе ў яго на побытавай глебе пачаліся канфлікты з уладамі. У маі 1946 у Д. быў знойдзены самагонны апарат, за што яго арыштавалі і 7 дзён пратрымалі ў КПЗ Нясвіжскага раённага аддзела НКВД. Вызвалены рашэннем пракурора р-на. Пад пагрозай новага

арышту 17.10.1946 перайшоў на нелегальнае становішча, хаваўся ў склепе каля свайго дома, потым у лясах Нясвіжскага р-на. Рабіў спробы вярнуцца да легальнага жыцця, але пасля арышту жонкі, якую асудзілі да 6 месяцаў пазбаўлення волі, канчаткова застаўся ў лесе. У маі 1947 далучыўся да партызанскай групы Івана *Раманчука*. На працягу 1947—49 удзельнічаў у нападах на партыйна-савецкіх супрацоўнікаў, фінансавых агентаў і служачых унутраных сіл, у рэквізіцыях на поштах і ў крамах. У маі 1949 з групай акружаны на хутары ў Нясвіжскім р-не. Паранены ў баі, трапіў у палон. У ходзе следства яму інкрымінавалі ўдзел у падпольным «Саюзе барацьбы за вызваленне Беларусі». 17.11.1949 трыбуналам унутраных войск БВА асуджаны да 25 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. У ходзе перагляду справы 10.12.1955 абвінавачанне ва ўдзеле ў падпольнай арганізацыі было знята. На Беларусь вярнуўся ў 1970-х г. Не рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Валаханович И.А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**ЕВЕЛЁЎ** (**ЁВЕЛЕЎ**) **Барыс Майсеевіч*** [1894, мяст. Шчадрын Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Жлобінскі р-н Гомельскай вобл. — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела ў Інстытуце мікрабіялогіі БелАН. Арыштаваны 23.4.1931 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 22, кв. 8 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме наркамата аховы здароўя БССР». 29.1.1932 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР вызвалены. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа Е. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЕМЕЛЬЯНОВІЧ Іван Мікалаевіч** [1899, в. Рымашы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 16.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1931—36 член ВКП(б). Апошняе месца работы — касір арцелі «Инкоопчас» (?). Арыштаваны 30.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: 10-я Чырвонаармейская вул., д. 19, кв. 2. Асуджаны 10.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЕРАФЕЕЎ Георгій Фаміч*** [22.4.1903, в. Чорная Вірня Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Жлобінскі р-н Гомельскай вобл. — 28.6.1938, Мінск,

НКВД], дзяржаўны дзеяч, педагог, муж Ганны *Вронскай*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1928). Працаваў начальнікам упраўлення пачатковых школ Наркамата асветы. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У 1937 выключаны з партыі за «трацкісцкія праявы». Асуджаны 28.6.1938 пазасудовым органам НКВД як «удзельнік контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны ў наступную пасля прыгавору ноч. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 9.8.1957. Асабовая справа Е. № 10860-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЕРАХАВЕЦ Анатоль Пятровіч*** [1934, хут. Карпаў Востраў (?) Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. — ?], інвалід, не працаваў па стану здароўя. З сялянскай сям'і. Арыштаваны 7.5.1958 у в. Калюжкі Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. Асуджаны 12.6.1958 за «антысавецкую агітацыю» да 2 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дубраўны канцлагер МУС Мардоўскай АССР. Вызвалены ў лют. 1960. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 3.8.1993. Асабная справа Е. № 35601-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЕРМАКОЎ Іван Фядотавіч** [24.2.1892, в. Пруднікі Гарадоцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], дзяржаўны дзеяч, педагог, вайсковец. З сялянскай сям'і. У 1911 скончыў Полацкую на-

стаўніцкую семінарыю. Выкладаў у Пушчанскім народным вучылішчы (Гарадоцкі пав.). Удзельнік 1-й сусветнай (як радавы) і грамадзянскай (камісар стралковага палка) войнаў. У 1918 уступіў у ВКП(б). З пачатку 1920-х г. у розных партыйных і савецкіх установах. У 1925 жыў у Віцебску. З 1926 загадчык Мазырскага акруговага аддзела народнай асветы. Актыўна ўключыўся ў «беларусізацыю». З 1928 па прапанове наркама асветы А. *Баліцкага* прызначаны загадчыкам Мінскага акруговага аддзела народнай асветы. З восені 1930 па прапанове новага наркама асветы А. *Платуна* — рэктарам Гомельскага аграпедагагічнага інстытута. Са снеж. 1931 выконваў абавязкі рэктара (потым рэктар) БДУ. Верагодна, падчас «чыстак» быў выключаны з партыі, але потым адноўлены. З лют. 1935 сакратар Шклоўскага райкама ВКП(б). З чэрв. 1937 нам. старшыні Дзяржплана БССР. Арыштаваны 11.8.1938 за «ўдзел у нацыянал-фашысцкай арганізацыі і незаконнае захоўванне зброі» (потым высветлілася, што на нашэнне пісталета «браўнінг» Е. як сакратар райкама меў права). 15.11.1939 пасля разгляду справы ў ваеннай пракуратуры БССР, потым у трыбунале БВА, яна была вернута на даследаванне ў НКВД, а 30.12.1939 Е. быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Удзельнік 2-й сусветнай вайны (як і падчас грамадзянскай, быў камісарам). Пасля дэмабілізацыі рэктар Аршанскага настаўніцкага інстытута. У крас. 1953, амаль цалкам страціўшы зрок, выйшаў на пенсію. Асабовая справа Е. № 4330-с (спынена 11.1.1940) захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Яноўскі А., Зельскі А.* Гісторыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў біяграфіях яго рэктараў. Мн., 2001. С. 37— 46.

**ЕРМАЛАЕЎ Мікалай Аляксандравіч*** [1912, в. Помра Ніжнегародскай губ., цяпер Дальнеканстанцінаўскі р-н Ніжнегародскай вобл., Расія — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў старшым таваразнаўцам аддзела забеспячэння 2-га будаўнічага трэста. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 9.4.1957 у Мінску па адрасе: вул. Ульянаўская, д. 4, кв. 19. Асуджаны 19.6.1957 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 30.7.1990. Асабовая справа № 31540-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЕРМАЛОВІЧ Карл Антонавіч*** [1891, в. Уроні Віцебскай губ., цяпер Віцебская (?) вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — начальнік фінансавага аддзела Куйбышаўскага завода № 42. Арыштаваны 13.9.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 17.3.1940 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» і «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 25.10.1955.

Кр.: *Белая книга*.

**ЕЎДАКІМАЎ Васіль Георгіевіч*** [1905, в. Слюкава (?) Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — ?], наву-

ковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадваў Лепельскай ветэрынарнай бактэрыялагічнай лабараторыяй. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.7.1937 у Лепелі Віцебскай вобл. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 3.9.1939 за «антысавецкую агітацыю» да 4 гадоў папраўча-працоўных лагераў. 17.9.1939 пастановай калегіі Вярхоўнага суда БССР вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Е. № 6067-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЕЎТУХ Франц Людвігавіч** [1898, ? — 27.11.1937, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — інспектар Смаленскага абл. савета. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 20.8.1937. Асуджаны 17.11.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**ЕЎТУШЭНКА Ермалай Навумавіч*** [1883, в. Хамічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Калінкавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 25.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, дзед паэта Яўгена Еўтушэнкі. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту інспектар Артылерыйскага ўпраўлення Чырвонай арміі, брыгадны інтэндант. Арыштаваны 17.2.1938 у Маскве па адрасе: Садовая-Кудрынская вул, д. 26/40, кв. 3. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.8.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арга-

нізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.3.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Москва 1937—1941: «Коммунарка», Бутово*. М., 2000.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЁРШ Аляксандра Георгіеўна*** [1901, Лібава, цяпер Ліепая, Латвія — 16.5.1938, Масква, НКВД], хімік. З сям'і бел. рабочага. Уступіла ў ВКП (б) (1919). Атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала хімікам на Маскоўскім маргарынавым заводзе. Арыштавана 27.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Баўмана, д. 36/8, кв. 31. Асуджана камісіяй НКВД СССР 30.4.1938 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляна на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.11.1957. Асабовая справа Ё. №П-49589 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЖАБІНСКІ Сцяпан Антонавіч*** [1894, в. Рудаўка Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], рэдактар, грамадскі дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. У 1914—17 у дзеючай рускай арміі. У 1920 старшыня Свіслацкага валаснога рэўкама. З 1923 член ВКП(б). Удзельнік партызанскага руху ў Зах. Беларусі. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. На працэсе «сарака пяці» асуджаны да 4 гадоў зняволення. З 1927 у БССР. Падчас арышту працаваў у ЦВК БССР і, верагодна, адначасова загадчыкам аднаго з аддзелаў газ. «Звязда». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1933 у Мінску па адрасе: вул. Маскоўская, д. 8, кв. 51. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалены 11.6.1936. У пасляваенны час жыў у Віцебску. Напісаў успаміны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа Ж. № 10182-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Начало пути // *Годы испытаний и мужества.* Мн., 1973.

**ЖАВАРАНКАЎ Фадзей Іванавіч*** [1896, в. Чагокі, ? — ?], медык. З бел. сялянскай сям'і. Апошняе месца работы — зубны тэхнік Курганскай паліклінікі. Арыштаваны 9.3.1933 за «антысавецкую агітацыю». 18.4.1933 справа была спынена. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области.*

**ЖАДЭЙКА Мікалай Іосіфавіч*** [1906, цяпер тэрыторыя Латвіі — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камандзір Уфімскага авіяцыйнага атрада № 209. Арыштаваны 8.12.1937. Асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 29.6.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ЖАРАНІН Уладзімір Фларыянавіч*** [1882, в. Вусце Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 10.12.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту інжынер па транспарту наркамата цяжкай прамысловасці. Арыштаваны 9.8.1937 у Хабараўску. 21.11.1937 асуджаны «тройкай» НКВД да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**ЖАРЫН Парфірый Федасеевіч*** [1892, в. Логавіна Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — 28.5.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік участка № 10 супрацьпаветранай абароны Краснапрэсненскага раёна Масквы. Арыштаваны 27.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Красная Прэсня, д. 30, кв. 16. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 17.5.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Германіі» да ВМП. Расстраляны на палігоне

НКВД «Аб’ект Бутава». Рэабілітаваны 27.4.1959. Асабовая справа Ж. № 61076 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖВАНСКІ Вікенцій Антонавіч*** [1895, маёнтак Ворань (?) Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — ?], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў навуковым супрацоўнікам у аддзеле кармлення Навукова-даследчага інстытута свінаводства. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 2.1.1933 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 60, кв. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член антысавецкай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» на 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа Ж. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖДАНКО Мікалай Міхайлавіч*** [1911, Мінск — 21.12.1937, Омск, НКВД], службовец. З бел. сям’і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Апошняе месца работы — планавік-эканаміст аддзялення ашчаднага банка. Арыштаваны 23.8.1937 у в. Горкаўская Омскай вобл. Асуджаны асобай камісіяй пры НКВД СССР 10.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Омскай абл. пракуратурай 24.5.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**ЖДАНОВІЧ Мікалай Аляксандравіч*** [1910, мяст. Юравічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Калінкавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 16.11.1937, Свярдлоўск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт 2 курса Свярдлоўскага горнага інстытута. Арыштаваны 14.10.1937. Асуджаны 10.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖОГ Кірыл Акімавіч*** [1915, мяст. Лоеў Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Гомельскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт рабочага ф-та Томскага мукамольна-элеватарнага інстытута, член ВЛКСМ. Арыштаваны 31.10.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.12.1937 як «член белагвардзейска-манархічнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 7 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 13.4.1956.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ЖОГАЎ Аляксандр Малахавіч*** [10.4.1890, в. Гараны Магілёўскага пав., цяпер Магілёўскі — 21.12.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. У 1930-я г. нам. наркама ўнутранага гандлю. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 4.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Камунальная, 3-і Дом Саветаў, кв. 31. Асуджаны пазасудовым органам

НКВД 20.12.1937 як «член антысавецкай тэрарыстычна-шкодніцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР 15.2.1958. Асабовая справа Ж. № 11524-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖОРАЎ Ісак Саламонавіч** [11.5.1898, Магілёў — 1976], вучоны, адзін з заснавальнікаў савецкай анестэзіялогіі. Доктар медыцынскіх навук (1937), прафесар (1938). Скончыў Маскоўскі ун-т (1921) і працаваў у ім да 1929. З 1929 рэктар Кубанскага медыцынскага інстытута. У 1937—41 і 1945—73 загадчык кафедры ў 1-м Маскоўскім медыцынскім інстытуце. У 1941—45 на фронце, у партызанах, ва ўпраўленні франтавога эвакуацыйнага пункта 1-га Беларускага фонту. У пачатку 1950-х г. арыштаваны органамі МДБ, вызвалены ў 1953.

Літ.: *БелЭН,* т. 3.

**ЖОРАЎ Мікалай Пятровіч*** [1902, Мінск — 4.10.1938, Томск, НКВД], вайсковец. Меў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту начальнік хімічнай службы стралковай дывізіі. Арыштаваны 18.8.1937 у Томску. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.7.1938 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 1.8.1957.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**ЖУК Варвара Рыгораўна*** [1919, ? — 2.1.1938, Магадан, НКВД], навучэнка. Арыштавана ў 1935 у Гомелі. Этапавана на Далёкі Усход. 25.12.1937 асуджана «тройкай» НКВД Далёкаўсходняга краю за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана 16.8.1965.

Кр.: *За нами придут корабли: Список реабилитированных лиц, смертные приговоры в отношении которых приведены в исполнение на территории Магаданской области.* Магадан, 1999.

**ЖУК Вера Пятроўна*** [1925, в. Быстрыца Кобрынскага пав. Брэсцкага ваяв., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], педагог, сястра Еўдакіі *Жук*. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала выхавацелькай у Кобрынскай школе слыху і мовы Брэсцкай вобл. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 21.3.1951 у Кобрыне па адрасе: вул. Цевельская, д. 24. Асуджана 28.4.1951 пазасудовым органам НКВД за «сувязь з бандай АУН» да 25 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў (заменены на 7 гадоў зняволення і 3 гады пазбаўлення правоў) з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР Вызвалена 20.7.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 10.6.1992. Асабовая справа Ж. № 10895-С з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУК Еўдакія Пятроўна*** [1917, в. Быстрыца Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], краўчыха, сястра *Веры Жук*. Пра-

цавала ў Кобрынскай арцелі «Сацыялістычная праца». Арыштавана 21.3.1951 у Кобрыне па адрасе: вул. Цевельская, д. 24. Асуджана 28.4.1951 за «неданясенне ўладам і сувязь з бандай АУН» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў (заменена на 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гады пазбаўлення правоў). Этапавана ў Агульны (?) канцлагер МДБ СССР. Вызвалена 30.6.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 10.6.1992. Асабовая справа Ж. № 10895-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУК Уладзімір Антонавіч*** [1902, в. Сямёнавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 8.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы выкладчык Ваенна-транспартнай акадэміі Чырвонай арміі. Арыштаваны 14.11.1937 у Маскве па адрасе: вул. Земляны вал, д. 27, кв. 55. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.1.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.8.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЖУК Фёдар Максімавіч** [1888, Бабруйск Мінскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. Падчас арышту галоўны інжынер

Ленінградскага цэнтральнага тэлеграфа. Арыштаваны 7.9.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 як «удзельнік контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЖУК Якаў Дзям'янавіч*** [1893, в. Калодна (Калоднае) Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкай вобл. — 14.4.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту загадчык планавага аддзела Надзеждзінскага металургічнага завода. Арыштаваны 16.12.1937 у Ніжнім Тагіле Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 14.1.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУКАВЕЦ Іван Кірылавіч*** [1919, в. Слабодка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — ?], вайсковец (?). З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Ажаніўся, гадаваў дзіця. З чэрв. да вер. 1941 ваяваў у складзе Чырвонай арміі. Арыштаваны 25.6.1944. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 21.7.1945 як «нямецкі агент» да 5 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 27.9.1994. Асабовая справа Ж. № 35978-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЖУКАЎ Васіль Нічыпаравіч*** [1895, в. Панашэвічы Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл. — ?], выдавец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. дырэктар кніжнага сектара (аддзела) Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 28.7.1936 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў з канфіскацыяй маёмасці і 3 гадоў пазбаўлення правоў. 22.7.1950 пастановай асобай нарады МДБ Львоўскай вобл. высланы ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда СССР 24.1.1962. Асабовая справа Ж. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУКОВІЧ Канстанцін Паўлавіч** [1900, Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 29.12.1937, Свярдлоўская вобл., НКВД], службовец, верагодна, брат Уладзіміра *Жуковіча*. Падчас арышту адказны выканавец «Саюзазбесту». Арыштаваны 3.10.1937 у Азбесце Свярдлоўскай вобл. Асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУКОВІЧ Уладзімір Паўлавіч*** [1903, Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 11.4.1938,

Масква, НКВД], эканаміст, верагодна, брат Канстанціна *Жуковіча*. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў эканамістам у шахце № 52 Метрабуда. Арыштаваны 13.2.1938 у Маскве па адрасе: зав. Крывы, інтэрнат Метрабуда, д. 16. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 23.3.1938 за «перадачу шпіёнскіх матэрыялаў японскай разведцы» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.10.1957. Асабовая справа Ж. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**ЖУРАЎЛЁЎ Іван Герасімавіч*** [15.1.1898, в. Непацягава, цяпер Гаўрыла-Пасадскі (?) р-н Іванаўскай вобл., Расія — 22.8.1938, Масква, НКВД], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. нам. старшыні СНК БССР; дэлегат XVII з'езда ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 13.11.1937 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 22.8.1938 як «член антысавецкай трацкісцкай арганізацыі» і за «падрыўную шкодніцкую работу» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Адначасова выключаны з партыі. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.11.1956. Асабовая справа Ж. № 8168-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**ЖУРАЎСКІ Сцяпан Казіміравіч*** [2.9.1885, в. Туркі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі

р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у МВПІ. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1936 у Мінску па адрасе: вул. Фрунзенская, д. 19, кв. 5. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 16.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай, антысавецкай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.2.1958. Асабовая справа Ж. № 11503-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖУРЫК Аляксандр Канстанцінавіч*** [1898, в. Блашчытнік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 4.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту слухач Усесаюзнай прамысловай акадэміі імя І.Сталіна. Арыштаваны 15.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Горкага, д. 90, кв. 5. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.1.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 20.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ЖУЧКОЎ Пётр Мікітавіч*** [1913, в. Ільінка Омскай губ., цяпер Коласаўскі р-н Омскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса «Чырвоны месяц». Арыштаваны 13.9.1937 у

в. Ільінка Коласаўскага р-на Омскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.9.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 27.4.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**ЖЫБУРТОВІЧ Уладзімір Віталевіч** [1894, Магілёў — 28.11.1937, Казань, НКВД], інжынер. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер-радыст Радыёкамітэта пры СНК Татарскай АССР. Арыштаваны 28.8.1937 у Казані. Асуджаны «тройкай» НКВД Татарскай АССР 23.11.1937 за «зрыў трансляцыі даклада Сталіна пра новую Канстытуцыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.1.1957.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Республика Татарстан*.

**ЖЫЛІНСКІ Іван Сцяпанавіч*** [1897, мяст. Койданава Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], педагог, навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да 2-й сусветнай вайны дацэнт кафедры фізічнай геаграфіі БДУ. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул.

Старажоўская, д. 37, кв. 7. Асуджаны 28.7.1945 асобай нарадай пры НКВД СССР за «дапамогу нямецкім акупантам» на 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 28.12.1989. Асабовая справа Ж. № 29051-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖЫЛКА Васіль Іванавіч* [**1900, ст. Лунінец Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл. — 11.4.1938, Масква, НКВД], службовец. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. У 1930-я г. канструктар Маскоўскага завода № 51. Арыштаваны 17.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Вароўскага, д. 22, кв. 18. Асуджаны 27.3.1938 камісіяй НКВД СССР як «актыўны ўдзельнік контррэвалюцыйнай шпіёнскай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.8.1956.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЖЫЛКА Лідзія Андрэеўна*** [1906, Сувалкі, цяпер Польшча — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], бібліятэкар. З бел. сям’і. Падчас арышту бібліятэкар завода «Электраапарат». Арыштавана 21.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Васільеўскі востраў, 21-я лінія, д. 16, кв. 117. Асуджана камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.12.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляна.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ЖЫНЬКО Якаў Іванавіч*** [1896, Мінская губ., цяпер Мінская (?) вобл. — 22.8.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту палкоўнік, нам. армейскага інспектара БВА. Арыштаваны 14.5.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Паштовая, д. 18/20, кв. 8. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.8.1937 за «ўдзел у антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 11.8.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ЖЫРКОВІЧ Міхаіл Уладзіміравіч*** [1905, Краснастаў, цяпер Польшча — ?], музыкант. З сям'і службоўца. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў у Беларускім драматычным тэатры. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 24.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Цнянская, д. 34, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.4.1946 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Паўночна-Енісейскім р-не Краснаярскага краю. Вызвалены 24.8.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 4.4.1990. Асабовая справа Ж. № 30738-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖЫРНЫ Уладзімір Цімафеевіч*** [1909, ст. Равенкі, цяпер Данецкая (?) вобл. — ?], артыст. З сям'і

рабочага. Спяваў у хоры Беларускага тэатра оперы і балета. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 28.5.1948 у Мінску па адрасе: вул. Мопра, д. 83а, кв. 3. Асуджаны 26.8.1948 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гады пазбаўлення правоў. Вызвалены ў 1955. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 20.9.1962. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа Ж. № 17887-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЖЫТНІЦКІ Марк Саламонавіч** [11.2.1903, Магілёў — 7.4.1993, Ізраіль], мастак. З сям'і рабочага, які ў 1915 загінуў на фронце. Падчас грамадзянскай вайны Ж. служыў у Чырвонай арміі. У 1925 паступіў на рабфак мастацтваў. Працягваў вучыцца ў Маскоўскім мастацкім інстытуце (ВХУТЕИН) на ф-це графікі. Пасля заканчэння (1932) прыехаў у Мінск. У 1933 прызначаны рэдактарам Белдзяржвыдавецтва. Займаўся мастацкім афармленнем кніг, у тым ліку І.*Харыка* і М.*Кульбака*. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 15.9.1936 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер Комі АССР. Працаваў на лесапавале, нафтараспрацоўках, гіпсавых кар'ерах. Некаторы час быў лагерным мастаком. Стварыў ў лагеры работы, прысвечаных яўрэям — ахвярам фашызму. Карціна «Жыццё не скончана» захоўваецца ў музеі «Яд-Вашэм», «Кат» — у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Вызвалены 13.9.1946. Усе яго родныя загінулі ў часы

акупацыі, апроч дачкі Ларысы, якая трапіла ў сям'ю П.Глебкі. Зноў арыштаваны ў 1949 і сасланы на бестэрміновае пасяленне ў Ігарку. За мужам у ссылку паехала жонка Бася з малым сынам. Вызвалены і рэабілітаваны пасля смерці Сталіна. У 1956 з сям'ёй вярнуўся ў Мінск. Стварыў серыі графічных работ «Варшаўскае гета», «Мінскае гета», «Атрад Зорына», пра Хатынь, а таксама пра ахвяры сталінскага тэрору — Бабеля, Зускіна, Міхоэлса. З 1971 у Ізраілі, дзе яго творчасць высока ацэнена спецыялістамі і грамадскасцю. Напісаў літаратурныя ўспаміны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 14.9.1956. Асабовая справа Ж. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Житницкая Бася*. Жизнь, прожитая с надеждой. Рамат-Ган (Ізраіль), 1997; Да 100-годдзя з дня нараджэння мастака Марка Жытніцкага (1903—1993) // *Мы яшчэ тут!* 2003, май.

**ЖЫХАРАЎ Андрэй Міронавіч*** [1883, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 13.3.1937, Омск, НКВД], навуковец. З бел. сям'і. Працаваў навуковым супрацоўнікам. Арыштаваны 6.2.1937 у Омску. Асуджаны «тройкай» УНКВД Омскай вобл. 10.3.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны прэзідыумам Омскага абл. суда 12.4.1968.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**ЖЫХАРАЎ Іван Лявонцевіч*** [1903, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 16.10.1938, Башкір-

ская АССР (?), НКВД], служачы. З бел. сям’і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік забеспячэння трэста «Саюзмука». Арыштаваны 20.4.1938. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР за «антысавецкую агітацыю» як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.6.1958.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий республики Башкортостан.*

**ЗАБАЎСКІ Сяргей Мікалаевіч*** [1907, мяст. Ярэмічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 24.11.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Ленінградскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Герцэна. Арыштаваны 26.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Жалябава, д. 27, пакой 131 (інтэрнат). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 19.11.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАБЕЛА Карней Іванавіч*** [1890, ? — 21.1.1938, Магадан, НКВД], верагодна, брат *Тодара Забелы*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштаваны ў 1935 у Ленінградскай вобл. 5.1.1938 асуджаны «тройкай» НКВД за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 20.3.1967.

Кр.: *За нами придут корабли: Список реабилитированных лиц, смертные приговоры в отношении которых приведены в исполнение на территории Магаданской области*. Магадан, 1999.

**ЗАБІРАЦКІ Андрэй Сямёнавіч*** [1898, в. Галынка Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Працаваў у Бабруйскім гарадскім тэатры. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны за «здраду радзіме» 5.11.1944. Вызвале-

ны і рэабілітаваны следчым аддделам УКДБ Бабруйскай вобл. 29.4.1945. Асабовая справа З. захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАБЛОЦКАЯ *Лідзія Алімпіеўна**** [1929, цяпер Дзяржынск Мінскай вобл. — ?], краўчыха. З бел. сялянскай сям'і. Працавала на фабрыцы імя Крупскай. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 3.1.1949 у Мінску па адрасе: вул. Стандартная, д. 14, кв. 25. Асуджана пазасудовым органам 3.2.1949 як «член антысавецкай арганізацыі СБМ» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15.5.1962. Асабовая справа З. № 17684-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАБЛОЦКІ Аляксандр Аляксандравіч* (КОСАЎ Рычард Восіпавіч)** [1881, Полацк — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. У час 1-й сусветнай вайны афіцэр царскай арміі. 13.4.1932 асуджаны «тройкай» АДПУ Маскоўскай вобл. як «сацыяльна небяспечны элемент» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. 4.4.1933 тэрмін пакарання быў павялічаны да 10 гадоў. 25.11.1937 асобай «тройкай» НКВД асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинрадский мартиролог.*

**ЗАВАДСКІ Мечыславў Уладзіслававіч*** [1900, Жытомір, цяпер Украіна — ?], дзяржаўны дзеяч. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны бургамістр Кайкаўскай воласці. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 20.8.1944 на ст. Міханавічы. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 24.11.1945 за «здрадніцкія паводзіны ў перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі» да 4 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.11.1955. Асабовая справа З. № 6305-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАГАРЭЛЬСКІ Савелій Дзям'янавіч*** [1.9.1908, в. Загарэльскія Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], эканаміст. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту працаваў у Інстытуце эканомікі БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 20.10.1936 у Мінску па адрасе: 6-я лінія, Аспіранцкі зав. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 31.12.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 2 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 4.4.1990. Асабовая справа З. № 31270-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАКРЖЭЎСКІ Станіслаў Казіміравіч*** [1912, Лепель, цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — ?], электратэхнік. З сям'і польскага рабочага. Атрымаў вышэйшую

адукацыю. Працаваў на «Главсортзаготзерно». Арыштаваны 24.2.1949 у Лепелі. Абвінавачваўся ў тым, што ў 1930-я г. «з'яўляўся агентам польскіх спецорганаў». 27.4.1949 крымінальная справа З. была спынена, а ён рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы.

**ЗАЛЕСКІ Аляксандр Ксаверавіч** (**Савельевіч**) [1891, в. Баяры Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 24.11.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У 1912 уступіў у РСДРП. З 1913 у царскай арміі. У час Кастрычніцкага перавароту 1917 удзельнічаў ва ўзброеным паўстанні ў Харкаве, быў старшынёй надзвычайнай камісіі. З крас. 1918 у Беларусі. Адзін з арганізатараў партызанскіх атрадаў, падпольнай бальшавіцкай арганізацыі ў Навагрудскім пав., старшыня Сноўскага рэўкама. У пасляваенны час у Чырвонай арміі. З 1924 у наркамаце земляробства, з 1936 нам. наркама. 21.5.1937 выключаны з ВКП(б) за «ўсхваленне ідэй трацкізму» і «шкодніцкую дзейнасць у сельскай гаспадарцы». Арыштаваны 18.8.1937 у Мінску па адрасе: Праезны зав., д. 10, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як «актыўны ўдзельнік антысавецкай паўстанцкай тэрарыстычна-дыверсійнай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.7.1957. Асабовая справа З. № 10774-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Тв.: Замір'еўская партыйная арганізацыя ў барацьбе з нямецкімі і белапольскімі акупантамі. Мн., 1935.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЗАЛЕСКІ Віктар Дзмітрыевіч*** [1894, Магілёў — 25.8.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, педагог. З сям'і бел. служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту камбрыг, выкладчык тактыкі Ваеннай акадэміі Чырвонай арміі імя Фрунзе. Арыштаваны 9.1.1938 у Маскве па адрасе: вул. Валачаеўская, д. 1/2, кв. 56. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.8.1938 за «ўдзел у ваеннафашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.8.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка»*.

**ЗАЛЕСКІ Канстанцін Пятровіч*** [1902, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], медык. З бел. сям'і. Падчас арышту ветэрынарны ўрач абл. ветэрынарнай лабараторыі. Арыштаваны 3.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**ЗАЛЕЎСКІ Караль Мікалаевіч** [25.4.1907 в. Мінкі Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], музыкант. З бел. сялянскай

сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту музыкант Слонімскага Дома культуры. Арыштаваны 15.12.1939. Асуджаны 2.7.1940 асобай нарадай НКВД за «нелегальны пераход дзяржаўнай мяжы» да 3 года ППК. Этапаваны ў адзін з канцлагераў НКВД Комі АССР. Вызвалены 10.11.1941, верагодна, па амністыі для польскіх грамадзян. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 10.9.1992 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа З. № П-14703 захоўваецца з фотаздымкам ў архіве УКГБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАНТОВІЧ Аляксандр Іванавіч** [1885, в. Беразавец Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. Жыў на ст. Маоэршань (Маньчжурыя, Кітай). Працаваў ва Упраўленні чыгуначнай паліцыі. Арыштаваны 16.9.1946. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.12.1946 да 7 гадоў пазбаўлення волі. Прычыны арышту, прысуду і далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАПОЛЬСКІ Уладзімір Вікенцевіч*** [1904, в. Альшаны Мінскага пав., цяпер Мінскі (?) р-н — 9.11.1937, Мінск, НКВД], музыкант. З сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў у кінатэатры «Чырвоная зорка». Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску. Асуд-

жаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 5.11.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 28.4.1989. Асабовая справа З. № 30158-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАРАМБОЎСКІ Канстанцін Піліпавіч*** [1902, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыль Мінскай вобл. — ?], літаратар. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Працаваў у час. «Полымя рэвалюцыі». Арыштаваны 30.8.1936 у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 7 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны, хутчэй за ўсё, ва Ухта-Пячорскі, потым ва Ухта-Іжэмскі альбо ў Паўночна-чыгуначны канцлагеры НКВД Комі АССР. Вызвалены 7.8.1954. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 12.9.1956. Асабовая справа З. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗАРАЧАНСКІ Дзмітрый Канстанцінавіч*** [1890, в. Слабада Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 3.10.1937, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы аграном Калпашэўскай участковай камендатуры. Арыштаваны 7.9.1937 у Калпашова Томскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР

22.9.1937 як член «Партыі святых» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 5.8.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗАРУЦКІ Канстанцін Міхайлавіч*** [1902, в. Горлаўка Смаленскай губ., цяпер Расія — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. навуковы супрацоўнік Магілёўскага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 9.4.1933 у Магілёве па адрасе: вул. Язерская (?) д. 22. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі» да 5 гадоў папраўчапрацоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа З. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗАРЭЦКІ Валяр'ян Людвігавіч*** [1898, в. Рудаўка Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту начальнік аддзела тэхнічнага кантролю Охцінскага хімічнага камбіната. Арыштаваны 14.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Лермантаўскі зав., д. 14, кв. 6. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ЗАСІМОВІЧ Кацярына Барысаўна*** [1887, Магілёў — 6.10.1938, Селіфонтава, Яраслаўская вобл., НКВД], урач. З бел. сям'і. Працавала ў дзіцячым саду № 1 Кастрамы. Арыштавана 8.3.1938. Асуджана да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана 15.8.1962.

Кр.: *Не предать забвению.*

**ЗАХАРАЎ Віктар Васілевіч*** [1888, мяст. Лепель Віцебскай губ., цяпер райцэнтр Віцебскай вобл. — 29.12.1937, Віцебск, НКВД], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Віцебскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 19.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 19.5.1958. Асабовая справа З. № 4105-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЗАХАРЧАНКА Міхаіл Кандратавіч*** [1901, в. Пушкары Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н; паводле іншых звестак Пушкі Лёзненскага р-на Віцебскай вобл. — ?], навуковец, верагодна, брат Паўла *Захарчанкі*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела па вывучэнню хвароб буйной рагатай жывёлы Віцебскага навукова-даследчага ветэрынарнага інстытута. Арыштаваны 2.1.1933 у Віцебску па адрасе: Юр'ева Горка, д. 19. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.7.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай арганізацыі ў сістэме жывёлагадоўлі» да 10

гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Дзмітраўскі канцлагер АДПУ Маскоўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа З. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗАХАРЧАНКА Павел Кандратавіч*** [1888, в. Пушкары (?) Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н; паводле іншых звестак Пушкі Лёзненскага р-на Віцебскай вобл. — ?], службовец, верагодна, брат Міхаіла *Захарчанкі*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту бухгалтар Ваеннага ведамства (?). Арыштаваны 10.12.1932 у Віцебску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 15. Асуджаны 15.4.1933 як «кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.6.1956. Асабовая справа З. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЗАХАРЭВІЧ Віктар Рыгоравіч*** [1899, ст. Валілы Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 8.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З сям'і бел. службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік сельскагаспадарчай інспекцыі Маскоўскага абл. выканаўчага камітэта. Арыштаваны 17.7.1937 у Маскве па адрасе: вул. Наваслабодская, д. 67/69, кв. 38. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.2.1938 за «кон-

тррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 29.9.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**ЗАХАРЫК Сцяпан Фаміч*** [1904, в. Русакі Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса «1 Мая», член ВКП(б). Арыштаваны 13.5.1931 у в. Пышкіна-Троіцкае Томскай вобл. Асуджаны 27.6.1931 як «член контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай анархісцкай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 17.1.1968.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗВЕРАЎ Дзмітрый Пятровіч*** [1901, Масква — ?], педагог. З сям'і службоўца. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Выкладаў новую гісторыю ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Быў членам ВКП(б). Арыштаваны 23.6.1941 у Магілёве. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.2.1942 за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абл. суда 25.5.1957. Асабовая справа З. № 2669-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ЗВЯРЫНСКІ Вацлаў Міхайлавіч*** [1908, в. Рудня Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?],

музыкант. З сялянскай сям'і. Працаваў у аркестры Івянецкага «Корпуса аховы пагранічча». Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 18.10.1939 у мяст. Івянец (цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл.). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 29.11.1940 як «агент польскіх разведорганаў» да 8 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны ў Каргапольскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалены 31.8.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 6.6.1989. Асабовая справа З. № 26190-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗЕЛЬДЗІН Барыс Абрамавіч*** [1903, ? — 21.9.1937, Масква, НКВД], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык аддзела Навукова-даследчага хімічнага інстытута Чырвонай арміі. Арыштаваны 22.5.1937 у Маскве па адрасе: Багародскі (?) вал, д. 3, кв. 41. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.9.1937 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.7.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**ЗІМІЧ Святаслаў Марыманавіч*** [1910, в. Лабачоўка Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт. Арыштаваны 1.11.1937 у Куйбышаве. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 10.1.1938 за «шпіянаж»

да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам Прыволжскай ВА 24.4.1956.

Кр.: *Белая книга.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗІМНІЦКІ Аляксандр Вікенцевіч** [1883, хут. Несцяроўка Віленскай губ. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Да арышту ўпраўляючы маёнткам Янушава (Дзісенскі пав.) памешчыцы Паўлючовай. Арыштаваны 24.9.1939. Асуджаны 25.1.1941 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 25.4.1994 пракуратурай Гродзенскай вобл. Асабовая справа З. № П-20840 захоўваецца з фотаздымкам у архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**ЗІНГЕР Альфрэд Карлавіч*** [сак. 1900, Лодзь, цяпер Польшча — 10.1.1938, Мінск, НКВД], выдавецкі работнік. З сям'і службоўца. Да арышту працаваў карэктарам у мінскай друкарні імя Сталіна. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Апанскага, д. 36, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 3.1.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа З. № 23381-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗЛОТНІКАЎ Пётр Рыгоравіч*** [25.6.1867, Гомель — 25.9.1938, Мінск, НКВД], акцёр. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1930-х г. акцёр Беларускага дзяржаўнага тэатра. Арыштаваны 3.3.1938 у Мінску па адрасе: Друкарскі зав., д. 26. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.9.1938 як «агент польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 11.6.1957. Асабовая справа З. № 10383-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗМАЧЫНСКІ Эміль Вікенцевіч** [2(14).3.1889, в. Падзерная Мінскай губ., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 1945, ГУЛАГ], вучоны-хімік. З сялянскай сям'і. У 1913 скончыў хімічнае аддзяленне фізіка-матэматычнага ф-та Юр'еўскага (Тартускага) ун-та, у 1915 Вышэйшыя педагагічныя курсы (аддзяленне фізікі, матэматыкі і касмаграфіі), абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працаваў у Ваенна-прамысловым комплексе ў Маскве, потым у Саратаўскім сельскагаспадарчым інстытуце. З 1925 прафесар і загадчык кафедры Пермскага дзяржаўнага ун-та. У 1928—37 загадчык кафедры неарганічнай хіміі БДУ, першы дэкан хімічнага ф-та (з 1931). Арыштаваны органамі НКВД у 1938. Абвінавачаны ў «шпіёнска-дыверсійнай дзейнасці». Асуджаны на 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Загінуў у зняволенні.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Journal of Chemical education. 1937. Vol. XIV. P. 232.

Літ.: *Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта*. Скл. *Яноўскі А. А.* Мн., 2001. С. 105.

**ЗОРАЎ Міхаіл Абрамавіч** [сапр. Штоклянд; 1903 — 28.7.1942, Мінск, гета], акцёр і рэжысёр. Сцэнічную дзейнасць пачаў у расійскіх тэатрах. З 1926 акцёр, потым рэжысёр БДТ-1 (тэатр імя Я.Купалы). У 1938 атрымаў званне заслужанага артыста БССР. Крытыка адзначала тонкі псіхалагізм З., яго вобразам уласцівы інтэлектуальна-лагічны пачатак у спалучэнні з лірычнасцю і эмацыянальнасцю. Найбольш вядомыя ролі: Войшалак («Вір» Я.Рамановіча), Камісар («Мяцеж» паводле Дз.Фурманава), Евель Цывін («Бацькаўшчына» К.Чорнага), Платон Крэчат (аднайм. п'еса А.Карнейчука). Як рэжысёр здзейсніў пастаноўкі: «Лён» Е.Міровіча (1931, разам з аўтарам), «Працяг будзе» А.Бруштэйна (1934), «Музыканцкая каманда» Д.Дэля (1936), «Платон Крэчат» (1936), «Апошнія» М.Горкага (1937), «Кацярына Жарнасек» М.Клімковіча (1938). У 1941 мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра юнага гледача. Пачатак вайны застаў З. ў Мінску. Змешчаны акупацыйнай адміністрацыяй у Мінскае гета, дзе і загінуў.

Літ.: *Стэльмах У.* Міхал Зораў // *Слова пра майстроў сцэны.* Мн., 1967; *ЭЛіМБел*, т. 2; *БЭ*, т. 7.

**ЗУБРЫЦКІ Павел Міхайлавіч*** [?, Магілёўская вобл. — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў выкладчыкам у БДУ. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 31.12.1944 у Мінску. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 15.12.1945 як «актыўны нямецкі памагаты ў час нямецкай акупацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер НКВД Свярдлоўскай вобл. (Ірбіт). Вызвале-

ны 31.12.1949. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30.5.1960. Асабовая справа З. № 16421-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗУЕВІЧ Андрэй Цімафеевіч*** [1907, в. Сіманічы Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Лельчыцкі р-н Гомельскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Томскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 2.11.1937. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 15.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 7.1.1940.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗУЕЎ Ілья Еўдакімавіч*** [1917, в. Кісялі Гарадоцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Гарадоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], ?. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 13.1.1944 (?). Месца арышту невядома. Асуджаны 15.4.1944 (?) як «нямецкі агент» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Мінеральны канцлагер НКВД Комі АССР (Інта). Вызвалены 12.1.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 7.10.1966. Асабовая справа З. № 13369-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ЗЫБАЙЛА Рыгор Барысавіч** [15.9.1913, Слонімскі пав. Гродзенскай губ., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 15.11.1987, в. Яглевічы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.], паліт. і вайсковы дзеяч. Паводле адукацыі лясны інжынер. Прымаў удзел у нямецка-польскай вайне 1939, трапіў у нямецкі палон. Пасля вызвалення працаваў у Беларускім камітэце ў Бялай-Падлясцы. З восені 1941 кіраўнік Слонімскага акруговага камітэта БНС. Сябра падпольнай Беларускай Незалежніцкай Партыі. За пратэсты супраць нямецкіх рэпрэсій у дачыненні мірнага насельніцтва быў зняты з пасады і адпраўлены на работу ў Дзярэчын. Летам 1943 пераехаў у Мінск, выконваў абавязкі нам. старшыні БНС. У 1944—45 афіцэр БКА. У канцы 1944 разам са сваім аддзелам перайшоў да французскіх партызанаў. Пасля 1945, верагодна, захоплены савецкай дзяржбяспекай і этапаваны ў Мінск. Асуджаны на шматгадовы тэрмін зняволення ў канцлагерах. У Беларусь вярнуўся ў 1950-х г.

Літ.: *Ерш С.* Вяртанне БНП. Асобы і дакументы Беларускай Незалежнай Партыі. Мн., Слонім; 1998; Беларускі нацыяналізм (даведнік). Укл. *П. Казак.* Мн., [2001]; Дэсантнік пахаваны пад Івацэвічамі // *Голас краю.* 2001. № 3.

**ЗЫБУНОЎСКІ Іван Васілевіч*** [1902, в. Люцікі (?) Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?, ГУЛАГ], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту нам. дырэктара Анежскага завода. Арыштаваны 28.11.1937 у Петразаводску. Асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР 31.12.1937 за

«ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Карэльскай АССР 8.8.1959.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ЗЯЛЕНІН Сяргей Ільіч** [1889, Тамбоў, Расія — ?, ГУЛАГ], вайсковец, службовец. З бел. сям'і. Служыў у арміі ў афіцэрскім званні. Верагодна, у 1920-я г. быў дырэктарам тэатра «ЖЗЛ» (?). У 1930-я г. арыштаваны і этапаваны ў Салавецкі, затым у Беламорска-Балтыйскі канцлагеры НКВД Карэльскай АССР (цяпер Архангельская вобл.). 10.11.1937 у зняволенні арыштаваны і 20.11.1937 «тройкай» НКВД Карэльскай АССР асуджаны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох). Дата смерці невядома. Рэабілітаваны пракурорам Карэльскай АССР 6.6.1989.

Кр.: *Інфармацыя з базы дадзеных Ю.А.Дзмітрыева.*

**ЗЯЛІНСКІ Вячаслаў Мікалаевіч*** [9.10.1906, Мінск — 13.3.1938, Мінск, НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту эканаміст наркамата асветы БССР. Арыштаваны 9.1.1938 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 52, кв. 3. Асуджаны 26.2.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 30.4.1989. Асабовая справа З. № 24087-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ЗЯЛІНСКІ Ігнат Мікалаевіч*** [1889, Астрашыцкі Гарадок Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], службовец. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту часова в. а. начальніка радыёаддзела Алтайскага краю. Арыштаваны 29.1.1938 у Томску як «замежны агент». Вызвалены ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.3.1940 з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти томичей*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ЗЯНЕВІЧ Віктар Мікалаевіч*** [1905, ? — ?, Пскоў, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту нам. дырэктара Пскоўскай лесапрамысловай гаспадаркі. Арыштаваны 20.9.1937. Асуджаны органамі НКВД СССР 17.1.1938 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны. Дата смерці невядома. Рэабілітаваны 16.10.1957.

Кр.: *Не предать забвению.*

**ЗЯНКОВІЧ (ЗЯНЬКОВІЧ) Аляксандр Сазонавіч*** [1907, в. Пушкіна, былое Астанкіна Маскоўскай губ., цяпер Масква — 12.1.1939, ГУЛАГ], педагог, навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-х г. дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута, кіраўнік адной з кафедр. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 25.4.1937 у Віцебску ў адным з дамоў па вуліцы 1-я Эсперанта. Асуджаны 30.10.1937 пазасудовым органам НКВД як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні

канцлагер НКВД (Магадан, Хабараўскі край; бухта Нагаева, Далёкаўсходні край). Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа З. № 8512-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ЗЯНОВІЧ Віктар Міхайлавіч*** [1901, в. Оршаль (?) Мінскай губ., цяпер Старадарожскі р-н Мінскай вобл. — 20.3.1938, Масква, НКВД], архітэктар. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Быў членам ВКП(б). Падчас арышту архітэктар-рэферэнт аддзела праектавання Массавета. Арыштаваны 5.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Мытная, д. 23, кв. 46. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.2.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.8.1958. Асабовая справа З. № П-23551 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**ІВАНІЦКІ Сцяпан Іларыёнавіч*** [1902, ? — 17.5.1938, Куйбышаў, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер. Арыштаваны 3.10.1937 у Куйбышаве. Асуджаны Вярхоўным судом СССР 17.5.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 20.12.1956.

Кр.: *Белая книга.*

**ІВАНОЎ Аляксандр Васілевіч*** [1898, Масква — 17.10.1937, Мінск, НКВД], службовец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. начальніка ўпраўлення наркамата земляробства БССР. Арыштаваны ў Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 11.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.3.1959. Асабовая справа І. № 14200-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІВАНОЎ Нарцыс Іосіфавіч*** [1895, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік паштовага аддзела Омскага абл. ўпраўлення сувязі. Арыштаваны за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шкодніцкай тэрарыстычнай арганізацыі» 10.10.1938 у Омску. 14.2.1940 НКВД Омскай вобл. справа спынена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**ІВАНОЎ Уладзімір Пятровіч*** [1886, ? — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік аддзела Уфімскага радыёкамітэта Башкірскай АССР. Арыштаваны 4.3.1943. Асуджаны за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 22.10.1964.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Башкортостан.*

**ІВАНОЎСКІ Антон Людвігавіч*** [1888, мяст. Крошын Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 10.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. У 1918 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік Упраўлення рабоча-сялянскай міліцыі Карэльскай АССР. Арыштаваны 6.9.1937 у Петразаводску. Выключаны з ВКП(б) у сувязі з арыштам. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «спробу правядзення тэрарыстычных актаў» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнскай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІВАНОЎСКІ Станіслаў Феліксавіч*** [1903, Мінск — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела Беларускай навукова-доследнай станцыі наркамата земляробства. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арышта-

ваны 31.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Магілёўская, д. 78, кв. 1. Асуджаны 24.11.1945 асобай нарадай пры НКВД за «дапамогу нямецкім акупантам» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі (?) канцлагер НКВД Горкаўскай чыгуначнай дарогі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Мінскага абл. суда 20.3.1990. Асабовая справа І. № 30615-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІВАНОЎСКІ Чэслаў Станіслававіч*** [1911, в. Старыя Грамыкі Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Веткаўскі р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту старшы геадэзіст Саюзбудпраекта. Арыштаваны 6.11.1941 у Маскве. Асуджаны 24.6.1942 да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў (верагодна, былі заменены адпраўкай у штрафны батальён). Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІВАНЬКОВІЧ Міхаіл Ільіч*** [3.11.1888, Полацк Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], журналіст. З сям'і рабочага. У 1919 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык сектара (аддзела) вучэбнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 11.10.1935 у Мінску па адрасе: вул. Паштовая, д. 31, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 14.2.1936 за «антысавецкую

дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Кіраве. Вызвалены 22.12.1938. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 30.5.1989. Асабовая справа І. № 31383-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІВАШКА Макар Фёдаравіч*** [1909, в. Грыцэвічы (Малыя Грыцэвічы) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — 3.11.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту тэхінспектар па рамонту сельскагаспадарчых машын Маскоўскага абл. зямельнага ўпраўлення. Арыштаваны 20.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Пушкінская, д. 20, кв. 17. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.11.1937 за «трацкісцкую шкодніцкую дзейнасць і сувязі з ворагамі народа» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 1.2.1988. Асабовая справа І. № П-72801 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІГНАТАЎ-ГВОЗДЗІКАЎ Карп Дзмітрыевіч*** [1900, в. Казлы Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 10.9.1937, Масква, НКВД], вайсковец, педагог. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту ваенны інжынер 1 рангу, начальнік кафедры Ваенна-

хімічнай акадэміі Чырвонай арміі. Арыштаваны 22.5.1937 у Маскве па адрасе: Шпітальны зав., д. 4а, кв. 17. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.9.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 4.4.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІГНАТОВІЧ Іван Гаўрылавіч*** [1909, в. Бандары (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Гідратэхнічнага тэхнікума. Арыштаваны 13.2.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 31.8.1937 за «антысавецкую агітацыю» і «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**ІГНАЦЕНКА Васіль Пятровіч*** [1901, в. Кудаева Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Аршанскі р-н Віцебскай вобл. — ?], марак. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту штурвальны парахода «Гарняк». Арыштаваны 17.11.1941 у в. Шчальяюр Іжэмскага р-на Комі АССР. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 2.9.1942 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние.*

**ІЗГАРОДЗІН Сцяпан Антонавіч*** [1924, в. Калткі (Колткі?) Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 1.9.1942, ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да 2-й сусветнай вайны жыў у Барысаве па адрасе: Маскоўскі тр., д. 28. Арыштаваны 17.6.1942 (?). Месца арышту невядома. Асуджаны пазасудовым органам 12.8.1942 (?) за «супрацоўніцтва з нямецкай разведкай» да ВМП. Расстраляны. Месца смерці невядома. Рэабілітаваны 21.11.1995. Асабовая справа І. № 36715-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІЛЬЮШЭНКА Мікалай Арцёмавіч*** [1926, в. Ляўкова Глыбоцкі (Талачынскі?) р-н Віцебскай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сялянскай сям'і. Да 2-й сусветнай вайны жыў у в. Ляўкова. Арыштаваны 16.6.1942 (?). Месца арышту невядома. Асуджаны пазасудовым органам 22.6.1942 (?) як «агент нямецкай разведкі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Комі АССР. Вызвалены 31.10.1955. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Варонежскай ВА 30.5.1956. Асабовая справа І. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІОДА Мікалай Васілевіч*** [1907, в. Бялунец (?) Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык Мінскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, гада-

ваў дзіця. Арыштаваны 26.9.1933 у Мінску па адрасе: Паўночны зав., д. 12/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны, верагодна, спачатку ва Ухта-Пячорскі папраўча-працоўны канцлагер, затым пераведзены (10.5.1938) у Варкута-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 4.10.1944. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа І. (спынена 16.8.1956) № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІОДКА Адам Рамуальдавіч*** [1893, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 13.1.1937, Магілёў, НКВД], архівіст. З сям'і рабочага. У 1919—22 служыў у Чырвонай арміі. Уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага архіва НКВД БССР. Арыштаваны 23.8.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 6.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.11.1957. Асабовая справа І. № 4390-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ІОЛАБ Іван Данілавіч*** [1905, Адэса, цяпер Украіна — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту выкладчык рабочага ф-та Віцебскага электратэхнічнага інстытута. Арыштаваны 13.9.1933 у Віцебску па адрасе: вул. Сцяклова, д. 13. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР

9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з чыгуначных канцлагераў. 14.12.36 асобай нарадай НКВД тэрмін зняволення скарочаны да аднаго года і шасці месяцаў, але вызвалены толькі 13.4.1940. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа І. № 10182-с (спынена 16.8.1956) з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІОСЕЛЕВІЧ Гірш Сролевіч** [1915, Мінск — ?], спартыўны трэнер. Удзельнік 2-й сусветнай вайны, узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі». Падчас арышту трэнер спартыўнага таварыства «Чырвоны сцяг». Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 11.12.1958 у Мінску. Асуджаны «судовым органам» 29.4.1959 за «антысавецкую прапаганду» да 6 месяцаў папраўча-працоўных работ. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 30.12.1964. Асабовая справа І. № 19121-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІОСЕМ Леў Барысавіч*** [ліст. 1900, м. Гарадзішча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 27.12.1937, НКВД, Мінск], навуковец, інжынер. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў дацэнтам у Мінскім політэхнічным інстытуце, інжынерам у Белдзяржпраекце. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 19.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 36, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «член шпіёнска-ды-

версійнай тэрарыстычнай арганізацыі ПАВ» і за «сувязі з органамі польскай разведкі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.10.1957. Асабовая справа I. № 10975-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІОФЕ Абрам Львовіч*** [1902, Магілёў — ?], рэдактар. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту рэдактар газ. «Камунар Магілёўшчыны». Арыштаваны 25.8.1935. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 2.12.1935 як «удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Краснаярскі край. Вызвалены 26.5.1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 5.11.1956. Асабовая справа I. № 2217 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**ІОФЕ Калман Абрамавіч*** [1894, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 10.01.1938, Віцебск, НКВД], музыкант. Падчас арышту працаваў капельмейстрам. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 25.8.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 1-я Калініна, д. 2/1, кв. 16. Асуджаны «тройкай» НКВД 29.10.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракурорам Віцебскай вобл. 17.8.1989. Асабовая справа I. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**ІОФЕ Роза Барысаўна*** [2.9.1889, Дзвінск Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілс, Латвія — ?], служачая, жонка Рувіма *Выдры*. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіла ў ВКП(б) (1919). Падчас арышту сакратар тэхрэмканторы пры «Белкаапрэсавеце» (?). Была замужам, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 27.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 8. У сувязі з арыштам выключана з ВКП(б). Асуджана 8.10.1938 як «жонка здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 5 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Этапавана ў Дубраўны канцлагер НКВД Мардоўскай АССР (пас. Явас, п/с 241). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 27.3.1956. Асабовая справа І. № 6795-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**ІСАЕВІЧ Мечыслаў Венядзіктавіч*** [1912, в. Букарава Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 18.2.1942, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Меў няпоўную сярэднюю адукацыю. Падчас арышту кіраўнік дамоў Пушкінскага жыллёвага ўпраўлення. Арыштаваны 17.12.1941 на ст. Мамантаўка Маскоўскай вобл. па адрасе: вул. Школьная, д. 22а. Асуджаны трыбуналам Маскоўскай ВА 30.1.1942 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі пакутнікамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны паводле пастановы прэзідыума Вярхоўнага суда 16.1.1989.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**ІСАЕЎ Рыгор Пракопавіч** [10(22).1.1857, г. Магілёў — 25.3(6.4).1886, Шлісельбургская крэпасць], народнік. З сям'і разначынцаў. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, дзе стаў членам тайнага гуртка самаадукацыі, распаўсюджваў забароненую літаратуру. Удзельнік студэнцкага руху 1878—79 у Пецярбургу. З 1879 член тэрарыстычнай групы «Свабода або смерць», потым «Народнай волі» і яе выканаўчага камітэта. Удзельнік падрыхтоўкі замаху на цара пад Масквой, у Адэсе і Пецярбургу. Разам з М. Кібальчычам рыхтаваў выбуховыя рэчывы. Арыштаваны ў крас. 1881. Прыгавораны да смяротнага пакарання, якое заменена вечнай катаргай. Загінуў у зняволенні.

Літ.: *Якимова А. В.* Г. П. Исаев: Биографический очерк. М., 1930; *Фигнер В. Н.* Полное собрание сочинений. М., 1932. Т. 4.; *ЭГБ*, т. 3.

**ІСАКОВІЧ Арсень Герасімавіч** [1891, мяст. Дзісна Віленскай губ., цяпер горад Міёрскага р-на Віцебскай вобл. — 19.12.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. мяшчанскай або дваранскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту палкоўнік, выкладчык тактыкі на курсах «Выстрал» Чырвонай арміі. Арыштаваны 13.9.1937 у Броніцах Маскоўскай вобл. па адрасе: вул. Савецкая, д. 67. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 13.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.1.1959. Асабовая справа І. № П-60135 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАБАКОЎ Навум Ільіч*** [1892, мяст. Беразіно Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1918 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. рэдактара (?) яўрэйскай газ. «Октобэр» («Кастрычнік»). Арыштаваны 2.12.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 6, кв. 8. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 за «шпіёнскую і антысавецкую работу на карысць буржуазнай Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 12.2.1957. Асабовая справа К. № 9983-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАБЗІСТ Ціхан Сымонавіч*** [1892, в. Губараўка Кабяляцкага пав. Палтаўскай губ., цяпер Украіна — 10.1.1938, Віцебск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў на рабфаку Віцебскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Бязбожная, д. 8. Асуджаны 17.11.1937 «тройкай» НКВД як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 13.9.1957. Асабовая справа К. № 6820-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАБУРНЕЕЎ Іван Федасеевіч*** [1886, в. Новы Барсук Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Рэчыцкі р-н

Гомельскай вобл. — 7.10.1937, Паўладар, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня Пясчанскага саўгасна-рабочага кааператыва Максіма-Горкаўскага р-на. Арыштаваны 24.7.1937. Асуджаны 17.9.1937 «тройкай» НКВД Усходне-Казахстанскай вобл. да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны паводле пастановы прэзідыума Паўладарскага абл. суда 9.5.1959.

Кр.: *Книга скорби. Расстрельные списки*. Павлодар, 1999.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАВАЛЁВА Хая (Ганна) Мануілаўна*** [1909, мяст. Родня Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімкавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — ?], бібліятэкар. З купецкай сям'і. Атрымала вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела спецсховішча бібліятэкі імя Леніна. Арыштавана 30.5.1947 у Мінску па адрасе: вул. Чырвонаармейская, д. 9. Асуджана 27.9.1947 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.8.1956. Асабовая справа К. № 7373-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАВАЛЕВІЧ Фёдар Рыгоравіч*** [1908, в. Дзедзіна Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 29.11.1937, Томск, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Пад-

час арышту студэнт заалагічна-ветэрынарнага тэхнікума. Арыштаваны 19.10.1937 у Томску. Асуджаны 13.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.10.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**КАВАЛЕНКА Сцяпан Кірылавіч*** [1887, в. Бараўцы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі (?) р-н Мінскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. Апошняе месца работы — загадчык гаспадаркі арцелі «Хромаліт». Арыштаваны 5.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Баравая, д. 36, кв. 29. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАВАЛЁЎ Апанас Фёдаравіч** [2(15).12.1903, в. Лошніца Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 20.7.1993, Мінск], дзяржаўны дзеяч. З бел. сялянскай сям'і. Скончыў Віцебскі кааператыўны тэхнікум, Вышэйшыя педагагічныя курсы ў Ленінградзе. З 1926 на савецкай і партыйнай рабоце. З 1937 старшыня СНК БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. 25.1.1939 арыштаваны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, 2-і Дом Саветаў, кв. 8. Высланы ў Омскую вобл. Вызвалены 9.4.1942. Рэабілітаваны. Працаваў у сістэме кааперацыі. З 1947 да 1960 нам. старшыні Бел-

каапсаюза, дэпутат Вярхоўных саветаў у БССР і СССР. Фонд К. зберагаецца ў НА РБ. Асабовая справа К. № 19983-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Звон мой — праўда. Мн., 1989.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**КАВАЛЁЎ Васіль Захаравіч*** [1906, в. Навасёлкі Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — ?], медык. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту ветэрынарны ўрач аднаго з саўгасаў Любінскага р-на Омскай вобл. Арыштаваны 29.12.1935. Асуджаны Омскім абл. судом 27.3.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 27.8.1992.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАВАЛЁЎ Казімір Іванавіч*** [1927, Барысаў Мінскай вобл. — ?], навучэнец. З сям'і службоўца. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Арыштаваны 24.8.1942 (?). Месца арышту невядома. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 3.3.1943 (?) за «прыналежнасць да германскай разведкі» да 5 гадоў ППК. Этапаваны ў Томскую турму № 2. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваенным пракурорам Беларусі 23.7.1992. Асабовая справа К. № 34337-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАВАЛЁЎ Юрый Мацвеевіч*** [1909, Мінск — ?], журналіст. Арыштаваны 9.3.1936 у Каўрове Уладзімірскай вобл. Асуджаны да 4 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Боль и память: Книга памяти жертв политических репрессий Владимирской области.* Владимир, 2001. Т. 1.

**КАВАЛЬЧУК Ілья Якаўлевіч*** [1914, в. Новаермакоўка Тарскага пав. Омскай губ., цяпер Омская вобл., Расія — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт Омскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 15.6.1937. Асуджаны 20.9.1937 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда РСФСР 20.11.1959.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАВЕРЫН Валяр'ян Цімафеевіч*** [1893, Масква — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык кафедры Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 24.6.1941. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.2.1942 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абл. суда 25.5.1957. Асабовая справа

К. № 2669-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КАГАН Ізраіль Яўгенавіч*** [1899, Барысаў Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — ?], навуковец. У 1920—22 служыў у Чырвонай арміі, удзельнічаў у баях. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Мінскага медыцынскага іститута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.11.1933 у Мінску па адрасе: вул. Татарская, д. 35, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 22.3.1934 як «член контррэвалюцыйнай падрыўной арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа К. № 6743-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАГАН Эля Шоламавіч** [10.2.1909, Мінск — 22.6.1944, Гродзенская вобл.], паэт, празаік, перакладчык. Пісаў на ідыш. З сям'і настаўніка. З 1936 супрацоўнік час. «Штэрн». Арыштаваны 30.5.1941 у Мінску па адрасе: Першы Камуністычны зав., д. 5, кв. 11. Абвінавачваўся ў «антысавецкай нацыяналістычнай дзейнасці». У пачатку вайны этапаваны з мінскай турмы НКВД на Усход. Паводле некаторых звестак вызвалены, удзельнічаў у 2-й сусветнай вайне, быў карэспандэнтам газ. «Красный артиллерист». Загінуў у баі. Пахаваны на армейскіх могілках каля Зэльвы Гродзенскай вобл. Рэабілітаваны. Асабовая справа К. № 4985-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Тв.: Апавяданні і мініяцюры. Мн., 1932; Вершы. Мн., 1932; Горад без цэркваў. Мн., 1935; Дзіцячыя апавяданні. Мн., 1936; Розныя апавяданні. Мн., 1940.

Літ.: *БП*, т. 3.

**КАЗАК Генадзь** [1924, в. Брацянка Навагрудскага ваяв., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — канец 1940-х г., лагер Долінка Карагандзінскай вобл.], адзін з арганізатараў і кіраўнікоў пасляваеннага ўзброенага антысавецкага падполля. Меў сярэднюю адукацыю. У 1944 вывезены на прымусовыя работы ў Германію. Працаваў на заводзе па рамонту самалётаў у Эгеры, затым паступіў у падафіцэрскую школу Беларускага легіёна ў Берліне, якой кіраваў Б. Рагуля. Там К. уступіў у БНП і ўзначаліў школьную арганізацыю партыі. Вярнуўся ў Беларусь пасля вайны як рэпатрыянт, пасяліўся ў Навагрудку. У ліст. 1946 арганізаваў Саюз вызвалення Беларусі (СВБ). У снеж. 1946 — студз. 1947 распрацаваў праграму і статут СВБ, якія ставілі мэты нацыянальнай рэвалюцыі і стварэння незалежнай дзяржавы. Арыштаваны 30.5.1947. На допытах у Баранавіцкай турме моцна катаваны. Асуджаны трыбуналам войск МДБ у жн. 1947 на працэсе ў Баранавічах. Загінуў амаль адразу як трапіў у Карагандзінскі канцлагер МДБ Казахскай ССР (в. Долінка). Не рэабілітаваны.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Валаханович И. А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**КАЗАКЕВІЧ Зоя Лук'янаўна*** [1922, Бабруйск, цяпер Магілёўская вобл. — ?], служачая. З бел. сям'і. Працавала загадчыцай бібліятэкі Бабруйскай тэхнічнай

школы. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 5.11.1944. Асуджана 29.1.1945 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізма» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана паводле пастановы Вярхоўнага суда БССР 18.8.1964. Асабовая справа К. № 8903 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КАЗАКОЎ Фядот Мікалаевіч*** [1901, Рагачоўскі пав. Магілёўскай губ., цяпер Жлобінскі р-н Гомельскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дырэктар Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 4.7.1938. Абвінавачваўся ў «правядзенні антысавецкай прапаганды». 28.5.1939 вызвалены і рэабілітаваны пастановай НКВД Магілёўскай вобл. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 3541 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КАЗАЧОНАК Мікалай Максімавіч*** [ліп. 1904, в. Гаранка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 3.1.1942, ГУЛАГ], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. нам. дырэктара Батанічнага сада БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 7.12.1937 у Мінску па адрасе: Барысаўскі тракт, д. 90, кв. 5. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 7.3.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 8 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў Самарскі канцлагер НКВД Куйбышаўскай

вобл., затым Ухта-Іжэмскі (?) канцлагер Комі АССР. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 14.5.1958. Асабовая справа К. № 5954-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЗАЧОНАК Павел Міхайлавіч*** [1899, в. Горанка (?) Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня Сталінскага раённага савета. Арыштаваны 18.11.1937 у Ніжнім Тагіле Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 18.4.1938 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КАЗЛОЎ Уладзімір Георгіевіч*** [н. 1934, Віцебск], навучэнец. З сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт Мінскага медыцынскага інстытута, член ВЛКСМ. Арыштаваны 19.10.1954 ў Мінску па адрасе: вул. Чырвоная, д. 19, кв. 21. Паводле дадзеных следства, з 1951 у размовах са знаёмымі абмяркоўваў праблемы пабудовы сацыялізма ў СССР пасля смерці У. Леніна. Разам з Даніэлем *Марошакам* напісаў «Маніфест рускіх марксістаў-ленінцаў», дзе КПСС называлася «халопска-дыктатарскай партыяй», а дзяржаўны лад у СССР «дзяржаўным капіталізмам». У «Маніфесце» гаварылася: «Мы з такой свядомасцю яшчэ прэтэндуем на сацыялізм! Не! Спачатку трэба дасягнуць вяршыняў буржу-

азнай культуры, а тады марксісцкую тэорыю народ вельмі хутка і па-сапраўднаму ўспрыме… Справа ўся была ў тым, што ва ўмовах усеагульнай нацыяналізацыі сродкаў вытворчасці і невысокай свядомасці мас… быў непазбежны дзяржаўны капіталізм, дыктатура аднаго чалавека». Асуджаны 4.1.1955 за «антысавецкую агітацыю» і за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 5 гадоў канцлагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. 15.9.1956 тэрмін зняволення быў скарочаны да двух гадоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда Беларусі 19.8.1997. Асабовая справа К. № 37027 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 71161; *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *58[10]*, с. 237.

**КАЗЛОЎ Фёдар Іванавіч*** [1906, в. Кайшоўка Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 25.10.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік цэха музкамбіната Томскай працоўнай калоніі № 1. Арыштаваны 5.6.1938. Асуджаны 19.10.1938 як «член «Сібірскага брацтва» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 30.12.1958.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЗЛОЎСКІ Барыс Іванавіч*** [1913, Мінск — ?], мастак. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Мінскім доме (палацы) культуры

авіятараў. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны апынуўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 17.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Брылеўская, д. 8, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 4.3.1946 за «сувязь з немцамі» да года папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны ў Паўночна-Уральскі канцлагер МДБ Свярдлоўскай вобл. (Ірбіт, лагпункт № 1). Вызвалены 5.5.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 11.5.1995. Асабовая справа К. № 36246-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЗЛОЎСКІ (ЮШКЕВІЧ) Міхаіл Міхайлавіч*** [1902, в. Пераброддзе Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец, вайсковец. З бел. сям'і. У 1925 уступіў у ВКП(б). Працаваў упаўнаважаным Гдоўскага пагранатрада, начальнікам спецчасткі Ленінградскага інстытута інжынераў прамысловага будаўніцтва. Арыштаваны 25.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: канал Грыбаедава, д. 89, кв. 3. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны 14.12.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «шпіянаж і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЗЛОЎСКІ Рыгор Адамавіч*** [1897, мяст. Краслава Віцебскай губ., цяпер Латвія — 8.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў членам камуністычнай

партыі Латвіі. У 1935 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — тавараразнаўца аддзела забеспячэння трэста «Саюзузрыўпрам». Арыштаваны 17.12.1937 у Маскве па адрасе: Вялікі Кісельны зав., д. 8, кв. 4. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.4.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.8.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАЛАДЗІНСКІ Юрый Вацлававіч*** [1897, Варшава — 17.8.1929, ГУЛАГ], работнік культуры. З сям'і рабочага. Падчас арышту загадчык Польскага клуба. Арыштаваны 29.1.1928 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 25. Асуджаны 10.6.1929 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.7.1992. Асабовая справа К. № 34450-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЛАСОЎСКІ Уладзімір Сцяпанавіч*** [1897, в. Лукавіца або Луконіца Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 13.8.1938, Масква, НКВД], інжынер. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — начальнік аддзела будаўнічых дэталяў «Мосснабкультстроя». Арыштаваны 20.2.1938 у Маскве па адрасе: вул. Станкевіча, д. 16/4, кв. 57. Асуджаны пастановай камісіі НКВД і пракуратуры СССР ад 29.7.1938 як «завербаваны

японскім консульствам у Харбіне» і за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб’ект Бутава». Асабовая справа К. П-38788 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЛЕНЧЫЦ Рыгор Данілавіч*** [1891, в. Вераб’евічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], педагог. З сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту дырэктар Слуцкага педагагічнага тэхнікума (вучылішча). Арыштаваны 10.10.1933 у Слуцку па адрасе: вул. К. Лібкнехта, д. 67. Асуджаны 26.12.1933 як «член Слуцкага філіяла нацыянал-паўстанцкай дыверсійна-шпіёнскай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Далёкаўсходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю. 21.10.1934 тэрмін зняволення К. быў зменшаны да 3 гадоў і яго павінны былі выслаць на Поўнач, але 28.11.1934 ён быў вызвалены. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 9.11.1960. Асабовая справа К. № 12875-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАЛІНІН-КАЛЕНІК Леў Андрэевіч*** [1909, ? — 29.12.1937, Смаленск, НКВД], вайсковец, верагодна, брат альбо сваяк Сяргея *Калініна-Каленіка.* З бел. сям’і. Падчас арышту камандзір роты 191-га стралковага палка. Арыштаваны 5.11.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і

пракуратуры СССР 25.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог*.

**КАЛІНІН-КАЛЕНІК Сяргей Андрэевіч*** [23.2.1894, Гродна — 29.12.1937, Мінск, НКВД], педагог, верагодна, брат альбо сваяк *Льва Калініна (Каленіка)*. З сям'і бел. рабочага. Працаваў ваенруком у Мінскай СШ № 1. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 16.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Энгельса, д. 29/36, кв. 1. Асуджаны 25.12.1937 асобай нарадай пры НКВД як «рэзідэнт польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Маскоўскай ВА 21.11.1957. Асабовая справа К. № 11021-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЛІНІЧЭНКА Марта Іванаўна** [27.4.1894, Ціраспаль, цяпер Малдова — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымала вышэйшую адукацыю. Уступіла ў ВКП(б). У 1930-я г. выкладала у МБПТ. Арыштавана 3.10.1938 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 83, кв. 3. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і «шкодніцкую дзейнасць у сістэме народнай адукацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 2.8.1956. Справа К. № 6745-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик*.

**КАЛІНКАВЕЦ Васіль Васілевіч*** [1919, в. Грышын, цяпер Данецкая (?) вобл., Украіна — ?], акцёр. З сялянскай сям'і. Працаваў у Пінскім гарадскім тэатры. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 13.12.1944. Асуджаны 5.4.1947 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 4 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 30.11.1992. Асабовая справа К. № 11284-С захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**КАЛІНОЎСКАЯ Таццяна Антонаўна*** [1904, Саратаў, Расія — ?], спявачка. З сям'і службоўца. Мела незакончаную вышэйшую адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала ў тэатры оперы і балета. Арыштавана 16.12.1944 у Мінску па адрасе: пас. Фрунзе, д. 6, кв. 1. Асуджана 3.10.1945 як «сацыяльна-небяспечны элемент» і за «работу ў оперным тэатры ў Мінску падчас нямецка-фашысцкай акупацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.5.1957. Асабовая справа К. № 10324-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАЛІНОЎСКІ Аляксандр Мацвеевіч*** [1902, в. Цялуша Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], педагог, брат Васіля *Каліноўскага*. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык МВПІ. Быў жанаты, га-

даваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 20.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 73, кв. 65. Асуджаны «тройкай» НКВД 1.11.1938 як «польскі шпіён» і «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). 16.2.1941 пераведзены з лагера ў псіхіятрычную бальніцу НКВД Молатаўскай (цяпер Пермскай) вобл. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 8.1.1957. Асабовая справа К. № 9911-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЛІНОЎСКІ (АРЛОЎ) Васіль Мацвеевіч*** [1907, в. Цялуша Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — ?], брат Аляксандра *Каліноўскага*. У 1930-я г. вязень Ухта-Пячорскага канцлагера НКВД Комі АССР. Узяты пад варту 13.11.1937 у пас. Мадмас. 21.12.1937 асуджаны «тройкай» НКВД Архангельскай вобл. за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы.

Кр.: *Покаяние.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЛІНОЎСКІ Дзмітрый Афанасьевіч*** [1896, в. Вялікія Стройкі Рагачоўскага (?) пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі (?) р-н Гомельскай вобл. — 29.12.1937, Віцебск, НКВД], педагог. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Выкладаў у Віцебскім педагагічным тэхнікуме. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937 у Віцебску па адра-

се: вул. Канатная, д. 47. Асуджаны 19.11.1937 паводле пастановы калегіі НКВД СССР як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 19.5.1958. Асабовая справа К. № 4105-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАЛІНОЎСКІ Якаў Міхайлавіч*** [1906, в. Дубава (?) Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту курсант Томскай артылерыйскай школы. 19.1.1931 арыштаваны за «контррэвалюцыйную агітацыю». Выключаны з кандыдатаў у члены ВКП(б). 12.6.1931 вызвалены з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЛІНОЎСКІ Яўген Андрэевіч** [1890, хут. Мажохіні (?) Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], архітэктар. Падчас арышту галоўны архітэктар Свярдлоўскага аддзялення Гіпрацяжмаша. Арыштаваны 29.5.1943. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.1.1944 да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КАЛОДКА Аляксандр** [14.12.1911, в. Церабостынь Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Ка-

рэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 15.11.1985, Мельбурн, Аўстралія], бел. грамадскі дзеяч, юрыст. Скончыў юрыдычны ф-т Віленскага у-та. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у грамадзянскай адміністрацыі на Маладзечаншчыне, у Ашмянах, Вілейцы. Прымаў удзел у бел. нацыянальным антынацысцкім падполлі. У сак. 1943 арыштаваны нямецкай паліцыяй. Знаходзіўся ў зняволенні ў вілейскай і мінскай турмах, пазней вывезены ў канцлагер у Германію. У пасляваенны час выехаў у Аўстралію, жыў у Мельбурне. У газеце «Беларус» (Нью-Ёрк, ЗША) і часопісе «Беларуская думка» (Саўт-Рывер, ЗША) друкаваў успаміны пра часы нямецкай акупацыі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Катковіч А., Катковіч-Клентак В.* Успаміны. Беласток, 1999.

**КАЛЬВАН** (?) **Пелагея Данатаўна*** [1907, Віцебск — ?], гісторык. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык аддзела Віцебскага гістарычнага музея. Была замужам, гадавала дзіця. Арыштавана 13.2.1936 у Віцебску па адрасе: вул. 4-я Свярдлова, д. 18. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 15.5.1936 за «антысавецкую агітацыю» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў адзін з Магаданскіх канцлагераў. Вызвалена 16.2.1939. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 12.10.1956. Асабовая справа К. з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАЛЬНІЦКІ Міхаіл Іванавіч** [н. паміж 1922—24, в. Доўгая Дуброва Жыткавіцкага р-на Мазырскай акругі, цяпер Гомельская вобл. — 12.9.1952, в. Кляцішча Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.], удзельнік антысавецкага падполля. Падчас 2-й сусветнай вайны служыў у паліцыі на тэрыторыі Палескай вобл. У кастр. 1943 выехаў у Германію. Пасля вайны перабраўся ў Бельгію, працаваў на шахтах у Льежы. З'яўляўся старшынёй Льежскага аддзела «Хаўрусу беларусаў у Бельгіі». Пры пасрэдніцтве А. Марговіча ў канцы 1951 завербаваны амерыканскай разведкай, у студз. 1952 прыняты ў Каўфбэйрэнскую разведшколу (псеўданім Джо). Меркаваў дэсантавацца ў Беларусі 1.5.1952, але з-за адмовы 2-х удзельнікаў групы ляцець у СССР аперацыя была перанесена. Як старшы радыст ноччу на 27.8.1952 закінуты ў Налібоцкую пушчу (в. Кляцішча Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). 31.8.1952 з М. Арцюшэўскім (Фінам) устанавіў радыёсувязь з цэнтрам і перадаў дзве зашыфраваныя радыёграмы з інфармацыяй аб паспяховым дэсантаванні і каардынатамі прызямлення. Пасля падзелу групы заставаўся ў лесе разам з Фінам. 10.9.1952 на месцы сустрэчы групы трапіў у засаду. Быў забіты.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Валаханович И. А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**КАЛЯДА Канстанцін Цімафеевіч*** **[**1896, в. Панямонь (?) Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], службовец. Падчас арышту начальнік гаспадаркі Паўднёва-

Усходняй чыгункі. Арыштаваны 21.9.1937 у Варонежы або ў Варонежскай вобл., Расія. Асуджаны 22.11.1937 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

**КАЛЯДА Пётр Ільіч*** [1905, в. Багданаў Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 16.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1929 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік Навукова-даследчага лесахімічнага інстытута. Арыштаваны 14.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: Міжнародны праспект, д. 90, кв. 119. У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 10.12.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАЛЯДА Пётр Канстанцінавіч*** [1904, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 8.12.1937, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. рабочага. Падчас арышту начальнік участка супрацьпаветранай абароны Кастрычніцкага р-на Масквы, член ВКП(б). Арыштаваны 25.8.1937 у Маскве па адрасе: Новая Шаша, д. 8, кв. 3. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 1.12.1937 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 22.4.1957. Асабовая справа К. № П-38373 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**КАЛЯДА Сцяпан Акімавіч*** [1903, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Працаваў аграномам. Арыштаваны 3.11.1937. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 10.1.1938 за «шпіянаж» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Прыволжскай ВА 14.9.1989.

Кр.: *Белая книга.*

**КАЛЯДКА Рыгор Акімавіч*** [1900, в. Купнікі Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту аграном абл. планавай камісіі. Арыштаваны 2.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны 31.8.1937 камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**КАЛЯНКОЎСКІ Пётр Сямёнавіч*** [1909, Варшава — 10.3.1938, Масква, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Меў незаконачаную вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 5.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. 2-я Возніцкая, д. 29, корп. 5, пакой 124. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.2.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай фашысцкай групе» і за «антысавецкую агітацыю сярод студэнтаў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**КАМАРЖЫНСКІ Язэп Францавіч** [1899, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 1965, Даўгаўпілс], артыст, рэжысёр, культурна-грамадскі дзеяч бел. дыяспары ў Латвіі міжваеннага перыяду. Удзельнічаў у тэатральных пастаноўках трупы Дзвінскага чыгуначнага тэатра пад кіраўніцтвам М. Канстанцінава. Падчас 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі на Смаленшчыне. Працаваў у рабочай драматычнай дружыне Рослаўля. У 1919—1920 акцёр драмы, сябра Смаленскага аддзялення Усерасійскага прафесійнага саюза работнікаў мастацтва. Летам 1920 вярнуўся ў Дзвінск, скончыў бел. настаўніцкія курсы. У 1922 як рэжысёр узначаліў створаную з ініцыятывы *К. Езавітава* і Э. Будзькі бел. тэатральную трупу Дзвінска. Бел. спектаклі ставіліся ім у латгальскім клубе «Саўле» і святліцы чыгуначнікаў. Калектыў выязджаў з пастаноўкамі ў Прыдруйшчыну, Ізабелінаўшчыну, інш. рэгіёны пражывання бел. этнасу. Увосень 1929 Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі запрасіў К. ў Рыгу, дзе ён працаваў настаўнікам у бел. школе на Маскоўскім форштаце, а затым быў прызначаны дырэктарам Беларускага народнага тэатра. Выступаў як акцёр і рэжысёр. Ставіў п’есы *У. Галубка*, *Я. Купалы*, Р. Блаўмана. З утварэннем Таварыства беларускага тэатра ў Латвіі К. быў дзейсны яго сябра. У 1936 бел. грамадскасць Латвіі шырока адзначыла 20-годдзе яго творчай дзейнасці. Удзельнічаў у культурна-грамадскай рабоце латышскіх беларусаў і падчас 2-й сусветнай вайны. У 1945 у ліку інш. культурна-асветных бел. працаўнікоў С.*Сахарава*. С.Сіцько, П.Масальскага (П.Сакола) арыштаваны і высланы ў Сібір. Пасля рэабілітацыі ў 1955 вярнуўся ў Дзвінск (Даўгаўпілс), удзельнічаў у пастаноўках спек-

такляў у Даўгаўпілскім гарадскім Доме культуры. Загінуў, збіты машынай па дарозе на рэпетыцыю.

**КАМЕНСКІ Людвік** [2-я палова 18 ст. — 1-я палова 19 ст.], паліт. дзеяч. З шляхецкага роду герба «Роля». Быў эйшышскім шамбелянам і харунжым. У канцы мая 1794 узначаліў паўстанцкі Вайсковы камісарыят у Вільні. 3.6.1794 дэлегаваны жыхарамі Вільні да *Т. Касцюшкі* ў справах утварэння Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ і арганізацыі рэгулярнай абароны Вільні. У жн.— вер. 1794 уваходзіў у Дэпутацыю па рэвізіі вайсковых лазарэтаў. Магчыма, пяру К. належаць вершы патрыятычнага характару. Арыштаваны пасля задушэння паўстання. Амнісціраваны.

Літ.: *PSB*. IX/4. z. 51.

**КАМЕНСКІ Фульгент** [2-а палова 18 ст. — 1-я палова 19 ст.], паліт. і дзяржаўны дзеяч, паэт. З шляхецкага роду герба «Роля». Ротмістр і гараднічы Лідскага пав., эйшышскі падкаморы, шамбелян. Яму належыла палова вёскі Чэпалюня ў Лідскім пав. У 1773 у Вільні апублікаваў асобным выданнем верш дыдактычнага зместу «Грэчаскія войны з Атаманскай Портай, услаўленыя дзейнасцю Юрыя Кастрыёта Князя Албанскага, празванага Скандэрбекам». У часе паўстання 1794 дэлегаваны ў Нацыянальную Раду ВКЛ у Вільні. Узяты ў палон расійскімі войскамі. У чэрв. 1795 сасланы ва ўсходнія губерні Расіі, на ягоную маёмасць быў накладзены секвестр. Амнісціраваны з вяртаннем маёнтка ў 1797. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Wojny greckie z Portą Ottomańską, dzielnością Jerzego Kastryota Xiążęcia Albańskiego przezwanego Skanderbek wsławione. Wilno, 1773.

Літ.: *Kamiński J. A.* Materyjały do monografii i historii rodzin Kamieńskich i Kamińskich. T. 1. Lwów, 1854–1856; *PSB*. IX/4. z. 51.

**КАМІНСКАЯ Ганна Мікалаеўна*** [1925, в. Млынка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], дзяржаўны служачы. З сялянскай сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны апынулася на акупаванай тэрыторыі, працавала ва ўпраўленні архітэктуры (?). Арыштавана 18.9.1944 у в. Млынка. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 3.10.1945 за «сувязь з нямецкай контррэвалюцыйнай разведкай» да 4 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Каргапольскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. Вызвалена 9.8.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Вярхоўным судом БССР 24.5.1974. Асабовая справа К. № 20381-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАМІНСКІ Віктар Іосіфавіч*** [1908, в. Няклюдава Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — ?], мастак. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у клубе імя Кірава на ст. Орша. Арыштаваны 21.8.1937 па адрасе: ст. Орша-Заходняя, дом чыгункі 3, кв. 3. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.10.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Этапаваны ва Усць-

Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 21.2.1947. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 13.2.1956. Асабовая справа К. № 11262-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАМІНСКІ Людвік*** [2-а палова 18 ст. — 1-я палова 19 ст.], паліт. і дзяржаўны дзеяч. Старшыня першага дэпартамента Мінскага галоўнага суда. У 1812 сустракаў французскія войскі за 2 мілі ад горада. Быў прызначаны Напалеонам старшынёй камісіі ВКЛ — часовага ўрада. Арыштаваны пасля выгнання французскіх войск з Расіі. Амнісціраваны царскім маніфестам. Захаваў пасаду старшыні ў Мінскім галоўным судзе.

Літ.: *Iwaszkiewicz J.* Litwa w 1812 r. Kraków—Warszawa, 1912; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1984.

**КАМЫНА Эдуард Іосіфавіч*** [1899, Санкт-Пецярбург, Расія — 18.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. Апошняе месца работы — юрысконсульт Кіраўскага завода. Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Трактарная, д. 13, кв. 5. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.10.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**КАНДРАЦЕНЯ Уладзімір Ігнатавіч** [сак. 1917, в. Смалічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі

р-н Мінскай вобл. — 23.2.1943, Слуцк], празаік. Дэбютаваў у друку ў 1932 (апавяданне «Спаганяюць падаткі» ў газ. «Палеская праўда»). Пасля сканчэння рабфака ў Бабруйску (1935) паступіў на літаратурна-лінгвістычны ф-т МВПІ, які скончыў у 1939. Выступаў з нарысамі (на старонках газ. «ЛіМ», час. «Полымя рэвалюцыі», «Работніца і калгасніца»), якія склалі кнігу «Любоў» (першую і апошнюю). За яе, паводле рэкамендацыі *К. Чорнага*, аўтар быў прыняты ў СП БССР. Апавяданні К. перакладаліся на ідыш. У 1937— 38 блізка сябраваў са студэнткай МВПІ, будучай пісьменніцай В. Палтаран. З 1939 служыў у Чырвонай арміі. На пачатку вайны трапіў пад Полацкам са сваёй часцю у палон. Здолеў збегчы з нямецкага лагера для ваеннапалонных, прыйшоў да дому ў в. Смалічы. Паводле даручэння партызанаў уладкаваўся ў Краснаслабадскую СШ (цяпер Капыльскі р-н), затым у Слуцкі сірочы прытулак. Вёў падпольную работу. Верагодна, у пачатку 1943 ўсю падпольную групу немцы арыштавалі. Паводле звестак Я. Казекі павешаны немцамі ў Слуцку. Пахаваны ў роднай вёсцы.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: Любоў: Апавяданні. Мн., 1938.

Літ.: *Мурашка Р.* Літаратурныя парасткі // *ЛіМ*. 1938. 30 кастр.; *БП*, т. 3.

**КАНДРАЦЬЕЎ Адам Андрэевіч*** [1888, в. Альбін Мінскай губ., цяпер Мінскай (?) вобл. — 22.3.1938, Томск, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Падчас арышту бухгалтар Батурынскага нарыхтовачнага пункта збожжа. Арыштаваны 15.2.1938 у в. Батурына Ка-

жэўнікаўскага р-на Томскай вобл. Асуджаны 12.3.1938 «тройкай» НКВД як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 1.12.1960.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**КАНТОРЫЧ Барыс Лазаравіч*** [1877, Мінск — 16.9.1937, ?, НКВД], медык. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў зубным урачом. Арыштаваны 29.6.1937 у в. Парабель Томскай вобл. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.8.1937 як «член контррэвалюцыйнай ваенна-трацкісцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 13.8.1959.

Кр.: *Книга памяти томичей.*

**КАПІТАНАКІ Міхаіл Васілевіч*** [1904, Краснадар, цяпер Расія — ?], навуковец. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў загадчыкам лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 17.5.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 11-я Свярдлова, д. 19. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалены 7.9.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 20.4.1956. Асабовая справа К. № з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАПЛАН Абрам Мееравіч*** [ліп. 1884, Мінск — ?], дзяржаўны дзеяч. З купецкай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту кіраваў прамысловай секцыяй (аддзелам) прэзідыума Дзяржплана БССР. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 12.12.1930 у Мінску па адрасе: вул. Кастрычніцкая, д. 7, кв. 10. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 23.7.1931 за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БССР 20.10.1989. Асабовая справа К. № 30690-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРАВАЦКІ Яўген Барысавіч*** [1899, Мінск — 21.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З сям'і бел. служачага. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту начальнік лётна-выпрабавальнай часткі завода № 3 камбіната 150. Арыштаваны 27.8.1937 у Маскве па адрасе: Малы Патрыяршы зав., д. 3/5, кв. 9. Асуджаны 19.10.1937 «тройкай» НКВД за «сістэматычную актыўную антысавецкую агітацыю і контррэвалюцыйную прапаганду, накіраваную на падрыў мерапрыемстваў, якія праводзіць партыя і савецкі ўрад» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.7.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**КАРАЛЁНАК Карл Карлавіч (Восіпавіч)*** [1893, в. Бытча Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 4.12.1941, ?], урач. З

бел. сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 1.11.1941 на ст. Касторная Усходняй чыгункі. Асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 12.05.1992.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Курской области*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАРАЛЬЧУК Лявонцій Іванавіч*** [1880, в. Каменка Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — ?], архіварыус. З сям'і рабочага. Працаваў на ст. Мінск-таварная. Арыштаваны 17.7.1938 у Мінску па адрасе: вул. Талстога, д. 14/3. Асуджаны «тройкай» НКВД 7.10.1938 за «шпіянаж на карысць польскіх разведорганаў» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 20.10.1958. Асабовая справа К. № 13219-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРАНЕЎСКІ Рыгор Андрэевіч*** [1891, в. Новая Тухіня Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 8.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня ліквідацыйнай камісіі жыллёва-камунальнай канторы (паводле іншых звестак — юрыст Кольбуда). Арыштаваны 5.10.1937 у Мурманску або Манчагорску па адрасе: вул. Набярэжная, д. 4. Асуджаны камісіяй

НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 як «удзельнік антысавецкай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**КАРАСЬ Лявон** [1923, в. Дзямідзенкі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 7.9.1954, Мюнхен, Германія], журналіст. Сябра СБМ. У 1944 выехаў з Беларусі ў эміграцыю. Жыў у Германіі, Вялікабрытаніі, з 1948 сябра маладзёжнай арганізацыі «Дванаццатка» (пра якую Я. Запруднік напісаў кнігу). Вучыўся ў Лювэнскім ун-це на агранамічным ф-це (Бельгія). Пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў перакладчыкам на радыё «Вызваленне» («Свабода»). Забіты пры невысветленых абставінах. Паводле адной з версій, савецкімі агентамі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Рагуля Б.* Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан — Нью-Ёрк. 1996; *Ёрш С.* Приказано уничтожить // *День*. 2002. 11 апр.

**КАРАТАЙ Ксенія Амвросеўна*** [1899, в. Прусы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — ?], сялянка-аднаасобніца, сястра М. *Лужаніна*. З бел. сялянскай сям'і. Арыштавана 9.3.1936. Асуджана 21.11.1936 тройкай НКВД за «антысавецкую агітацыю» і «здраду радзіме» да 10 гадоў ППК з канфіскацыяй маёмасці. Верагодна, этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 24.11.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Справа К. і нека-

торых інш. аднаасобнікаў і земляробаў № 10008-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРАЧ Ніна Емяльянаўна** [1929, Слонім Навагрудскага ваяв., цяпер Гродзенская вобл. — 2001, Светлагорск], навучэнка. З сям'і рабочага. Мела незакончаную вышэйшую адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, з'яўлялася дружыновай слонімскага СБМ. Вучылася ў слонімскай прагімназіі. Арыштавана 13.12.1944 у Слоніме падчас масавых арыштаў сяброў СБМ, але неўзабаве вызвалена. Вясной 1946 удзельнічала ў першым сходзе нелегальнай патрыятычнай арганізацыі «Чайка» ў Слоніме, выбрана яе сакратаром. Пазней адыйшла ад падпольнай дзейнасці, хавалася. Вучылася ў Інстытуце народнай гаспадаркі імя Куйбышава. Арыштавана 23.6.1950 у Мінску па адрасе: вул. Рэвалюцыйная, д. 23, кв. 12. Асуджана 25.11.1950 як «былы член антысавецкай арганізацыі «Саюз беларускай моладзі» да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапавана ў Азёрны канцлагер МДБ Іркуцкай вобл., затым пераведзена ў Дубраўны канцлагер МДБ Мардоўскай АССР. Вызвалена 20.4.1956. Жыла ў Светлагорску. Рэабілітавана Вярхоўным судом БССР 9.9.1975. Асабовая справа К. № 20436-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Антысавецкія рухі.*

**КАРАЧУН Фёдар Сцяпанавіч*** [1896, в. Дабрынёва, Мардовія, цяпер Расія — ?], партыйны работнік. З бел. сям'і. Падчас арышту сакратар парткама дэпо

ст. Куйбышаў. Арыштаваны 6.11.1937 у Куйбышаве. 28.3.1938 асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» да 5 гадоў пазбаўлення волі. 31.8.1939 пастановай НКВД Куйбышаўскай вобл. крымінальная справа была спынена. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Белая книга*.

**КАРЖАНЕЎСКІ Антон Станіслававіч*** [28.10(11.11)1910, мяст. Валынцы, Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл. — 19.4.1991], мастак. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Ажаніўся, гадаваў дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 16.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 58а, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 28.6.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў, але 31.8.1945 быў вызвалены. Уступіў у Саюз мастакоў (1945). Рэабілітаваны пракуратурай БССР 28.9.1990. Асабовая справа К. № 31574-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*.

Літ.: Беларускі саюз мастакоў. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1998. С.296.

**КАРЖАНЕЎСКІ Станіслаў Сігізмундавіч** [1901, Орша — 10.11.1937, Орша, НКВД], юрыст. З сялянскай сям'і. У 1917—1924 служыў у Чырвонай арміі. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Працаваў юрысконсультам Аршанскага швей-

нага прамысловага саюза. Быў жанаты, гадаваў шасцярых дзяцей. Арыштаваны 23.8.1937 у Оршы па адрасе: вул. Першамайская, д. 58. Асуджаны 26.10.1937 як «агент польскіх разведвальных органаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 16.10.1989. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАРЖАНЕЎСКІ Сцяпан Кузьміч*** [1898, в. Замошша Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі (?) р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту дацэнт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 23.10.1933. Асуджаны «тройкай» НКВД 14.11.1933 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі БНЦ» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер НКВД Далёкаўсходняга краю (Свабодны, цяпер Амурская вобл.). Вызвалены 23.11.1936. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 7.5.1956. Асабовая справа К. № 5937-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАРКАЗОВІЧ Уладзімір Валер'янавіч*** [1877, Магілёў — 3.8.1938, Масква, НКВД], вайсковец, педагог. З бел. дваранскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Служыў у царскай арміі ў чыне капітана. Падчас арышту педагог АТК завода № 39. Арыштаваны 12.3.1938 у Адзінцове па адрасе: вул. Таварышчаўская, д. 14. Асуджаны «тройкай» НКВД Маскоўскай вобл.

16.7.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай групе афіцэраў, шпіянаж на карысць Японіі і антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.9.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**КАРКАШЫНАЎ Фёдар Федасеевіч*** [1891, в. Вялікая Беразіна Смаленскай губ., цяпер Руднянскі р-н Смаленскай вобл. — 14.10.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік сектара (аддзела) Смаленскага спіртатрэста. Арыштаваны 7.4.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 8.10.1938 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАРМАНСКІ Іосіф Андрэевіч*** [1893, в. Канстанцінава Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. У 1919 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. нам. кіраўніка трэста «Лендзяржторф», дырэктар Усесаюзнага інстытута механізацыі торфаздабычы. Арыштаваны 21.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Слуцкага, д. 5, кв. 11. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 3.11.1937 за «здраду радзіме» і «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАРМІН Міхаіл Сямёнавіч*** [27.7.1898, Хацін, цяпер Чарнавіцкая вобл., Украіна — ?], педагог. З сям'і службоўца. У 1919 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі «ВКСХШБ» (?). Быў жанаты, гадаваў чацвярых дзяцей. Арыштаваны 29.10.1935 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 148/19, кв. 72. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 31.3.1936 за «антысавецкую агітацыю і сувязь з трацкісцкай групай» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 22.2.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАРНІЦКІ Іван Сямёнавіч*** [1897, в. Танава, цяперашняе месцазнаходжанне не выяўлена — 4.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам. загадчыка Кастрычніцкага райхарчгандлю Масквы. Арыштаваны 15.9.1937 у Маскве па адрасе: Стары Пятроўска-Разумоўскі пр-д, д. 13, кв. 2. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.1.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны галоўнай ваеннай пракуратурай СССР 25.2.1991.

Кр.: *Расстрельные списки: Москва 1937—1941: «Коммунарка», Бутово*. М., 2000.

**КАРНЯЛЮК Аляксандр Аляксандравіч*** [1895, Гродзенская губ.,  — ?], аграном. З бел. сям'і. Атрымаў

вышэйшую адукацыю. Працаваў у Барадзінскім племсаўгасе Боградскага р-на Хакаскай вобл. Арыштаваны 29.7.1937. Асуджаны судом Краснаярскага краю 26.10.1937 за «шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Дата і месца смерці невядомы. Рэабілітаваны 13.1.1958.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Республики Хакасия*.

**КАРОЛЬ Канстанцін Паўлавіч*** [1891, в. Пад'яленкі (?) Мінскай губ., цяпер Мінская (?) вобл. — 7.4.1938, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту тэхнолаг Дзяржаўнага эксперыментальнага механічнага завода. Арыштаваны 21.11.1937 у Маскве па адрасе: вул. Садова-Земляны вал, д. 28, кв. 2. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 23.3.1938 за «контррэвалюцыйную агітацыю і абарону трацкістаў» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.10.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАРПЕКА Іван Адамавіч*** [1896, мяст. Беразіно Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — ?, ГУЛАГ], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту дырэктар Ільінскага лесазавода. Арыштаваны ў Ільінскім савеце Алонецкага р-на Карэла-Фінскай АССР. Асуджаны НКВД СССР 4.1.1938 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны

на ст. Мядзведжая гара (Сандармох). Дата смерці невядомая.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю. А. Дзмітрыева.*

**КАРПЕНКА Аляксей Іванавіч*** [3.1.1902, Тыфліс, цяпер Тбілісі, Грузія. — ?], скульптар. З сям'і рускага службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Саюзе мастакоў. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 31.10.1937 у Мінску па адрасе: зав. Грушаўскі, д. 8, кв. 5. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 3.8.1938 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з магаданскіх канцлагераў НКВД. Вызвалены 29.7.1944. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 10.10.1956. Асабовая справа К. № 7214-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРПЕНКА Іван Іванавіч*** [1905, мяст. Парычы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Светлагорскі р-н Гомельскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык лабараторыі Віцебскай ветэрынарнай станцыі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 26.6.1937 у Віцебску па адрасе: вул. 11-я Свярдлова, д. 19. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 29.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай групы» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 24.10.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАРПІЦКІ Міхаіл Аляксандравіч*** [11.1.1889, мястэчка Асавец Гродзенскай губ., цяпер Польшча — ?], вайсковец, музыкант. З сям'і службоўца. У 1929 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. камандзір музыкальнага ўзвода Віцебскага дома культуры авіятараў. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.7.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Гогалеўская, д. 27, кв. 7. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 за «шпіянаж і антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 5.4.1961. Асабовая справа К. № 10912-П з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАРСЕКА-ШПІЛЕЎСКАЯ Галіна Іосіфаўна*** [1915, Мінск — ?], медык. З сям'і бел. службоўца. Атрымала вышэйшую медыцынскую адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, працавала загадчыцай Любанскай бальніцы. Падчас арышту тэрапеўт 2-й Арзамаскай бальніцы Горкаўскай вобл. Арыштавана 24.10.1944 у Арзамасе па адрасе: Ваенны гарадок, д. 8. Асуджана пазасудовым органам 4.9.1945 як «член антысавецкай арганізацыі «Саюз барацьбы супраць бальшавізма» да 10 гадоў ППК. Этапавана ў Нарыльскі канцлагер НКВД Краснаярскага краю. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 17.7.1956. Асабовая справа К. № 6716-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАРЫЦКІ Уладзімір Іванавіч*** [1900, в. Тарасава Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 14.3.1938,

Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзела кіруючых партыйных кадраў Авіяцыі асобага прызначэння, палкавы камісар. Арыштаваны 5.12.1937 у Маскве па адрасе: Чапаеўскі зав., д. 14, кв. 15. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 14.3.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 11.6.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАСАРЭНКА Аўксенцій Максімавіч*** [1898, в. Падбярэззе Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — ?], архіварыус. З сялянскай сям'і. Падчас арышту працаваў на Віцебскай люстэркавай фабрыцы. Арыштаваны 19.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 як «член контррэвалюцыйнай групы» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 17.1.1959. Асабовая справа К. № 7879-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАСМАЛЬСКІ Пётр Антонавіч*** [1900, мяст. Краслаўка Дзвінскага пав. Віцебскай губ., цяпер Даўгаўпілскі р-н, Латвія — 1938, ?], артыст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у Беларускім тэатры оперы і балета.

Арыштаваны 17.3.1933 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 46, кв. 1. Асуджаны «тройкай» НКВД 11.5.1933 за «збор і перадачу звестак шпіёнскага характару» да 5 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Тэльманаўскім раёне (Казахская ССР). Другі раз асуджаны «тройкай» НКВД 11.2.1938 як «член контррэвалюцыйнай групіроўкі, якая існавала ў Тэльманаўскім раёне» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.11.1957. Асабовая справа К. № 11270-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАСМОВІЧ Анатоль Аляксандравіч*** [1905, в. Зарэчча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 9.7.1938, Мінск, НКВД], службовец. Падчас арышту эканаміст Інстытута прамысловасці БССР. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 25.3.1938. Асуджаны 28.5.1938 як «польскі агент» да ВМП. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 28.4.1989. Асабовая справа К. № 30095-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАСМОВІЧ Вера Сямёнаўна** [н. 1928, мяст. Гарадзея Нясвіжскі пав. Навагрудскага ваяводства, Польшча, цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.], вязень ГУЛАГу. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Пасля вайны ўзяла

шлюб з настаўнікам Яўгенам Касмовічам. Неўзабаве пасля шлюбу мужа арыштавалі (1949) па справе «Саюза змагання за незалежнасць Беларусі». Па гэтай справе 15.1.1949 арыштавалі і К. У мінскай турме, якую ў народзе называюць «валадарка» (па назве вуліцы, на якой яна знаходзіцца), у яе нарадзілася дачка Люся (з ёю на руках К. неяк стаяла на допыце перад Цанавам). Асуджана 31.5.1949 за «сувязь з антысавецкай арганізацыяй» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер Казахскай ССР. 22.10.1955 тэрмін пакарання быў зніжаны да 5 гадоў і К. вызвалілі. Вярнулася ў Беларусь. Рэабілітавана ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда БССР 24.8.1967. Жыве ў Гарадзеі на Нясвіжчыне. Асабовая справа К. № 19811-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Літ.: *Дземідовіч Н.* Век так ня будзе. Мн., 2002. С. 82, 104.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАСМОВІЧ Павел Васілевіч*** [1898, в. Зарэчча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 3.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукцыю. Падчас арышту інспектар інвентарызацыі зямель Наркамата земляробства. Арыштаваны 17.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлоўская, д. 64. Асуджаны «тройкай» НКВД 2.9.1937 за «контррэвалюцыйную трацкісцка-фашысцкую прапаганду, усхваленне тэрарыстычнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскага контррэвалюцыйнага цэнтра» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бу-

тава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.7.1958.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

**КАСПЯРОВІЧ Антон Іосіфавіч*** [1903, мяст. Ракаў Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — ?, Алма-Ата, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў галоўным бухгалтарам. Арыштаваны 20.1.1938 у Алма-Аце. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 20.2.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Туркестанскай ВА 12.6.1958.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАСТАГЛАЗАЎ Георгій Сямёнавіч*** [1899, в. Атражжа Чавускага пав. Магілёўскай губ., цяпер Чавускі р-н Магілёўскай вобл. — 1.8.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Апошняе месца работы — тэхнолаг асбацэментнага завода ў Сухім Логу Свярдлоўскай вобл. Арыштаваны 21.4.1937. 1.8.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАСТРАВІЦКІ Апалінары** [?, магчыма, у Лідскім пав. Віленскай губ. — ?], бел. шляхціц, удзельнік паўстання 1863—64 (нейкі землеўладальнік К. ўпамінаец-

ца ў паказаннях студэнта В. Пілецкага ў Вільні). Пасля паражэння паўстання яго маёнтак Дарашковічы пад Навагрудкам быў канфіскаваны. Ратуючыся ад рэпрэсіяў, К. разам з сям'ёй эміграваў у Італію. 26.8.1880 у Рыме ў яго нарадзіўся ўнук — Гіём Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінары Кастравіцкі, які ў гонар свайго дзеда абраў творчы псеўданім Гіём Апалінэр і стаў славутым авангардысцкім франц. паэтам, празаікам, драматургам, эсэістам, тэарэтыкам мастацтва.

Літ.: Великие писатели XX века. М., 2002.

**КАСТРОЎСКІ Васіль Герасімавіч*** [1904, в. Азяркі Таборынскага р-на Свярдлоўскай вобл., цяпер Расія — 9.12.1937, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса. Арыштаваны 11.10.1937 у в. Азяркі Таборынскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 13.11.1937 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КАСЦЮК Генадзь Адамавіч** [1922, в. Ждановічы Навагрудскага пав., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], удзельнік антысавецкага падполля. Падчас 2-й сусветнай вайны служыў сакратаром, затым рахункаводам валаснной управы ў Ждановічах. У 1943 уступіў у батальён БКА пад камандаваннем Б. Рагулі. Удзельнічаў у баях супраць савецкіх партызан. У 1944

перабраўся ў Германію, дзе быў залічаны салдатам у 30-ю нямецкую дывізію. Пасля яе расфарміравання накіраваны на будаўніцтва абарончых аб'ектаў на Рэйне. У снеж. 1944 служыў у званні фельдфебеля ў 13-м батальёне Вафэн-СС, што дыслакаваўся на тэрыторыі Польшчы. У студз.—сак. 1945 браў удзел у баях супраць савецкіх войск. Пасля капітуляцыі Германіі да 1948 знаходзіўся ў лагеры для перамешчаных асобаў на тэрыторыі Даніі. У 1948 выехаў у Францыю, дзе ўступіў ў Беларускую Незалежную Арганізацыю Моладзі (БНАМ), створаную *Я. Філістовічам*, быў сакратаром Парыжскага аддзела арганізацыі. У лют. 1952 пры садзейнічанні Б. Рагулі залічаны ў амерыканскую Каўфбейрэнскую разведшколу пад псеўданімам «Бэн». Разам з *М. Арцюшэўскім* жыў у Міндэльсгайме, адкуль на заняткі дастаўляўся на легкавым аўтамабіле. 27.8.1952 закінуты ў Налібокскую пушчу (в. Кляцішча Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.). Атрымаў заданне збіраць звесткі аб паліт. становішчы ў БССР, адносінах сялян да калектывізацыі. Меў пісьмовыя паўнамоцтвы прэзідэнта Рады БНР М. Абрамчыка па наладжванні сувязей з антысавецкім падполлем на тэрыторыі Беларусі. Накіраваўся ў родную вёску да бацькоў. Затрыманы органамі МДБ БССР 10.9.1952 у запланаваным месцы сустрэчы групы. На судовым працэсе 10—14.11.1955 трыбуналам БВА асуджаны да 25 гадоў пазбаўлення волі. У 1997 пракуратура Рэспублікі Беларусь перагледзела справу і прызнала, што К. не падлягае рэабілітацыі.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Валаханович И. А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг. Мн., 2002.

**КАСЦЮКОВІЧ Раман Мікітавіч*** [22.7.1905, в. Унтальянка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — ?], чыноўнік. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Падчас арышту начальнік групы аховы здароўя Дзяржплана БССР. Арыштаваны 23.4.1938 у Мінску па адрасе: пл. Свабоды, д. 5, кв. 4. Асуджаны «тройкай» НКВД 15.10.1938 як «польскі шпіён з 1935 г.» і «шкоднік, які перадаваў ворагам звесткі пра эканоміку БССР» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалены 11.2.1948. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 5.1.1955. Асабовая справа К. № 4241-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КАСЦЮЧЫК Анатоль Герасімавіч*** [1930, в. Радзевічы Брэсцкага пав. Палескага ваяв., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, вучыўся ў Калінкавіцкай няпоўнай СШ Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. Арыштаваны 14.3.1944 (?). Месца арышту невядома. Асуджаны пазасудовым органам 20.5.1946 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны прэзідыумам Брэсцкага абл. суда 23.5.1990. Асабовая справа К. № 10387-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАСЦЮШКА Тадэвуш (Андрэй Тадэвуш Банавентура)** [1746 (ахрышчаны 12.2.1746), фальварак Мерачоўшчына (паводле іншых крыніц — Сяхновічы) Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 15.10.1817, Салюр, Швейцарыя], дзяржаўны і ваенны дзеяч. З шляхецкага роду гербу «Рох III». У 1755—60 вучыўся ў Любяшоўскім піярскім калегіуме, у 1765—69 у Рыцарскай школе (Кадэцкі корпус) у Варшаве, якую скончыў на выдатна. У 1769 у чыне капітана накіраваны ў Парыж для вывучэння артылерыі, архітэктуры і фартыфікацыі, слухач Акадэміі жывапісу і скульптуры. Вярнуўся на радзіму ў 1774, у 1775 зноў выехаў у Парыж, а ў 1776 у Паўн. Амерыку, дзе ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. Залічаны ў амерыканскую армію ў званні палкоўніка, кіраваў стварэннем фартыфікацыйных збудаванняў. 13.10.1783 Кангрэс ЗША надаў К. званне брыгаднага генерала, амерыканскае грамадзянства і пажыццёвую пенсію. Вярнуўся на радзіму ў 1784. 12.10.1789 прызначаны генерал-маёрам войска Рэчы Паспалітай. У 1792 вызначыўся ў вайне з Расіяй, 3.8.1792 узнагароджаны ордэнам «Віртуці Мілітары» і атрымаў чын генерал-лейтэнанта. У знак пратэсту супраць змовы караля з Таргавіцкай канфедэрацыяй падаў у адстаўку, падаўся ў эміграцыю (Лейпцыг, Парыж). 24.4.1794 на Кракаўскім рынку даў прысягу на вернасць паўстанню і абвясціў, што будзе змагацца за непарушнасць межаў дзяржавы. Стаў найвышэйшым начальнікам узброеных сіл. 7.5.1794 выдаў Паланецкі ўніверсал, якім абвяшчалася асабістая свабода сялян. У чэрв.—вер. 1794 узначальваў абарону Варшавы ад прускіх і расійскіх войск. 10.10.1794 у бітве пад Мацяё-

віцамі паранены трапіў у палон. Тайна (пад прозвішчам «шляхціц Шыманскі») дастаўлены ў Пецярбург і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Пасля смерці Кацярыны II імператар Павел I наведаў К. ў крэпасці і амніставаў яго і іншых удзельнікаў паўстання. Адмовіўшыся ад прапаноў пайсці на расійскую службу, К. ў канцы 1796 выехаў у ЗША. У 1798 пераехаў у Францыю. Ухіліўся ад цеснага супрацоўніцтва з Напалеонам. Летам 1815 пераехаў у Салюр. Пасля смерці яго забальзамаванае цела перапахавана ў Кракаве на Вавелі. У Беларусі імем К. названы вуліцы ў Гродне, Брэсце, Косаве, устаноўлены мемарыяльныя знакі ў Гродне і Косаве.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Korzon T.* Kościuszko: Biografia z dokumentów wysnuta. Kraków, 1894; *Koneczny F.* Tadeusz Kościuszko: Życie, czyny, duch. 2 wyd. Poznań, 1922; *Szyndler B.* Tadeusz Kościuszko, 1746–1817. Warszawa, 1991; *Юхо Л., Емяльянчык У.* «Нарадзіўся я ліцьвінам…». Мн., 1994; *PSB*; *ЭГБ*, т. 4; *БЭ*, т. 8.

**КАСЦЮШЭЎСКІ (ВАЙНІЛОВІЧ) Уладзіслаў Казіміравіч*** [1906, Радам, цяпер Польшча — ?], літаратар. З шляхецкай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У 1927 прыбыў з Польшчы як палітэмігрант. Да 1933 член ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 4.11.1935 у Мінску па адрасе: зав. 1-ы Свярдлоўскі, д. 12. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 31.3.1936 як «падазроны ў шпіёнскай дзейнасці» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР (пас. Чыб'я, цяпер Ухта). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА

16.10.1956. Асабовая справа К. № 7233-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАТКОВІЧ Анэля** [19.6.1914, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 8.10.1982, Вроцлаў, Польшча], бел. грамадская дзеячка, гісторык. Скончыла Віленскую беларускую гімназію (1934), гістарычны ф-т Віленскага ун-та (1939). Прымала актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе ў Вільні, спявала ў хоры *Р. Шырмы*. У 1935—36 рэдагавала дзіцячы часопіс «Пралескі». У 1939—41 настаўнічала ў Будславе. Падчас нямецкай акупацыі працавала перакладчыцай у Мінскай гарадской управе. Летам 1944 выехала на Захад. З 1945 у Польскай вайсковай місіі ў Берліне. У 1949 адазвана ў Польшчу, дзе арыштавана і асуджана да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Пасля вызвалення выехала ў Польшчу, жыла ў Варшаве, працавала перакладчыцай у Міністэрстве замежных спраў ПНР. Была сябрам Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

Тв.: *Катковіч А., Катковіч-Клентак В.* Успаміны. Беласток, 1999.

Літ.: *Юрэвіч Л.* Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі. Мн., 2001.

**КАТЛУБАЙ Міхаіл Людвігавіч*** [1889, в. Гарадзішча (?) Мінскай губ., цяпер Мінская вобл. — ?], вайсковец. З бел. сям'і. Арыштаваны «за службу ў белай арміі» 21.4.1920 у Омску. 15.1.1921 Омскай губернскай

надзвычайнай камісіяй справа была спынена. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 13.10.1999.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

**КАТОВІЧ Анастасія Іванаўна*** [1913, Віцебск — ?], краўчыха. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дзіця. Арыштавана 15.1.1938 у Віцебску па адрасе: вул. Ленінская, д. 3/2, кв. 42. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 16.5.1938 як «член сям'і здрадніка радзімы» да 3 (?) гадоў папраўча-працоўных канцлагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракурорам Віцебскай вобл. 29.5.1992. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАЎГАНКІН Васіль Георгіевіч*** [1895, в. Лосвіда Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 21.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер 3-га цэха 103-га завода. Арыштаваны 25.8.1937 у Ленінградзе па адрасе: пл. Астроўскага, д. 9, кв. 39. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 15.11.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАХЕЛЬНІК Пётр Макеевіч*** [1883, Стары Быхаў Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Быхаў Магі-

лёўскай вобл. — ?], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Падчас арышту супрацоўнік Быхаўскага аддзялення сувязі. Арыштаваны 23.11.1937. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 14.12.1937 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 29.10.1957. Асабовая справа К. № 4086 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КАХНОВІЧ Уладзімір Аляксандравіч*** [1902, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік будаўнічага сектара (аддзела) Ураллесцяжа. Арыштаваны 9.6.1937 у Свярдлоўску. Асуджаны 5.8.1937 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область*.

**КАЦ Міхаіл Абелевіч*** [1907, Магілёў — ?], службовец. З мяшчанскай сям'і. Атрымаў сярэднюю або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў загадчыкам аддзела Магілёўскага прамысловага саюза. Быў жанаты, гадаваў пяцярых дзяцей. Арыштаваны 3.4.1931. Абвінавачваўся як «удзельнік контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі «Цэнтр Вызвалення». 26.6.1931 пастановай Магілёўскага аператыўнага аддзела АДПУ вызвалены і рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 6023 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КАЦЕШЧАНКАЎ Павел Васілевіч*** [1895, мяст. Лейцы (?) Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1932—35 член ВКП(б). У 1930-я г. начальнік ст. Хоўрына Кастрычніцкай чыгункі, начальнік ст. Іванава-Сартавальная той жа чыгункі. Арыштаваны 12.9.1937 на рабоце. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.12.1937 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**КАЧАНАЎ Герасім Артамонавіч*** [1907, в. Бараўцы Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл. — 31.10.1937, Мінск, НКВД], навуковец. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута, член ВКП(б). Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 10.5.1937 у Віцебску па адрасе: пл. Леніна, д. 3, кв. 9. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай тэрарыстычнай шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЧКОЎ (КАЧКО) Даніла Нічыпаравіч*** [1894, в. Качкі Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 28.9.1937,

Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер «УШАСДАРа» Ленінградскай вобл. Арыштаваны 5.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 23.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЧУРА Уладзімір Восіпавіч*** [1898, в. Заполле Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 12.10.1938, Курган, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік аддзела Курганскага гарбарнага завода. Арыштаваны 9.7.1938. Асуджаны «тройкай» НКВД 5.10.1938 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Уральскай ВА 20.11.1956.

Кр.: *Осуждены по 58-й... Книга памяти жертв политических репрессий Курганской области*. Курган: Зауралье, 2002. Т. 1.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КАЧЫНСКІ Мікалай Іосіфавіч*** [1896, Віцебск — 18.1.1938, Віцебск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Віцебскага педагагічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 1.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 13.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.3.1958. Асабовая справа К. № 7046-П захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КАШАЛЮК Валянціна Сямёнаўна*** [1928, Мінск — ?], навучэнка. З сям'і службоўца. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 8.9.1944 у Мінску па адрасе: вул. Навамясніцкая, д. 3, кв. 5. Асуджана 30.12.1944 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» і за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалена 4.12.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 11.5.1960. Асабовая справа К. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КАШЭЎСКІ (АГРАДЗІНСКІ) Андрэй Станіслававіч*** [1894, в. Вільча Воля Радамскай губ., цяпер Польшча — 27.12.1937, Мінск, НКВД], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 4.8.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 36/29, кв. 1. У сувязі з арыштам выключаны (8.8.1937) з ВКП(б). Асуджаны «тройкай» НКВД 17.12.1937 як «агент польскай разведкі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.4.1967. Асабовая справа К. № 19720-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КВАКТУН Мар'яся Хацкелеўна*** [1918, Віцебск — ?], эканаміст. З яўрэйскай сям'і. Працавала на базе «Галоўшвейзбыту». У пачатку 1950-х г. у лістах да сваякоў і сярод знаёмых неаднаразова выказвала незада-

воленасць умовамі жыцця ў СССР, крытыкавала палітычнае і прававое становішча яўрэяў. Арыштавана 4.3.1953 ў Віцебску па адрасе: вул. Праўды, д. 3, кв. 24. Асуджана пазасудовым органам 9.5.1953 за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў канцлагераў (скарочаны да 5 гадоў). Вызвалена ў 1954. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 3.9.1965. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 13176-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр.: *ДА РФ*. Ф. 8131, воп. 31, спр. 38574.

Літ.: *58[10]*, с. 99—100.

**КВАПІНСКІ *Людгер Кандратавіч*** * [19.2.1901, Кельцы, цяпер Польшча — 1.2.1938, ?], работнік культуры. З сям'і рабочага. Атрымаў вышэйшую або незакончаную вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык сектара ва Упраўленні па справах мастацтва пры СНК БССР, член ВКП(б). Арыштаваны 30.8.1936. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 17.12.1936 як «член контррэвалюцыйнай групоўкі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 7 гадоў папраўча-працоўных работ і 3 гадоў пазбаўлення правоў. Этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. Другі раз асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 8.1.1938 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 12.9.1956. Асабовая справа К. № 17387-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КЕЛЕР Іосіф Вікенцевіч** [1905, Велічка каля Кракава, Польшча — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Атры-

маў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Да арышту музыкант Гродзенскага абласнога тэатра. Арыштаваны 11.1.1945. Абвінавачваўся ў «антысавецкай агітацыі». Вызвалены 26.7.1946. Рэабілітаваны. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № П-969 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

**КЕЛЬНЕР Арсень Уладзіміравіч** [1902, мяст. Лебедзева Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 6.3.1930, Масква, НКВД], навучэнец. У 1926 уступіў у ВКП(б). Падчас арышту студэнт Маскоўскага камуністычнага ун-та. Арыштаваны 14.8.1929 у Маскве па адрасе: Старасадскі зав., д. 9, кв. 170. Асуджаны калегіяй АДПУ 3.3.1930 за «шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Ваганькаўскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 31.1.1961.

Кр.: *Расстрельные списки: Ваганьковское кладбище.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КЕНДЫСЬ Іван Васільевіч** [1878, Брэсцкі пав. Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкі (?) р-н — ?], справавод, вайсковец. З бел. сям'і. Падчас грамадзянскай вайны служыў справаводам у арміі Калчака. Арыштаваны 5.2.1920. Асуджаны Омскай губернскай надзвычайнай камісіяй 30.4.1920 за «службу ў белай арміі» да зняволення ў канцлагеры. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 2.3.1993.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**КЕНДЫШ Іван Пракоф'евіч*** [1898, в. Цыцкавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — 9.5.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], медык. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык туберкулёзнага пункта ў Какчэтаве Казахскай ССР. Арыштаваны 26.8.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Андроньеўская, д. 21, кв. 48. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.5.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 3.3.1960.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КЕНДЗЕРСКІ Мікалай Васілевіч*** [1905, в. Малеш Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 1.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. Падчас арышту інжынер аддзела збыту завода імя Леніна. Арыштаваны 15.10.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. Савецкі, д. 36, кв. 34а. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.10.1937 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**КЕНІГ Альфрэд Юльянавіч*** [1887, Канстанцінаў Пятроўскай губ., цяпер Польшча (?) — 22.11.1937, Мінск, НКВД], службовец, педагог. З сям'і рабочага. У 1930-я г. дырэктар Мінскага тарфянога тэхнікума, член ВКП(б). Арыштаваны 13.10.1937 у Мінску па адрасе: вул. Беларуская, д. 4, кв. 10. Асуджаны «тройкай» НКВД 17.11.1937

як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 1.10.1957. Асабовая справа К. (адноўленая) № 10948-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КЕРНАЖЫЦКАЯ Марыя Міхайлаўна*** [1902, Мінск — ?], педагог, верагодна, жонка Канстанціна *Кернажыцкага*. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала настаўніцай у Мінскай СШ № 23. Выйшла замуж, мела дваіх дзяцей. Арыштавана 3.1.1945 у Мінску па адрасе: Лагойскі тракт, д. 62, кв. 1. Асуджана 1.9.1945 асобай нарадай пры НКДБ за «антысавецкую дзейнасць» да 10 месяцаў папраўча-працоўных работ. Этапавана ва Унжэнскі канцлагер Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Вызвалена 18.3.1946. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пракуратурай Мінскай вобл. 27.12.1989. Асабовая справа К. № 28858-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІВІ Эрнст Янавіч*** [16.3.1906, Пецярбург, цяпер Санкт-Пецярбург, Расія — ?], педагог. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту выкладчык МВПІ. Арыштаваны 6.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Свярдлова, д. 4, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «агент германскай разведкі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з магаданскіх канцлагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 31.5.1989. Асабовая справа К. № 25671-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІЕНЯ Макар Аляксандравіч*** [1899, в. Домантавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 19.4.1939, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. начальнік Мостатрэста народнага камісарыята шляхоў зносін СССР. Арыштаваны 3.1.1938 у Маскве па адрасе: вул. Спірыдонаўка, д. 18, кв. 13. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.4.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 9.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў; Назвы населеных пунктаў.*

**КІЛЮКОЎ (КІЛЮК) Рыгор Якаўлевіч*** [1894, в. Снітава Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту юрысконсульт Усхлестэхснаба. Арыштаваны 2.2.1936 у Свярдлоўску. Асуджаны 15.4.1936 да 3 гадоў пазбаўлення волі. Сасланы ў Омскую вобл. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КІМ Сяргей Фёдаравіч*** [3.2.1904, в. Сінельнікава Пакроўскага (?) пав. Далёкаўсходняга краю, цяпер Расія — 7.3.1938, Мінск, НКВД], музыкант, муж Надзеі

*Радчанка*. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Апошняе месца работы — дырыжор аркестра народных інструментаў Мінскага дома культуры авіятараў. Арыштаваны 10.6.1937 у Мінску па адрасе: Сувязны зав., д. 8/10, кв. 7. Асуджаны «тройкай» НКВД 21.1.1938 як «японскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 14.11.1957. Асабовая справа К. № 11445-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІПНІС Г. Я.*** [? — ?], пенсіянер, удзельнік яўрэйскага нацыянальнага руху. Жыхар Мінска. Удзельнік 2-й сусветнай вайны. Захоўваў пісталет «ТТ» з патронамі. Разам з Я. *Давыдовічам* распаўсюджваў літаратуру і лісты пра становішча яўрэяў у СССР. Прэзідыум Вярхоўнага савета БССР указам ад 22.5.1973, улічваючы ўдзел у вайне, заслугі ў працоўнай дзейнасці, узнагароджанне баявымі ордэнамі і медалямі СССР, прымаючы да ўвагі стары ўзрост і слабы стан здароўя, вызваліў К. ад крымінальнай адказнасці.

Літ.: *58*[10], с. 750.

**КІПРЫЯНЕЦ Карп Іванавіч*** [1890, мяст. Талачын Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 13.1.1938, ГУЛАГ], навуковец. З сялянскай сям'і. У 1919—20 ваяваў у складзе Чырвонай арміі. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту навуковы супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 25.1.1931 у Мінску па адрасе: вул. Могільнікавая, д. 13, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР

30.5.1931 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі «Працоўная сялянская партыя» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Сібірскі канцлагер (Новасібірск). Другі раз асуджаны «тройкай» НКВД 25.12.1937 да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 22.4.1958. Асабовая справа К. № 11847-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КІРЫЛЕНКА Сяргей Ермалаевіч*** [1903, в. Баршчоўка Гомельскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Добрушскі р-н Гомельскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса. Арыштаваны за «шкодніцкую дзейнасць» 15.9.1937 у в. Еўсюкова Ісількульскага р-на Омскай вобл. 4.11.1937 вызвалены Омскім абл. судом з улікам тэрміну папярэдняга зняволення. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КІРЧУК Фёдар Рыгоравіч*** [1891, в. Тулава Гродзенскай губ., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту садоўнік-агароднік. Арыштаваны 23.2.1938 у саўгасе «Лясны» Ісількульскага р-на Омскай вобл. Асуджаны «тройкай» НКВД 16.10.1938 за «шпіянаж і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Сібірскай ВА 10.3.1959.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КІРШТЭЙН Якаў Ісаевіч*** [1900, Кутнава, Варшаўскай губ., цяпер Польшча — 15.12.1937, Мінск, НКВД], журналіст. З сям'і службоўца. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. загадчык аддзела мінскай польскай газ. «Orka». Арыштаваны 4.8.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 28.11.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 1.11.1957. Асабовая справа К. № 11039-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КІСЛЮК Людвіг Зянонавіч*** [20.10.1918, в. Залессе, цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], навучэнец, брат Станіслава *Кіслюка*. З сям'і службоўца. Падчас арышту вучань настаўніцкага ліцэя ў Кобрыне. Арыштаваны 15.3.1940 у Кобрыне па адрасе: вул. 1-га Мая, д. 121. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1940 як «член антысавецкай групіроўкі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Самарскі канцлагер НКВД Куйбышаўскай вобл. Вызвалены ў 1941 (хутчэй за ўсё, з Безымянскага канцлагера НКВД Куйбышаўскай чыгункі). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 12.4.1989. Асабовая справа К. № 7564-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КІСЛЮК Станіслаў Зянонавіч*** [17.5.1912, Кобрын Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкая вобл. — ?], музыкант, брат Людвіга *Кіслюка*. З сям'і службоўца. Працаваў у кобрынскім кінатэатры. Арыштаваны 15.3.1940 у Кобрыне па адрасе: вул. 1-га Мая, д. 121. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1940 як «член антысавецкай групіроўкі» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Самарскі канцлагер НКВД Куйбышаўскай вобл. Вызвалены ў 1941 (хутчэй за ўсё, з Безымянскага канцлагера НКВД Куйбышаўскай чыгункі). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 12.4.1989. Асабовая справа К. № 7564-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**КІСЯЛЁЎ Мікалай Сцяпанавіч*** [1887, Самара, Расія — ?], службовец. З бел. сям'і. Працаваў інжынерам. Арыштаваны 15.4.1938 у Куйбышаве. Асуджаны Куйбышаўскім лінейным судом чыгунак 28.8.1938 за «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны паводле Закона ад 18.10.1991.

Кр.: *Белая книга*.

**КІСЯЛЁЎ Платон Фёдаравіч*** [1901, хут. Баранянскі (?) Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік раённага дарожнага аддзела. Арыштаваны 10.10.1937 у в. Табары Таборынскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 5.4.1938 да

10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КЛАУС Мікалай Парфір'евіч*** [1906, Клімавічы Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — ?], музыкант. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны знаходзіўся на акупаванай тэрыторыі. Пасля вайны канцэртмайстар Мінскай рэспубліканскай філармоніі. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 27.6.1948 у Мінску па адрасе: вул. Рэспубліканская, д. 16, кв. 9. Асуджаны 18.10.1948 за тое, што «падчас акупацыі ўцёк з немцамі і выступаў у Еўрапейскай артыстычнай службе» да 25 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны, хутчэй за ўсё, у Мінеральны канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 7.9.1956. Рэабілітаваны пленумам Вярхоўнага суда БССР 19.4.1967. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 19780-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КЛАЎСУЦЬ Іван Іванавіч*** [1901, в. Антанова Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 8.12.1937, Свярдлоўск, НКВД], студэнт. Падчас арышту студэнт Уральскага індустрыяльнага інстытута. Арыштаваны 28.9.1937 у Свярдлоўску ў Втузгарадку. 27.11.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КЛІМ Канстанцін Пятровіч*** [1900, в. Шані Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 4.12.1937, Масква, НКВД], студэнт. З бел. сялянскай сям'і. Падчас арышту студэнт 5 курса «МІІТа» (?). Арыштаваны 4.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Пятроўскія лініі, д. 2, кв. 331. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 27.11.1937 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны 15.9.1989.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КЛІМОВІЧ Аляксандр Канстанцінавіч*** [1899, в. Дабрынёва Мінскай губ., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 14.4.1939, Масква, «Камунарка», НКВД], супрацоўнік НКВД. З сям'і бел. рабочага. Атрымаў пачатковую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту начальнік аддзялення Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі пры НКВД СССР. Арыштаваны 28.3.1938 у Маскве па адрасе: Пушкароў зав., д. 8, кв. 50. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.4.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай шпіёнска-тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 25.6.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: Москва 1937—1941: «Коммунарка», Бутово*. М., 2000.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КЛІМОВІЧ Вінцэсь** [каля 1830, в. Паланэчка Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н

Брэсцкай вобл. — ?], музыкант, педагог. З сялянскай сям'і. Служыў валасным пісарам. Сябраваў з паэтам В. Каратынскім, напісаў музыку да яго элегіі «Туга на чужой старане». Далучыўся да навагрудскай арганізацыі паўстанцаў 1863. Арыштаваны на ранняй стадыі паўстання — у сак. 1863, зняволены ў мінскай турме, затым сасланы ў Іркуцк.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: *Кісялёў Г.* Вінцэсь Клімовіч з вёскі Перасека… // *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.* 1971. № 1; *Кісялёў Г.* Героі і музы. Мн., 1984. С. 142—150; *Кісялёў Г.В.* Ад Чачота да Багушэвіча. Мн., 1993. С.299—300; *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва. Мн.,1994. С. 44; *БелЭн,* т. 8.

**КЛЮЧНІКАЎ Андрэй Міхайлавіч*** [1898, в. Пляшчаны (?) Віленскай губ., цяперашняе месцазнаходжанне не ўстаноўлена — 10.12.1937, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец (?). З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Член ВКП(б) да жн. 1937, калі быў звольнены з работы. Арыштаваны 15.10.1937 у Маскве па адрасе: вул. Валачаеўская, д.1/2, кв. 77. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.12.1937 за «шпіянаж і тэрарыстычную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 23.5.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**КЛЯНІЦКАЯ Тамара Дзмітрыеўна*** [1889, Тыфліс, цяпер Тбілісі, Грузія — 4.1.1938, Віцебск (?), НКВД], хатняя гаспадыня, верагодна, жонка Віктара *Кляніцкага.* З сям'і вайскоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. Арыштавана 11.11.1937 у Віцебску. Асуджа-

на пазасудовым органам НКВД 14.12.1937 як «член ПАВ» да ВМП. Расстраляна. Рэабілітавана трыбуналам БВА 19.3.1959. Асабовая справа К. № 7985-п захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КЛЯНІЦКІ Віктар Сямёнавіч*** [1879, в. Урочышча-Кудашаўка (?) Мінскай губ., цяпер Мінская (?) вобл. — 31.10.1937, Мінск, НКВД], педагог, верагодна, муж Тамары *Кляніцкай*. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. загадчык кафедраў Віцебскага ветэрынарна-заалагічнага інстытута і Віцебскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 20.6.1937 у Віцебску па адрасе: вул. Урыцкага, д. 9, кв. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 30.10.1937 за «дзейнасць у складзе антысавецкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 29.10.1957. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КЛЯПАЦКІ Баляслаў Іванавіч*** [1906, Полацк Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Падчас арышту студэнт 2 курса Омскага медыцынскага інстытута. Арыштаваны 13.5.1935. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 1.9.1936 за «шпіянаж» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 16.7.1990.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

**КЛЯРО Франц Вікенцевіч*** [1895, Віцебск — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік баявой падрыхтоўкі Петраградскага раённага савета Асаавіяхіма. Арыштаваны 28.10.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

**КЛЯЎКО Яфім Іванавіч*** [1891, в. Вугалец Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н, Мінскай вобл. — ?], інжынер-геолаг. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў у Беларускім дзяржаўным праектным інстытуце. У час вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 21.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Пуліхава, д. 24, кв. 1. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 30.6.1945 як «памагаты нямецкіх акупантаў» і за «антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Унжэнскі канцлагер НКВД Горкаўскай чыгункі (ст. Сухабязводная). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР 20.4.1955. Асабовая справа К. № 5943-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КНОПІНСКІ Канстанцін Іосіфавіч*** [1890, мяст. Гародзькі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 13.2.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту

нам. начальніка прамтаварнай групы Цэнтрасаюза. Арыштаваны 30.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Марасейка, д. 7, кв. 2. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.2.1938 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 15.12.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОБРЫН Антон Міхайлавіч*** [1893, в. Падлессе Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Вялікае Падлессе Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. — 15.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык пякарняў трэста буфетаў і вагонаў-рэстаранаў Кіраўскай чыгункі. Арыштаваны 25.8.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КОЗЕЛ-ПАКЛЕЎСКІ Уладзіслаў Іванавіч*** [1866, фальв. Аўласы Нова-Пагосцкая вол. Дзісненскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Аўласенкі Міёрскага р-на Віцебскай вобл. — ?], памешчык, сын Яна (Івана) *Козел-Паклеўскага.* Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 8.4.1940 у фальв. Янопаль (цяпер Віцебская вобл.). Асуджаны 29.11.1940 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў адзін з канцлагераў Краснаярскага краю. Вызва-

лены у вер. 1941. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Віцебскай вобл. 15.11.1989. Асабовая справа К.-П № 17068-П з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КОЗЫР Іван Пракопавіч*** [1902, в. Вулька Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 29.3.1938, Свярдлоўск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту начальнік ст. Турынск. Арыштаваны 25.1.1938 на ст. Беразіт Ягоршынскага р-на Свярдлоўскай вобл. Асуджаны 14.3.1938 да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий. Свердловская область.*

**КОЛПІКАЎ Мікалай Васілевіч*** [1888, в. Мачын Саратаўскай губ., цяпер Расія — ?], навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту прафесар кафедры агульнай паталогіі БДУ. Арыштаваны 30.12.1930 у Мінску па адрасе: зав. Круглы, д. 9, кв. 1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 29.1.1932 як «член контррэвалюцыйнай шкодніцкай арганізацыі ў сістэме Наркамздрава БССР» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў з канфіскацыяй маёмасці. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа К. № 6736-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОНАН Мікалай Уладзіміравіч** [26.10.1929, мяст. Лужкі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл. — ?], педагог. З сям'і вясковага настаўніка. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, вучыўся у Лужкоўскай няпоўнай СШ, дырэктарам якой быў ягоны бацька, Глыбоцкай гімназіі (з вер. 1943), уступіў у СБМ. Пасля закрыцця гімназіі (лета 1944) паступіў у Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. У час вучобы па просьбе аднакурсніка В. *Мядзельца* надрукаваў на машынцы тэкст прысягі, якую прымалі тыя, хто уступаў у Саюз беларускіх патрыётаў, нелегальнае маладзёжнае згуртаванне, арганізаванае М.*Асіненкам, В. Мядзельцам,* А. *Фурсам* і некаторымі іншымі навучэнцамі вучылішча. Пасля заканчэння вучобы працаваў настаўнікам у Залескай няпоўнай СШ Глыбоцкага р-на Полацкай вобл. Адначасова паступіў на завочнае аддзяленне МВПІ. Арыштаваны 29.4.1948 у в. Залессе. Асуджаны 15.7.1948 да 10 гадоў папраўча-працоўных работ з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў Нарыльскі канцлагер МДБ Краснаярскага краю. Улетку 1953 удзельнічаў у паўстанні вязняў канцлагера. Вызвалены ў вер. 1954. Вярнуўся дадому. Скончыў курсы шафёраў, працаваў у калгасе пад Лужкамі. Калі «набрыдла бачыць на сабе скосыя позіркі розных мясцовых чынкоў і актывістаў», выехаў у Інту Комі АССР, працаваў на шахце. Паступіў на завочнае аддзяленне Маскоўскага інстытута нафты імя Губкіна, праз тры гады перавёўся ў Ленінградскі горны інстытут, пасля заканчэння якога працаваў горным майстрам. Пасля выхаду на пенсію вярнуўся дадому ў Лужкі. Рэабілітаваны Віцебскім абл. судом 5.2.1990. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

Літ.: Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. Мн., 1997.

**КОНВА Станіслаў Андрэевіч*** [1915, ? — 7.2.1938, Смаленск, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Падчас арышту курсант палкавой школы 29-й стралковай дывізіі. Арыштаваны 9.11.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 13.12.1937 за «шпіянаж» і «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**КОПКА Вікенцій (Вінцас) Юльянавіч*** [крас. 1892, в. Міхнюны Трокскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва — 27.11.1938, Мінск, НКВД], журналіст. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту супрацоўнік мінскай літоўскай газ. «Раудонасіс артояс» («Чырвоны араты»). Быў жанаты, гадаваў траіх дзяцей. Арыштаваны 24.8.1937 у Мінску. Выключаны з партыі. Асуджаны «тройкай» НКВД 12.11.1938 за «шпіянаж на карысць Літвы і за контррэвалюцыйную шпіёнскую, шкодніцкую работу» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда Літоўскай ССР 16.12.1959. Асабовая справа К. № 16295-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОРБУТ Аляксандр Андрэевіч*** [1907, в. Засмужжа Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — 28.9.1937, Ленінград, НКВД], навучэнец. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту слу-

хач Артылерыйскай акадэміі Чырвонай арміі. Арыштаваны 3.9.1937 у Ленінградзе. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 9.9.1937 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОРСАК Станіслаў Ксавер'евіч*** [1883, в. Колтава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 27.11.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту загадчык бюро агульнага машынабудавання Кіраўскага завода. Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: пр. 25-а Кастрычніка, д. 148, кв. 79. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.11.1937 за «контррэвалюцыйную шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КОРШУН Ірына Васілеўна*** [4.12.1912, Мінск — ?], медык, жонка Мікалая *Дзеніскевіча*. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Падчас арышту ўрач Лёзненскай бальніцы (кансультацыі). Арыштавана разам з мужам 26.7.1937 на дачы ЦК КП(б)Б «Гарадзішча». Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «член сям'і здрадніка радзімы, прыгаворанага да ВМП» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР (Акмолінск), затым у Салікамскі інвалідны лагер НКВД Молатаўскай (цяпер

Пермскай) вобл. Вызвалена 26.7.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 10.12.1955. Асабовая справа К. № 6301-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КОСАЎСКІ Ісэр Мендэлевіч*** [1902, Астрашыцкі гарадок Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — ?], журналіст. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. рэдактар раённай газ. «Сацыялістычны шлях». Арыштаваны 3.10.1938 у Крычаве. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 5.8.1939 як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.12.1956. Асабовая справа К. № 2260-СН захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОСІК Іван Сяргеевіч*** [1926, хут. Слаўкі Кобрынскага пав. Палескага ваяв., цяпер Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл. — ?], службовец. З сялянскай сям'і. Падчас арышту паштальён Кобрынскай канторы сувязі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 25.11.1950 у Слаўках. Асуджаны 17.3.1951 як «член банды АУН» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Мінеральны канцлагер МДБ Комі АССР (р-н Інты). Вызвалены 12.7.1956. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 3.7.1956. Асабовая справа К. № 1983-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**КОСТКА Марыя Несцераўна*** [1917, Бабруйск Магілёўскай вобл. — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Працавала ў Бабруйскім драматычным тэатры. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 22.5.1944 (?) за «сувязь з нямецкімі разведорганамі». Месца арышту невядома. 23.10.1944 пастановай чацвёртага аддзела следчай часці НКДБ БССР вызвалена і рэабілітавана. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 6094 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КОТ Антон Сцяпанавіч*** [1908, в. Хінолаўка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. аспірант навукова-даследчага інстытута Беларускага трактарнага цэнтра. Арыштаваны 14.2.1933 у Мінску па адрасе: вул. Палеская, д. 22, кв. 2. Асуджаны «тройкай» НКВД 8.5.1933 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 16.7.1958. Асабовая справа К. № 11070-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОТ Дзмітрый Якаўлевіч*** [1897, в. Малыя Прусы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 9.10.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту нам начальніка 16-а Галоўнага ўпраўлення «НКОП» (?) СССР. Арышта-

ваны 1.7.1937 у Маскве па адрасе: Лявонцьеўскі зав., д. 12. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 9.10.1937 за «ўдзел у антысавецкай шкодніцка-дыверсійнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 16.6.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОТАЎ Аляксей Гаўрылавіч** [1914, в. Цывіншчына Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 10.12.1937, Ленінград, НКВД], службовец, журналіст (?). Падчас арышту тэхнічны рэдактар заводскай газ. «За советский алюминий». Арыштаваны 31.8.1937 у г. Волхаўстрой Ленінградскай вобл. па адрасе: Старыя Дубавікі, д. 38. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 2.12.1937 за «антысавецкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КОЎЗУС Міхаіл Мікалаевіч*** [1889, в. Быстрыца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — ?], юрыст. З бел. сям'і. Арыштаваны 17.1.1942 у Куйбышаве. Асуджаны Куйбышаўскім абл. судом 6.12.1946 за «антысавецкую агітацыю» да 7 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавны Вярхоўным судом РСФСР 3.2.1955.

Кр.: *Белая книга.*

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОЎЦЮХ Епіфан Іовіч** [21.5.1890, слабада Батурына Херсонскага пав. (паводле інш. звестак с. Высунск, цяпер Мікалаеўская вобл., Украіна). — 29.7.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], савецкі ваенны дзеяч. З сям'і рабочага. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. Скончыў школу прапаршчыкаў (1916), ваенную акадэмію РККА (1922), курсы ўдасканалення камсаставу (1928), курсы пры Ваенна-палітычнай акадэміі (1930). У Чырвонай арміі з 1918. Удзельнічаў у баях на Кубані, Паўночным Каўказе. У 1918—20 камандаваў Таманскай арміяй, стралковай дывізіяй і зводным корпусам 11 арміі. Паслужыў прататыпам Кожуха ў рамане А. Серафімовіча «Жалезны паток». Прымаў удзел у падаўленні Кранштацкага паўстання (1921). Аўтар кнігі «От Кубани до Волги и назад» (1926). Камандзір дывізіі, корпуса. З 1936 — армейскі інспектар БВА, нам. камандуючага БВА. Арыштаваны ў Смаленску па адрасе: вул. Сацыялістычная, д. 5, кв. 6. Асуджаны 29.7.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 22.2.1956 Вярхоўным судом СССР.

Літ.: *БЭ,* т.18.

**КОЎШ Аляксандр Іванавіч*** [1896, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — 27.8.1937, Ленінград, НКВД]. З бел. сям'і. Падчас арышту наладчык 1-га цэха 4-га Ленінградскага завода. Арыштаваны 27.5.1937. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 25.8.1937 за «контррэвалюцыйную дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**КОЎШ (КРАТОВІЧ) Зоя Аляксандраўна** [16.4.1911, Люблін, Польшча — кастр. 1994, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва], грамадская дзяячка, юрыст. Скончыла Віленскую беларускую гімназію (1929), юрыдычны ф-т Віленскага ун-та. Падчас нямецкай акупацыі працавала юрысконсультам Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Летам 1944 выехала ў Германію, жыла ў Берліне. У 1947 арыштавана савецкай дзяржбяспекай, знаходзілася пад следствам у Мінску. З савецкіх канцлагераў вярнулася ў другой палове 1950-х г., жыла ў Вільні. У пачатку 1960-х г. выйшла замуж за былога палітвязня Кратовіча. Аўтар успамінаў.

Літ.: *Луцкевіч Л.* Развітанне з сяброўкай // *Беларус*. 1994. № 418.

**КОЎШЫК Міхаіл Лукіч*** [1904, в. Тарасавічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі (?) р-н Мінскай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1931). Падчас арышту дырэктар Мінскага тэхнікума харчовай прамысловасці. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 12.9.1933 у Мінску па адрасе: Падгорны зав., д. 7/1. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 18.4.1956. Асабовая справа (спынена пастановай КДБ 16.8.1956) К. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КОШАЛЕВА Людміла Львоўна*** [1927, Мінск — ?], навучэнка. З сям'і служачага. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 28.9.1944 у Мінску па адрасе: вул. Крапоткіна, д. 70, кв. 4. Асуджана судовым органам 30.12.1944 як «член нацыяналістычай арганізацыі СБМ» і за «контррэвалюцыйную агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана пленумам Вярхоўнага суда СССР 11.5.1960. Асабовая справа К. № 11058-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРАВЕЦ Міхаіл Іванавіч*** [1898, ? — ?], журналіст. З бел. сям'і. Уступіў у ВКП(б). Арыштаваны 26.11.1930 у Сызрані. Асуджаны калегіяй АДПУ 20.5.1931 за «шпіянаж і антысавецкую агітацыю» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 4.9.1956.

Кр.: *Белая книга*.

**КРАМЕР Шлем Іоселевіч** [1886, Скідзель Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскага р-на — ?], уладальнік кававай фабрацы ў Скідзелі. З купечаскай сям'і. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Арыштаваны 16.3.1940. Асуджаны 26.8.1940 асобай нарадай НКВД як «сацыяльна-небяспечны элемент» да 8 гадоў ППК. Вызвалены 18.9.1941, верагодна, па амністыі для польскіх грамадзян. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 5.10.1989 пракуратурай Гродзенскай вобл. Аса-

бовая справа К. № П-11037 захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў*

**КРАСКОЎСКІ Сяргей Іванавіч*** [1907, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — 23.9.1937, Масква, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту нам. начальніка (дырэктара) завода № 156. Арыштаваны 5.9.1937 у Маскве па адрасе: вул. Бакунінская, д. 6/4, кв. 19. Асуджаны камісіяй НКВД СССР 21.9.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.11.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**КРАЎЧАНКА (МІХАЛЬЧУК) Павел Ісідаравіч*** [1895, в. Сурмічы Холмскай губ., цяпер Польшча — 17.6.1937, Масква, НКВД], вайсковец. З бел. сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту памочнік (нам.) начальніка штаба палка «ВНОС» 1-й дывізіі супрацьпаветранай абароны. Арыштаваны 16.5.1937 у Маскве па адрасе: вул. Вялікая Паштовая, д. 18/20. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.7.1937 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 28.7.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

**КРАЎЧАНКА Яўгенія Захараўна*** [1913, Таганрог Растоўскай губ., цяпер Расія — ?], актрыса. З сям'і рабочага. Працавала ў Мінскім беларускім гарадскім тэатры (?). Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 2.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Дзяржынскага, д. 30, кв. 2. Асуджана асобай нарадай пры НКДБ 24.11.1945 за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана прэзідыумам Мінскага абл. суда 20.6.1956. Асабовая справа К. № 6619-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРАЧКОЎСКАЯ Станіслава Казіміраўна*** [1902, Слуцк Мінскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 29.10.1939, Мінск, НКВД], педагог, жонка Івана *Крачкоўскага*. З сям'і рабочага. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала настаўніцай у Мінскай вячэрняй школе. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 23.4.1938 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 16, кв. 2. Асуджана 11.9.1939 асобай нарадай пры НКВД як «інфармаваная пра шпіёнскую дзейнасць мужа» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Загінула ў турме ад туберкулёзу. Рэабілітавана трыбуналам БВА 22.10.1957. Асабовая справа К. № 11193-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРАЧКОЎСКІ Антон Міхайлавіч*** [1894 ці 1899, мяст. Радашковічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 20.12.1937, Ленінград, НКВД], педагог. З бел. сялянскай сям'і.

Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 22.7.1924. Асуджаны 26.9.1924 паводле пастановы калегіі АДПУ СССР за «нелегальны пераход мяжы» да 3 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Салавецкі канцлагер АДПУ Карэльскай АССР (Кемь). Падчас другога арышту (23.11.1937) загадчык пачатковай школы в. Круцец Калінінскай вобл., Расія. 14.12.1937 асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны. Па першай справе № 34116-с (захоўваецца з фотаздымкам ў архіве КДБ Беларусі) рэабілітаваны пракуратурай БВА 8.6.1992.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*.

**КРАЧКОЎСКІ Іван Станіслававіч*** [1886, в. Каселаны Холмскага пав. Люблінскай губ., цяпер Польшча — 4.7.1938, Мінск, НКВД], педагог, муж Станіславы *Крачкоўскай*, верагодна, брат Станіслава і Кліменція *Крачкоўскіх*. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю. У 1919 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. дырэктар Мінскага тэхнікума фізкультуры. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 3.11.1935 у Мінску па адрасе: Грушаўскі пас., д. 13, кв 6 (паводле іншых звестак вул. Кірава, д. 16, кв. 2). У сувязі з арыштам выключаны з партыі. Асуджаны асобай нарадай НКВД 10.4.1936 за «падазрэнне ў шпіёнскай дзейнасці» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. У 1937 узбуджана другая крымінальная справа. Прыгавораны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 25.5.1938 за «шпіянаж на карысць Польшчы» да ВМП. Расстраляны. Па першай справе (№ 10645-с, захоўваецца ў архі-

ве КДБ Беларусі) рэабілітаваны трыбуналам БВА 6.8.1957, па другой (№ 11190-с, таксама захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) 5.11.1957.

**КРАЧКОЎСКІ Кліменцій Станіслававіч*** [1905, в. Каселаны Холмскага пав. Люблінскай губ., цяпер Польшча — 8.5.1938, Магадан, НКВД], інжынер, верагодна, брат Івана і Станіслава *Крачкоўскіх*. У 1926 нелегальна прыбыў з Польшчы. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў інжынерам-тэхнолагам у БелАН. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны ў Мінску 3.11.1935 па адрасе: вул. Савецкая, д. 24, кв. 17. Асуджаны 10.4.1936 за «падазрэнне ў шпіёнскай дзейнасці» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Паўторна асуджаны «тройкай» НКВД 30.4.1938 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую агітацыю» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны па першай справе (№ 10645-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) трыбуналам БВА 6.8.1957, па другой ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.7.1957.

Кр.: *За нами придут корабли: Список реабилитированных лиц, смертные приговоры в отношении которых приведены в исполнение на территории Магаданской области*. Магадан, 1999.

**КРАЧКОЎСКІ Станіслаў Станіслававіч*** [1898, в. Каселаны Холмскага пав. Люблінскай губ., цяпер Польшча — 5.6.1938, Магадан, НКВД], верагодна, брат Івана і Кліменція *Крачкоўскіх*. З сялянскай сям’і. У 1926 нелегальна прыбыў з Польшчы. Вучыўся ў Мінскім тэхнікуме фізкультуры. Арыштаваны ў Мінску 3.11.1935 па

адрасе: вул. Кірава, д. 8/28, кв. 8. Асуджаны 10.4.1936 за «падазрэнне ў шпіёнскай дзейнасці» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Паўторна асуджаны «тройкай» НКВД 17.05.1938 за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны па першай справе (№ 10645-с, захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі) трыбуналам БВА 6.8.1957, па другой ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 30.7.1957.

Кр.: *За нами придут корабли: Список реабилитированных лиц, смертные приговоры в отношении которых приведены в исполнение на территории Магаданской области*. Магадан, 1999.

**КРУГЛІК Пётр Пракопавіч*** [1890, Валожын Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер райцэнтр Мінскай вобл. — 18.10.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту службовец Лесатэхнічнай акадэміі. Арыштаваны 22.9.1937 у Ленінградзе па адрасе: вул. Пясочная, д. 2, кв. 68. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 14.10.1937 за «здраду радзіме» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**КРУГЛОЎ-ГРЫБ (КРУГЛОЎ-ГРЫБАЎ) Міхаіл Пятровіч** [1920, Гомель — ?, ГУЛАГ], падлетак, вязень Беламорска-Балтыйскага канцлагера НКВД. 22.11.1937 злоўлены пры спробе ўцячы з канцлагера. 28.12.1937 разам з іншымі вязнямі-ўцекачамі бел. паходжання, братамі-блізнятамі з Віцебска (таксама сем-

наццацігадовымі) Гаронамі В. М. і М. М., Брэлем (Брылём) І. А., Кандрацьевым П. А., Уваравым А. К. асуджаны «тройкай» НКВД Карэльскай АССР да ВМП. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара. Дата смерці невядома.

Кр.: *Інфармацыя з базы даных Ю. А. Дзмітрыева.*

**КРУТАЛЕВІЧ Аляксандр** [1900 (?) – ?, ГУЛАГ], педагог, матэматык, навуковец. З сялянскай сям'і. Вучыўся ў Празе. У 1920-я г. супрацоўнічаў з Тэрміналагічнай камісіяй наркамата асветы БССР. Прафесар БДУ. Таксама выкладаў у МБПТ. Лічыў, што ў старажытнай і сучаснай бел. мовах дастаткова лінгвістычнага багажу дзеля ўтварэння чыста бел. матэматычнай тэрміналогіі. Свой падручнік па алгебры для сярэдніх школ напісаў, зыходзячы менавіта з такіх пазіцый. У выніку партыйнага ціску на матэматычнай секцыі не былі прыняты прапанаваныя К. тэрміны са старабеларускай мовы. Трапіў у «чорныя спісы», яго імя фігуравала ў сакрэтным дакладзе АДПУ ў ЦК КП(б)Б «Аб беларуска-эсэраўскім шавіністычным руху» ад 29.10.1925, а ў рэзалюцыі камісіі па інтэлігенцыі «Аб праверцы работнікаў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў, асветніцкіх арганізацый на аснове пастановы сакавіцкага (1926) пленума ЦК КП(б)Б» К. быў названы «палітычна нячэсным». Пасля пачатку масавай калектывізацыі сабраў звесткі аб прыбытках і выдатках калгасаў і вылічыў, што калгасніку за працоўны дзень прыпадае 1,5 капейкі. Гэтага К. ужо не маглі дараваць. Паводле звестак *Я. Кіпеля* арыштаваны і расстраляны.

Літ.: *Кіпель Я.* Эпізоды. Нью Ёрк, 1998. С. 102; *Перед крутым поворотом. Тенденции в политической и духовной жизни Белару-*

*си (1925—1928 гг.). Отражение времени в архивных документах*. Мн., 2001. С. 42, 182.

**КРУЦЬКО Сяргей Ісідаравіч*** [1916, Чалкар Тургайскай вобл., цяпер Казахстан — ?], службовец, старшыня Спорткамітэта БССР. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 30.10.1945 у Баранавічах. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 16.8.1946 як «агент нямецкай разведкі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 29.12.1993. Асабовая справа К. № 12289-с захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**КРЫВАНОСАЎ Сцяпан Міхайлавіч*** [1905, Крычаў Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 1.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту інжынер трэста Гідраэнергапраект. Арыштаваны 23.11.1936 у Ленінградзе па адрасе: вул. Скараходава, д. 9, кв. 16. Асуджаны выязной сесіяй ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 1.9.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог*.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения*.

**КРЫВЕЦ Станіслаў Антонавіч*** [1922, Мінск — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заста-

ваўся на акупаванай тэрыторыі, працаваў у аркестры (?). Арыштаваны 24.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Апанскага, д. 108, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 3.10.1945 за «работу ў немцаў і сувязь з нямецкай разведкай» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 1.11.1957. Асабовая справа К. № 10969-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРЫЛОЎ Васіль Дзмітрыевіч*** [1895, в. Кузьмінка Лебядзянскага пав. Тамбоўскай губ., цяпер Ліпецкая вобл., Расія — ?], навуковец. З сям'і святара. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-х г. нам. дырэктара Магілёўскага інстытута свінагадоўлі. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны ў Магілёве па адрасе: вул. Язерская (?), д. 22. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 16.9.1933 як «член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ва Усць-Вымскі канцлагер НКВД Комі АССР. Вызвалены 21.12.1943. Пастановай асобай нарады МДБ СССР 13.8.1949 высланы ў Краснаярскі край. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 21.8.1956. Групавая справа К. і інш. № 10333-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КРЫМСКАЯ Ларыса Пятроўна*** [1925, Віцебск — ?], навучэнка. З бел. сям'і. У час 2-й сусветнай вайны

заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 8.7.1942 (?). Месца арышту невядома. Асуджана 14.7.1942 (?) за «шпіянаж на карысць немцаў» да 10 гадоў папраўча-працоўных канцлагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана Вярхоўным судом БССР 10.3.1961. Асабовая справа К. № 10806-п з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КРЫТКОЎСКІ Прохар Антонавіч*** [1904, мяст. Краснае Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — ?], навуковец. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У пачатку 1930-х г. навуковы супрацоўнік БелАН. Арыштаваны 11.12.1933 у Мінску. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 20.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую і шпіёнскую дзейнасць» да 3 гадоў пазбаўлення волі. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 17.7.1961. Асабовая справа К. № 17157-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў.*

**КРЫЎКО Вольга Мікалаеўна*** [1926, в. Карцэвічы Нясвіжскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — ?], навучэнка. З бел. сялянскай сям'і. Мела незакончаную сярэднюю спецыяльную адукацыю. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў Нясвіжскай СШ. Арыштавана 10.1.1945 у Нясвіжы па адрасе: вул. Агародная, д. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКВД

21.11.1945 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Асобы лагер № 7 (?). 12.12.1949 саслана на пасяленне ў Краснаярскі край. Канчаткова вызвалена ў 1950. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 29.6.1993. Асабовая справа К. № 35192-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Назвы населеных пунктаў; Волости и важнейшие селения.*

**КРЫЧАНАЎ Сцяпан Нікіфаравіч*** [1898, в. Чуркана Пермскай губ., цяпер Пермская вобл., Расія — ?], вайсковец, педагог. З сялянскай сям'і. У 1918 прымаў удзел у грамадзянскай вайне ў складзе Чырвонай арміі. У 1920 уступіў у ВКП(б). Атрымаў вышэйшую адукацыю. Да 1938 служыў у Чырвонай арміі на камандных пасадах. Узнагароджаны медалём «20 лет РККА». Падчас арышту дырэктар Мінскага педагагічнага вучылішча (верагодна, былога МБПТ). Быў жанаты, меў дзіця. Арыштаваны 15.4.1940 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая, д. 179, кв. 34. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 19.10.1940 як «удзельнік ваеннай змовы ў Чырвонай арміі» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Паўночна-Усходні канцлагер НКВД Хабараўскага краю (Магадан). 6.7.1949 асуджаны да ссылкі ў Краснаярскі край. Канчаткова вызвалены 5.7.1954. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 30.12.1955. Асабовая справа К. № 6725-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Административно-территориальное деление союзных республик.*

**КРЭМЕР Майсей Хаймавіч*** [1916, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — ?], музыкант. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у аркестры народных інструментаў пры Беларускім дзяржаўным радыёкамітэце. Арыштаваны 19.5.1940 у Мінску па адрасе: вул. Даўгабродская, д. 62, кв. 43. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 1.7.1941 як «канфідэнт польскай паліцыі» да 8 гадоў ППК і яго павіненны былі этапаваць у Сібірскі канцлагер НКВД (Новасібірск), але 1.9.1941 (?) К. вызвалілі. Далейшы яго лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Мінскай вобл. 28.12.1989. Асабовая справа К. № 29826-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КРЭЧАТОВІЧ Мікалай Мікалаевіч*** [1906, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — ?], навуковец. З сям'і службоўца. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. дацэнт кафедры электратэхнікі Мінскага політэхнічнага інстытута. Быў жанаты, гадаваў дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 22.12.1944 у Мінску па адрасе: вул. Пушкіна, д. 61, кв. 2. Асуджаны асобай нарадай пры НКДБ 26.12.1945 за «здраду радзіме» і як «памагаты ў дзейнасці нямецка-фашысцкіх акупантаў, падазроны ў прыналежнасці да нямецкай агентуры» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 3.2.1956. Асабовая справа К. № 6560-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КСЯНДЗОЎ Антон Сямёнавіч*** [1883, в. Падбярэзкі (?) Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі

р-н Віцебскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту старшыня калгаса імя Варашылава. Арыштаваны ў в. Падбярэзкі Полацкага р-на. Асуджаны 16.7.1935 як «кулак» да ссылкі. Высланы ў пас. Кіяя Карткероскага р-на Комі АССР. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *Покаяние: Коми республиканский мартиролог жертв массовых политических репрессий*.

**КСЯНЕВІЧ Уладзімір Францавіч** [чэрв. 1894, г. Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенскай вобл. — ?], вайсковы дзеяч, педагог. Скончыў кадэцкі корпус у Варшаве і Мікалаеўскае вайсковае вучылішча ў Пецярбургу. Ваяваў у 1-ю сусветную вайну ў складзе штурмавога батальёна 6-й расійскай арміі ў Румыніі. У 1917 ствараў на Румынскім фронце бел. вайсковыя аддзелы. Пазней служыў у арміі генерала А. Дзянікіна, набыў спецыяльнасць вайсковага будаўніка, будаваў масты. У 1920 залічаны ў рэзерв Беларускай вайсковай камісіі, пасля ўступіў у гусарскі полк генерала С. Булак-Балаховіча, служыў на бронецягніку «Балаховец». З восені 1920 сябра БСП «Зялёны Дуб» (мянушка «Грач»), неўзабаве ўзначаліў яе галоўны штаб. Пазней далучыўся да баптыстаў, вучыўся і выкладаў арыфметыку ў Варшаўскай біблейскай школе, удзельнічаў у з'ездах баптыстаў. У 1924 вярнуўся да партыйнай работы. У пачатку кастр. 1924 пасланы атаманам Дзергачом у БССР з лістамі да кіраўніцтва рэспублікі і ДПУ. Арыштаваны. 28.6.1925 Асуджаны да ВМП. Да лют. 1927 знаходзіўся ў камеры смяротнікаў. Пасля задавальнення яго хадайніцтва аб памілаванні, смяротны прысуд зменены на 10 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения.*

Літ.: *Стужынская Н.* Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-ыя гады XX стагоддзя. Вільня, 2000.

**КУБАР Уладзімір Мікалаевіч*** [1884, Мінск — 19.10.1921, ?], артыст. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Галоўпалітасвеце. Арыштаваны 2.9.1921 у Мінску. Асуджаны ЧК 23.9.1921 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 6.8.1996. Асабовая справа К. № 20479-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУБІЦКІ Сігізмунд Іосіфавіч*** [17.12.1904, Паб'яніцэ, цяпер Польшча — ?], музыкант. З сялянскай сям'і. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Працаваў у кінатэатры. Арыштаваны 15.3.1940 у Кобрыне па адрасе: вул. Пушкінская, д. 14. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 10.8.1940 як «член антысавецкай групіроўкі» да 8 гадоў ППК. Этапаваны ў Самарскі канцлагер НКВД Куйбышаўскай вобл. Вызвалены 3.3.1941 (верагодна, з Безымянскага лагера). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай Брэсцкай вобл. 12.4.1989. Асабовая справа К. № 7564-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Брэсцкай вобл.

**КУГЕЛЬ Рувім Ерухімавіч*** [1895, Мінск — ?], педагог. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту загадчык кафедры гісторыі новага часу Томскага

дзяржаўнага ун-та. Арыштаваны 3.8.1951. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 17.11.1951 за «тэрарызм» на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 4.9.1954.

Кр.: *Боль людская.*

**КУДЗЕЛЬКА Барыс Паўлавіч*** [ліп. 1894, в. Лесапілка (?) Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — ?], аспірант. З сялянскай сям'і. У 1917—20 служыў на флоце. У пасляваенны час атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту аспірант клінікі Мінскага медыцынскага інстытута. Быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Арыштаваны 22.2.1934 у Мінску па адрасе: зав. Нова-Серпухаўскі, д. 2. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ 2.3.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «шкодніцкую работу ў галіне аховы здароўя» да 3 гадоў папраўча-працоўных лагераў (прысуд заменены на 3 гады пазбаўлення волі ўмоўна). 28.5.1934 справа спынена, а К. вызвалены. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 27.7.1956. Асабовая справа К. № 7236-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУДЗЕЛЬКА Іван Фадзеевіч*** [30.11.1891, в. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, брат Іосіфа *Кудзелькі*. З сялянскай сям'і. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Быў жанаты, га-

даваў дваіх дзяцей. Падчас арышту наркам фінансаў БССР. Арыштаваны 13.7.1937 у Мінску па адрасе: вул. К. Маркса, д. 40, кв. 10. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.7.1937 за «дыверсійна-шпіёнскую дзейнасць у наркамфіне БССР» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 26.3.1957. Асабовая справа К. № 10144-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**КУДЗЕЛЬКА Іосіф Фадзеевіч*** [1894, в. Рудзенск Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], службовец, брат Івана *Кудзелькі*, муж Уладзіславы *Аляксеевай (Кудзелька).* З сялянскай сям'і. Прымаў удзел у грамадзянскай вайне, узнагароджаны ордэнам Чырвонага сцяга. У 1924 уступіў у ВКП(б). У 1930-я г. начальнік Упраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры Саюзе пісьменнікаў БССР. Арыштаваны 30.4.1937 у Мінску па адрасе: Койданаўскі тракт, д. 29, кв. 1. Выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 (?) як «актыўны член антысавецкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 2.12.1958. Асабовая справа К. № 13352-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЖАЛЬ Аляксандр Афанасьевіч*** [1910, в. Калоднае Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Столінскі

р-н Брэсцкай вобл. — 27.4.1938, Масква, НКВД], службовец. З сям'і вясковага настаўніка. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Працаваў інжынерам у гарадской тэлефоннай сетцы. Арыштаваны 11.2.1938 у Серпухаве. Асуджаны пастановай камісіі НКВД і пракуратуры СССР 23.3.1938 за «шпіёнскую дзейнасць на карысць Румыніі і Германіі і падрыхтоўку дыверсійных актаў» да ВМП. Расстраляны на палігоне НКВД «Аб'ект Бутава». Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3.5.1958. Асабовая справа К. П-52084 захоўваецца ў ДА РФ.

Кр.: *Бутовский Полигон.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КУЗМІЧ Уладзімір Савіч*** [1904, Бахмач Чарнігаўскай губ., цяпер Чарнігаўская вобл., Украіна — ?], член Саюза пісьменнікаў СССР. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Арыштаваны 11.9.1942 у Алма-Аце. Асуджаны асобай нарадай НКВД СССР 5.6.1943 за «антысавецкую агітацыю» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Рэабілітаваны спецыяльнай камісіяй Вярхоўнага суда Казахскай ССР 20.9.1957 з-за недаказанасці складу злачынства.

Кр.: *Книга Скорби.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**КУЗНЯЦОЎ Лейб Шлемавіч*** [студз. 1907, Барысаў Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 24.11.1937,

Мінск, НКВД], службовец. З сям'і рабочага. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Уступіў у ВКП(б) (1927). Падчас арышту старшыня Камітэта па справах фізкультуры і спорту пры СНК БССР. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей Арыштаваны 24.11.1937 у Мінску на Усебеларускім стадыёне. У сувязі з арыштам выключаны з ВКП(б). Асуджаны пазасудовым органам НКВД 24.11.1937 як «актыўны член антысавецкай маладзёжнай тэрарыстычнай арганізацыі правых» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 4.8.1956. Асабовая справа К. № 6869-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЗНЯЦОЎ Міхаіл Трафімавіч*** [1909, Віцебск — ?], мастак. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю. Працаваў у віцебскім кінатэатры «Спартак». Быў жанаты, гадаваў дзіця. У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 4.11.1944 у Віцебску па адрасе: вул. Крылова, д. 3. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 7.12.1945 за «супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў, 3 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Вызвалены 31.12.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.10.1963. Асабовая справа К. захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.

**КУЗЬМА Леанард Бярнардавіч*** [1891, м. Крынкі Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае

ваяв., Польшча — 21.1.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], службовец. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту галоўны інжынер трэста «Сталінагорсквугаль». Арыштаваны 26.7.1937 у Маскве па адрасе: вул. Земляны Вал, д. 14/16, кв. 18. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 21.1.1938 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай трацкісцкай шкодніцкай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 27.4.1957.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

**КУЗЬМІН Дзмітрый Фёдаравіч*** [1898, цяпер Латвія — ?], педагог. З сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. нам. дырэктара Магілёўскага педагагічнага інстытута. Арыштаваны 10.7.1938 за «антысавецкую прапаганду». Вызвалены 28.5.1939. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 3541 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КУКША Аляксандр Фёдаравіч*** [1897, в. Бярозкі Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл. — 2.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], вайсковец, педагог. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Уступіў у ВКП(б). Падчас арышту палкоўнік, начальнік штаба Маскоўскай пралетарскай стралковай дывізіі, адначасова дацэнт кафедры тактыкі ваеннай акадэміі Чырвонай арміі імя Фрунзе. Арыштаваны 19.10.1937 у Маскве па адрасе: Курсавы зав., д. 1, кв. 7. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўна-

га суда СССР 2.4.1938 за «ўдзел у ваенна-фашысцкай змове» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны 17.11.1956.

Кр.: *Расстрельные списки: «Коммунарка».*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КУЛАК Аляксандр*** [1886, в. Малявічы Вілейскага пав. Мінскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — ?], службовец. З бел. сям'і. Працаваў аграномам. Арыштаваны 10.5.1937 на ст. Кармілаўка Омскай чыгункі. Асуджаны «тройкай» НКВД 5.8.1937 за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Рэабілітаваны пракуратурай Омскай вобл. 16.1.1989.

Кр.: *Книга памяти жертв политических репрессий Омской области.*

Кр. геагр.: *Волости и важнейшие селения; Назвы населеных пунктаў.*

**КУЛАК Кіра Канстанцінаўна*** [1927, Мінск — ?], навучэнка. З сям'і службоўца. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі, вучылася ў школе. Арыштавана 3.8.1944 у Мінску па адрасе: вул. Куйбышава, д. 7, кв. 2. Асуджана судовым органам 9.4.1945 як «член нацыяналістычнай арганізацыі СБМ», за «антысавецкую агітацыю» і «прысягу на вернасць Германіі» да 10 гадоў папраўча-працоўных работ і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапавана ў адзін з канцлагераў МДБ Карэльскай АССР (ст. Гуціна, дарожна-будаўнічы р-н № 6). Далейшы лёс

невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 19.9.1967. Асабовая справа К. № 19810-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЛІКОЎСКІ Лука Сцяпанавіч*** [1899, ? — 28.5.1938, Смаленск, НКВД], службовец. З бел. сям'і. Падчас арышту заатэхнік Вяземскага райза. Арыштаваны 20.3.1938. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 28.5.1938 за «антысавецкую шпіёнскую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Смоленский мартиролог.*

**КУЛЬБАК Зэльда Барысаўна*** [1897, Вільня, цяпер Вільнюс, Літва — ?], педагог, жонка Майсея *Кульбака*. З сям'і службоўца. Атрымала сярэднюю адукацыю. Працавала настаўніцай. Гадавала дваіх дзяцей. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: 2-гі Аконны (Апанскі?) зав., д. 4б, кв. 1. Асуджана 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 24.7.1956. Асабовая справа К. № 6761-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЛЬГАЎЧУК Уладзімір Міхайлавіч*** [1909, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская вобл. (?) — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Арыштаваны 4.9.1937 у Кінелі

Самарскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 22.12.1937 за «шпіянаж» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 16.12.1955.

Кр.: *Белая книга.*

**КУЛЯШЧУК Якаў Мікалаевіч*** [1906, Гродзенская губ., цяпер Гродзенская (?) вобл. — ?], навучэнец. З бел. сям'і. Арыштаваны 22.8.1937 у Кінелі Самарскай вобл. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД СССР 10.12.1937 за «шпіянаж» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны трыбуналам Прыволжскай ВА 16.12.1955.

Кр.: *Белая книга.*

**КУПЦЫЕВІЧ Вера Адамаўна*** [1910, Мінск — ?], артыстка. З сям'і рабочага. Атрымала вышэйшую адукацыю. Выйшла замуж, гадавала дваіх дзяцей. У час 2-й сусветнай вайны заставалася на акупаванай тэрыторыі. Арыштавана 27.9.1944 у Мінску па адрасе: вул. Прыгожая, д. 25, кв. 1. Асуджана асобай нарадай пры НКДБ 28.7.1945 як «памагатая нямецкіх захопнікаў» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалена (хутчэй за ўсё, з Мінскай турмы) у 1950. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 11.6.1963. Асабовая справа К. № 11310-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУРЧЭЎСКІ Іосіф Антонавіч*** [1885, в. Заблоцце Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Літва (?) — 29.9.1937, Ленінград, НКВД], службовец. З бел. сям'і. У 1927 уступіў у ВКП(б). Апошняе месца работы — дырэктар торфараспрацовак «Назія». Арыштаваны 14.9.1937 у Ленінградзе. Асуджаны камісіяй НКВД і пракуратуры СССР 22.9.1937 за «контррэвалюцыйную шкодніцкую дзейнасць» да ВМП. Расстраляны.

Кр.: *Ленинградский мартиролог.*

**КУРЫННЫ Фёдар Калейнікавіч*** [1898, в. Падашкі, цяпер Харкаўская вобл., Украіна — ?], педагог. З сялянскай сям'і. У грамадзянскую вайну ў арміі Дзянікіна. У пасляваенны час атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Арыштаваны 18.11.1937. Асуджаны «тройкай» НКВД 25.11.1937 за «антысавецкую прапаганду» да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Вярхоўным судом СССР 30.3.1955. Асабовая справа К. № 5688 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл.

**КУРЭЙКА Арсень Васілевіч*** [1904, в. Агароднікі Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 19.4.1939, Масква, НКВД], інжынер. З бел. сялянскай сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту інжынер-тэхнолаг тэкстыльнай фабрыкі імя Чырвонай арміі ў пас. Мурамск Разанскай вобл. Арыштаваны 16.9.1938.

Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.4.1939 за «шпіянаж» да ВМП. Расстраляны і пахаваны разам з іншымі ахвярамі на Данскіх могілках. Рэабілітаваны 4.8.1956

Кр.: *Расстрельные списки: Донское кладбище.*

Кр. геагр.: *Рапановіч. Слоўнік геаграфічных назваў.*

**КУРЭЙКА Міхаіл Рыгоравіч*** [1902, в. Вярцялішкі Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?], журналіст. З бел. сям'і. Атрымаў вышэйшую адукацыю. Падчас арышту сакратар газеты (?). Арыштаваны 14.9.1937 у Алма-Аце. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 8.3.1938 за «антысавецкую агітацыю» і як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» да 15 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 15.10.1955 з-за адсутнасці складу злачынства.

Кр.: *Книга Скорби*.

**КУСКОЎ (ШМЭКЕР) Ілля Мікалаевіч (Койфманавіч**)* [1922, Петраград або м. Бераздоў, УССР — ?], мастак. З сям'і службоўца. Атрымаў сярэднюю адукацыю. Працаваў у Ваенгандлі БВА. Арыштаваны 22.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. М. Горкага, д. 11, кв. 9. Асуджаны асобай нарадай пры НКВД 27.6.1946 за «здраду радзіме» да 2 гадоў пазбаўлення волі і вызвалены з улікам тэрміну зняволення. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пракуратурай БВА 15.10.1992. Асабовая справа К. № 34759-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

**КУЧЫНСКАЯ (СТАРАСЦЕНКА) Алена Фёдараўна*** [30.12.1894, Орша Магілёўскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ?], педагог, жонка Аляксея *Кучынскага*. З сям'і службоўца. Атрымала вышэйшую адукацыю. У 1930-я г. выкладчык нямецкай мовы ў Беларускім політэхнічным інстытуце. Арыштавана 5.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. Кірава, д. 23, кв. 44. Асуджана асобай нарадай пры НКВД 28.11.1937 як «жонка ворага народа» да 8 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапавана ў Карагандзінскі канцлагер НКВД Казахскай ССР. Другі раз асуджана 14.2.1940 да ссылкі на 5 гадоў у Краснаярскі край. Вызвалена 5.11.1942. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана трыбуналам БВА 11.12.1956. Асабовая справа К. № 8164-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1937 разам з маці быў арыштаваны сын Алены і Аляксея Кучынскіх Дзмітры Кучынскі (н. 9.11.1919 у Мсціслаўлі Магілёўскай вобл.) вучань 10 класа СШ № 2 Мінска. 28.11.1937 асобай нарадай пры НКВД ён быў асуджаны як «сын ворага народа» да 5 гадоў папраўча-працоўных работ і этапаваны ў Ягрынскі канцлагер НКВД Архангельскай вобл. З 1940 у Краснаярскім краі. Вызвалены 14.2.1940. Рэабілітаваны трыбуналам БВА 25.12.1956. Далейшы лёс невядомы. Асабовая справа К. № 9890-с захоўваецца з фотаздымкам ў архіве КДБ Беларусі.

Даведачнае выданне

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**

**Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991.**

***Энцыклапедычны даведнік***

***Том 3. Кн. 1***

***Абакановіч—Кучынская***

Том I:

Прадмова, біяграфіі і пералік асноўных твораў (калі адшуканы) рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары А – К).

Том II:

Біяграфіі і пералік асноўных твораў рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары Л – Я).

Том III:

Біяграфіі рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, звесткі і факты пра якіх на час выхаду першых двух тамоў не былі ўдакладнены і сістэматызаваны, або наогул адшуканы ў самы апошні момант, а таксама папраўкі і ўдакладненні да персаналіяў I і II тамоў.

*Карэктар: Мікола Савік*
*Камп'ютэрная вёрстка: Вінцэсь Ліпскі*

Здадзена ў набор 17.5.2004. Падпісана да друку 1.10.2004.
Фармат 60x84/16.
Папера . Гарнітура Century Schoolbook.
Ум. друк. арк. 14,6. Ул.-выд. арк. 28. Тыраж 50 экз. Заказ .........

